# АПОВЕСЦІ

## СТАРАЯ ХАТА

Антон Гусак, старшыня Валюхоўскага сельсавета, пра гасцей даведаўся пад самы абед. І даведаўся як — дзесяцігадовы Бульбянок-малодшы, па-моднаму названы бацькамі Русланам, уцёкшы, мусіць, з апошніх урокаў, абгойсаў не менш як паўвёскі і натрапіў на гасцей. Пакруціўшыся каля іх, паназаляўшыся, ён, чалавек не тое што хуткі — маланкавы, памчаў расказваць пра ўбачанае і апынуўся каля сельсавета. Антон Гусак выйшаў на ганак, а Руслан яму і расказаў:

— Прыехалі кіно рабіць, а ў саміх машына брудная, усё адно, як ваша.

— Якое кіно? Хто прыехаў? — устрывожыўся Антон, таму што нікога ў іхніх Валюхах не чакалася аж да Новага года.

— Самыя галоўныя — два. Адзін барадаты, чорны, другі малы, вусаты,— расказваў Руслан з-за невысокага плота.— І з імі яшчэ чацвёра. Драты цягаюць, скрыні. Лаюцца.

— Чаму лаюцца?

— У хату не могуць улезці. Адзін кажа — давай замок адарвём, а другі хадзіў у суседскія хаты, пытаўся ключа.

— Якая такая хата?! — не стрымаўся, закрычаў

урэшце Гусак; дарослыя наогул часта зрываліся на крык, размаўляючы з вядомым на ўсю вёску Бульбянком-малодшым.

Вось тут Руслан знік, мусіць, пакрыўдзіўся.

Раззлаваны старшыня замкнуў дзверы і пашыбаваў вуліцаю ў той бок вёскі, адкуль, па яго меркаваннях, прынесла Руслана. Была самая сярэдзіна восені, сёлета непрывычна цёплай, яшчэ шмат лісця сядзела на дрэвах, на абочынах зелянелася трава, порстка скакалі, бадзёра ціўкалі натапыраныя вераб'і. Але ўлеўныя дажджы прайшлі ўжо, залілі каляіны і лагчыны, тупка было толькі пад платамі, дзе і віліся добра ўбітыя сцежкі. Падзімаў вецер, але з поўдня, не браў у халодныя абдымкі і не прымушаў курчыцца, а толькі пасвістваў у голлі і праўадах. На скрозь голых, чыстых сотках, дзе ў людзей была бульба, яшчэ грабліся бабы, падбіраючы рэшткі, якія заўсёды застаюцца ў зямлі, колькі ні пераворвай, колькі ні дзяўбі рыдлёўкаю. Уся бульба даўно ўжо ў буртах і скляпах, аднак заўсёды знойдзецца жанчынка, якой шкада пакінуць некалькі бульбін у зямлі, і яна поркаецца, дзярэцца, бадай тая курыца на градах. Каля праўлення калгаса і каля магазіна, што праз дарогу, як заўсёды, газавалі і сціхалі машыны, сноўдалі людзі, была гамонка пра запчасткі, пра палітыку і пра заўтрашняе надвор'е.

«Хто гэта можа быць? — не мог прывесці думкі да ладу Гусак, не мог іх нават сабраць разам.— І каля якой гэта хаты валтузяцца? Няйначай, кіношнікі гэта... Малы дурны-дурны, а не меней за наша знае. Калі б яны пра калгас фатаграфаваць прыехалі альбо пра чалавека якога — мы б ведалі. Раён заўсёды звоніць. Ды і яны самі вось так, наскокам, не ездзяць. Спачатку прыедуць, глянуць,

тады толькі сваю тэхніку вязуць. Хата... Вось тое і дзіўна, што каля хаты нейкай».

І тут ён убачыў машыну, спрэс заляпаны граззю «уазік», і людзей каля яе, чалавек пяць, не меней. Машына стаяла пры старой, замшэлай хаце, у якой ніхто не жыў ужо гады чатыры. Хата гэтая была як бяльмо на воку для старшыні сельсавета Гусака. І не яму аднаму псавала яна настрой, а лічы — усім вяскоўцам. Каму не брыдка глядзець на пахіленае, змрочнае, закінутае жытло з маленечкімі акенцамі? Тут жа недалёка і студня-кайдуб, якой цяперашнім часам нідзе і не знойдзеш. Калісьці ў яму быў спушчаны выдзеўбаны ствол дуба, над ім ківалася драўлянае вядро на вочапе, парыпваў журавель. Цяпер засталіся адно крывая саха і пашчэрбленыя рэшткі дуба. Хата са студняю выклікалі сум і адчуванне нейкае вінаватасці. А яшчэ ўспаміналася дзед Гапей, што перажыў сваю Аналіну на тры гады...

Гусак спыніўся каля машыны, аднак нікому быццам і не было да яго справы. Адзін шафёр утаропіўся на яго, ды і то таму, што нічога не рабіў, а проста сядзеў за баранкаю, пакручваў галавой, пазяхаў. Двое маладых хлопцаў стаялі каля чамаданаў і скрынь, курылі. А яшчэ двое — тыя самыя чорны, барадаты, і малы, вусаты,— таўкліся пад дзвярыма хаты. Барадаты спрабаваў кароткім шворнам, знойдзеным, пэўна, тут жа, на двары, аддзерці прабой, за які быў зачэплены маленькі, нават нейкі несур'ёзны замочак, а меншы стаяў побач і як бы апраўдваўся:

— Ну што ты зробіш, ні ў кога з суседзяў ключа няма. Кажуць, у сына толькі, а той у Слуцку жыве. Не будзеш жа да яго ездзіць, прасіць...

— Ды зараз адчынім — і ўсё будзе нармальна. Што ты перажываеш? — робячы паўзы паміж сло-

вамі, адказваў барадаты, напружваўся, але прабой не надта каб паддаваўся — і рукі ў барадатага былі слабаватыя, і торкаў ён шворнам няўпэўнена і бязладна.

— То, можа, памагчы? — не вытрываў Гусак.

Не чакаючы адказу, ён пераступіў цераз напаўпаваленую агароджу. Яму адразу кінулася ў вочы, што ў прыезджых не хапіла цярпення — альбо жадання — раскруціць дрот, якім утрымлівалася кволая агароджа, і нехта проста наступіў нагой, жэрдка трэснула, цяпер можна было, не надта задзіраючы ногі, зайсці ў дворык. Гусак далікатна, але рашуча адсунуў барадатага плечуком, паўглядаўся, што тут лепей зрабіць, потым падняў камень і некалькі разоў моцна стукнуў, заганяючы шворан у прабой. Барадаты з палёгкай пачаў выціраць рукі, ён нікольki не здзівіўся нечаканай дапамозе.

— Я тутэйшы старшыня сельсавета,— сказаў Антон, націскаючы на шворан.

Дрэва зарыпела, з яго неахвотна, з кожным рыўком на паўсантыметра, пачаў вылазіць прабой.

— Вельмі прыемна вітаць мясцовую ўладу! — узрадаваўся барадаты.— Я рэжысёр, гэта рэдактар. Мы з тэлебачання.

— А навошта вам хата гэтая?! — ажно спыніўся ад здзіўлення Гусак.

— Здымаць будзем! — весела сказаў барадаты.

Прабой нарэшце выслізнуў, клямка з замочкам бразнула, дзверы — шырокія, у чатыры дошкі — можна было адчыняць. Рэжысёр і памкнуўся быў да іх, ды тут старшыня сельсавета як не ў жывот яму торкнуў руку, каб прадставіцца:

— Гусак.

— Што?! — аж разявіў рот рэжысёр, барада яго амаль задралася ўгору.

— Антон Гусак...

— А-а! — зноў узрадаваўся рэжысёр.— Ну канечне, канечне, Міхась Кускоў.

І акуратненька, далікатна паціснуў шырокую, нягнуткую далонь старшыні.

— Бянчук,— назваўся і рэдактар; поціск у яго нечакана аказаўся моцны, учэпісты.

— То мы яе раскідаем скора,— усё яшчэ стаяў на месцы Гусак,— а вы здымаць збіраецеся. Дзіва!

Рэжысёр ужо знік у сенцах, а рэдактар на хвілінку прыпыніўся, каб растлумачыць:

— Хата вашая — этнаграфічны экспанат. Яе, можа, яшчэ ў музей забяруць. А хіба вы нічога не ведаеце?

Гусаку зрабілася няёмка — у Валюхах ёсць этнаграфічны экспанат, вось стаіць ён, крывы, пахілы, з абымшэлаю страхой, што ў шмат якіх месцах і струхлела ўжо, пра гэты экспанат усе ведаюць, нават у сталіцы, тэлебачанне атрымала загад зняць гэты экспанат на кінаплёнку, а ён, прадстаўнік мясцовай улады,— раскідаем скора, знішчым, Гапееў сын забярэ бёрны і дошкі, нічога не застанецца, і вёска адразу зробіцца прыгажэйшаю. Антон пакашляў, паглядзеў па баках — з-за штакетніка цераз вуліцу пазірала ўжо Марыя, далёкая Гапеева сваячка, у яе, мусіць, пыталіся пра ключ,— і пайшоў у сенцы, таму што застаўся перад дзвярыма адзін.

У сенцах было зусім цёмна, бо адразу пасля смерці Гапея адключылі электраправодку: навошта яна ў закінутай хаце? З сенцаў — старых сенцаў, з зямлянай, гарбатай падлогаю — праваруч адно за адным ішлі камора і хлеў, леваруч у іх бачыліся дзверы ў вялікі жылы пакой з кухняю. Гэта быў звычайны двор пад шар, дзе ўсе пабудовы, жылыя і гаспадарчыя, расцягнуліся шнурком у адзін рад. Але пакуль у сенцах было цёмна, вочы пасля ярка-

га вулічнага святла нічога не бачылі, людзі асцярожна, як баючыся — так чалавек заўсёды заходзіць у незнаёмае жытло,— пасунуліся ў хату.

Ад таго, што ў пакоі амаль нічога не было, адзін паламаны стол, ён выглядаў надта прасторным. І панылым. З левага кута мёртва глядзела разяўленым вусцем печ, не такая ўжо і даўняя, а са сцен сур'ёзна і скамянела пазіралі зжаўцелыя фотакарткі ў пыльных, немудрагелістых рамках. І чамусьці ўсе адразу памкнуліся да гэтых рамак, пачалі ўглядацца, быццам шукаючы там знаёмых людзей. А фотакарткі былі звычайныя, у любой вясковай хаце — праўда, не зусім новай, а сярэдняга веку — вісяць яны, зжаўцелыя, маленькія, на якіх дзядзькі, цёткі, маладыя, вайскоўцы, часцей за ўсё — дзеці, бо фотаапараты цяпер не дзіва, а звычайная рэч. І знаёмы чалавек абавязкова ўбачыцца ў такой вось рамцы. Дзе з ім сустракаўся? А ў тым мінулым, якое было дзяцінствам, юнацтвам, мажліва — каханнем, ты неаднойчы гаварыў з гэтым чалавекам, запомніў не ўсяго яго, а — вочы, рукі, голас, і вось ён выплыў з тваёй даўніны, усміхнуўся табе, ты суняўся ў сваёй жыццёвай мітусні, стаіў дыханне, з намаганнем пракаўтнуў камяк, горкі і вялікі камяк, што засеў у горле. Недзе і ты на адным з такіх здымачкаў, і калісьці спынецца перад табой, тым, далёкім, ужо і непазнавальным для самога сябе, і колькі імгненняў пастаяць, амаль не дыхаючы...

Рэжысёр Кускоў прайшоўся па смецці, што кучамі ляжала на падлозе, нават зазірнуў у печ, нахіліўся да падпечка, сказаў:

— Тут нічога здымаць не будзем. Няма чаго кінаплёнку псаваць.

Моўчкі ўсе пагадзіліся — сцены здымаць, фотакарткі ў рамках, смецце на падлозе, павуцінне пад столлю, паламаны стол? Ды і пах у гэтай хаце не-

жылы, ці то тынкам, ці то мышамі патыхае, непрыемны пах.

Выйшлі ў сенцы і адтуль на двор, дасталі цыгарэты, пасталі, рукі ў кішэні.

— Што будзем рабіць са святлом? — чорныя вочы-жучкі рэжысёра Кускова скоса пазіралі быццам і на Гусака, а быццам і проста ўдалечыню.

— Зараз манцёра паклічу,— сказаў Антон,— ён тут недалёка жыве. Павінен быць у хаце.

Але рэжысёр, аказваецца, гаварыў не да яго, а да сваіх асвятляльнікаў. Тыя ўсё стаялі, бы прыклееныя, каля агароджы, нагадвалі коней, што спяць стоячы, зачэпленыя лейцамі за канавязь. Пачуўшы рэжысёрскі голас, яны заварушыліся, пераступілі цераз агароджу ў двор, адтуль пачалі ўглядацца ў электрычны слуп.

— Без электрыка на слуп не палезем. Не маем права,— нарэшце сказаў адзін з іх, пэўна — старшы.

— І гэтыя трэба... кіпці,— дадаў другі.

— То я і кажу, што прывяду зараз,— сказаў Антон і гукнуў цераз вуліцу: — Марыя, выкаці ровара!..

Антон Гусак у Валюхах быў вядомы як чалавек, вельмі ўважлівы да дробязей. Такі ў яго быў характар — давесці да ладу любую справу, няхай і нетэрміновую, праверыць, ці ўсё правільна зроблена, паправіць, калі на тое была патрэба. І яго здзіўляла часам, што некаторыя гэтую яго пунктуальнасць і дакладнасць лічылі дробязнасцю. Нават жонка, бывала, усходжвалася, пачынала раптам крычаць, што абрыдзеў ён са сваім парадкам, тое не вазьмі, там не пакладзі, зла не хапае. Антон, пакрыўджаны да глыбіні душы, сыходзіў на работу

ці ў лес, маўчаў, лічы, суткі. Сам ён ніколі не крычаў, не лаяўся, а гаварыў чалавеку свае заўвагі роўным і ветлівым голасам. Ды дзе ты зразумееш усіх людзей адразу...

Можа быць, з-за такое вось акуратнасці і паставілі Антона старшынёй. А тут прыехалі, як снег на галаву, палезлі ў хату, наогул ні на кога не глядзелі, рабілі, што зажадаецца. Гэта быў непарадак. Антон ішоў. Не, не раззлаваны — узбуджаны. Менавіта ішоў, вёў веласіпед і ішоў пешшу, думаў.

Старую хату Гапея і Аналіны маглі забраць у нейкі музей. Музей пачакае, даведаемся, які музей. Аднак адкуль у сталіцы празналі, што стаіць у Валюхах старая хата? Антон быў цвёрда ўпэўнены, што ніхто з вяскоўцаў і не падумаў бы паехаць і расказаць пра гэтае страхоцце. Людзі ў вёсцы працавалі, аралі, сеялі, не спалі ў жніво, жаніліся, раджалі дзяцей, будавалі хаты — і зусім не такія, як гэтая. Можа, каму і падабаецца туліцца ў адным пакоі, бачыць у маленечкіх акенцах кавалак агароджы і больш нічога, даставаць да столі рукой. Вокны без аканіц, цяпер і няма такіх вокнаў. Можа быць, што і ёсць такія людзі. Аднак Антон іх не ведае. Няма іх у Валюхах. Тут людзі будуюць хаты — нераўня гарадскім кватэркам. Каб зала была — абавязкова, без спальні хата не хата, дзецям, няхай і будучым, пакой таксама патрэбен, на кухні — каб было дзе гаспадыні павярнуцца. Веранда — у кожнай новай хаце. Не хаты — дамы, вялікія, высокія, з шыфернымі дахамі дамы.

Аднак музеі — яны ўсякія ёсць. Музей пакуль што чапаць не будзем. Тут Антон аж прыпыніўся — а дзяўчаткі, маладзенечкія гарадскія дзяўчаткі, якіх сам жа ён разводзіў па хатах? Прыехалі яны гэтым летам удзвюх, паказалі паперку, дзе Акадэмія навук прасіла дапамагчы і «аказаць са-

дзействіе» ў навуковай працы. Так, адну ён завёў да Ярашэвіч Аўдолі, а другую да Марыі Радзюк, якая і жыве амаль насупраць старое хаты, па суседству з Аўдоляй. Ён нават помніць тую другую — такую танклявую, такую ўсю не вясковую... Росту, мусіць, ягонага, аднак жа тонкая — пальцамі абшчэпіш, дыхнуць на яе — і то страшна. Галасочак таксама ціхі, калі ў полі ці на пашы гукнуць давядзецца, не ўчуе ніхто. Не іхняе, зусім не іхняе дзяўчо, ідзе і то баіцца як след ступіць на зямлю. Сукеначка, доўгія валасы, завязаныя пад корань тасёмкаю, вочы вялізныя, ніколі не жмурацца. От чамусьці ж запомнілася... То яны і запісвалі нешта, хадзілі да старэйшых, лічы, да самых старых. Ён яшчэ па кнізе выпісваў ім прозвішчы. Амаль з адных жанчын быў той спіс, але гэта з'ява нармальная, па ўсёй Беларусі жанчыны жывуць даўжэй. Да старых хадзілі, старыя, пэўна, пра старое і расказвалі... Ну правільна, Аўдолі ўжо за семдзесят, з ёй гэтая... студэнтка бачылася, там і хата побач. Разгледзела, вочы вялізныя, бачаць, і, можа, не тое, што ўсе мы бачым. Бывае і так.

Манцёр Ляўкоў быў, канечне, дома. На вёсцы кажуць — хочаш знайсці манцёра, кіруйся да ягонай хаты, шукай. Зараз ён корпаўся ў хляве, адразу выйшаў, учуўшы голас Антона, ні пра што не папытаўся, а моўчкі ўзяў свае манцёрскія прылады і пайшоў за старшынёй, таксама ведучы ў руках свой веласіпед.

— Ты давай едзь,— тады сказаў Гусак,— а мне яшчэ ў адно месца трэба.

Ён завярнуў у завулак і дарогаю, што вілася полем паўз вёску, выйшаў да Марыінага гарода. Гусак ведаў, што Радзюкі зараз дарабляюць цагляны склеп, і не здзівіўся, убачыўшы запэцканага растворам Петру з кельняю ў руках і Марыю, якая

варочала рыдлёўкаю ў скрыні з растворам. Антон падышоў, тады Петра дастаў цыгарэту, спынілася і Марыя.

— Ну што, калгас калгасам, а сваё сваім? — сказаў Гусак.

— Я дамовіўся...— буркнуў Радзюк.

Антон хацеў запытацца зусім не пра гэта, словы вырваліся неяк самі, тым больш што Радзюк ніколі не быў гультаём альбо нядобрасумленным чалавекам, і цяпер, каб зняць насцярожанасць, якая і павісла ўжо ў цішыні, ён паспешліва павярнуўся да Марыі:

— Ладна, ладна, пажартаваў... Марыя, дзеўка ў цябе летам стаяла, пра што яна распытвалася ўсё?

— Мінская?..— трохі разгубілася Радзючыха.— Ага, ага, з акадэміі. А пра ўсё пісала — як што раней называлася, старое начынне з гары падаставала, у куфар залезла, матчыны спадніцы ўсё хваліла. Я і аддала іх, нашто мне?

Успомніўшы пра тую дзяўчыну, Марыя ажно заўсміхалася, рукі самі пачалі папраўляць хустку, а з вачэй заструменілася цяпло, твар памаладзеў — быццам і не Марыя стаяла перад Гусаком. Здаецца, ладна часу прайшло ўжо, месяцы тры, а Марыя неие ды ўспомніць далікатную і гожую Тацянку. Не, не так ужо і многа гаварылі яны, не так доўга былі разам — а сэрца запомніла. І запомніла не праз тыя размовы, што вяліся адвячоркамі, а праз дотык душой, дотык памяццю да свайго дзявоцтва, да той шчаслівай пары, назва якой — маладосць. І хаця з рознымі інтанацыямі вымаўляюць людзі гэтае слова, заўсёды чуюцца ў ім дабрыня, пяшчота, радасць. Даўно была Марыіна маладосць, пяты дзесятак сыходзіць, бывае, ужо і ўспамінаецца яна як казка альбо сон, ды не забудзецца, пакуль будзе

жыць жанчына. Кажуць, уведаць чалавеку шчасце — як жар-птушку злавіць. А ці ж не шчасце не адчуваць свайго цела, калі бяжыш па зямлі, чуць, як штуршкамі рухаецца ў табе кроў, і не заўважаць свайго дыхання, такое яно лёгкае? Пэўна, шчасце... І маладосць Марыі ўсплыла з напаўзабытай далечыні не толькі таму, што з'явілася з ёй побач Тацянка. Мусіць, хавалася яна ў куфры, што стаіць на верандзе, і на гары, дзе Тацянка знайшла боцікі, якія купіла на кірмашы яшчэ Марыіна маці. Правільней, тыя боцікі купіў для маці бацька.

Куфар стаяў спачатку ў каморы, там заўсёды было цёмна, ён не вельмі заўважаўся. Потым пабудавалі асобны склеп, папярэднік таго, які будуецца зараз, камору раскідалі, цесная яна была і не надта патрэбная, куфар пераехаў на веранду. Але таму, што куфар быў заўсёды побач з Марыяй, спачатку ў матчынай хаце, потым ужо ў сваёй, калі пайшла замуж,— Марыя яго як і не бачыла. Быў і быў. А тут гарадская дзяўчына пачала хадзіць вакол яго, як кот ля сала. І ў Марыі сціснулася сэрца, па-новаму глянула яна на размаляваную ў чырвоныя і зялёныя ўзоры і кветкі — зараз яны ледзь угадваліся, а калісь былі што сапраўдныя — з напаўкруглым векам ёмістую скрыню, дзе ляжалі святочныя спадніцы, ношаныя, пэўна, толькі ў першыя гады пасля замуства, матчын саян, аздоблены вышыўкай, гарсэты і стракатыя запоны — спачатку іх шкада было надзяваць штодзень, а потым яны прыляжаліся неяк, прыціснуліся іншымі тканінамі, ручнікамі ды абрусамі, але ўсё ж прычакалі. На самым дне знайшлася нават намітка, тонкае льняное палатно з затканымі канцамі, што павязвалася на павойнік. Як намітка трапіла ў куфар, ад каго засталася, як нават на галаве выглядала, Марыя ўжо не памятала. Марыя, аказваецца, увогуле

добра не ведала, колькі і чаго ў тым куфры, і разам з Тацянкаю даставала адзенне і тканіны, разгладжвала рукамі, прымярала на дзяўчыну, бо на сябе саромелася. І як жа ж добра глядзелася гэтая старызна на гарадской дзяўчынцы, як пасавалі ўзорыстыя саяны і гарсэты тонкаму твару з вялікімі вачыма — аж загледзелася Марыя, прысела на куфар, склала рукі на грудзях, задумалася. Тацянка падскочыла, прыгарнулася, пачала лашчыцца, прасіцца, каб пра ўзор расказала. А што ўзор? Звычайны насмык. Звычайны таму, што ім вышывалася амаль уся вопратка, але ён не просты, складаны наватузор. Трэба было сядзець і сядзець, каб перанесці на палатно галінкі елачак, павуцінне лясных сцежачак — менавіта з іх складаўся ўзор. І сціпла, і гожа. Марыі даводзілася бачыць сарочкі і блюзкі, што вышываліся на Палессі. Там узор быў зусім іншы, яркі, маляўнічы, выкручасты, скрозь рассыпаліся кветкі і дзівосныя расліны. Аднак мілы сэрцу быў усё ж гэты самы насмык...

І, нікольк не шкадуючы, аддала Марыя саян, і гарсэт, і запон з наміткаю. Але, як ні дзіўна, больш за ўсё Тацянка радавалася боцікам, што валяліся ў скрыні з нейкімі трантамі дранымі на гары. Аж заскакала па хаце, закружылася, што тое кацяня, пацалавала. А колькі тым боцікам гадоў, то і сказаць цяжка. Марыя ўвогуле не любіла расказваць, яны з мужам адно пад адно — маўклівыя, спакойныя, ціхія,— тут, аднак, не ўтрымала ў сабе тае даўніны, якая была дарагой, бо з усяго мінулага чалавек чамусьці помніць найбольш добрае, светлае. Яно і зразумела — з добрым жыць лягчэй...

У суседнім, недалёкім мястэчку быў фэст, свята, бацька запрог Белакапыціцу, кінуў у драбіны свежага сена, і малая Манька адразу гупнулася на яго, пачала падскокваць у прадчуванні незвычай-

нага — кірмашнага натоўпу, гаманы, мітусні, салодкіх пеўнікаў на палачцы, можа, цацкі якой... Белакапыціца, кабылка жвавая і наравістая, той дзесятак кіламетраў прабегла хутка, бадзёра, здаецца, і драбіны зусім не калываліся, а плылі гладкай дарогаю пад нізкім яшчэ ранішнім сонцам, што падсушвала буйную расу і разганяла туманок, які і ціснуўся ўжо да самае травы і лугавых азерцаў, стараўся схавацца, зліцца з зямлёю. Як навязаны да драбін нябачнай ніткаю, вісеў над імі жаўручок, звінеў, радаваўся, раз-пораз знікаў, аднак ненадоўга. Іхняя дарога ўлілася ў большую, потым у зусім вялікую, і на кожнай быў рух, таксама прадвеснік свята, радасці. Калі-нікалі драбіны, дзе сядзелі важныя, сур'ёзныя бацькі і здзіўленая, наструненая Манька, абганяла лёгкая брычка, за ёй павіваўся лёгенькі пылок, бо пясок на дарозе яшчэ добра не высах. Аднак часцей абганяла Белакапыціца, спачатку яна раўнялася з калёсамі, дзе ў палукашку альбо прасцейшым кузаве з дужкамі сядзелі ўрачыстыя дзядзькі і цёткі, затым побач узнікала вялікая конская галава з вільготнымі, трохі насцярожанымі вачыма. Траплялісь і доўгія фуры, у якіх пад накрыўкамі ўгадвалася штосьці вялікае. Адна такая фура была гружаная вялізнай гарой гарнушкаў, гладышкаў, спарышоў, карчаг, глякоў, місак, глечыкаў і ўсяго-ўсяго іншага, глінянага. Пад гэтай гарой, ля самага конскага хваста, нічога не баючыся, сядзеў дзядзька з люлькаю, здавалася, спаў.

На кірмашы, дзе віравала процьма людзей, дзе галасы іх зліваліся ў адзіны чмяліны гул, з якога вырываліся адно рэзкія, часцей жаночыя, дзе хадзілі непадобныя да ўсіх іншых людзей і страшныя ад гэтай непадобнасці чорныя цыганы з паўмесяцамі залатых завушніц у вуху,— бацька спачатку пакінуў Маньку вартаваць воз. Яна і не пярэчыла адразу,

напалохалася мітусні — дальбог, лясны мурашнік, толькі больш стракаты! — а потым, як разгледзелася, як пазнаёмілася з хлопчыкам на суседняй фуры, Базыльком, сама захацела пахадзіць, убачыць самае цікавае, якое, зразумела, было трошкі далей, куды не сягала вока. Базылёк згадзіўся паглядзець і іхнія драбіны, сказаў адно, што па чарзе хадзіць будуць — спачатку яна, потым ён. Пайшла. Столькі ўсяго тут было, і такое ўсё незнаёмае, што галава ішла кругам і трохі балелі вочы. Былі мяхі са збожжам і запыленыя дзядзькі каля іх; недалёка, з вялізнымі тушамі кабаноў, у цыратовых фартухах і з нажамі ў руках стаялі дзядзькі, якіх яна забаялася; прадаваліся плеценыя гарнцы, казубы, кашы, вярэнькі, і найбольш спадабалася калыска з саломкі на трынозе, вакол стаялі людзі, дзівіліся, не верылі, што яна можа вытрываць цяжар, хай сабе і дзіцяці, і гаспадар, як ведаючы, чым здзівіць пакупнікоў, дастаў з кошыка ката і кінуў у калыску, зразумела, узняўся рогат, а кот ляжаў давольны, жмурыўся, адно торгаў вушамі; на драўляных гандлярных радах ляжалі кучы леташніх арэхаў, дражніліся смачныя пеўнікі на палачках у руках бабуль, пасвіствалі цацкі-пахвісцёлы — баранчыкі, конікі, сабачкі... І каля доўгага рада чобатаў, што выстраіліся, як салдаты, недалёка ад кучы лапцей, нарэшце яна ўбачыла бацькоў. З крыкам падляцела да іх, аднак тыя і не надта здзівіліся.

«То што, Хадоска?» — пытаўся вачыма бацька ў маці, пакручваў галавой, ніякавата таптаўся, касавурачыся на чобаты, як певень на пацеркі.

«Ай кінь ты... выдумаў...» — адварочвала твар маці і стаяла надта ж разгубленая, надта ж напалоханая — як верабей каля кошкі.

— Бярыцé любыя, глядзіце, мерайце — лепшых на кірмашы няма і не знойдзеце,— гаварыў як бы

і не да бацькоў, а да самога сябе шавец, вусаты дзядзька ў брылі, малы ростам.— Вунь стаяць, самыя апошнія, то глядзіце, калі ласка, ніводнае кропелькі не вылілася, а з самага ранку паўвядра ўбухаў.

Бацька, як не верачы, падаўся ў самы канец чобатавага рада, утаропіўся ў апошнюю пару, зайшоў з аднаго боку, з другога. Шавец усміхаўся ў вусы і падміргваў Маньцы — га, не верацъ! Манюкі і злодзеі кругом, ніводнага чалавека! Манька таксама падбегла, прысела каля чобатаў, усунула руку ў халяву — вада была цёплая, нагрэлася, моцна пахла скурай.

— Ага! Поўныя вады! — крыкнула яна да маці.— Хадзі глянь!

Аднак бацька ўжо рашуча падышоў да шаўца, весела загаварыў, і ўсе ўсміхаліся — бацька, маці, вусаты дзядзька. Маці нахілілася, узяла адзін чобат, дала бацьку. Але шавец забраў яго, паставіў на месца, павёў уздоўж доўгага рада, спыніўся ўсярэдзіне і сам узяў пару, адзін чобат даў бацьку, другі маці. Тая абаперлася на бацькаву руку, нацягнула на правую нагу чобат, стала. Абцасік у чобата быў вышэйшы, чым у старых чаравіках, і яна стаяла на адной назе, дакранаючыся да зямлі наском другой.

— Добра?..— непакоіўся бацька, зазіраў ёй у вочы.

Маці, чырвоная, шчаслівая, крышку ўспацелая, нічога не адказвала, а толькі часта ківала галавой. Манька вырвала з рук бацькі другі чобат, пакруціла яго так і гэтак, лізнула халяву — чамусьці падумалася, што будзе яна салодкая,— і ўсунула тонкую босую нагу ў вялікі, чорны, зграбных абрысаў абутак. І тут жа атрымала кухталя, магутныя бацькі-

кавы рукі лёгка вышмаргнулі яе з чобата і затрэслі ў паветры:

— От далазішся ж калі-небудзь, што носа свайго не ўпільнуеш, каза!

— Чобаты, скажу праўду, адмысловыя, не сорамна на любы кірмаш везці,— гаварыў зноў жа як сам сабе шавец.— Халявы, бачыце, доўгія, завярнуў во наколькі. Падэшва моцная, цвічкі ўсе драўляныя, двайны рад. Стончкі чырвоныя, якраз во для такой прыгожай кабецінкі. Насіце на здароўе!

Бацька трымаў у руках грошы, маці чобаты, а ў Манькі зусім нічога не было.

Марыя расказвала пра пакупку тых чобатаў Тацянцы, смяялася, вочы былі вільготныя, мусіць, ад таго, што стаяла тая карціна перад ёй — як жывая, быццам была яна ўчора. Трэба сказаць, захаваліся чобаты — хоць зараз абувай. Нават стончкі на халявах — так называецца ўзорыстая аблямоўка чобатаў — не выцвілі, былі ярка-чырвоныя, падэшвы таксама не зношаныя, цвічкі сядзяць у іх акуратна, роўненька. Адно толькі скура ўжо не такая мяккая, ссохлася, але ж і гадоў колькі прайшло... Дзіва, што так радавалася Тацянка. Хаця, шчыра кажучы, з цяперашнімі боцікамі іх не параўнаць, так тады і сказала Тацянцы. Тая спрачалася, ды так, больш для прыліку.

— Харошая яна дзевачка, як усё роўна наша, не гарадская,— сказала Марыя, дакранулася рогам хусткі да куточкаў вуснаў.— Хадзіла са мной сена падгрэбаць...

— Ну добра,— скрануў з месца веласіпед Гусак,— пра хату, пэўна, у Мінску ад яе празналі. Яна ж не з адной табой гаварыла, а і да другіх падходжвала? Да старых?

— Дык жа ж работа ў яе такая была... Як за-

гадалі, так і рабіла...— пачала бараніць невядома ад чаго сваю былую кватарантку Марыя.

Але Гусак ужо не слухаў яе, ішоў, заклапочаны, да всніц, якраз насупраць якіх стаяла старая хата, а каля яе — машына з людзьмі, што збіраліся здымаць гэтую хату на кіно. Антона зараз непакоіла вось што: пакажуць, дапусцім, струхлелую будыніну ў тэлевізары і пры гэтым нешта ж скажуць? Абавязкова скажуць, што стаіць перакошанае жытло ў вёсцы Валюхі, дзе старшынёй сельсавета — Гусак. Зразумела, Антон не баяўся непрыемнасцей — адкуль ім узяцца? — аднак не падабалася яму, што гэтыя кіношнікі, па ўсім відаць, не збіраліся паказваць і новыя, сучасныя, багатыя дамы, у якіх стаіць самая розная мэбля, на сценках — дарагія дываны, паўсюль у якіх каляровыя тэлевізары, халадзільнікі, пральныя машыны, і не толькі пральныя, а тыя, на якіх можна заехаць не ў які-небудзь райцэнтр, а і ў Мінск. Атрымліваецца, што ў Валюхах толькі старая хата, і больш нічога. Людзі, можа, толькі адзін раз у жыцці ўбачаць гэтую вёску, адзін толькі раз, і запомняць яе па старой хаце, да якой проста рукі не дайшлі трохі раней, так бы і сфатаграфавалі яе, калі б Гапееў сын разабраў на бёрны, як збіраўся. Не, хай сабе будзе і экспанат, экспанаты — яны розныя, у музеях і чарапкі ляжаць, і косткі, каменне нават звычайнае, усё трэба. Але ж хіба няма тут сваіх людзей, якія таксама ведаюць пра старое і цікавяцца ім? Настаўнік Іван Піліпавіч Гаркуша, напрыклад, у Валюхах нарадзіўся, вырас, гісторыю выкладае. Заслужаны чалавек, франтавік, ён будзе не лішнім. Хай пакуль вакол хаты валтузяцца, святло робяць, а ён паспее паклікаць Івана Піліпавіча, і той ведае, што сказаць і як.

Не заварочваючы пад хату, Гусак пакіраваўся

да завулка, дзе стаяў новы дом Гаркушы. Чамусьці ён ізноў не здагадаўся сесці на веласіпед і паехаць.

Каля хаты людзі варушыліся многа жвавей, галасы іх памацнелі, быццам і пабольшала іх — усё паказвала на тое, што хутка пачнецца самае галоўнае, тое, з-за чаго прыехала сюды кіназдымачная група. Электраманцёр Ляўкоў быў ужо высока на слупе, поркаўся з правадамі, знізу яму нешта падказвалі, хаця падказкі тыя, было бачна, патрэбны яму, як кабыле воцат. Нарэшце ён пачаў спускацца, моцна пастукваючы «кіпцюрамі». Асвятляльнікі замітусіліся, заняліся сваімі чамаданамі і скрынямі, адзін за адным узніклі два асвятляльныя прыборы.

— Так, усё гатова? — рэжысёр Кускоў быў памкнуўся ў хату, але з прачыненых дзверцаў машыны пачулася:

— Пачакай, зараджуся вось — і будзем працаваць. Спакойна.

— Ну канечне, што за кінааператары ў нас,— пачаў невядома каму скардзіцца Кускоў, у голасе яго нават з'явіліся плаксівыя ноткі.— Ты не мог раней падрыхтавацца, Бутырын? Што ты дзве гадзіны рабіў? Трэба працаваць, а ў цябе камера не гатовая. Ну чэснае слова, што за людзі, што за работнічкі...

— Не плач, можа быць, усё яшчэ будзе і добра,— з апошнімі словамі з дзверцаў паказалася нага, другая, потым задам увесь вылез кінааператар Бутырын, чалавек гадоў пад шэсцьдзесят. Ён з намаганнем узняў кінакамеру, паглядзеў у аб'ектыў, падкруціў нешта. Рабіў ён усё няспешна, нават замаруджана. Канечне, даўно прывык Бутырын да цяжкое камеры, да акумулятара, да экспанометра, з якім не расставаўся ніколі,— і тым не менш

апошнім часам ён не-не ды падумваў, што здымаць яму ўжо цяжка. Адна справа — цягаць туды-сюды камеру, па гэтай бядзе яшчэ можна жыць. Значна горш, што пачалі здаваць вочы, не бачылі яны ўжо так добра, як раней, хутка стамляліся, балелі. А вочы — галоўнае для кінааператара, можна сказаць, тое, чым ён зарабляе на хлеб. Гэта ж ужо апошняя справа, калі рэжысёр атрымлівае пасля праяўкі кінастужку, дзе знята не ў фокусе. Дзякуй богу, такое бывала вельмі рэдка, аднак бывала... І таму, перш чым здымаць, Бутырын вельмі доўга рыхтаваўся, доўга зараджаў стужку, правяраў аб'ектыў, які таксама ўжо можна было адпраўляць на пенсію,— адным словам, стараўся папярэдзіць усе нечаканасці, якія б перашкодзілі здымкам. І вось гэтыя яго запаволеныя рухі, яго порканне з камерай і стужкай, бясконцыя праверкі і пераправеркі часта выклікалі злосць рэжысёра і кепікі здымачнай групы. Ён стараўся не звяртаць увагі, прапускаў смешачкі міма вушэй, галоўнае было — працаваць без браку. Бутырын разумеў, што апошняй кінакарціны — лебядзінай песні,— пасля якой можна спакойна ісці на пенсію, у яго ўжо не будзе, аднак не панікаваў, не скардзіўся на жыццё. Ён проста хацеў па-ранейшаму лічыцца надзейным кінааператарам, няхай і марудным.

— Глядзі хоць здымі ў фокусе,— ніяк не мог супакоіцца Кускоў.— А то мы, бывае, на семдзесят працэнтаў браку прывозім. Стары ты, Бутырын, кідаў бы камеру, хай маладыя здымаюць.

Бутырын, як не чуючы, пайшоў у хату. За ім падаліся Кускоў і Бянчук.

— Ну вось глядзі, Мікалаевіч,— зноў заспяшаўся Кускоў,— спачатку пару агульных планчыкаў хаты, потым наедзеш на сенцы. Правільна, Бянчук, самае ж галоўнае тут — сенцы?..

— Ну так, сенцы,— згадзіўся Бянчук, узіраючыся ў напаўкруглае скляпенне з тоўстых бёрнаў, старых, але моцных.— У сцэнарыі напісана — больш стагоддзя гэтым сенцам.

— У сцэнарыі напісана...— закруціў носам Кускоў.— У сцэнарыі можна такога панапісаць... Ну дзе, дзе той сцэнарый?

— Як гэта дзе?! — утаропіўся ў рэжысёра Бянчук.— Я ж табе даваў. Перад камандзіроўкай, як зараз помню.

— Ну згубіў,— махнуў рукою Кускоў.— А можа, у гасцініцы валяецца. Ды якая розніца? Здымем, як трэба, і не горш, чым у тым сцэнарыі распісана. Зрабіў праблему — сцэнарыя няма...

— Ты што завёўся? — зазлаваў Бянчук.— Едзеш у камандзіроўку і не ведаеш, што здымаць будзеш. Прафесіянал.

— Ладна-ладна! — замахаў рукамі Кускоў.— А галоўнае, Мікалаевіч, вось тут, бачыш, скляпенне? Праедзешся спачатку злева направа, потым састрахі на бярвенне. Зразумеў?

— Як трэба, так і праедземся.

— Дарэчы, Кускоў,— раптам умяшаўся Бянчук,— а табе не даводзілася чытаць пра нашу работу? Пра тое, як мы працуем?

— Ды чытаў,— пацiснуў плячыма Кускоў.— Пісьменнікі не забываюць пра нас. А што такое?

— Ды вось успомніў, што і я аповесць пра кіназдымкі вясковай хаты чытаў. Патрэбная, значыць, у нас работа, га, Кускоў?

— Чаму ж не? Ад тэлевізара зараз нікуды не дзенешся. Ну і як мы там працуем?

— Па-ўсякаму. Я не пра гэта хацеў сказаць... Мусіць, людзі ўсё часцей звяртаюцца да гэтых старых хат. І пішуць пра іх, і здымаюць, вось як мы. Цягне яна да сябе, гэтая старая хата...

— Нічога,— вырашыў суцешыць Бенчука Кускоў,— атрымаеш дачны ўчастак — і пабудуеш сабе такую хату. Будзеш жыць, як у вёсцы.

— Вось-вось, толькі і застаецца, што будаваць.

Кінааператар Бутырын у гэты час прыкідваў, дзе ставіць асвятляльныя прыборы, тупаў, адыходзіў крыху назад, жмурыў вока. Нарэшце, усё для сябе вырашыўшы, крыкнуў у дзверы:

— Святло!

Адразу паказаліся хлопцы з лямпамі, паслухмяна пачалі соваць іх, куды паказваў кінааператар. Па сутнасці, кінааператар зараз быў тут галоўным чалавекам, ад яго залежала, як будзе знятая старая хата з рэдкім старым скляпеннем у сенцах, якой яе ўбачаць людзі на экранах тэлевізараў. Разумелі гэта ўсе, нават Кускоў прыціх, зрабіў выгляд ці сапраўды зацікавіўся амаль новымі драбінамі, па якіх можна было ўзлезці на гарышча над жылым пакоем. А Бутырын не спяшаўся, некалькі разоў перастаўляў прыборы, прыкладваўся да акуляра кінакамеры — але не здымаў. Здавалася, што ён прывыкаў да аб'екта, які трэба зняць, узіраўся ў яго, нават мацаў рукамі, мармытаў нешта пад нос— размаўляў з хатаю і з сабою. Пакуль ён вось так рыхтаваўся, Кускоў паспеў ужо злазіць па драбінах, паглядзець у цемнату гарышча, наогул разглядзецца, як певень з плота.

Урэшце застракатала кінакамера, і ўсе прыціхлі, быццам баючыся лішнім гукам спыніць здымкі. Гэта ўжо была такая прывычка — сціхаць і заміраць на месцы, калі працавала камера. Вось зараз і несінхронныя здымкі, без гуку, можна гаварыць, не лезці толькі ў аб'ектыў, аднак цішыня стаяла напружаная і чуйная.

— Гатова, скляпенне ёсць...— крыху задыханым

голасам перарваў гэтую цішыню Бутырын і скінуў з пляча камеру, прысеў на драбінах.

Асвятляльнікі адразу выскачылі на двор перакурыць, Бутырын зачыркаў запалкаю проста тут, у сенцах, не супакоіўся адзін Кускоў. Ён варушыўся ўверсе, корпаўся, дальбог, як той певень, што ўладкоўваецца на седале, а потым падаў голас:

— Мікалаевіч, а адсюль вельмі неблагі планчык можа атрымацца... Вось калі стаць, як я, і павольна наехаць. Выдатны будзе план, Мікалаевіч, лезь сюды, глянь...

Бутырын закашляўся, аднак паслухмяна ўстаў, паставіў нагу на папярочку, але, перш чым лезці, ускінуў вышэй камеру, спрабуючы, ці трывала яна будзе стаяць. Падскочыў Бянчук, падтрымаў яе. А з гарышча падганяў, не сціхаў Кускоў, распісваў, які добры будзе план з драбін, проста знаходка. Бутырын, крэкчучы, узлез, умацаваўся, пастракатаў з драбін.

— Добра,— сказаў ён. Яму таксама спадабаўся выгляд скляпення з гэтай кропкі, ён пахваліў сам сабе настырнасць Кускова, яго пільнае рэжысёрскае вока.

— Толькі цяпер разглядзеў, якія цікавыя сенцы,— неяк задумёна сказаў Бянчук.— Нідзе не бачыў, каб скляпенне з такога бярвення было. Наверсе можа быць добры пакойчык, вунь і прыступкі наверх.

— Я да гэтых прыступкаў даўно прыглядаюся,— сказаў Кускоў.— Значыць, зробім так: я прывязваю вяроўку да дзверцаў, стаю ў куце, павольненька гэтак прачыняю... Камера едзе-едзе па сцяне — і на прыступкі. І вось тут зацікаўлены — будзе глядач зацікаўлены, Бутырын? Канечне, будзе,— значыць, зацікаўлены глядач разам з камерай па

прыступачках, па прыступачках на гару... Га, Бянчук?

— Можа быць,— згадзіўся рэдактар.

— Давай перш туды злазім, паглядзім. Можа, што цікавае знойдзецца. У такіх хатах бывае.

Кускоў сам узяў асвятляльны прыбор, пацягнуў яго наверх. Прыступкі, кранутыя цвіллю, асклізаліся, трэба было згінацца, аднак Кускоў ні на што не звяртаў увагі, не баяўся, што можа запэцкаць светлы плашч. І ўпартасць яго была ўзнагароджана: у скрыні каля сцяны яму пад руку адразу трапіліся два абразы.

— Зірні, Бянчук, праваслаўныя, здаецца? — круціў ён абразы то так, то гэтак.— Напісана «Жыціе Міколы Цудатворца»... Старое, з «яцямі»...

Ён радаваўся, як дзіця, што ўбачыла новую цацку, шчасліва смяяўся, не выпускаў абразы з рук. А Бянчук адразу ўбачыў, што абразы самыя звычайныя, не старыя, друкаваныя на паперы, усё адно як ілюстрацыі да кнігі. Дакладней, друкаваны адзін, з Міколам Цудатворцам, а другі, размаляваная дошчачка, ужо сапсаваўся, на ім цяжка было што-якое разгледзець, ды і тое, што бачылася,— традыцыйнае аблічча маці божай з сынам. Яго і кінуў Кускоў, заняўся другім. І таксама нічога цікавага ў Міколу Цудатворцу — у цэнтры фігура святога з німбам, па баках сцэны з жыцця: нараджэнне, навучанне багаслоўскім навукам, нейкае там вылечванне юродзівых, манастыр, смерць. Звычайнае чалавечае жыццё, названае святым толькі таму, што дзіця аказалася здольным да багаслоўя, добрая, мусіць, у яго была памяць да малітваў і такога ж іншага.

— Ды кінь ты,— сказаў Бянчук,— нічога каштоўнага тут няма. У нашым стагоддзі друкаваўся,

бачыш, напісана — тысяча дзевяцьсот семнаццаты год.

Кускоў быў не паверыў, доўга ўглядаўся ў лічбы, але потым усё адно выняў з-пад бруднага шкла паперу, акуратненька згарнуў яе і паклаў у кішэню.

— Нічога,— сказаў,— спатрэбіцца...

І сапраўды, можа, на якіх-небудзь здымках, на спектаклі, напрыклад, спатрэбіцца якраз такі вось абраз — а Кускоў вось ён, з Міколам. Рэжысёр павінен умець усё зрабіць і ўсё знайсці.

Злезлі з гары, Кускоў адразу пачаў шукаць вяроўкі ці дроціка — каб было за што пацягнуць і прачыніць дзверцы. Прашнырыў сенцы, знік у жылым пакоі, выйшаў з вяровачкай. Яшчэ раз крытычным вокам агледзеў аб'ект здымкаў — сцяну з дзверцамі,— сказаў:

— Мяхі, канечне, усё псуюць. У кадры не павінна быць нічога лішняга. Давядзецца ўсю гэтую бульбу перанесці.

У дальнім куце досыць прасторных сенцаў ляжала некалькі мяхоў з бульбаю, неяк і не заўважаліся яны, ды не спадабаліся галоўнаму тут чалавеку — Кускову.

— Хлопцы! — загукаў Кускоў.— Хопіць курыць, сюды давай!

Ды асвятляльнікі не надта засяпшаліся на гэты заклік, не першы раз былі яны ў камандзіроўцы, душой адчувалі, калі сапраўды без іх не абыдуцца. Быццам не было іх зараз, зніклі, расталі ў восеньскім паветры. Не, яны былі не лайдакі, гэтыя маладыя хлопцы, не зломкі, яны проста атрымлівалі менш за ўсіх грошай і лічылі, што адзіная іхняя справа — перанесці з месца на месца асвятляльны прыбор. І гэта не было навіной для рэжысёра альбо рэдактара, таму што ім таксама не раз даводзілася ездзіць у камандзіроўкі, працаваць з гэтым асвят-

ляльным цэхам, чуць іх жыццёвае крэда. Кускоў, чалавек сталага ўзросту, не адзін дзесятак гадоў звязаны з кіназдымкамі, ужо і не здзіўляўся, прымаў усё як ёсць. А Бянчук, які працаваў на тэлебачанні толькі чатыры гады, бывала, здзіўляўся: «Ці не дамаўляюцца ўсе асвятляльнікі паміж сабой адпрацоўваць самы мінімум? Надта ж падобна, што нехта вучыць маладых хлопцаў прыкідвацца лянівымі і абыякавымі. Няўжо ім нецікава працаваць з жывымі людзьмі? Няўжо не хвалюе іх вынік кіназдымак?»

Асвятляльнікі Барэйша, старшы з дваіх, і Маханькоў, вялікі аматар сучаснай музыкі, у гэты час стаялі за сцяной хаты, курылі перадапошнюю цыгарэту на дваіх, падлічвалі, колькі грошай засталося да канца камандзіроўкі. Як ні трэсліся кішэні, як ні лічыліся — грошай было да засмучэння мала.

Аднак на голас Кускова ўсё ж прыйшлі людзі. Адзін за адным у сенцы ўвайшлі Антон Гусак і мясцовы настаўнік гісторыі Іван Піліпавіч Гаркуша. За нейкія пятнаццаць хвілін, як прыйшоў па яго Гусак, Гаркуша паспеў апрануць парадны гарнітур з узнагародамі і аб усім распытацца — хто прыехаў, навошта, што патрабуецца ад яго. Гусак гаварыў трохі блытана, рабіў доўгія паўзы, паўтараўся, аднак галоўнае Іван Піліпавіч усё ж зразумеў — трэба выступіць перад кінакамерай і расказаць, што хата старога Гапея стаіць вельмі даўно, не памятаюць ужо людзі колькі, і што валюхоўцы зараз жывуць добра. «Ды ў якой жа гэта вёсцы жывуць блага? — быў падумаў Іван Піліпавіч.— Цяпер для ўсіх аднолькава — працуй і жыві, як заслужыў». Але спрачацца не стаў, бо сам факт прыезду людзей з Мінска ўзрушыў яго, усхваляваў, выбіў з рабочага настрою, не лезлі ў галаву нават заняткі.

Кускоў з Бенчуком узяліся за адзін мех, Гусак

з Іванам Піліпавічам за другі, пачалі цягаць. Праўда, насілі больш гаспадары — і мацнейшыя яны былі, нягледзячы што Івану Піліпавічу пад шэсцьдзесят, і рухаліся жвавей, ды і браліся за тыя мяхі ўмела, так, як трэба брацца. За пяць хвілін работа была скончана. Любая работа, асабліва фізічная, лепш за ўсё іншае збліжае людзей, і цяпер, абтрасаючы пыл і выціраючы рукі, гаварылі яны, як добрыя знаёмыя. Кускоў адразу ўзяўся прывязваць вяровачку да дзверцаў, якія трэба было адчыніць, каб людзі ўбачылі прыступкі, што вялі на гару, а Гусак падвёў Івана Піліпавіча да Бенчука і прадставіў як чалавека, які лепш за ўсіх ведае мясцовую гісторыю і можа расказаць пра гэтую старую хату.

— Цікава, вельмі цікава,— сказаў Бянчук,— гэта можа ўпрыгожыць нашу перадачу. Давайце я запішу ваша прозвішча, каардынаты. Вы нам расскажаце пра тып забудовы гэтай хаты, наогул расскажаце, як раней будаваліся мясцовыя людзі. Калі ласка, не больш трох мінут. Можа быць вельмі цікавае выступленне.

Нарэшце ўсё было гатова, і зноў самым галоўным чалавекам стаў Бутырын, якога дагэтуль як і не было.

Як чорцікі з-пад зямлі, з'явіліся асвятляльнікі, Кускоў не паспеў нават і паклікаць іх.

І яшчэ раз цішыня агарнула хату, памалу адчыніліся дзверцы, аб'ектыў камеры са сцяны перайшоў на прыступкі і паехаў угору. Сціхла камера, загаварылі людзі, крыху ўзбуджана — так заўсёды бывае, калі перастае стракатаць кінакамера і пэўны кавалак работы зроблены,— перадых.

— Дык мы што, будзем пісаць сінхрон? — пытаўся ў Бенчука Кускоў.— Не дарэмна, значыць,

узялі з сабой гукарэжысёра. Як адчуваў, што спатрэбіцца.

— У сцэнарыі напісана, што пажадана выступленне Аўдолі... зараз, у мяне запісана...— рэдактар дастаў нейкія паперкі, паўглядаўся,— вось... Ярашэвіч Аўдоля, семдзесят гадоў, вельмі добра гаворыць, сакавітая мова.

— Яна тут недалёка жыве,— умяшаўся Гусак,— у яе летам студэнтка... не, з акадэміі дзяўчына жыла. Усё запісвала нешта.

— Ну і добра,— узрадаваўся Кускоў,— запішам і бабу Аўдолю, і э-э... ага, Івана Піліпавіча Гаркушу. Усё будзе добра.

— Пайду пагавару з чалавекам,— сказаў Бянчук,— можа, хворая якраз.

— Ды не, Аўдоля ніколі не хварэе,— запэўніў Гусак.— Дома будзе.

Бянчук перайшоў на другі бок гразкае вуліцы і пашыбаваў уздоўж не надта высокага плота, нядаўна, мусіць, фарбаванага, бо весела кідаліся ў вочы сіні і жоўты колеры. Паветра, здаецца, падчысцілася, на небе пабольшалі прасветы, ужо толькі зрэдку дзяўблі раскіслую зямлю буйныя кроплі. Але ўсё ж ад залішняй вільгаці паветра пацяжэла, прыглушыліся гукі, і калі дзе рохкаў парсюк — укормлены, ён ужо прадчуваў першы снег і швайку — ці брахаў сабака — то быццам з-пад зямлі. Як і было такое з Бенчуком — недзе далёка сакочуць куры, дыміцца зямля, жаўцеецца горка пасечаных дроў ля новае хаты... Як ні дзіўна, Бянчук успомніў, што ўсё гэта ўжо было, па гуках, якія плылі над прыснулаю вёскаю, з цяжкасцю прасочваліся праз восеньскую смугу. Тыя гукі, здалося яму, даляцелі аднекуль вельмі здалёку — можа, нават з

тае неверагоднае далечыні, калі ён упершыню ўсвядоміў, што на зямлі ёсць ён. Той яго самы першы ўспамін чамусьці ўвесь быў зялёны — зялёнаю вуліцаю, скрозь клубы зялёнага туману кудысьці далёка ішоў ён і смяяўся. Успамін быў падобны да сну, але Бянчук ведаў, што была тая зялёная вуліца, як быў і ён. Рып вочапа над студняю, шлёпанне ног па зямлі, звон у паветры, падобны да музыкі,— усё гэта было адтуль...

Бянчук спыніўся каля хаты, якую паказаў Гусак, у нерашучасці патаптаўся перад весніцамі, але ўсё ж адсунуў засаўку і ўвайшоў у двор. Каля хаты нікога не было, а вось на прасторным восеньскім гародзе бачыліся дзве жаночыя постаці, перабіралі, пэўна, апошнюю бульбу. Бянчук памалу прасунуўся наперад — і яго адразу ўбачылі. Адна з жанчын, старэйшая, выціраючы фартухом рукі, пайшла проста да яго. Яна ўглядалася пільна, але без насцярожанасці або хвалявання, і вочы, жывыя, з хітрынкай, глядзелі адкрыта і спакойна. І Бянчук, які дагэтуль адчуваў ніякаватасць, раптам, нечакана для сябе, заўсміхаўся і загаварыў лёгка — быццам з даўно знаёмым чалавекам.

— Прабачце, што вось так, без запрашэння да вас... Але без дай прычыны і не заходзяць, так? Вельмі вялікая да вас просьба, Аўдоля... не ведаю, як па бацьку...

— А навошта па бацьку, Аўдоля і Аўдоля, Нічыпарава я. То хто ж вы такія?

— З тэлебачання, Аўдоля Нічыпараўна, хочам, каб вы расказалі вунь пра тую хату, Гапей у ёй жыў, і пра сябе трошкі.

— Во-о, расказваць я магу кожнаму, нават зараз. А ці не з акадэміі вы? Во ўлетку стаяла ў мяне адна, распытвалася, цікаўная...

— Не-не, расказваць пакуль не трэба, вы ў кі-

накамеру раскажаце, а потым паглядзіце на сябе ў тэлевізары. Я ж казаў, што мы з тэлебачання.

— Ага, у тэлевізары... То я той дзеўцы таксама расказвала, дык можна было ўключыць і паслухаць. Здаецца, баю я — і не я. Яна мне кажыць — па радыё сябе ўчуеце, так і аб'явяць, што Аўдоля. А ў вас ужо, значыць, тэлевізар? Ага, ага, тама паказваюць, усё чыста відаць, як галавой ківаюць, чытаюць з паперы...

— Ды не манім мы, Аўдоля Нічыпараўна, нашто нам? Вось прыйдзеце пад хату — і ўсё ўбачыце. А вы даўно ў Валюхах жывяце?

— Даўна, нарадзілася тут. Спачатку малы пасёлак быў, во, дзе Гапеева хата, тут і пачынаўся. А потым адбудаваліся, зараз вялікая вёска, тры вуліцы!

— Дык вам і нямала гадоў, мусіць?

— Ужо было семдзесят. Анічога, таўкуся, яшчэ не ўсе зубы павылёталі.

— Управіліся да зімы ўжо? Тыдзень-другі, зусім малы дзень будзе.

— Восені яшчэ ладна наперадзе. А! У нас кажуць — зіма ліха, а без зімы яшчэ горш. Усяго трэба.

— І праўда. То мы вас тады чакаем, Аўдоля Нічыпараўна? Многа расказваць не трэба — з якога часу хату помніце, як будавалася... Згода?

— Добра, во толькі рукі памыю. Але ж ведала я, што прыйдзе нехта, бо як сарока шчапечыць— то гасцей кажыць. Сёння ўсю раніцу па гародзе гойсала.

Бянчук выйшаў з Аўдолінага двара і на момант прыпыніўся, глыбока ўдыхнуў паветра. Нейкія тры-чатыры хвіліны пагаварыў ён зараз — а быў задаволены, быццам паслухаў разумнага чалавека ці пасядзеў з добраю кнігаю. І справа была не ў тых

нямногіх словах, што гаварыла Аўдоля, а ў самім абліччы старой, у яе вачах, такіх усмешлівых і цікаўных, у зморшчынках твару: кожная зморшчынка — год, а то і болей, у цёмнай спадніцы і ватоўцы, вопратцы, якой амаль не ўбачыш у гарадскім жыцці. У старой Аўдолі Бянчук раптам адчуў роднага сабе чалавека і быў рады.

Анатоль Бянчук нарадзіўся адразу пасля вайны, помніў нястачы, галодныя дні, халодную хату, слёзы маці і крык бацькі — у тых слязах і крыку чуліся крыўда і бяссілле пасляваеннага жыцця,— ён бачыў сябе ў лапленых штанах нападрост і дзіравых чаравіках, бачыў свае не па-дзіцячы разумныя вочы — і ніколі не помніў дзеда з бабаю. Іх не было, таму што яны засталіся там, дзе прайшла вайна. І гэта была простая і зразумелая рэч — вайна, якая забрала людзей. Яна была вайною, на ёй паміралі, на ёй забівалі, з яе прыходзілі бязногімі, бязрукімі і аднавокімі, зразумелым было і тое, калі адным жнівеньскім днём спякотнае, зусім высушанае сонцам паветра скалануў недалёкі выбух і па вуліцы, пыльнай, вузкай і пакручастай, з дзікім крыкам прабегла маці Аўтуховіча Воўкі, ягонага сябрука. Яны збіраліся кідаць у вогнішча той снарад усе разам — Воўка, Пятрок, Толік, Казік, але яго, Толіка, прымусілі насіць і наліваць у бочку ваду са студні, Казік таксама не пайшоў — падарваліся толькі Воўка Аўтуховіч і Пятрок Сыч. Адзінае, пасля гэтага яны з Казікам так і не дасталі закапаныя міны, дзве штукі, іржавыя і шурпатыя, з крыльцамі. Голас вайны быў ім тады зразумелы. Бацькавы маці і бацька загінулі ў тысяча дзевяцьсот сорак другім годзе. Дзеда расстралялі немцы, баба памерла ад тыфусу. Матчын бацька спачатку знік, лічылася, што загінуў, а потым аб'явіўся недзе на Украіне, але так і не паказаўся дачцэ і ўну-

кам са сваёй новай жонкай. Баба... баба паехала ў эвакуацыю, пакінула дзвюх дачок старэйшай сястры, што жыла на хутары,— і растварылася ў тым людскім патоку, што захліснуў тады Расію, Сібір, Сярэднюю Азію. Сляды яе на тых пуцявінах не адшукаліся. І тое, што ў Толіка не было дзядоў з бабамі, было калі не звычайным, то зразумелым, гэта не здзіўляла і не ўражвала ні яго, ні сяброў.

Але потым, калі вайна пачала адсоўвацца далей і далей, калі меншала на вуліцах інвалідаў, калі лепшала жыццё, раслі гарады і часцей успыхвалі ўсмешкі модна апранутых дзяўчат,— Бенчуку захацелася ўбачыць тую вёску, дзе нарадзіўся бацька, пастаяць на могілках, дзе на сціплым помніку двойчы напісана яго прозвішча. Ніколі не бачыў ён дзеда з бабаю, аднак добра ўяўляў іх, гаварыў з імі, хаця і ў сне. Амаль штогод разам з бацькам пачаў ён ездзіць у вёску Ліпічы, радзіму не толькі бацькі, але ўжо і яго. Яны прыходзілі ў хаты былых суседзяў Бацяноў — бацькавай хаты ўжо не было, на яе месцы садзілі бульбу,— гаварылі, перабіваючы адзін аднаго, чамусьці спяшаліся, у хаце былі тлум і мітусня — зразумела, звычайныя, калі прыязджаюць нечаканыя, але дарагія госці, сваякі,— цётка Ганна подбегам насіла на стол, паспявала распытацца і адказаць, бацька, непрывычна ўзбуджаны, таксама не хацеў сядзець, хадзіў з пакоя ў пакой, курыў.

— Што ж ты гэтак даўно не быў, Васіль? Пэўне, залетась толькі прыязджаў?..

— Ай, Ганна, як адпачынак, то ў санаторый, падлячыцца, а так працую, з сынам і то рэдка бачуся. Але калі-небудзь як падкоціць пад сэрца, як ляжа штосьці на душу — месца не знаходжу. Цябе ўспамінаю, Ліпічы, Дняпро... Сяду, думаю — і паеду. Во сына бяру — і да вас.

— А ў нас, Вася, Люда інстытут скончыла. Папакутавала, з дзіцём жа вучыцца — гора не абабрацца, але дамаглася свайго, упартая. Слухай, а праўда ж — калі харошы чалавек, то нешчаслівы ён. Вось Людка і ладная, і ў руках усё гарыць, і слова не скажа лішняга, і на рабоце пра яе толькі добрае... А муж трапіўся... мала што п'яніца — дурань!

— Мама, кінь! — даносіцца з кухні.

— Выгнала? Правільна! Харошы чалавек адзін не застанецца. У школе, мусіць, у цябе зарплата болей, і прывыкла ўжо, га, Людка? Падабаецца?

— Давайце за стол, давайце! Як ведала, Вася, што ты будзеш, бутэлька доўга ў склепе стаяла. Сядайце, бульба гэтым годам добрая, кілбаса ёсць, паляндвіца, з гарода ўсяго патроху...

Анатоль непрыкметна выходзіць з-за стала і ідзе на гарод, да абрыву, з якога далёка відаць дняпроўскія паплавы, вялікая рака, вёсачка і Чорны лес. Стаіць доўга, не можа наглядзецца на сваю зямлю, на яе прастор і веліч. Белыя плёсы, кучаравыя лазнякі, мігатлівыя дарожкі на дняпроўскай быстрыні, буслянкі на карабатых вязах...

Бянчук, падыходзячы да старой хаты, зірнуў на гадзіннік — быў самы абед, каля дзвюх гадзін. Усе стаялі ля машыны, размаўлялі. Бутырын пеаразараджаў кінаплёнку, і калі ўлічыць яго марудлівасць, то ў здымачнай групы было вольных хвілін дваццаць — трыццаць. Кускову стаяць без справы было цяжэй, чым усім, і ён адразу прапанаваў Бенчуку:

— Хадзем яшчэ ў каморы паглядзім. Яна не замкнёная.

Бянчук супраць нічога не меў. Было цемнавата, святло ледзь цадзілася ў маленечкае, залепленае павуціннем акенца, але вочы прызвычаіліся даволі

хутка. Усё тут стаяла старое, пыльнае, ламанае. Уздоўж сцяны выцягнуўся прынесены, мусіць, з хаты крывы ўслон, амаль пасярэдзіне стаяў кадоўб са шчарбатымі краямі — калісьці ў яго Гапей засыпаў збожжа ці муку, у куце ледзь бачыўся кубел пад сала.

— Дошкі нейкія...— мармытаў Кускоў, адсоўваючы іх нагой; ён не мог проста глядзець на штонебудзь, яму абавязкова трэба было ўсё памацаць рукамі, пакруціць, пасоваць, ледзь не паспрабаваць на зуб.

— Мусіць, тут раней скрыня пад збожжа стаяла,— сказаў Бянчук.

— Та-ак, анучы, нецікава, гонтачкі...— тым часам соп над кублам Кускоў.— Во! Інструмент нейкі. Што гэта?

Бянчук узяў у рукі інструмент — нешта накшталт мянташкі, але большае, з радамі металічных шыпоў, убітых у дрэва,— пакруціў, няўпэўнена сказаў:

— Быццам бы тарка...

З сенцаў паўглядаўся ў тарку Гусак, сказаў:

— Раней бахілы клеілі, то вось такой таркай гуму націралі.

Кускоў адразу страціў да таркі цікавасць, пачаў шнырыць па каморы далей. У кубле таксама ляжалі нейкія транты, усе яны паказаліся свету божаму, выбухнулі пылам і пахам даўняга жыцця. Што магло легчы пад чалавечыя ногі ў старой вясковай хаце? Лёгенькая веялка-шуфлік, пагрызеная ці то часам, ці то мышамі, драка і калодка гэбліка — Гапей, мусіць, патроху цясляры̆ў, макацёр з расколінай, даўгаваты мяшэчак з палатна, можа —шратоўніца, кавалак вяроўкі, адзін драўляны канёк з падбітым на лязо дротам... «Хто мог коўзацца на такіх каньках? —падумаў Бянчук.— Я дык ужо на

«снягурках» катаўся... Як мала ўсё ж па чалавеку застаецца. Хаця што ж гэта я — прыязджаў сын, забраў усё. А гэта вось забыліся выкінуць».

— Глядзі ты! — выгукнуў Кускоў.— Нямецкі тэрмас. Якраз вось з такімі немцы хадзілі, на пояс павесяць, а ў ім кава. Точна з такімі і хадзілі.

— Малайчына, усё ведаеш,— пахваліў Бянчук.

— А я на фільме асістэнтам рэжысёра працаваў, усю нямецкую амуніцыю вывучыў... Во, і штык!

Нездарма ён ледзь не носам вадзіў па сцяне, убачыў нямецкі штык-нож, цяпер пачціва, з асцярогаю трымаў у руках. Паглядзець на штыка падышлі ўсе — Гусак, настаўнік, асвятляльнікі, адзін Бутырын усё сядзеў у машыне, перазараджаўся. Пляскаты штык-нож быў крануты ржой, тупы, але ўсё яшчэ — пагрозлівы. У абрысах яго, дакладных, халодных, нежывых, хавалася пагроза ўсяму, і ў першую чаргу тым рукам, якія цяпер яго трымалі. Адчувалася, вельмі адчувалася чужасць гэтага штыка ўсяму навакольнаму — і людзям, што прыціхлі неяк, і хаце, цёмнай, маўклівай, абцяжаранай доўгімі гадамі, і часу, што раптам застыў, прыпыніўся.

Бенчуку захацелася выйсці з каморы, і не яму аднаму, бо ўсе жвава падаліся на двор, нават Кускоў не затрымаўся, пайшоў падганяць Бутырына. А Бенчука ногі яшчэ раз прынеслі да рамкі са старымі фотаздымкамі. На жаўтлявых картках спынілася толькі адно імгненне чыйгосьці жыцця, толькі адзін позірк захаваў той даўні шчаўчок фотаапарата, і чужыя людзі скамянела і палахліва пазіралі адтуль — аднак Бянчук напружана ўглядаўся і шукаў. Каго? Ён і сам не ведаў. У душы ўзварухнулася нешта, усплыло даўняе і далёкае, якое — трывожыла. Гэтая трывога і прыгнала сюды, да

здымкаў, а слоў пакуль не было. Супакойвала трохі тое, што не трэба было іх каму-небудзь гаварыць.

Павярнуўся і павольна выйшаў на двор. Барада Кускова мільгала каля машыны, адзін з асвятляльнікаў, аматар музыкі, старанна пісаў пальцам па пыле, што тоўстым слоем асеў на кузаве «уазіка», назвы славутых замежных ансамбляў і рок-груп, у чаканні стаялі крыху воддаль Гусак з настаўнікам. Многага яны зараз не разумелі, гэта было проста напісана на іх тварах,— але вясковы чалавек з пытаннямі ніколі не лезе, стараецца да ўсяго дайсці сваім розумам. Яны гатовы былі цярпліва чакаць толькі дзеля таго, каб зразумець. І Бенчуку гэтыя людзі зараз былі блізкімі. Больш блізкімі, чым уся гэтая здымачная група.

І, як ніколі ясна, Бянчук зразумеў зараз, чаму дагэтуль жыла ў ім незадаволенасць сабой, сваёй работай, такой цікавай і прывабнай для іншых людзей, чаму ён часам гаварыў жонцы і сябрам, што не тое ён робіць, не сапраўднае, без «душы гарэння». «А што ж тады сапраўднае, дзе яно?» — пыталіся ў яго. І ён не мог адказаць, а толькі махаў рукой і замаўкаў. Але чалавек ён быў адыходлівы, аптыміст, хутка весялеў — яму прабачалі маленькае дзівацтва. «У кожнага свае комплексы»,— гаварылі людзі, усміхаючыся. Так званыя «комплексы» былі моднымі ў вірлівым і напружаным гарадскім жыцці, слова гэтае як бы давала права на некаторыя недарэчнасці і ў той жа час тлумачыла іх, прабачала. А цяпер вось, здалося Бенчуку, усё праяснілася. Ён, Бянчук, мужчына з моднай прафесіяй тэлежурналіста, з добрай і шчаслівай сям'ёй, з добрымі сябрамі — чалавек мае тых сяброў, якіх заслугоўвае,— не ўмеў самага галоўнага. Яго мяккая і гладкая рука не ўмела па-сапраўднаму тры-

маць тапарышча звычайнай сякеры. Ён не абсклюдаваў ніводнага бервяна, каб тое бервяно потым легла ў зруб будучай хаты і засталося там назаўсёды. Ён ніколі не прайшоўся па гэтай зямлі за плугам, ніколі не абганяў сошкаю бульбу, ніколі не нёс цераз плячо сявеньку — хаця дзе іх носяць цяпер? — нават ніколі не абабіў паўкоскам траву пад плятнём або плотам. Ён проста не прайшоў па зямлі, на якой нарадзіўся, па-сапраўднаму.

І пры ўсёй той яснасці, пры ўсім тым разуменні, якія адкрыліся яму, Бянчук ведаў і другое — наўрад ці давядзецца яму калі-небудзь стальмашыць, сядзець за варштатам, павольна і ўпэўнена выцягваючы сырую гліну ў гладышку або глечык, ісці босым за плугам. Ягонае жыццё, штодзённае, турботнае, было і будзе ў тым, што ён робіць зараз, нічога не зменіцца і не можа змяніцца. Ён здыме гэтую хату, зманціруе кінаплёнку, запіша ў студыі перадачу, у якой разумныя людзі раскажуць пра музей, дзе будуць захаваны, атрымаюць другое жыццё старыя хаты, старыя рэчы нашых продкаў. І ён пастараецца зрабіць гэтую перадачу як найлепей, будзе сварыцца з рэжысёрам, перажываць — ён будзе рабіць сваю работу. Сваю звычайную работу.

У душы не было ні расчаравання, ні крыўды, ні засмучэння — Бянчук неяк супакоіўся. Ён глядзеў на старую хату, што цяжка, пахілена стаяла перад вачыма ўсіх гэтых людзей, як на сваю бабулю, якая пахавана на могілках на высокім дняпроўскім беразе. Бабуля дала жыццё яго бацьку, а значыць — яму. Памерла, аднак памяць аб ёй не знікне, пакуль будзе жыць ён, яго сын, сын яго сына. Бянчук ведаў, што ўжо ніколі не будзе гаварыць пра тое сапраўднае, якога няма. Ды і колькі ўжо можна махаць рукой, тужліва ўздыхаць, вярзці

глупства? Сабе самому лгаць усё жыццё не будзеш...

Людзі мітусіліся вакол старое хаты, рыпелі заржавелымі дзвярыма, якія адчыняліся апошнім часам надта ж рэдка, зазіралі ва ўсе яе куткі — засмечаныя, пыльныя, аблепленыя павуціннем, варушылі начынне гэтае хаты, нікому ўжо непатрэбнае, нецікавае, здаецца, гатовае рассыпацца ў прах ад першага ж дотыку, настаўлялі на яе аб'ектыў кінакамеры — як зброю нейкую, ці што?.. І не заўважалі яны, што старая хата — крывая, згорбленая, амаль і не жывая ўжо — як бы назірала зверху за гэтай мітуснёй вакол сябе, глядзела і — таксама здзіўлялася. Аказваецца, не зусім пустая стаіць яна, і не толькі старога веку рэчы валяюцца па кутах, а і мяхі з бульбаю — значыць, чалавек яшчэ зойдзе ў яе, па-гаспадарску шырока расчыніць дзверы, упэўнена затупае па падлозе, так, што аж уздрыгнуць яе сцены, страха, кожная дошчачка і рэйка, загаворыць моцным голасам, і нячутнае людзям рэха пракоціцца па ўсёй хаце, узварухне яе прыснулую душу, урэшце — абудзіць. Вось і штык яшчэ раз паказаўся на яе вочы, яна не забылася на яго, але неяк спакайней было, калі ён знерухомеў на яе сцяне і зліўся з ёю, побач з трафейным нямецкім тэрмасам. Можа, хата і ўспомніла зараз адну з цёмных лістападаўскіх начэй, калі ў яе нячутна зайшлі людзі і пацягнулі ў пакойчык пад скляпеннем сенцаў такога ж, як і яны, толькі непрытомнага. Гапей асцярожна падсвечваў ім ліхтаром, таму яна бачыла ўсё, ды і адчувала б, зрэшты, калі б не бачыла. І такой жа ноччу, толькі зімовай, той непрытомны пайшоў ад яе і знік. Ніколі больш не прыходзіў ён пад яе, бо калі б прыйшоў — яна ўспомніла б. І гэты штык, што круцілі

ў руках людзі, быў водгукам, напамінам пра вайну, пра смерць.

Хата стаяла і, нават трохі выпраставўшыся, пазірала.

Анатоль Бянчук працаваў на тэлебачанні не так ужо і шмат — чатыры гады, але трапіў ён туды не адразу пасля універсітэта, як многія, а з неблагой журналісцкай школай, якую прайшоў у газеце. Ды і яшчэ перад гэтым тры гады ён быў асістэнтам кафедры сучаснай літаратуры, займаўся фальклорам. І вось там ён адчуў, уведаў прывабнасць народнага слова, простага, але і ёмістага, спрадвечнага слова, што прайшло праз стагоддзі і данесла ў сваім гучанні тое, што заўсёды хвалюе чалавека,— вобраз мінулага жыцця. У гэтых словах бачыліся нашы продкі — з іх жыццём, складаным, нялёгкім, са сваім высокім прызначэннем, з іх думкамі пра сябе і сваю будучыню, з іх пошукамі шчасця і праўды. Бянчук быў пачаў нават пісаць дысертацыю, даследаваў народныя абрады сваіх землякоў-палешукоў,— аднак перабіла ўсё прага пісаць надзённыя матэрыялы. Ён перайшоў у газету, лічыўся добрым журналістам, часта ездзіў у камандзіроўкі, шукаў цікавых людзей і пісаў пра іх — і ніколі не забываўся на тых звычайных людзей, якія расказвалі яшчэ сваім унукам казкі, спявалі працяглыя песні пра шэрых зязюль, казакоў-казачэнькаў і каравай, якія расцілі хлеб, церабілі лён, гадавалі дзяцей. Бянчук вельмі хацеў напісаць пра гэтых людзей кнігу — галоўную кнігу свайго жыцця. Аднак жа былі штодзённыя справы, былі сям'я, сябры — пачатая кніга ляжала ў папцы ў стале, і папка тая даставалася рэдка. А потым прапанавалі работу на тэлебачанні, вельмі спакуслівая была прапанова, бо тэлевізар у жыцці чалавека займаў усё большае месца, чалавек

праводзіў каля яго амаль увесь свой вольны час, гэтая работа адкрывала перад Бенчуком новыя перспектывы. Так, яму тады здалося, што перспектывы адкрываюцца вялікія. Але чалавеку заўсёды нешта не падабаецца, чагосьці не стае — чалавеку добра там, дзе яго няма. Тым не менш работа сапраўды была цікавая, сумаваць не было калі, не паспяваў закончыць адну перадачу, як чакала новая, і Бянчук прыжыўся ў новым для сябе асяроддзі. Па яго ініцыятыве ў тэлевізійных праграмах з'явілася перадача, прысвечаная народнай творчасці. У гэтай перадачы гаварылі, расказвалі пра сябе і творчасць сваіх рук цікавыя і надзіва арыгінальныя людзі — ганчары, ткачыхі, казачнікі, майстры драўлянай скульптуры і пляцення з саломкі — тыя, у кім жыў сапраўдны талент нашых бацькоў і дзядоў.

Аднойчы Бенчуку пазваніў вядомы ўсёй рэспубліцы чалавек, які ўсё жыццё прысвяціў якраз вандроўкам па гэтай зямлі, збіранню песень свайго народа і папулярызацыі іх,— і прапанаваў паехаць разам на Палессе, у тыя мясціны, адкуль пачынаўся шлях гэтага чалавека ў людзі, у жыццё. Рыгор Сцяпанавіч Вайтовіч рыхтаваў чарговае выданне песеннага тома. Нягледзячы на званне акадэміка і сямідзесяцігадовы ўзрост, ён рэдка якое лета сядзеў у гарадской кватэры. Ён не ўмеў проста сядзець і пісаць, ён любіў ехаць, плысці, сядзець у застоллі і каля вогнішча, слухаць і расказваць.

Бянчук, ведаючы пра ўсё гэта, з радасцю згадзіўся. І хаця на рабоце не ўсё ладзілася і на носе быў адпачынак — паехаў.

Палессе сустрэла сонцам, гаркавым пахам сухіх лазнякоў, у якіх часта трапляліся вялікія аматары застаялае гарачыні — вужы і яшчаркі, сіне-шызым колерам Прыпяці і Гарыні, шматлікімі затокамі, старыкамі, азерцамі, у якіх, як у люстры, адбівала-

ся глыбокае неба з рэдзенькімі гурбачкамі аблокаў, бусламі. Цыбатыя буслы былі ўсюды. Яны стаялі пры пакручастых паплаўных дарогах, ішлі побач з сенакасілкамі, цікуючы мышэй і жаб, кружыліся ў паветры, як бы вартуючы гэтую зямлю і аб чымсьці думаючы — аб галоўным, спрадвечным... Маладыя буслы, лопаючы крыллем, падскоквалі ў гнёздах, іх ужо неадольна цягнула, вабіла прастора шырокай зямлі пад вяршалінамі дрэў, і крылы самі растапырваліся і не хацелі складвацца, а яшчэ чорныя дзюбы раскрываліся і спрабавалі рассыпаць над наваколлем такі звычны тутэйшым людзям дробны пошчак...

«Уазік», у якім трэсліся Вайтовіч, Бянчук і кінааператар — яго Анатоль на ўсякі выпадак усё ж узяў з сабой,— цэлымі днямі некуды імчаў. У кожнай вёсцы Рыгора Сцяпанавіча пазнавалі, радаваліся, з гонарам расказвалі пра поспехі — і, канечне, вялі яго да тых, хто спяваў і каго Рыгор Сцяпанавіч даўно ўжо ведаў. Вайтовіч сядаў побач з імі, распытваўся, быццам быў у сваякоў, успамінаў песні, якія чуў ад іх, уключаў невялічкі магнітафон, калі гэтыя людзі засяроджана, як бы адмежаваўшыся ад усяго навакольнага, пачыналі спяваць. А потым «уазік» ізноў падскокваў на калдобінах, з разгону ўлятаў у рэчку ці пратоку, з натугай поўз да процілеглага берага, і кінааператар Віктар Левашоў, які паспяваў ужо апынуцца на тым беразе, стракатаў кінакамерай і крычаў, што кадры будуць выдатныя. Два разы чакалі парома, бо Гарынь, а тым больш Прыпяць на «уазіку» не пераскочыш, гаварылі з дзядзькамі, што паўляжалі на калёсах у саламяных брылях і смакталі люлькі. Бенчуку чамусьці здавалася, што тутэйшыя дзядзькі надта ўжо няспешныя, нават марудлівыя; мусіць, адчуванне гэтае нараджалася ад шырыні роўнай палес-

кай прасторы. На паром уз'язджалі спачатку грузавікі, не больш двух, затым вазы, усходзілі з веласіпедамі дзядзькі, цёткі, дзятва. Гаварылі пра сенакос, пра дажджы, якія нешта затрымаліся, як прапалі, даўно ж няма іх, пра сваё штодзённае, дробнае, але важнае. Часта «уазік» спыняўся на абочыне, і ўсе перакусвалі проста ў прыдарожнай траве, расклаўшы на газеце сала, хлеб, гуркі, цыбулю, яйкі.

Але няезджаныя, месцамі ледзь бачныя, незнаёмыя з такой з'явай, як прамая лінія, палескія дарогі ўсё ж утаймавалі і такога чалавека, як Рыгор Сцяпанавіч. На трэці дзень, з хрустам выпрастаўшыся, ён сказаў:

— Не, сынкі, не то́й я ўжо казак... Ды і конь, скажу я вам, не надта. На старэчыя косці каб што мякчэйшае...

Цішком Рыгор Сцяпанавіч завалок ночвы, што стаялі ля студні, за хлеў, гэтак жа цішком нанасіў у іх вады і на гадзінку знік. Анатоль пайшоў на гарод назбіраць гуркоў і выпадкова ўбачыў, як той сядзеў у ночвах, курыў, пакрэктваў.

Адвячоркам, калі гаспадары хаты, у якой усе гэтыя дні начавала група, і госці сабраліся за сталом пад старой ігрушынай, Рыгор Сцяпанавіч пачаў успамінаць сябе маладога, дваццаціпяцігадовага, таго, які хадзіў дарогамі Заходняй Беларусі, збіраючы фальклор і проста сустракаючыся з вяскоўцамі.

— Рашыў зайсці я аднойчы да былой сваёй аднакурсніцы, да Гэлі. Прыгожая была дзяўчына, я і заляцаўся трохі, але... схібіў, адным словам, някемлівым аказаўся і дурнем,— Рыгор Сцяпанавіч зусім не хваліў сябе, што і пад старасць у людзей сустракаецца не надта часта.— Ведаў я, што замужам яна, ведаў, у якой вёсцы жыве з мужам, на-

стаўнічаюць. А які я тады хадзіў? Апранаўся бедна, грошай тады не было, ды і не патрэбны мне былі гарнітуры з манішкамі. За плячыма рукзачок такі, дакладней, торба, у ім увесь мой скарб: найдаражэйшыя, канечне, сшыткі з запісамі былі. Падыходжу я, значыцца, пад хату, здаля выглядваю, ці ёсць там хто. У двары хлопчык гуляе, ну вылітая Гэля — скуласценькі такі, вачаняты чорныя, як галчаня. Пытаюся ў яго: «А дзе маці?» Малы маўчыць, задам-задам — і ў хату. Дзверы не зачыніў добра, то я і чую: «Мама, там да нас жабрак прыйшоў!» Ну, думаю сабе, трэба ўцякаць адсюль, сорам жа! Але не паспеў павярнуцца — Гэля выходзіць. Згледзела мяне, спынілася, потым хуценька руку з хлебам за спіну! Вочы круглыя, вялікія, рот раскрыўся — слова сказаць не можа. Потым усё ж запрашае: «Заходзь, Рыгор, у хату»,— і хлеб хавае. Я на месцы таўкуся, нешта там гавару такое — хоць ты скрозь зямлю праваліся!

Усе рагочуць, а найбольш сам Рыгор Сцяпанавіч. Бянчук не мог надзівіцца і яго нястомнасці, і дасціпнасці, і выдатнай памяці — здавалася, Вайтовіч памятаў не толькі кожны дзень свайго жыцця, а і ўсіх людзей, з якімі сустракаўся. З гаспадарамі гэтае хаты — немаладымі ўжо людзьмі, пад яго — Рыгор Сцяпанавіч упершыню ўбачыўся гадоў трыццаць таму назад, а ўспамінаў той дзень у такіх дэталях, што Аўдоцця з Пархвенам толькі здзіўлена пераглядваліся.

— Было, усяго было,— ківаў галавой Вайтовіч, узіраўся ў глыбіню паплавоў, за якімі ўгадваліся рэчка і сенажаць — ужо асмужаныя туманам, памалу шапацеў над імі паўзмрок, захінаў іх ад людскіх вачэй.— Сабрацца б ды напісаць пра ўсё — рукі не даходзяць. І лаю сябе, і другіх прашу ўжо, каб запісвалі за мной... Самому трэба садзіцца, самому.

Не ўставаць з-за стала, пакуль не напішаш старонкі. Гэта я вам, малады чалавек, кажу, вам!

Бянчук вінавата круціўся на табурэтцы, не мог уцяміць, адкуль Вайтовіч здагадаўся пра яго ляноту, пра непавагу да самага галоўнага — сваёй кнігі.

Назаўтра Бянчук і кінааператар Левашоў паехалі ў не вельмі далёкую вёску Глякі. Пра вёску гэтую расказвалі і Вайтовіч, і мясцовыя, у адзін голас хвалілі тамтэйшых ганчароў.

— Як што мне трэба з глінянага посуду,— гаварыла Аўдоцця, іхняя гаспадыня,— адразу еду ў Глякі. Піць малако з гладышкі ці шклянога слоіка — вялікая розніца, самі ведаеце. Яно ў гладышцы і не ўкісне да часу, і смачнае. Во паспытайце.

У Гляках — звычайнай палескай вёсцы з купкамі дрэў на шырокіх і доўгіх вуліцах, з вясёлкавымі колерамі фарбаў на хатах, са свежай зялянінай садоў і гародчыкаў — першая ж жанчына паказала на дзве хаты, што стаялі трохі асобна і далекавата адна ад аднае.

— Вунь дзе ганчары жывуць,— з распеўнымі паляшуцкімі інтанацыямі сказала яна,— троху на ўзбочыне. У тэй хаце стары, у гэтай маладзейшы, але абодва харошыя майстры, спраўныя... А нашто вам?

— А гаршчок трэба купіць,— засмяяўся Левашоў, мусіць, не хочучы, каб прыгожая маладзіца ішла ад іх.— Як думаеце — купім?

— Ну-у, падманшчыкаў мы ўмеем бачыць! — таксама хітравата ўсміхалася маладзіца, скоса, чуць выгінаючы шыю, пазірала на ладнага хлопца.— А сам што ў руках трымаеш? Выкінь, выкінь, бачу, што цяжка, а як гаршчок купіш — то і не занясеш!

— Усё бачыць і ўсё ведае! — паказваў белыя зубы Віктар.

— Адкуль ты, такі кавалер, узяўся? Думаеш, з горада прыехаў, кашалей мне наплёў, то табе і паверылі?

— Якіх кашалей? — разгубіўся Левашоў.

— А такіх. Шо, не бачу я — па справе нейкай? А то трыхі ды мніхі, адзін ён разумны, усе ўкруг дурныя.

— От... жанчына! Ты ёй слова — яна сто,— пачухаў патыліцу Віктар.— Пайшлі, ці што.

— А я і прыйду, баршчэй, як вы работу зробіце,— паабяцала на развітанне маладзіца.— У тэй вунь хаце мая дзядна жыве.

Як адышліся, Левашоў паскардзіўся:

— Пачала сакатаць — ледзь зразумееш. Што гэта — дзядна?

— Ды не што, а хто! — засмяяўся Бянчук.— Жонка дзядзькі, дзядна.

— Табе добра, ты з вёскі. А я ў горадзе вырас.

— Ды і я не з вёскі... у гарпасёлку нарадзіўся. А тут цікава гавораць — быццам спяваюць.

Зайшлі ў двор вялікай, нядаўна пабудаванай хаты, убачылі, як кінуліся ўцякаць у сенцы двое малых, хлопчык і дзяўчынка, засмяяліся. Выйшлі дзве жанчыны, падобна, што дачка з маці, насцярожана павіталіся, чакаючы, што скажуць незнаёмыя людзі.

— Ці не тут ганчар жыве? —спытаўся Бянчук.— Мы з ім пагаварыць хочам.

— Тут жыве, тут,— сказала старэйшая.— А вось як вы з ім пагаворыце — не знаю.

— Выйшаў дзесьці...— як апраўдваючыся, сказала маладзейшая, пэўна, жонка.

— Выйшаў...— прабурчала старэйшая,—сорамна — то і выйшаў.

— У печы спіць! — высунулася з сенцаў дзяўчынка гадоў шасці.

— От я табе павярнякаю!..— паабяцала маці.

— А дзе ў вас ганчарная печ? — умяшаўся Левашоў.— Мы хаця б печ здымем.

— Там...— махнулі ў бок гарода жанчыны.

Дзяўчынка выскачыла з сенцаў і пабегла наперадзе, паказваючы дарогу.

Печ стаяла ў атачэнні маладых бярозак. Гэта было так прыгожа, што Левашоў адразу схапіўся за камеру. Але тут з вусця паказалася кудлатая галава, некаторы час паўзіралася на няпрошаных гасцей, потым увесь вылез малады яшчэ мужчына, няйначай — чалавек з пахмелля, бо ягоны твар і найперш вочы паказвалі на нешта там такое.

— Чым... гэта... абавязаны?..— спытаўся, атрасаючы пыл, мужчына.

Відаць было, што думкі і словы вярталіся да яго з натугай.

— З ганчаром хацелі пагаварыць,— сказаў Бянчук.— Мусіць, вы і ёсць ганчар?

— А хто ж яшчэ?! — кіўнуўся мужчына.— Пятро Кучук, усе знаюць. Пайшлі ў хату.

Даведаўшыся, што за людзі прыйшлі да яго, Кучук адразу вынес з суседняга пакоя некалькі гліняных ільвоў:

— Такіх, акрамя мяне, ніхто не робіць! Гэта не тое што гаршкі са збанамі, тут ляпіць трэба ўмець.

— А дзе вы іх рабіць навучыліся? — спытаўся Бянчук.— Можа, у бацькі ці дзеда падгледзелі?

— Ды не,— махнуў рукой Кучук,— паехаў раз у Львоў, бачу — звяры прадаюцца. А ў мяне вока такое, як гляну, то адразу запамінаю. Пагаварыў, распытаўся, цяпер не горай за тых раблю. Што, не верыце?

— Верым, верым,— супакоіў яго Левашоў, па-

вярнуўся да Анатоля: — Ну як, будзем здымаць?

— А колькі заплаціце? — падміргнуў ім Кучук.— Я магу яшчэ і не даць, каб фатаграфавалі. Зараз за ўсё трэба плаціць.

— Пайшлі, здымаць тут няма чаго,— устаў Бянчук.— Мяшчанскія вырабы, хіба не бачыш?

— А я і не дам! — крычаў наўздагон гаспадар.— За бясплатна захацелі!.. Цяпер не той час, каб бясплатна...

На вуліцы Бянчук з палёгкай уздыхнуў:

— Бач, дзялок які. Мусіць, за грошы павесіцца гатовы.

— Першы раз бачу такога,— паківаў галавой Левашоў.— Навучыўся ж недзе.

— Базар яго навучыў. Для такога галоўнае — купіць-прадаць. Ну што, да другога пойдзем?

— Чорт яго... Не хочацца яшчэ раз у памыйку лезці.

— А, паспрабуем. Раз прыехалі — трэба працаваць. Хіба мы не журналісты?

Хата другога ганчара, старэйшага з двух, стаяла метраў за сто, і была яна не такая новая і вялікая, як Кучукова, аднак акуратная, дагледжаная, нават — вясёлая. Двор быў абгароджаны не вельмі высокім штакетнікам, за якім бачыліся соткі з роўненькімі шнуркамі бульбы, яблынямі, ігрушамі, кустамі агрэсту і парэчак. Над гародчыкам, адкуль вызірквалі далікатныя галоўкі каралеўскіх лілей, нізка звісала вецце вішняку з рэдкімі ўжо гэтай парою ягадамі. Далей за хатай, адгароджаныя ад яе частаколам, стаялі хлеў, стадола, свіран. Насупраць хаты, займаючы частку гарода, угадвалася ганчарная печ, вакол яе валялася шмат гліняных чарапкоў.

Нясмела ўвайшлі ў двор, паазіраліся, і хаця хата была незамкнёная — штаба ляжала на лаўцы пры дзвярах,— не заходзілі ў яе, а пайшлі да гаспадарчых прыбудоў. І не памыліліся — каля склепа, што не бачыўся за хатаю, корпалася старая. Угледзеўшы гасцей, яна хуценька ўсё кінула і падалася да іх.

— Яўхіма, мабыць, хочаце бачыць? А ён косіць.

— Далёка дзе? — спытаўся Бянчук.— Калі скора павінен быць, то мы б пачакалі.

— Ды не, тут за рэчкаю,— махнула рукой старая, нават і павярнулася ў той бок, дзе зараз яе стары касіў.— А вунь і йдэ.

Яўхім ішоў спакойна, няспешна, амаль і не глядзеў на чужых, але добра было відаць, што ён іх чакаў, а калі і не чакаў, то ведаў, што яны тут ёсць, стаяць пад ягонаю хатаю.

Даведаўшыся, хто завітаў да іх, старыя, нясмела ўсміхаючыся, пераглянуліся і, адчувалася, разгубіліся аднначасова. Канечне, усяго было ў іх жыцці, з якімі толькі людзьмі не даводзілася сустракацца, у якія сітуацыі не трапляць — аднак чалавек, на шчасце, не стамляецца здзіўляцца, часта гэта і выратоўвае яго.

— Ну глядзіце,— павёў рукой па двары Яўхім — высокі, худы, з віслымі сівымі вусамі і добрымі, кранутымі старэчай бляклаcцю сінімі вачыма,— вунь гарно, трэцяга дня абпальваў. Не саўсім добра атрымалася, бачытэ, колькі чарэп'я? У нашэй рабоце бывае.

Пахадзілі вакол гарна, зазірнулі ў сярэдзіну, Левашоў з усіх чатырох бакоў пацэліўся ў яго кінакамерай, пастракаў, але не здаволіўся:

— Ці не маглі б вы, Яўхім... Мінавіч, зрабіць яшчэ такую вось ласку — сесці на сваё рабочае

месца і вылепіць які-небудзь збанок? А мы б усё гэта знялі. Вельмі вас просім.

Яўхім трохі паадняекваўся, аднак усё ж угаварылі яго — на тэлебачанні Бенчуку і Левашову так часта даводзілася пераадольваць зразумелае супраціўленне людзей, якія не прывыклі ды і наўрад ці прывыкнуць пазіраваць перад камерай, што рэдкаму, вельмі рэдкаму чалавеку ўдаецца адбіцца. Пасадзілі дзеда на ўслончык, прывалаклі ганчарны круг і вядро вады, каб дзед добра размякчыў гліну, ледзь не парушынкі з кашулі змахвалі — так ужо дагаджалі. Левашоў забег за частакол, знерухомеў з камерай за ім.

— Цудоўны будзе планчык! — крыкнуў Бенчуку.— Калі ласка, можна пачынаць.

Босая нага звычна разагнала круг, камяк гліны, вільготна-бліскучы, няўлоўнага цёмна-шызага колеру, пачаў расці ўверх, выцягвацца, рукі майстра — хаця і сялянскія, з шырокімі далонямі, аднак надзіва гнуткія, даўгапальцыя — нетаропка і дакладна пагладжвалі яго, прыціскалі, ляпілі; праз нейкую хвіліну-другую Бянчук убачыў гатовую гладышку. Рукі ўзялі тонënькі дроцік, лёгкім рухам адрэзалі гладышку ад верхняка, узнялі яе ў паветра, крыху патрымалі і асцярожна — зараз яны былі як матчыны рукі з дзіцем — паставілі на ўслон.

— Ёсць! — урачыста выгукнуў Левашоў.

— Гэто не цяжка,— як бы апраўдваючыся, сказаў Яўхім, устаў з услона,— звычайная гладышка, пад малако... Сюды нават вуха, як у збане, ляпіць не трэба. Глечык ці лаганчык цяжэй рабіць. А гэто лёгка.

— Калі ласка ў хату! — выйшла да іх старая.— Якраз абед, пакаштуйце маіх блінцоў. Вы ж згала-

даліся, пэўна, пакуль сюды даехалі, пакуль нахадзіліся. Заходзьце!

Цяпер ужо Бянчук з Левашовым закруцілі галовамі, замахалі рукамі — аднак жа хто ўстоіць перад шчырым запрашэннем, перад сапраўднай гасціннасцю? Дзе-дзе, а на вёсках умеюць запрасіць у хату, пасадзіць за стол, хораша пагаварыць, неўпрыкмет падкладаючы ў талеркі і блінца, і каўбаскі кавалачак, і палядвіцы, і перкі цыбулі, толькі-толькі ўшчыкнутыя з градаў, аказваюцца пад рукой, як тут не тыцнеш імі ў соль? Стол быццам быў сабраны з самага ранку — блінцы с сырнікамі, накрытыя ручнікамі, астатняе ўсё акуратна пакроена, паскрылена, раскладзена. Дзед Яўхім не толькі памыў рукі, а і кашулю новую надзеў, сеў за гаспадарскае месца ўрачыста.

— Ганно, дык пастаў жа!..— гукнуў на кухню да жонкі і вінавата дадаў: — Сам я не патрабляю, і гады ўжо, і раней не любіў, а для гасцей як жа не трымаць?

— Ды мы таксама не будзем,— запярэчыў Бянчук,— горача, толькі разморыць, а нам яшчэ назад ехаць. Дзякуй, але не турбуйцеся.

— Ну толькі па кілішку. Бачытэ, у нас і кілішкі гліняныя, з такога паспытаць абавязкова трэба.

На стале ўсё стаяла свежае, смачнае, добра згатаванае — Ганне з Яўхімам упрошваць, падганяць гасцей не даводзілася.

Левашоў звярнуў увагу на ручнікі, якіх тут усюды было шмат — на стале, на ўслонах і абразах.

— Самі, мусіць, ручнікі рабілі? — узяў адзін у рукі.— Добра вышытыя.

— Даўней усё самі выраблялі,— заківала галавой гаспадыня.— Гэтыя ўціранікі ў парэкулі вытканы, так у нас кажуць. На іх заўсёды не адзін узор, некалькі. А цяпер і не ў кожнай хаце ўбачыш

іх, у лаўках жа ўсё бывае, чым рабіць самому, выгадней купіць.

Усталі з-за стала, падзякавалі, падаліся з халаднаватае хаты зноў на сонца — яно хаця і знізілася, аднак паліла па-ранейшаму моцна.

— Ці можна купіць у вас на памяць якую гладышку,— спытаўся Левашоў.— Я люблю, каб памяць заставалася. Убачыш вось такую рэч — і адразу чалавека ўспомніш, мясціны. З адной камандзіроўкі я нават чорнае кацяня прывёз. Цяпер во такі здаравенны кот, увесь чорны, вусы белыя. Памаўзлівы.

— Хадземце ў стадолу,— павёў за сабой Яўхім,— там, праўда, небагата, можа, выбераце...

У стадоле проста на зямлі стаяла з паўсотні гаршкоў, збаноў, місак. Бянчук і не выбіраў нічога, узяў першага ж збана, што трапіўся пад руку — і супакоіўся. А Левашоў з Яўхімам хадзілі, нагіналіся, круцілі ў руках самыя розныя вырабы — усё адно як рабілі незвычайна важную справу, дзе схібіць ніяк няможна.

— Во ў такіх глечыках, бачытэ, рыльца вузкае? — расказваў дзед Яўхім.— Добра ваду з сабой браць, на сенажаць ці ў поле. От такім коркам заткнеш, у цяньку паставіш — вада халодная, смачная. Гэты, меншы, завецца лаганчыкам. Пад смятану ён. У макотру таксама можна смятаны наліць, пакласці масла, галушкі, аладкі. На такі вялікі гаршчок мы кажам мырняк. Цяпер іх мала раблю. Скажу вам — купляюць ужо мала. То і робім нямнога. Раней калі хлопец не ўмее гаршкі рабіць — за яго ні адна дзеўка не пойдзе. Які ж ты чалавек, гаспадар? А цяпер не гэтым займаюцца. Забыліся... У Гляках толькі два ганчары і засталіся. Я памру скора.

— Ну яшчэ ж усё самі робіце,— сказаў Бян-

чук.— Усюды парадак, кожная рэч сваё месца знае. Во і косіце самі. Колькі вам гадоў?

— Восемдзесят тры. Але трудна ўжо. Колісь гружаны воз мог куды хочаш завезці, за аглоблі ўзяўся і пайшоў. А цяпер ідзеш і пільнуешся, каб нагой не зачапіцца. Стары.

Левашоў, таксама як і Бянчук, спыніўся на збанку. Выбіраў-выбіраў, хадзіў-хадзіў — выйшаў са стадолы са збанам. Выгляд меў задаволены, трымаў набытак абедзвюма рукамі і асцярожней, чым сваю кінакамеру.

Пра грошы дзед не хацеў і слухаць.

Гэтага збана, што Бянчук прывёз ад дзеда Яўхіма з Глякоў, ён падарыў Таццяне Ляшкевіч. Як толькі прыехаў у Мінск — адразу пазваніў, дамовіўся аб сустрэчы і аддаў. Да гэтага яны з Таццянай амаль і не сустракаліся, толькі калі ён прыходзіў да яе на работу, рыхтуючы перадачу пра музей народнага побыту. Таццяна працавала там навуковым супрацоўнікам, часта ездзіла ў экспедыцыі па Беларусі, і гаварыць з ёй было цікава. Ды і, шчыра кажучы, Таццяна ўсё ж была прыгожая. А хіба непрыемна чалавеку, хай сабе яму і за трыццаць, пагаварыць, сустрэцца раз-другі з сімпатычнай дзяўчынаю? Высокая, зграбная, нейкая вельмі далікатная, Таццяна Бенчуку падабалася, хаця прызнавацца ў гэтым ён не хацеў нават сабе. Ён проста стараўся не думаць пра тое, што можа атрымацца з гэтых сустрэч. «Нічога асаблівага,— гаварыў ён сабе,— сімпатычнае, мілае дзяўчо. Любіць гэтую зямлю і хоча ведаць пра яе як мага болей. Таму і цягне яе да тых людзей, якія могуць расказаць, навучыць... Ну вось да такіх, як я, напрыклад. І нічога дзіўнага, усё гэта глупства, няма чаго хвалявацца, таму што, урэшце, нічога няма і не будзе». Ён стараўся не звяртаць увагі на маленькі ля-

дзяк, што раптам з'явіўся ў сэрцы, і ад таго ледзяка пакрысе, але няўмольна ішоў халадок неспакою, трывогі. Ён таксама стараўся не заўважаць і таго, як чырванела Таццяна, калі яны сустракаліся, якімі вялізнымі і крыху спалоханымі рабіліся яе вочы і як нервова ўздрыгвалі рукі.

Таццяна і расказала яму пра старую хату, каля якой зараз мітусілася кіназдымачная група тэлебачання.

Бянчук не званіў у музей народнага побыту ўжо больш трох месяцаў. Матэрыял быў амаль сабраны, заставалася толькі скласці ў адно цэлае асобныя кавалкі перадачы, ды і надарыліся іншыя клопаты, давялося злятаць у камандзіроўку ў Талін,— Бянчук Таццяне не пазваніў. Два разы рука брала трубку, але нумар так і не быў набраны. І раптам з месяц назад, калі перадачу трэба было ўжо ставіць у эфір, ён успомніў пра старую хату, пра напаўкруглае скляпенне сенцаў пры гэтай хаце, пра вёску, адкуль Таццяна прывезла цудоўнае старое адзенне. Бянчук бачыў Таццяну ў гэтым адзенні на слайдах і нават не знайшоў слоў, каб выказаць сваё захапленне. Яна як быццам была адтуль, з ягонага мінулага, гэтая зусім гарадская, вельмі тонкая і далікатная дзяўчына. Ён прамаўчаў, хаця сказаць хацелася многа. Не пазваніў і цяпер, аднак раптоўна паехаў здымаць старую хату. З кінаплёнкай заўсёды было цяжка, але Бянчук дзе трэба пакрычаў, націснуў, угаварыў, нават шапнуў на вуха — у камандзіроўку ён паехаў. І ўсёй гэтай энергічнай дзейнасцю нямала здзівіў нават бывалых тэлевізійных ваўкоў. Раней Бянчук ніколі не вылучаўся настойлівасцю — хутчэй ён быў спакойным і паслухмяным.

Што ён хацеў убачыць у вёсцы, дзе пражыла Таццяна якія два-тры тыдні? Ён і сам не ведаў, чаго

яму так зажадалася сюды, так занылa душа. Але зараз ён не шкадаваў, што прыехаў. Ён нават быў удзячны Таццяне за гэтую вось вёску і гэтую старую хату.

І яшчэ Анатоль ведаў, што больш ён гэтай мілай і ўсмешлівай дзяўчыне не пазвоніць. Гэта ведала сэрца, таму што з яго струменіўся лёгкі смутак.

— Пачынаем працаваць! — даляцеў голас Кускова.— Пішам сінхронна. Галачка, усё гатова?

— Гатова,— з «уазіка» лёгка скочыла гукарэжысёр Галачка — маладая, сімпатычная, у акулярах.— Каго запісваем першым?

Кускоў запытальна глянуў на Бенчука. Так званыя сінхронныя кіназдымкі, калі адначасова запісваюцца гук і кіно ўвогуле ў рабоце тэлежурналістаў лічыліся аднымі з самых цяжкіх. Вынік тут залежаў ад многага — як умее гаварыць той чалавек, якога запісваюць, як ён трымаецца, як разумее задачу, што стаіць перад ім, а галоўнае — наколькі цікава людзям усё тое, пра што расказваецца. Зразумела, пры ўсім гэтым не мелі права на памылку гукарэжысёр і аператар, а рэжысёр павінен умець знайсці адпаведны інтэр'ер альбо фон. Каля хаты зараз стаялі людзі вопытныя, тэхніка пакуль працавала добра, і галоўнае было — чалавек.

Бянчук убачыў ужо, што на вуліцу ў новай стракатай хустцы выйшла Аўдоля Ярашэвіч, паволі сунецца ў іх бок. Аднак вось так адразу даваць ёй у рукі мікрафон яму не хацелася — яшчэ спалохаецца старая, пачне заікацца, няхай пакуль проста пастаіць побач, прызвычаіцца.

— Я думаю, таварыш Гаркуша ўжо даўно гатовы,— павярнуўся ён да настаўніка, прыязна

ўсміхнуўся.— Калі ласка, праходзьце вось сюды... Давай, Міша, працуй.

— Так, крыху правей,— энергічна пачаў камандаваць Кускоў — гэта ён і ўмеў рабіць, і любіў.— Бутырын, каб было бачна, што фонам у нас хата. Зразумеў?

— Усё будзе. І хата будзе, і чалавек,— Бутырын не мітусіўся, як стаяў на месцы, так і застаўся стаяць.— Галачка, ёсць кантакт?

Галачка пашчоўкала тумблерамі, засяроджана ўглядаючыся ў сваю «Нагру», папрасіла Гаркушу:

— Скажыце што-небудзь, калі ласка...

— Ну, хата гэтая стаіць даўно, яшчэ да рэвалюцыі...

— Стоп, даволі!..— спыніла яго Галачка.— Можам пісаць.

— Гатовы? — яшчэ раз спытаўся ў настаўніка Кускоў.— Значыць, не больш чатырох мінут, у нас мала плёнкі. Давайце!

І тут Бянчук раптам убачыў, што Гаркуша стаіць нейкі натапыраны, наструнены, вочы ў яго бадай шкляныя — быццам чалавек вынырнуў з вады і цяпер прагне глытка паветра, якога доўга не было там, пад вадой. У Бенчука аж забалела за настаўніка сэрца. Аднак Гаркуша малайчына, праглынуў даўкі камяк, што перахапіў дыханне, кашлянуў і кіўнуў галавой, што можа гаварыць.

Бутырын націснуў на «пуск» камеры, Галачка адчаканіла «ёсць кантакт!», Іван Піліпавіч Гаркуша загаварыў. Тэкст выступлення, мусіць, ужо не раз пракруціўся ў яго галаве, але словы выціскаліся з цяжкасцю, праз паўзы, і галоўнае — ён не гаварыў нічога канкрэтнага: хата пабудавалася даўно, у ёй ніхто не жыве, бо яна ўжо гісторыя, цяпер людзі будуюць зусім іншыя дамы, у сто разоў леп-

шыя, у тых дамах ва ўсіх стаяць тэлевізары і халадзільнікі, людзі жывуць добра. І апошнія словы — вельмі блізкія гэтаму чалавеку, зразумелыя,— прагучалі ўзнёсла і пераканаўча. Аднак, на жаль, не яны былі патрэбны Бенчуку і Кускову.

— Вялікі дзякуй, Іван Піліпавіч,— паціснуў руку настаўніку Бянчук.— Усё добра.

З-за агароджы, абапёршыся на яе, з цікавасцю пазірала Аўдоля Ярашэвіч, і вочы ў яе смяяліся.

— То мая чарга, пэўне? — бадзёра спыталася яна.— Во гэтак і мне стаць трэба?

— Так, сюды,— пачціва правёў яе пад ручку Кускоў, таксама заўсміхаўся, бо любіў вясёлых людзей.

Міхась Кускоў, які сёлета адзначыў саракагадовы юбілей, на тэлебачанні адпрацаваў, лічы, дваццаць гадоў. Пачынаў памочнікам рэжысёра, асістэнтам, адначасова вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце — з цяжкасцямі, то кідаючы яго, то паступаючы зноў,— і толькі апошнія гадоў пяць рабіў паўнапраўным рэжысёрам. За гэты час Кускоў бачыў, канечне, вельмі шмат. У яго ўжо нават з'явілася прадчуванне на тое, як успрымецца людзьмі той альбо іншы чалавек, што выступае на тэлеэкране. Пачаў гаварыць Гаркуша — і стала ясна, што выступленне яго ў іхняй перадачы будзе лішнім, непатрэбным. А Ярашэвіч Аўдоля сказала два словы, усміхнулася, паказаўшы, што не хапае ў яе двух зубоў, паправіла новую хустку — і Кускоў ужо верыў у яе, адчуваў, што менавіта гэтая старая так неабходна ім, менавіта яна ўпрыгожыць расказ пра музей старых рэчаў; людзі павераць Аўдолі Нічыпараўне, бо ўбачаць у ёй сябе.

Аўдоля трымала мікрафон, быццам гэта была звыклая, добра вядомая рэч — матыка якая, ці граблі, ці пранік,— без ніякага страху пазірала ў

камеру, чакала. Затрашчала камера, пачулася каманда, Аўдоля адразу пачала з галоўнага:

— Я вам скажу, самае цікавае ў гэтай хаце — сенцы. Старыя яны, ужо тры хаты перастоялі, гэта толькі на маёй памяці. А гадоў мне ўжо семдзесят. Вось я́к будаваліся раней? Выбіраліся лепшыя бёрны, і клаліся яны не толькі ў зруб, а і скляпенне, як у гэтых сенцах, накочвалася з бёрнаў. Дзіва што такія сенцы будуць стаяць і сто гадоў, і болей. Мусіць, такіх сенцаў і не знойдзеш нідзе, старыя надта, але ж і моцныя. Пэўне, добрымі рукамі рабіліся. Як вочы ні страшацца, а рукі зробяць...

Калі-небудзь пераедзе гэтая хата ў музей. Убачаць яе людзі, паглядзяць, якія вокны маленечкія, што толькі адзін пакой тут, страха саламяная, і падумаюць — многа лепей зараз жывецца, багацей. Вот і гэтыя... тэлевізары, халадзільнікі...

Апошнія словы Аўдоля вымавіла няўпэўнена, скоса пазіраючы на Гаркушу, які стаяў каля Бенчука,— успомніла, мусіць, што той доўга гаварыў пра дабрабыт, таксама вырашыла сказаць. Аднак жа з чужых слоў пяецца шмат горай, як са сваіх. Гэта зараз вельмі адчулася.

— Дзякуй, Аўдоля Нічыпараўна, вялікі дзякуй! Глядзіце цяпер на сябе тыдні праз тры па тэлевізары, у праграме будзе аб'яўлена, што перадача пра музей старых рэчаў,— загаварылі, перабіваючы адзін аднаго, Бянчук з Кусковым.

— Можа, і пабачу,— паціснула плячыма старая.— Мне мая дзеўка таксама казала, што па радыё буду гаварыць... Можа, і гаварыла калі.

Аўдолю абкружылі і Гусак з Гаркушам — быццам упершыню ўбачылі, пачулі так добра знаёмую ім жанчыну, аднавяскоўку,— і асвятляльнікі — гэтыя і сапраўды здзівіліся, бо не з такімі людзьмі

дагэтуль сустракаліся і гаварылі,— выйшла са свайго двара і Радзючыха, пачала прыслухоўвацца, выцягваючы шыю, як гуска.

— Калі вам трэба толькі пра гэтую хату, то я до нагаварыла,— сыпала словамі, як у званок звінела, Аўдоля.— А як пачну казкі казаць альбо спяваць з бабамі — дня не хопіць, далібог, не хопіць.

— Колькі ў нас плёнкі засталося? — ціха запытаўся ў Бутырына Бянчук.

— Метраў трыццаць,— паглядзеў той на лічыльнік.— На тры словы.

— Шкада.

— Другім разам прыедзем,— умяшаўся Кускоў,— не перажывай.

— Ды дзе там прыедзеш з работай нашаю... Хоць бы атрымалася тое, што запісалі.

— Гэта ўжо ў Бутырына пытацца трэба... Як, Мікалаевіч, прэміяльныя з цябе здымаць не будуць?

— Не будуць,— незадаволена буркнуў Бутырын,— сваю работу не горш за іншых раблю.

— Ай! — павярнулася да Кускова Аўдоля.— Не трэба лішне да людзей чапляцца. Як той казаў: не было нас, быў лес, і не будзе нас — будзе лес. Вышай сябе цяжка скочыць.

Пырснула ў руку адна Радзючыха, астатнія нешта змоўчалі.

Практычна работа кіназдымачнай групы ў вёсцы Валюхі была скончана, можна было збіраць апаратуру, грузіцца, ехаць. Аднак ніхто не спяшаўся развітвацца з Аўдоляй Нічыпараўнай Ярашэвіч, ехаць ад старой хаты. Нават Кускоў, які заўсёды некуды бег, падганяў іншых, зараз спакойна стаяў, слухаў, раз-пораз усоўваў і свае тры грошыкі. Быццам і не Кускоў гэта быў, а другі чалавек. Бянчук пазіраў на яго з ціхай усмешкаю, слухаў усю гэтую гаману як бы здалёк, як бы людзі ўсе былі на экра-

не тэлевізара, а ён сядзеў у пакоі адзін. Непрыкметна адышоўся да хаты, пастаяў. Адчувалася ўжо, што шэры восеньскі дзень хутка будзе брацца на вечар — аблокі віселі зусім нізка, рассыпаная ў паветры імжа халадзіла твар, позняя, але яшчэ ярка-зялёная трава была зусім мокрая.

Мусіць, стаяў бы ён і яшчэ, ды пачуўся голас нястомнага Кускова, які клікаў яго.

Кускоў тупаў каля дзвярэй хаты, то знікаў у іх, то нешта разглядаў у сцяне, вадзіў па ёй рукамі, зазіраў у дзіркі.

— Слухай,— узбуджана загаварыў ён,— знайшоў вось вяровачку і ніяк не здагадаюся, дзе яна канчаецца. З таго боку да засаўкі прывязаная...— Зноў знік у сенцах, закрычаў адтуль: — Паглядзі, дзе сенцы канчаюцца! Можа, што ёсць там...

Бянчук без асаблівай ахвоты, толькі каб зрабіць чалавеку ласку, падышоў да вугла сенцаў, які выступаў перад каморaю. Там нічога не ўбачыў — звычайны просты вугал, дзе сасновае бярвенне звязанае гнёздамі, даўней так заўсёды замацоўвалі яго ў вянкі. Прайшоў далей, да стыку каморы і хлява. Не зважаючы на пыльнае павуцінне, прасунуў руку паміж двума бёрнамі на ўзроўні грудзей — і намацаў цвік, да якога была прывязана вяроўка.

— Ну што? — крычаў з сенцаў Кускоў.— Нічога?

Бянчук пацягнуў за цвік, з паза выцягнулася сантыметраў дваццаць вяроўкі, і ў сенцах зарагатаў ад радасці Кускоў. Выскачыў, падбег да Бенчука, паторгаў за цвік, пацягнуў за сабой усіх, хто быў на вуліцы.

— Ёсць, ведаю! — моцна гаварыў ён.— От прадстаўце сабе карцінку: прыходзіць стары... як яго звалі? Гапей? Прыходзіць Гапей дахаты на добрым падпітку. Вечар, дапусцім, цёмна, дождж пырскае,

можа, і паваліўся раз, у лужыне аслізнуўся, так што пакачаны і ўсё такое. Што ён будзе рабіць? У дзверы грукаць? Лаяцца? Каб устала яго баба... Магдаліна? Як? Аналіна?! Ну і імёны тутака! Дык вось каб стаяла пад дзвярыма з мешалкаю ці чапялою ў руках жонка? Не-е, не такі дзед дурны. Ён во так падыдзе да сценачкі, намацае цвік, ціхенька пацягне — і гатова, засаўка адсунута! Га? Нішто сабе? Трэба запомніць, калі-небудзь у фільме скарыстаю.

«Дзівак! — усміхнуўся сам сабе Бянчук.— Як дзіця выдумляе. Ужо і дзед на падпітку, і баба з чапялою. Быццам яна пра тую вяроўку не ведала. Але няхай сабе. Чалавек радуецца — жыве, значыць».

Ніхто не заўважыў, як хвілін дзесяць таму пайшла дахаты Аўдоля Ярашэвіч. Былі двор, гарод, хатнія клопаты, мелася прыйсці пляменніца, Ганна,— нешта дзіця кашляе, трэба травы даць,— была яшчэ работа. Аўдоля ведала, што зараз гэтыя трохі дзіўныя людзі, і свае, здаецца, аднак не зусім зразумелыя, пакідаюць усе свае скрыні і жалязякі ў машыну, ускочаць у яе — і след прастыне. Як птушка мільгане ў паветры — так і яны прападуць, знікнуць у сваім далёкім гарадскім жыцці. Можа, і не зманілі яны, можа, сапраўды ўбачаць людзі па тэлевізары іхнюю вёску, старую хату, яе, шчарбатую, маршчыністую, але ў новай, нядаўна толькі падоранай дачкою хустцы. Што яна гэтым людзям? Перакінуліся словам яны з ёй, прымусілі стаць каля хаты і гаварыць — і забылі тут жа. Няма нічога дзіўнага, так часцей і бывае. Чалавек жыве сваім жыццём, ніколі не падобным да чыйго-небудзь.

Вось і весніцы, каля іх меншая ўнучка Аксана — парабіла, значыць, урокі, прыбегла гуляць да бабы. Нічога і не рабіла ты, Аўдоля, а стамілася нешта... Старая...

Па абедзе прайшло ўжо гадзіны дзве, жывот падцягнула, перасохла ў горле — аднак Гусак не вярнуў да свае хаты, дзе зачакалася жонка, прывучаная, што Антон абедае толькі ў час, а нейкімі кругамі хадзіў каля старое хаты. То да Радзюкова двара падыдзе, паглядзіць на мітусню кіношнікаў адтуль, то з-за машыны іхняй пацікуе — здзіўляла, што шафёр увесь час спаў, калі-нікалі ўзніме кудлатую галаву, павядзе замутнёнымі вачыма, зноў дрэмле,— то ўсунецца ў хату, паслухае моцныя галасы альбо цішыню, калі працуе камера. Не было спакою ў душы, яснасці не было, а значыць — і ўпэўненасці. Ці не ўпершыню чужыя людзі, сустрэча з імі збянтэжылі Антона, зблыталі думкі, зрушылі ўнутраную раўнавагу, якая дазваляла цвёрда ступаць па зямлі, адчуваць на ёй гаспадаром? Неаднойчы было, што і з раёна прыязджалі, начальства, хадзілі, закапыліўшы губу, забываліся рукі падаць на павітанне, не зганялі з твару крывінкі грэблівасці, глядзелі скрозь цябе — ды хутка тое наноснае, фанабэрыстае знікала. Чаму? Умеў Антон паказаць сябе, умеў абсячы, а то і чужую дурату зрабіць зразумелай усім. Дурня, канечне, здаля відно, аднак найгорш, калі яму камандаваць даюць, другіх вучыць. Тут саромецца не трэба, за праўду людзі заўсёды падтрымаюць. Як і не даруюць маўчання.

З кіношнікамі, праўда, Антон амаль і не гаварыў, дапамог дзверы адчыніць, падключыць святло, хату Аўдолі Ярашэвіч паказаў, што яму гэтыя гаваркія, шаткія, як тут кажуць, людзі? Яны паедуць, не ўбачышся з імі болей — ну і няхай сабе. Застануцца вось Валюхі, родная вёска, тая ж Аўдоля, Радзюкі, Гаркуша. Ну і хата Гапеева... Раптам Антон зразумеў свой неспакой, сваю няясную злосць на сябе і гэтых рэжысёраў. Хата, усё было ў хаце,

і не ў пахіласці яе, не ў жабрацкай нягегласці, а ў тым, што за хатай стаялі людзі, звычайныя старыя Аналіна і Гапей. Так, прыгадаліся яны, спачатку няпэўна, як прывіды са сну, а потым успомніліся выразна, бо ўбачыў Антон сякое-такое ламачча, тарку ўбачыў — а значыць, і Гапея, які клеіў бахілы, адразу пасля вайны як не ўся вёска насіла іх. А яшчэ ж парабляў Гапей калёсы і сані, калгас даваў заказы, маўклівы Гапей надоўга знікаў у калгаснай парні, знайшоўшы добрага дрэва, потым гнуўся, шчыраваў каля бабы ці сталюгі, гледзячы, што рабіў. Падумаўшы, дык многія з калёсаў і саней зроблены якраз Гапеем, рукамі яго. Людзі і зараз, пэўна, ездзяць на іх, працуюць — а ці помняць, кім рабіліся? Дарэчы, сталюгі няма ні ў каморы, ні ў хляве, Антон заглядаў туды. Няўжо сын забраў? Не падобна, на халеру каму зараз сталюга...

— Антоне, здаецца, твая баба з Гапеем у сваяцтве была? — перабіў думкі голас Радзючыхі, і Антон аж уздрыгнуў.— Даўна, праўда, памерла, ты мо і не памятаеш?

— Чаму, помню Хадоску, маці на вялікдзень вадзіла... А вось што сваяк ён... то ў нас, можна сказаць, уся вёска сваякі!

— То так, праўда. От мы як пераехалі сюды, Аналіна памерла ўжо, Гапей прыйдзе пад нашы вароты, сядзе на лавачку, маўчыць-маўчыць — ды як скажа!.. Курыў многа.

— А па-мойму, ён і не гаварыў амаль.

— Не помніш ты. Неяк сядзім прыцемкам, поўня вялікая, яркая, здаецца, даскочыць можна. Гапей і кажа: «Дурныя тыя вучоныя. Во калі трэба на месяц ляцець, калі блізка ён. А то нясе іх, як і ўбачыць цяжка».

Марыя зарагатала так шчыра, што і Антон не

ўтрымаўся, усміхнуўся. Гарачая хваля прыязнасці вырвалася з сэрца, заліла яго ўсяго — і было чамусьці трошкі сорамна. «Не прывык ты да такога, ці што?» — падумаў сам сабе ў разгубленасці. Захацеў глянуць на Марыю, сустрэцца з ёй позіркам, аднак замест гэтага закашляў і адвярнуўся.

— Ага,— сказаў сіпатым голасам,— помню, у яго кошка была, Васіліса...

— Ну і смяялася ж я!.. Выйдзе дзед на вуліцу, пад магазін сунецца. А Васіліса, задраўшы хвост, бяжыць следам, кеўкае. «Васіліса! — сварыцца.— Ану йдзі дахаты, гадаўка!» І што ты думаеш? Паслухмяна гэтак паварочвае — і ў двор. Такі ўжо смех!

— Аднойчы,— амаль не слухаючы Марыю, паспешліва, як баючыся, што не дадуць выказацца, загаварыў Антон,— выпілі яны з маім бацькам. Ну ясна, пасядзелі, пагаварылі, за шклянкі патрымаліся — а ноч ужо на дварэ. Маці сварыцца, спаць гоніць, ну і я тут, якраз з арміі прыйшоў, таксама ўзяў, але нямнога. Бацька кажыць: «Правядзі дзеда, крый божа, паваліцца, слізка на вуліцы». Самая восень была, вятрыстая, дажджы... Выходзім, а дзед добра-ткі ўзяў. Кіўнуўся гэтак на ганку і загадвае сам сабе: «Ану йдзі дахаты, Гапей! Гэта ж знаёмая твая сцежка!» Прыйшлі, пад самай сваёй хатай раптам захацеў песні. «Давай,— кажа,— спяём «За туманам нічога не відна».— «Ноч ужо,— кажу,— спяць усе, і Аналіна ваша».— «Го-о,— перабірае нагамі,— яна як харошую песню ўчуе — з магілы ўстане. Давай спяваць!» Ледзь угаварыў.

— Ага, акуратныя былі старыя, глядзелі сябе,— успаміна́ла сваё Марыя.— Слова брыдкага адно да аднаго не скажуць. Аналіна дык зусім ціхая была. Сама чысценькая, у хаце чыста... Як ні забяжыш чаго пазычыць, а тады мы не тут жылі, наша даў-

нейшая хата за сажалкаю ж была, пры панскіх ліпах, і ўсё роўна я часцей да яе бегала,— заўсёды дасць, пра дзяцей папытае, ці здаровыя. Дзед і тады курыў, дык ты ведаеш — ніколі ў хаце з люлькаю не бачыла! Выйдзе на двор, пасядзіць на лавачцы. Шанаваў сваю Аналіну... Не на словах, а вось так, папраўдзе.

— У яго ці не ў аднаго на вёсцы ўсе чыста прылады былі — косы і паўкоскі, бабкі, мянташкі, граблі, вілкі, сахары. Для кожнай сваё месца на сцяне хаты. І каб каса неадкляпанай была — ніколі. Са школы яго заўсёды прасілі, каб у двары і ў садзе траву паабіваў. Не адмаўляўся.

— Апошнімі гадамі мне яго надта шкада было. Самотны хадзіў, і ўсё з люлькай ці папяросай. Перхаў, сіпеў, пра Аналіну і не гаварыў нічога, а бачыла я — вельмі перажываў. Дзіва што, старыя толькі адно пры адным і жыць могуць. А так адзінаднюсенькі ў хаце, калі той Васіль прыязджаў — на святы, ну з дровамі памагчы, сена накасіць. А старэйшы, Мікола, пэўне, раз за дзесяць гадоў прыехаў. І пахаваць спазніўся... Далёка, канечне, у Сібіры недзе жыве.

— Та-ак... Дык, кажуць, у музей забяруць хату? Жыў-жыў Гапей і нават падумаць не мог, што так атрымаецца, га, Марыя?

— Забяруць, раз мітусяцца гэтак, фатаграфуюць. Аўдоля, бачыў, нічога не баіцца! Другі і слова не выціснуў бы, а гэтая хоць бы што. Арцістка!

— Як разбяруць хату, выгоднае месца будзе. Самы цэнтр, гарод вялікі. А мы месца пад КБА шукаем...

— Пад што месца?

— Бытавая абслуга. Адрамантаваць што, пашыць. Модніцамі зробіцеся.

— Аўдоля б сказала: «Выдумаў чорт моду, ды сам у воду, а вы, бабкі, ганіцеся».

Антон гаварыў зараз з Марыяй — і спакайнеў, ралагоднеў душой. Ён і не памятаў, ці былі ў яго раней такія размовы, без вырашэння пытанняў, без просьбаў і далёкай якой мэты. Размова быццам і ні пра што, а прыемная, цёплая. Не раздражнялі ўжо і кіношнікі, сярод якіх былі людзі пустыя, ён гэта ўбачыў адразу. Справа была не ў іх. Справа была ў ім і валюхоўцах, якіх ён усё жыццё ведаў — і не ведаў. Пад адным вуглом бачыў ён іх, аднабакова, вось як з той жа кінакамеры, што замацаваная на трынозе. І як тую кінакамеру здымаюць з трыногі, наводзяць так і гэтак, носяць на плячы, паварочваюць ледзь не дагары нагамі, так і яму спатрэбіўся пагляд на сваіх аднавяскоўцаў як бы чужымі вачыма, пагляд нечаканы, а таму і такі запамінальны. Ён, гэты пагляд, перавярнуў нешта ў душы Антона, крануў там струну, якая дагэтуль не гучала. Голас тае струны быў пакуль слабенькі, не чутны амаль іншым, але ён быў. І Антон прыслухоўваўся да яго, крыху дзівячыся, але і з прыемнасцю.

І тут Гусак побач з Бутырыным убачыў Руслана Бульбянка.

— А што ў гэты акуляр відаць? — стала, сур'ёзна пытаўся Руслан, тыцкаючы пальцам у кінакамеру.

— Бач ты, якія словы ведае! — усміхаўся Бутырын.— Спецыялістам будзеш. Ну зірні, толькі асцярожна, не збі нічога.

Руслан, аж забыўшыся дыхаць, некаторы час паглядзеў — потым расчаравана адвярнуўся:

— Простымі вачыма лепей відаць. І ў тэлевізары во так будзе?

— У тэлевізары будзе як трэба. Прыгожа будзе! — крыкнуў, прабягаючы, Кускоў.

— Ты, гэта, давай лепей дахаты,— ветлівым голасам сказаў тады Гусак.— Урокі, нябось, не вывучыў, а пад нагамі блытаешся. Чуеш?

— Няхай,— узяў Руслана за плячо Бутырын,— затое будзе ведаць, як кіно робіцца. Ужо ж амаль усё панімае, малайчына.

Руслан зачырванеўся і калупнуў наском кеда зямлю. Зараз ён быў проста непадобны да сябе.

А кіназдымачная група ўжо сабралася. Асвятляльнікі надзіва хутка сабралі свае скрыні і закінулі іх у машыну, жвавенька ўскочылі самі, спяшаліся і астатнія. Рэжысёр з рэдактарам памахалі рукой на развітанне Антону і Марыі, Бутырын падсадзіў у машыну і Руслана — пракаціцца да павароткі на шашу,— «уазік» газануў, падскочыў у калдобіне, хутка знік.

Гусак падумаў, што трэба праверыць, ці зачынены як след дзверы ў старой хаце, і ісці на абед. Не, не на абед, а ўсё-ткі на работу.

Старая хата стаяла ў адным з куточкаў беларускай зямлі, за сваё жыццё наглядзелася яна ўсяго, бачыла і сваіх сясцёр, якія старэлі, паміралі, знікалі, бачыла зямлю, дарогу на ёй, бачыла людзей, тых людзей, што нарадзілі яе і знітавалі з сабой, са сваёй сутнасцю Розуму,— і ўсё сваё жыццё старая хата не жыла сама па сабе, адзінока, у сутыкненні адно толькі з гаспадарамі сваімі і іх дзецьмі; старая хата жыла жыццём Зямлі Людзей з іх пакутамі, з іх войнамі, і радасцямі, з іх імкненнямі да шчасця, якое і побач, а — далёка часцей; і ёй ніколі не было і не будзе ўсё роўна, што дзесьці за акіянам хаваюцца па лясах, доках, шахтах,

зонах ядзерныя ракеты, самалёты, танкі, авіяносцы, пагрозліва накіраваныя супраць яе — смерць людзей і яе, старое хаты, смерць; хата ведала пра гэтую смерць, смерць жудасную, таму што смерць не была звязанай са словам старасць, а значыць, была нечым абсалютна супрацьлеглым жыццю, і хата не хацела памерці, не ўведаўшы, што тая смерць не знойдзе сваёй.

Яна пакуль жыла — чула і бачыла, думала і спадзявалася. Яна была неаддзельная ад людзей, яна была — яны.

## ДОЎГІ ДЗЕНЬ МАЦАКА

Віцік Мацкевіч — па-вулічнаму Мацак — бег праз поплаў нацяныкі, не завярнуў на сцежку, што адхілялася ўлева, пад лодачную прыстань. Ён не ведаў, ці прадзярэцца праз тванiстыя поплаўныя канавы і азярцы, якія засталіся яшчэ з веснавое паводкі, але ўпарта кіраваўся лазняковй за Палучэнкаю — невялікім возерам з трыма халоднымі крыніцамі. Апошнімі днямі сонца і на хвіліну не закрывалася аблокамі, пякло так, што на вачах усыхалі, клаліся травы, шэрхнула зямля, а ў паветры вісеў тонкі звон— ад спёкі. Пад канец лета большасць канаў высыхала, але самыя вялікія заставаліся; хлопцы з бліжэйшых вуліц лазілі ў цёплай, як не гарачай вадзе, лавілі таптухамі і маленькімі брэднікамі карасікаў і шчупачкоў. У забраснелай, гнілой вадзе лазіць было гідка, ды карасікаў у глыбокім, пругкім муле было шмат — як і розных жукоў, трытонаў, п'явак. Каторы раз нешта калола ў нагу так, быццам гарачая голка ўлазіла ў

цела. Балела доўга, некалькі гадзін. Ды і канавы аблямоўваліся заскарыненымі паскамі зямлі, на якіх нават да ўсяго прывыклым нагам хлопцаў было няўтульна — часта тырчалі засохлыя каліўцы травы, кавалкі шкла, бляшанкі. Але цяпер толькі бралася на другую палову лета, і яшчэ шмат у якіх месцах стаяла вада, укрытая высокай травой.

Мацак моршчыўся ад крыўды, трос галавой, сціскаў кулакі. Сёння ён выбраўся на рыбу адзін, ніхто з хлопцаў не захацеў уставаць заране. Мацак на сваім звычным месцы — недалёка ад гліз — расставіў пад чырвоным абрывам донкі, расклаў цяпельца. Месца тут было добрае — Дняпро бег шырока, роўна, адно моршчыўся на перакаце, адразу за якім быў вялікі вір. Мацак закідваў донкі так, каб грузілы клаліся якраз на ўзмежку пясчанае касы, дзе святлелася дно, не спаўзалі ў чорную глыбіню. На гэтай мяжы меліны і ямы стаялі подусты, чакалі, пакуль упадзе ў ваду прынада, гарох або скачкі. Гуляў на перакаце і язь — асцярожны, моцны, прыгожы. Мацак заўсёды дзівіўся, колькі ў гэтай рыбіне крыві і як б'ецца яна, засекшыся на кручку. Вельмі часта язі сыходзілі ў яго з кручка, і на тым месцы, дзе бліскала срэбным бокам рыбіна, вада цямнела ад крыві. Мацак раз-пораз правяраў донкі, аднак выцягнуў толькі двух невялікіх подустаў — рыбе не давалі падысці да прынады насары. Амаль на кожным кручку, ледзь торгаючыся, выпаўзаў з вады насаты ёрш, заглынуўшы насадку так, як умеюць гэта рабіць толькі яршы. Мацак саджаў большых на нізалку, а малых выкідаў. Гадзін у восем прыбег са сваім дубцом з жылкаю Савосцік, вялікагаловы і чорны, як грак. Савосцік перайшоў толькі ў чацвёрты клас, не раўня будучаму васьмікласніку Мацаку, але той і яму ўзрадаваўся — усё ж весялей, ёсць каму нажывіць

кручкі і сходзіць па сушняк. Савосцік злавіў муху, а Мацак ад няма чаго рабіць закінуў ягонага дубца з мухаю. Адразу на беразе шалёна заскакаў ладнаваты сібіль.

— Мацак, дай мне!.. Я таксама хачу!..— папрасіўся Савосцік, ад нецярплівасці ажно задрыгаў нагамі.

Мацак аддаў вуду — сібіль не рыба, няхай яго малы ловіць.

Ён абыякава глядзеў на лодку з трыма хлопцамі, яго аднагодкамі. Лодка павольна ішла ўніз па рацэ, прыціскалася да берага, хлопцы ў ёй сядзелі ціха. І толькі тады, як лодка адплыла метраў на трыццаць, ён пачуў здзеклівы смех хлопцаў. Адзін таропка выбіраў рукамі шнур, і ўсе смяяліся, глядзячы на Мацака. Ён убачыў, як у лодку выбралі дзве «кошкі» са зблытанымі донкамі. Ніводнай ягонай донкі на беразе не было. Ён пабег за лодкаю, але гэта яшчэ больш насмяшыла хлопцаў. Тыя рагаталі, ледзь не вывальваючыся за борт.

— Гады! — вылаяўся Мацак, шпурнуў у іх каменем, што трапіўся пад руку.

І хоць хлопцаў было трое, яны не прысталі да берага, а хуценька селі за вёслы і павярнулі на сярэдзіну ракі. Мацак ведаў аднаго з іх. Ён жыў у цэнтры горада, на Савецкай вуліцы, часта стаяў з сябрамі каля кіно.

Мацак хутка, быццам яго гнаў хто, надзеў штаны, схапіў нізалку з рыбай і пабег праз поплаў дахаты. Ззаду тупатаў, часта дыхаючы, Савосцік, але Мацак на яго нават не аглядваўся. «Ну, гады,— ад нянавісці да тых хлопцаў у яго аж засцілала вочы,— я ж сёння спаймаю вас... Скажу Валету, Чорнаму, сёння нядзеля, у парку аркестр іграе. Яны там будуць, каля танцаў... Пабачым, я вас запомніў...» Праз адну канаву ён пераскочыў лёгка, але наступ-

ная ляжала вялікая і, па ўсяму відаць, глыбокая. Мацак узяў трохі ўправа, аднак усюды блішчала між травы вада, пад нагамі хлюпала. Ён спыніўся, зняў штаны і завязаў іх на галаву. Скідаў штаны і Савосцік, блытаўся ў калашынах.

— Чаго ты пабег за мной? — Мацак злаваў, яму не хацелася зараз нікога бачыць.— Яшчэ ўлезеш з галавой...

І рашуча пайшоў у траву. Ногі грузлі, вада адразу дайшла да пояса. Зверху яна была зусім цёплая, але ўнізе, у пругкім і, здавалася, бяздонным муле востра даваў у ногі холад. Шнурком ішлі са дна бурбалкі, рабілася ўсё глыбей. Аднак Мацак бачыў, што наперадзе ўжо недалёка вышэйшае месца са зрудзелай травой. Ззаду закашляўся Савосцік, глынуў, мусіць, вады. Мацак азірнуўся. Над вадою тырчалі адно галава ды рука са штанамі і вудаю, але Савосцік не прасіўся, толькі пляваўся, боўтаючыся на месцы. Мацак вярнуўся, схапіў Савосціка пад пахі і пацягнуў за сабой. Савосцік хоць і малы, але цяжкі, несці яго было нязручна. Выбрылі на груд запэцканыя, як чэрці, у гразі да самай шыі, яшчэ і п'яўка вісела ў Мацака пад каленам. Гідліва скінуў яе, паспрабаваў саскрэбці гразь, але кінуў, бо надта запэцкаўся. «На Палучэнцы абмыемся»,— махнуў рукой Мацак. Больш у канавы не лезлі, абыходзілі іх сушэйшымі месцамі, пятляючы ўправа-ўлева. На Палучэнцы было шмат людзей, аднак усе ляжалі на бліжэйшым да горада беразе — там ёсць дробненькі пясочак, кусты лазы. Мацак і Савосцік зайшлі ў ваду, пачалі мыцца. Гразь паспела ўжо закарэць, саскрабалася ледзь-ледзь, а Мацак спяшаўся.

— Чорт з ім, хадзем,— яны нацягнулі штаны і трушком пакіравалі пад Іванаўскую горку. Было горача, надта пякло ў галаву. Горад далёка, аж да

чыгуначнага моста на небакраі, ляжаў на вышэйшым беразе Дняпра; ісці пыльнай вуліцай угору было цяжка. Мяккі пясок моцна нагрэўся, але трываць яшчэ было можна. Збоку соп упарты Савосцік. Мацак зірнуў на яго — пад носам у яго чорна, на нагах і руках вялікія падсохлыя пісягі.

— Каля хаты памыешся пад калонкай,— сказаў ён,— а то як у лужыне са свіннямі боўтаўся. Адлупцуе матка.

— Не адлупцуе,— шморгнуў носам Савосцік.— Я да бабы ўцяку.

— Галавасцік, унь Галавасцік ідзе! — з двара выкаціліся Савосцікавы сябры.— Пакаж, колькі рыбы злавіў!

Горача, няма як ад сонца схавацца, а гэтыя лётаюць з бляшанкамі, у якіх смуродна тлеюць анучы. Такія бляшанкі носяць вечарамі, калі з ракі налятае мошка і лезе ў нос, у рот, кусаецца, як шалёная. Дым яе адганяе. Але сёлета тая мошка даўно прайшла, яна толькі на пачатку лета вісіць воблакам над вуліцамі. Гэтым падшыванцам, мусіць, усё роўна, што цягаць з сабою, абы гарэла.

Савосцік нават не пазірае ў іх бок — абазвалі Галавасцікам, пакрыўдзіўся. А тыя скачуць, як чарцяняты, крыўляюцца, нахабна бягуць услед. Ажно шкада стала Савосціка.

— Злаўлю — натаўку носам у бляшанку! — крыкнуў Мацак і нават зрабіў крок да падшыванцаў.

Ад страху ў тых мову адняло, пырснулі назад, бы вераб'і ад каменя.

З Іванаўскае вуліцы яны павярнулі на Лугавую. Гэта ўжо была старая вуліца, абсаджаная клёнамі і таполямі, уся ў гародчыках, з якіх высоўваліся галовы жоўтых і чырвоных вяргіняў. За вяргінямі хаваліся лілеі, флёксы, астры, дзе-нідзе касачы.

Хаты як прыснулі ў пыльным зяленіве садоў, людзей быццам і няма. Зямля пад дрэвамі добра ўбітая, халаднаватая, ногі па ёй бягуць шмат весялей. Каля драўлянага магазінчыка ківаўся дзядзька Ігнась Рабянкоў, стараўся разам з роварам узлезці на ганак у тры прыступкі. Здаецца, ён і не паднімаў галавы, аднак угледзеў Мацака.

— Віцька! Купі бутэльку...— ровар з грукатам паваліўся, а дзядзьку аднесла крокі на тры назад.

— Мне не дадуць! — крыкнуў Мацак. Яму не хацелася ісці ў магазін і купляць Рабянкову бутэльку.

— Гы-гы...— засмяяўся ззаду Савосцік,— цётка Ганна яму сёння дасць. Яшчэ і па вуліцы пагоніць...

І тут Мацак убачыў Купца і Шкандыбу. Яны сядзелі на лаўцы каля Купцовай хаты, глядзелі перад сабой, маўчалі. Гэта былі дарослыя хлопцы, якія вучыліся ў дзесятым класе вячэрняй школы. Купец і Шкандыба заўсёды хадзілі разам, працавалі таксама ў адным цэху мэблевай фабрыкі. Недзе год назад Купец з самаробнага пісталета прастрэліў Шкандыбу жывот. Шкандыба быў дамарослы канструктар — цягаў у кішэнях трубкі, порах, свінец. Ён рабіў пісталеты, цэлымі днямі стукаў, пілаваў, шоргаў напільнікам у сваім хлеўчуку. Пісталеты Шкандыбу ні на што не былі патрэбны, але насіў ён іх з сабою па два і па тры штукі. Неяк разам з Купцом ён пайшоў выпрабоўваць толькі што зроблены самапал. Пайшлі далёка, у лес за рэчкай Вядрыцай. Пісталет нешта не страляў, колькі ні ціснулі хлопцы на курок. Купец круціў яго, круціў, а потым, жартуючы, навёў на сябра. «Які пісталет, такі і канструктар»,— сказаў ён, і самапал стрэліў. Шкандыба паваліўся, зацісनуўшы рукамі дзірку ў жываце. Купец цягнуў яго на сабе да да-

рогі тры кіламетры. Шкандыбу адразу паклалі на аперацыйны стол і доўга рэзалі, пакуль выцягнулі са страўніка кавалак свінца. «Каб на якую гадзіну пазней,— сказаў хірург,— не трэба было б і рэзаць». У бальніцы Шкандыба ляжаў доўга, выйшаў праз месяц схуднелы, як шкілет. І яны ізноў пачалі ўсюды хадзіць разам — рослы, моцны Купец і худы, многа драбнейшы Шкандыба. Паміж сабой сябры амаль не гаварылі, разумелі адзін аднаго без слоў.

Мацак і Савосцік беглі па другім баку вуліцы, і Мацак зрабіў выгляд, што не заўважыў хлопцаў. Ён трошкі пабойваўся Купца. Той любіў стукнуць любога малога па карку, даць пстрычку ці выспятка. І ён добра біўся. Мацак помніць, як браты Купцовы адмалацілі самага моцнага ў школе дзесяцікласніка Гірлу. Сам Купец вучыўся тады ў восьмым класе, а яго брат — у дзесятым. Браты гнуліся пад ударамі Гірлы, наскоквалі на яго, як пеўні, дзяўблі, можа, не гэтак моцна, але часта. І здаравіла адступіў, заціскаючы рукой разбіты нос. А цяпер Купец сам выправіўся ў дзядзьку, адно па-юначы ружавеліся шчокі і не расла барада.

— Мацак! Сюды...— пачуў Віцік.

Ён павярнуў да хлопцаў, якія сядзелі, далёка выставіўшы перад сабой ногі і раскінуўшы на спінцы лавы рукі. Купец зрэдку пляваў на дарогу.

— Пакаж, што спаймаў.

Мацак дастаў з торбачкі невялікую нізалку. Рыбіны паменшалі, страцілі жывы колер, глядзець на іх не хацелася.

— А,— дазволіў схаваць нізалку Купец.— От ты, кажуць, кніжкі чытаеш. Чытаеш?

— Ага,— сказаў Мацак.

— А што там пра дзевак пішуць? Пра любоў?

Мацак паціснуў плячыма. Спачатку, калі яго

паклікаў Купец, ён хацеў быў расказаць пра донкі і папрасіць, каб Купец яму дапамог разлічыцца з тымі хлопцамі з Савецкай. Але чамусьці стрымаўся, хаця ведаў, што Купец згадзіўся б — яны жылі амаль на адной вуліцы, а закон вулічнай суполкі значыў нямала. Мацаку непрыемна было прасіць Купца біць некага. І ён не любіў глядзець Купцу ў маленькія, шэрыя, злыя вочы. Яму хацелася заўсёды адысці ад яго падалей — гэтак жа ўцякалі ад Купца вулічныя сабакі, якія да іншых хлопцаў падыходзілі спакойна.

— Мацак яшчэ кніжкі пра дзевак не чытае,— сказаў Шкандыба.— А калі і чытае, дык не панімае нічога. Няхай дамоў ідзе.

Сябры зарагаталі, адкінуўшы назад галовы.

— Вучы, Мацак, тэорыю,— кінуў наўздагон Купец,— спатрэбіцца ў жыцці.

Віцік з палёгкаю пайшоў, спіной адчуваючы позіркі хлопцаў. Ён падумаў, што пра донкі скажа толькі Валету і Чорнаму. Сёння нядзеля, увечары ў парку будуць танцы. Тыя хлопцы з Савецкай прыйдуць абавязкова. Ён там іх і падловіць. І яшчэ раз узнікла перад вачыма — лодка, хлопцы спешна выбіраюць донкі, на нахабных тварах усмешкі. Мацак і адзін пайшоў бы на гэтых траіх, не пабаяўся б. Ён ненавідзеў тых хлопцаў.

— Мацак, а ты каму скажаш? Бацьку? — спытаўся ззаду Савосцік.

— Маўчы і не гавары нікому,— павярнуўся да малога Віцік.— Я сам іх злаўлю. Папомняць яны мяне, гады...

— Глядзі, глядзі!..— аж заскакаў Савосцік.— Буйкоў новы дрот на плоце прыбівае!..

Буйкоў, дом якога стаяў на рагу Лугавой і Віцікавай Паштовай вуліцы, сапраўды корпаўся з новенькім, ажно бліскучым дротам. Плот вакол яго-

най хаты быў самы вышэйшы на дзвюх вуліцах, новенькі, шчыльны, ніводнай дзірачкі не свіцілася ў ім. Ён і дагэтуль быў апавіты калючым дротам, але, мусіць, дрот той з часам састарэў, заржавеў, зрабіўся не такі востры. Буйкоў быў здаровы, маўклівы, хмурны дзядзька. Ён працаваў у аддзеле кадраў на метызным заводзе, лічыўся вялікім начальнікам. Дом ягоны высока і таксама маўкліва ўзвышаўся над вішнякамі, амаль усё лета вокны яго былі зачынены аканіцамі.

— Цяпер па грушы не злазіш,— сказаў Савосцік.

— А то ты раней туды лазіў,— усміхнуўся Мацак.— Гэты як зловіць — галаву адарве.

Хлопцы сапраўды не лазілі ніколі да Буйкова. Аднойчы толькі, пазалетась, вялікія хлопцы аблаташылі ў яго бэру, дык наступным вечарам у буйкоўскім садзе гулка ляснуў стрэл — гаспадару, мусіць, нешта падалося ў цемры, і ён смальнуў з абодвух ствалоў дубальтоўкі. Хлопцам, якія ў той час амаль усе сядзелі на лавачцы каля Валета, смяяцца нешта не захацелася.

І пасля гэтага Буйкоў на кожнага хлопца пазіраў так, што рабілася страшна. Мацак і Савосцік перайшлі на другі бок вуліцы, адвярнулі галовы, каб і краем вока не бачыць Буйкова.

Мацак здалёк угледзеў хлопцаў, якія сядзелі на ўтульнай Валетавай лавачцы. Там быў цянёк, побач калонка — заўсёды можна напіцца халоднае вады, а над самай галавой віселі вішні.

На лавачцы сядзелі абодва браты Шлёпы, руды Шыман і сам Валет. Усе грызлі яблыкі. Мацак падышоў, прысеў таксама, узяў з-за пазухі Валета яблык.

— У каго браў? — спытаўся ён, з асалодай кусаючы даспелую, сакавітую папяроўку.

— Да нямой Краўчыхі зайшоў,— сказаў Валет.

Хлопцы засмяяліся.

— У веснічкі зайшоў,— растлумачыў Шлёп-меншы,— нарваў-нарваў — і спакойна назад.

— Буду я яшчэ праз плот скакаць,— сказаў Валет. Ён цяжка ўздыхнуў, памацаў сябе за жывот.— Не хочацца болей. Бярыце хто.

— Давай,— Шлёп-меншы скінуў кашулю, завязаў рукавы — быццам торба атрымалася,— пачаў перакладаць яблыкі.

Мацак сядзеў і вагаўся — сказаць пра донкі цяпер ці пасля? Але не хацелася гаварыць усім, асабліва Шыману — той пачне смяяцца, пацвельвацца, што пільнаваць трэба было, не лавіць варон. Ды і што Шыману гаварыць? У парк ён усё адно пабаіцца ісці.

— Можа, скупнёмся сходзім? — сказаў Шлёп-большы, Саня. Ён вучыўся ў адным класе з Мацаком.

Хлопцы маўчалі, думалі. З аднаго боку, рэчка — гэта добра. Вадзічка халодная, з трампліна ныраць можна, пагуляць у даганялкі на вадзе. Але ж да гарадскога пляжа ісці заморышся — вуліцы гарачыя, пыльныя, доўгія, пакуль вада — потам зальешся.

— Давайце на Вядрыцу сходзім,— сказаў Шыман, і ўсе аж заўсміхаліся.

Сапраўды, Вядрыца хоць і маленькая рэчка, але вада ў ёй чысценькая, бы слязінка, і лес так сціскае яе з абодвух бакоў, што, здаецца, дрэвы вось-вось зойдуць у ваду. А кусты дык і залезлі ў рэчку, і ніжнія галіны іх голыя, счарнелыя, адно густа абсыпаныя шыцікамі. Яшчэ год таму ў Вядрыцы было шмат рыбы, і хлопцы часцей бегалі з вудамі і браднікамі да гэтае маленькае рачулкі, як да Дняпра. Але недзе пачаткам мінулага лета Салта-

ноўскі спіртзавод, які стаіць у дваццаці кіламетрах ад горада, пусціў у Вядрыцу брагу. Дохлыя малькі і снулая вялікая рыба ішлі два дні. Людзі цягнулі рыбу мяхамі. Мацак позна дачуўся пра гэта, але ўсё ж паспеў ухапіць ладнаватага соміка і двух шчупакоў. І пасля гэтага знікла рыба з утульных, чорных буктаў і гладкіх перакатаў. Зніклі і рыбакі з берагоў, адно зусім малыя хлапчукі дарэмна махаюць вудамі. Малыя яшчэ вераць у цуд, яны чытаюць казкі, а дарослыя на іх ужо забыліся. І цяпер толькі каля трох астравоў, там, дзе яна ўліваецца ў Дняпро, можна злавіць язя ці шчупака. А вада ў Вядрыцы, нягледзячы ні на што, чысцюткая.

Ды і ісці да рэчкі спачатку палявой, між жытоў, дарогай, а потым лесам, па апавітай вузлаватым карэннем зямлі пад выносістымі соснамі. І зямля, абгладжаная дажджамі, цвёрдая і мяккая, ногі бягуць па ёй лёгка, адно спатыкнуцца, падкульгнуць дзе-нідзе, наляцеўшы хоць і закарэлаю, ды ўсё ж жывою пяткаю на ссушаную растапыраную шышку, якую закінулі на сцежку крыжадзюб або вецер яшчэ мо летась.

Аж паўставалі ўсе з лаўкі, так карціць бегчы да звонкай свежай Вядрыцы.

— Трэба есці ўзяць, сала на вогнішчы падсмажым,— гаворыць маленькі, вёрткі, разважлівы, як дзед, Шыман. Ён аж муляе вуснамі, быццам вось ужо ў яго ў роце жоўценькая, гатовая разліцца празрыстым тукам, скварка.

— Давай толькі хутчэй,— Шлёп-большы з іранічнаю ўсмешкаю глядзіць, як яго брат старанна ўвязвае кашулю — каб, крый божа, не згубіўся хаця адзін яблык, не закаціўся выпадкам куды пад лаўку ці ў гразь. Шлёп-меншы заўсёды што-небудзь грызе, кусае, ссе — парэчкі, кіслы агрэст, зялёны

яблык, скрылік сала, проста скібу хлеба, а як пашанцуе — дык цукерку.

— Валет, давай да мяне зойдзем,— сказаў Мацак.

Хлопцы разыходзяцца.

У цемнаватай хаце свежа, сонца амаль няма, толькі адну шчыліну знайшло яно сярод фіранак у зале, прачарціла доўгую жоўтую палосу. На падлозе ў цеплыні гэтае палосы валяецца, раскінуўшы лапы, кот, лена і нездаволена пазірае адным вокам на хлопцаў — сама толькі разаспаўся, а тут могуць таргануць за хвост. Небяспечна, але ж і ўцякаць надта не хочацца.

Бацькі ўжо дома. Яны хадзілі на базар, толькі прыйшлі з поўнымі кайстрамі і сеткамі, з якіх свецяцца памідоры, яблыкі, вылазяць агуркі.

— Гуркоў засолім,— задаволена гаворыць бацька.— Я ўжо дамовіўся, каб прывезлі памідораў з гуркамі і на зіму. З Азершчыц падвязуць. Тама гурочкі невялічкія, але пахнуць — аж у галаве круціцца. А яшчэ як грыбоў белых насушым — і зіму зімаваць можна. Га, матка?

— Насушыць, можа, насушым... Але ж з хатаю ў нас не чуваць нічога. Гэта каб у сваёй хаце, са сваімі градамі...— у маці аж перарываецца голас, яна цяжка ўздыхае.

— Д-да, хата...— бацька хмурнее, бярэ гурок — і кідае назад у місу.— Зноў аддалі другому кватэру. Летась гаварылі — вам у першую чаргу, толькі пабудуем — адразу засяліцеся. І сёлета тое ж. Прыехаў бухгалтар з сям'ёй. А ў мяне што, не сям'я?

— Табе заўсёды толькі абяцаюць.

— Што я — дырэктар? — злуе бацька.— Быў бы дырэктарам, сябе б не пакрыўдзіў.

— Зайшоў бы не раз да начальства, а дзесяць разоў...

— Як прасіцца, лепей хрэну з'есці. Ну не магу я ў сабакі вачэй пазычаць...

— Дзеці вунь вялікія, а кватэры няма.

Мацаку непрыемна слухаць усё гэта, тым больш побач Валет. Хоць Валет і свой хлопец, але Мацак як хутчэй хапае скібіну хлеба, адразае сала і з палёгкай выходзіць з хаты.

— Давай лепш у садзе пасядзім,— гаворыць ён.

Ужо два гады Мацкевічы мяняюць прыватныя кватэры, гэтая хата трэцяя. Бацьку ўсё абяцаюць на лёнзаводзе кватэру, але не даюць нешта. Ён ужо і з начальствам лаецца. У хаце таксама спакою няма — маці гаворыць, каб бацька не лаяўся, а схадзіў папрасіў. «Ласкавае цяля дзвюх матак ссе»,— кажа яна. Можа, яе праўда, але сам Мацак страшна не любіць прасіць — хай сабе веласіпеда пакатацца, донак на рыбу схадзіць, лодкі на той бераг з'ездзіць. Адно за кніжкі ён можа знесці ўсмешкі, часам пагардлівыя. Ды тут ён нічога зрабіць з сабой не можа. Убачыць кніжку цікавую — і аж рукі калоцяцца, сохне ў роце. Ён нават не можа дабегчы да хаты, чытае на хаду. Часта і ў школу бярэ якую кніжку, чытае крадком на ўроку. У бібліятэцы яго добра ведаюць, зрэдку пакідаюць што-небудзь цікавае. І да сяброў ён ходзіць большасцю, каб перагледзець кніжныя паліцы, пакапацца ў іх. І часта яму вельмі цяжка пайсці з таго пакоя, дзе роўнымі радамі стаяць за шклом прыгожыя, страшэнна цікавыя кнігі. Мацаку заўсёды здаецца, што самую лепшую кнігу ён так і не патрымаў у руках. Хлопцы дык шчыра дзівяцца з яго. А вось з-за таго, што ён жыве не ў сваёй хаце, Мацаку крыўдна і часамі сорамна — быццам ты горшы за іншых. І ён адчувае, што бацька таксама перажывае, і можа, яшчэ болей за маці. І бацька хавае сваю крыўду і сорам гэтак жа, як Мацак, не хоча,

каб убачыў іх хто чужы. «Хай бы мы пераехалі ў другі горад і там у нас была б кватэра»,— думае іншы раз Мацак. Ён любіць уявіць, якая гэта будзе кватэра — вялікая, у два, а то і ў тры пакоі, з высокай столлю, пад нагамі паркет. І ў пакоях будуць стаяць вялізныя кніжныя шафы, за шклом у іх — рады каляровых кніжных вокладак. Тэлевізар бацькі купяць, ну, халадзільнік матцы, а то яна ўсё бядуе, што халадзільніка няма. А па тэлевізары заўсёды можна глядзець футбол. Наогул Мацак любіць марыць. Колькі ён сябе памятае, столькі бачыць сябе то славутым футбалістам, такім, як Пеле, то дружыннікам, які ваюе з крыжакамі, выпадкова пераляцеўшы ў далёкую мінуўшчыну. Асабліва добра думаецца, калі ідзеш куды-небудзь — тады і дарога карацейшая робіцца, і ісці весялей. А самыя любімыя — гістарычныя раманы. «От часы былі...— уздыхае іншы раз Мацак.— Увесь час на кані, у паходзе, розных ворагаў лупіш...»

Мацак і Валет ідуць у глыбіню невялічкага садзіка. Там, прытуліўшыся да сцяны суседскага хлява, стаіць маленькая лаўка, якраз сесці дваім. Тут заўсёды цень, патыхае вільгаццю, зямля голая, амаль без травы. Бёрны хлява і лаўка слізкія, ажно трохі непрыемна сядзець. Але затое нікога няма, гавары пра што хочаш, не баючыся, што цябе пачуюць.

— У мяне сёння донкі хлопцы з Савецкай укралі,— гаворыць Мацак.— «Кошкаю» з лодкі працягнулі — і ўсё.

— Дзе? — пытаецца Валет.

— Што дзе?..— Мацак трохі разгублена пазірае збоку.

— Дзе ты донкі ставіў?

— А-а... каля гліз, пад абрывам.

— Во гады, на нашыя месцы прыехалі. Раней дык баяліся.

— Ну,— Мацак пачынае гаварыць спяшаючыся, крыўда ўспыхвае з новай сілай, аблівае гарачым сэрца,— я і не глядзеў таму, сяджу сабе з Савосцікам... А яны рагатаць пачалі, гады. Я аднаго запомніў.

— Нічога, сёння падловім іх. Раз з Савецкай яны, у парку абавязкова будуць. Трэба Чорнаму сказаць.

Мацак заўважыў, што Валет, як і ён, адразу падумаў пра Чорнага і ўзрадаваўся. Ён нават паверыў, што сёння ягоныя донкі зноў будуць у яго.

— Харошыя донкі былі... са званочкамі,— сказаў Валет, як бы паказваючы, што ён добра разумее цяжкасць Мацаковай страты.

— Сядзелі б на сваёй Ванючцы...— Мацак не мог прыдумаць, што б яшчэ сказаць абразлівага пра тых хлопцаў.

Дняпро ад былое гаці, якая шчэццю калкоў тырчыць з вады недалёка ад лодачнае прыстані, і да вусця Вядрыцы здаўна належаў хлопцам іхняе часткі горада. Усе рыбаловы — малыя і дарослыя — былі тут знаёмыя, з кожным можна было павітацца, пагаварыць, зазірнуць у торбу з рыбай. На гэтым кавалку Дняпра былі чатыры вялікія глізы, дзе адразу з чорна-шэрых гліністых берагоў глыбіня дасягала некалькі метраў. Тут добра браліся на вуду з грузілам акуні, плоткі і гусцёркі. Але малым па глізах хадзіць было небяспечна. Неяк малы Курцік, гойсаючы каля большых хлопцаў, паслізнуўся на мокрай гліне і боўтнуўся ў раку. Добра, Мацак і Шлёп-большы былі побач, ускочылі ў ваду і выцягнулі збялелага, з вачыма, як у варанага акуня, хлапчука. А так бы сербануў той раз-другі вады — і невядома, калі б знайшлі яго. Далей за

глізамі святлеўся шырокім пасам перакат. Тут бераг ніжэў, аблямоўваўся беленькім, як манка, пяском, вада каля яго бегла шмат павольней, і хвалькі плёхалі толькі зрэдку, большасцю ласкава, як кошка кацянё, лізалі роўненькі, абгладжаны пясок. На гэтай касе заўсёды хацелася скупнуцца ці хоць проста прабегчыся па ўгрэтай пры беразе вадзе. На перакаце часта станавіліся на якар рыбаловы-язятнікі — дзядзькі ў брызентавых куртках, у брылях, маўклівыя і спакойныя. Цурчыць, абягаючы чоўнікі, вада, размерана перакідваюцца доўгія, больш бамбукавыя, вуды — і раптам падсечка, пяе наструненая жылка, бліскае залатым бокам язь, скача, не даючыся падвесці сябе да чоўніка. Але дзядзька не спяшаецца, не рве, а павольна, непрыкметна для вока вядзе рыбу, дае глынуць ёй паветра, надыхацца нават ім, і памалу мацае левай рукой падсаку, апускае яе ў ваду. Рэзкі рух — і язь вісіць у сетцы, ужо і не б'ецца, стомлены, пазбаўлены свае стыхіі, свае хаты. На лодачнай прыстані, дзе хлюпаюць насамі ў вадзе самыя розныя — вялікія, малыя, пузатыя, доўгія, жалезныя — лодкі добра бяруцца на цеста гусцёркі. Зайшоў па лодках як падалей, сеў на любую, зрабіў вялікую глыбіню на жылцы — тут метраў пяць,— і цягай сабе гусцёрак, выбіраючы жылку рукамі. А ёсць яшчэ процілеглы бераг — далёкі, закрыты кучаравай, асмужанай сцяной лазнякоў, у якіх амаль не відаць акенцаў. Там цяжка знайсці месца, каб закінуць вуду, бо кусты разрасліся густа і шчыльна. Спачатку палазіш у іх — вада ў кустах цёплая, ажно забраснелая, патыхае цвіллю,— наабіраеш са слізкага вецця шыцікаў, і можна лавіць да вечара, аж пакуль не павісне пры самай зямлі ўжо нязыркае сонца, а ўвушшу не зазвініць ад доўгае цішыні: ніводнага чужога гуку, адно рыпяць ко-

нікі ды ўскрыкваюць кнігаўкі. Быццам і няма зямлі з людзьмі, машынамі і дамамі.

І ніколі хлопцы не лавілі рыбу ў цэнтры горада, там, дзе шырокім, каламутным, мыльным раўчуком улівалася ў Дняпро вада з гарадское лазні. Вада ў тым месцы смярдзела, была шмат цяплейшаю, і рыбы тут збіралася багата — большасцю, праўда, дробнай. Мацак і яго сябры нават смяяліся з тых, хто лавіў рыбу на Ванючцы, ім здавалася, што рыба там такая ж смярдзючая, як і вада. Хлопцы нават надавалі па шыі Шлёпу-меншаму, калі даведаліся, што той цэлы тыдзень бегаў да Ванючкі і насіў дамоў плотак і чырванапёрак. Каля таго бруднага месца збіраліся хлопцы з усяго горада, густа, адзін пры адным, стаялі па калена ў вадзе, ганялі чужых, калі ў тых добра бралася рыба. Мацака, напрыклад, сілком цягні туды — і ўсё адно ён не пойдзе. Гідкае месца. Тым больш што каля метызнага завода, там, дзе па ўсім беразе ляжаць шурпатыя дубовыя калоды, хлопцам з цэнтра можна добра налавіць акунёў. Калоды там ляжаць і ў вадзе, бліскаюць чорнымі спінамі, быццам жывёлы нейкія, на іх шмат сядзіць ракавінак-спіралек. Пахадзіў, пазбіраў і на гэтую ракавінку лаві сабе. Вада хоць таксама брудная, засмечаная трэскамі, кавалкамі кары, і колеру яна рудога, але бруд той нейкі прыемны, бо моцна пахне дрэвам. Далекавата толькі ісці туды, таму, мусіць, і таўкуцца хлопцы з Савецкай каля лазні.

— Да Чорнага зойдам ужо з рэчкі,— сказаў Валет.

Валету Мацак падабаўся больш за ўсіх хлопцаў, хоць той пераехаў на іхнюю вуліцу нядаўна. Мацак быў у нечым не такі, як астатнія. Ён не любіў, хаця і ўмеў, біцца, не лаяўся, паўтараючы за дарослымі розныя словы, а больш маўчаў, думаю-

чы аб нечым, і прыязна ўсміхаўся. Любіў Мацак расказваць, і Валета здзіўляла, колькі чытаў ён кніг. Самому Валету чытаць не выпадае — часу няма, а як дома прысядзе, маці пачынае крычаць, гоніць па ваду або ў магазін, дровы калоць. Валет і гойсае днямі па вуліцы, дахаты ходзіць рэдка. Бацька кінуў іх даўно, Валет ледзь памятае ўжо яго, а з маці ўсё нешта аскрыжаецца ён, не слухаецца. Валет даўно рашыў — пасля васьмі класаў пойдзе вучыцца на токара. Зусім добра будзе, калі ён з'едзе адсюль. Па гадах ён старэйшы на год ад сваіх аднакласнікаў, ад Мацака — прапусціў год, хварэючы. Кажуць, што ён лунацік, ходзіць уначы па хаце. Валет аб нечым такім здагадваецца, але сам нічога не памятае. А матка баіцца, водзіць яго да дактароў. Не, яшчэ год адвучыцца — і паедзе ў Гомель ці яшчэ ў які горад. Там не будуць ведаць, што ён лунацік. А да Мацака заходзіць у госці цікава. Нават проста сядзець — і то добра. Ён сёння абавязкова дапаможа Мацаку. Хоць у парк ісці небяспечна, але яны пойдуць туды толькі ўтрох.

Чутна, як нехта тупаціць па вуліцы з-за таго боку плота, ляскае клямкай.

— Мацак, гэй! — гэта крычыць Шлёп-меншы, баіцца зайсці ў хату.

— Ідзём! — хлопцы выбіраюцца з саду, ірвуць па дарозе кіславаты агрэст.

Мацак заскоквае ў хату і хапае кніжку пра індзейцаў, якую ўзяў учора ў бібліятэцы.

Валет і Мацак ідуць трохі ззаду ўсяе каманды, бо Шлёп-меншы запыліў наперадзе, як трактар, цягне за сабой густы хвост. Хлопцы адыходзяць убок, махаюць кулакамі.

— Слухай, а калі даведацца, дзе іхнія лодкі? —

кажа Валет.— Спакойненька адмыкнулі б — і хай плывуць, га?..

— Доўга, пакуль даведаешся,— хітае галавой Мацак.— Можа, потым, як не аддадуць донак.

— Можна было б Купцу сказаць...

— Не трэба. Калі што, ён і так на танцах будзе.

Раней Мацак нават і не думаў пра тых хлопцаў з цэнтра. Некаторых ён ведаў, бо яшчэ калі жыў на Юбілейнай вуліцы, гуляў у футбол за каманду «Хваля» на гарадскім чэмпіянаце. Гулялі на вялікім стадыёне мэблевай фабрыкі. Каманда з Савецкай лічылася самай моцнай. А іхняя «Хваля» ледзьледзь выйграла дзве гульні, адну прайграла хлопцам з Дубіцеля — адзін-нуль. І ў чацвёртай гульні з «Космасам» — так называлі каманду з Савецкай — Мацак забіў два галы. Яны выйгралі дваадзін. Трэнер з дзіцяча-спартыўнай школы тады падышоў да іх, недаверліва пахадзіў вакол Мацака і сказаў: «Ну можаш прыйсці ў верасні... Але ж худы ты нейкі...» Мацак і схадзіў тры разы на трэніроўку, але адчуваў ён сябе там чужым. Нават не хацелася гуляць. А хлопцы з «Космаса», якія трэніраваліся ў спортшколе амаль усе, хоць і не задзіраліся, але пазіралі на яго скоса. І ён кінуў футбол. А ўвогуле тым годам у якія толькі секцыі і гурткі не запісваўся ён. Першым быў гурток малявання. Як не паўгода цягаўся Мацак з папкамі і фарбамі, крыва вадзіў алоўкам па паперы, пэцкаў яе пэндзлікам. «Хлопчык адчувае колер! — гаварыў кіраўнік.— Малюй, не лянуйся. Глядзі, вось Ізя — ніводнага дня не прапускае». Тады Мацак перайшоў на баскетбол. На баскет хадзілі амаль усім класам, кучаю бегалі, ледзь не біліся за мяч. Трэнеру справы да іх амаль не было, адно прыносіў ён ім аранжавы, як апельсін, мяч. Два разы Мацак схадзіў на тапаграфічны гурток, бо там да-

валі страляць з «мялкашкі». Стрэльнуў — і больш не пайшоў. А недзе вясною ў іхняй школе сын дырэктара, кандыдат у майстры спорту па шашках, даваў сеанс адначасовай гульні на дваццаці дошках. Мацак соваў шашкі, чырванеў, вельмі баяўся. Кандыдат адну партыю звёў у нічыю — з чэмпіёнам школы, астатнія выйграў, а потым сеў насупраць Мацака. У кандыдата заставалася дзве шашкі, у Мацака — чатыры. Вакол іхняга століка стоўпілася як не ўся школа. Ад маўклівае і напружанае ўвагі Мацак успацеў, зусім разгубіўся і зрабіў нічыю. Вось пасля гэтага яго пачалі пазнаваць зусім незнаёмыя хлопцы, а аднавокі трэнер шахматыстаў з Дома піянераў ледзь не сілком завёў да сябе ў секцыю. Мацак кінуў шахматы ўжо недзе ў маі, навучыўшыся, праўда, сякім-такім дэбютам. Баскет Мацаку падабаўся намнога болей.

І цяпер Мацак чамусьці быў упэўнены, што тыя хлопцы з рэчкі яго ведалі.

А пахне ўжо лесам — высушанай на сонцы сасной, чорнай, голай зямлёй пад кустамі крушыны, перастаялай травой у маладым бярэзніку, і памалу, няўлоўна, тонка тхне грыбной сырасцю. Лес то разбяжыцца, выпусціўшы пад дарогу адно маленькія кусцікі, то стане сцяной, у якой няма, здаецца, ніводнага прагалу. Але памалу тая сцяна расступаецца, бо сосны асабліва шчыльнасці не любяць, і сонца шырокімі палосамі гладзіць, песціць зямлю, укрытую срабрыстым мохам, чарнічнікам, дзялянbackоачкамі заечае капусты.

У лесе павужэлая дарога круціцца, бы шустрая змейка-мядзянка, часта перапаўзаюць яе тоўстыя і тонкія карэнні, дзе-нідзе валяюцца небяспечныя для босай нагі леташнія хваёвыя шышкі. Дні тры таму Шлёп-большы хваліўся, што на самай дарозе, калі хадзіў нечага на смалакурню, знайшоў ба-

равіка. Ён сапраўды паказваў усім запыленага, з доўгай крывой нагою баравіка. «У самай каляіне рос,— расказваў Шлёп,— і свежыя сляды «газона» побач. А месца зусім голае, нават кусціка нідзе няма, і як яго ніхто не ўбачыў!»

Мацак міжволі аглядаецца наўкола, хаця гэта глупства, вядома, шукаць грыбоў на дарозе. Але ж усякае бывае. Мухамор дык будзе стаяць дзе хочаш, хоць пад ядлоўцавым кустом, хоць на дарозе.

— Глядзіце, каршук!..— Шлёп-меншы, задраўшы галаву, спатыкнуўся аб камень і выцяўся каленам. Скача на адной назе, а ўсё адно глядзіць угору.

У сіняй смузе кругамі, зусім нерухліва плавае каршук, абыякавы, здаецца, да ўсяго на зямлі ў сваіх неабсяжных нябёсах. Што ён бачыць адтуль, з такое вышыні? Гэта ж пад ім і лясы, і Дняпро з Вядрыцаю, і горад іхні ўвесь, ад лёнзавода да Дубіцеля. Чорт ведае колькі ўсяго. Чым яму хлопцы здаюцца? І наогул, што для яго людзі? Не баіцца ён, мусіць, людзей зусім.

Лес спачатку парадзеў, потым зусім адступіўся за спіну — волаты-дубы быццам адсунулі яго ад рэчкі, адкрылі свет.

Хлопцы замахалі рукамі, заскакалі, як маладыя козлікі, з крыкам і свістам, праз стракатую, у высокай траве лугавіну пабеглі да кустоў, з-за якіх ужо выблісквае халаднаватая Вядрыца. Тут, каля маленькае рэчкі, паветра сухое, чыстае, застылае; толькі зрэдку ўскалыхне яго слабы ветрык, якому няма як набраць моцы ў лесе. Адно прабяжыцца ён лугавінаю, гайдане высокую, дарасламу чалавеку па пояс, траву-баршчэўнік, здзьмухне даспелы, жоўценькі пылок-насенне, рассее збольшага яго наўкола, а то і не хопіць на гэта моцы, і зморшчыць лёгенька ваду ў рачулцы, саскочыўшы з высакавата-

га берага,— і знікне, растане ў густым, пацяжэлым ад спёкі паветры. Дрэмлюць дубы, нячутна бяжыць рака, плыве над лесам каршук...

Мацак неаднойчы заўважаў, што каля Вядрыцы паветра не такое, як на берагах Дняпра. Тут, здаецца, пахне кропам, дзягілем, напаўабляцелаю дзяцелінай, не тое што на вялікай рацэ, дзе заўсёды патыхае гніллю, нейкім распадам жывога — ці то ракавінкі тоўчаныя з прынады засталіся каля лодак, ці рыбіну дохлую прыб'е плюскатлівая, кароткая і частая хваля. І шмат пры Дняпры канавак, у якіх за лета не высахла затхлая, забраснелая вада. Здаецца, там гніе не толькі трава, але і сама вада.

Хлопцы прадзерліся праз густыя зараснікі кмену — і выскачылі да ракі. Толькі цяпер Мацак заўважыў, што ўсе калашыны штаноў у ваўчках. Карцела адразу скочыць у ваду, аднак пачаў абіраць вострыя, калючыя, як кручкі-заглотышы, ваўчкі. А набралася іх шмат, і прычапіліся яны моцна.

Нарэшце і ён разагнаўся і даў нырца з абрыўчыка, дзе глыбіня метры два. У вушах заспявала вада, задрыжала перад вачыма жоўтае дно. Мацак ледзь не тыцнуўся ў яго носам, праплыў над ім зусім блізенька, але нічога цікавага не трапілася на вочы. Ужо як вынырваў — убачыў нейчую нагу і тузануў за яе, але не моцна. Гэта Шлёп-большы сербануў вады, цяпер кашляў і пляваўся. Убачыўшы, што гэта Мацак прытапіў яго, зрабіў страшныя вочы і кінуўся лавіць крыўдзіцеля.

Плавалі, пакуль зусім не патаміліся. Тады вылезлі, паскакалі на адной назе, вытрэсваючы з вушэй ваду, разбрыліся берагам хто куды. Мацак лёг проста ў траву, разгарнуў кнігу. Аднак кніга, хаця і цікавая, нешта не чыталася. Вочы самі шукалі хлопцаў, якія ці збіралі ў траве шчаўе, ці лазілі

пры беразе, мацаючы пад абрывамі ментузоў, ціdзерліся невядома чаго на дрэва, падсаджваючы адзін аднаго. А Шлёп-меншы назбіраў ладную кучку каменняў і цяпер жмурыў вока, цаляючы ў гняздо шэршняў на бліжэйшым да рэчкі дубе. Мацак ужо і падрамаў трохі, і прачытаў старонкі дзве з кнігі, а Шлёп усё ўпарта кідаў. Але раптам ён загаласіў на ўсю рэчку і паімчаў да вады.

— Уцякайма!..

Невядомая сіла падкінула Мацака. Ён убачыў, як і астатнія хлопцы пакаціліся, блытаючыся ў высокай траве, да рэчкі. Нешта загуло каля вуха, як кап'ём, пеканула пад правую лапатку. «Шэршні!..» — здагадаўся, халадзеючы, Мацак. Ён так тупацеў сцежачкаю, што пяты, здавалася, падляталі да самае галавы. Нехта загаласіў ззаду, войкнуў зусім побач, і Валет, што бег перад Мацаком, боўтнуўся ў ваду проста з берага. Мацак пляснуўся за ім.

На роўнядзі вады раз-пораз выскаквае чыя-небудзь галава, глытае паветра і хаваецца зноў. Спакой, ласкавае сонейка, адно кругі на вадзе, калі вытыркнуцца каляровыя плаўкі альбо макаўка галавы. Па бурбалках бачна, што хлопцы, не згаворваючыся, паўзуць-плывуць да працілеглага берага, пад навісь густых кустоў. І вось ужо чуваць галасы, булькатанне, кашаль і стогны. Адна галава засталася ля гэтага берага, не хоча далучацца да астатніх.

— Ну, пачакай, зараза, ты ў мяне папомніш гэтых шэршняў...

— Павішчыш, як у дупло задам запхнем...

— Дакідаўся, гад... Гэта ж як зробіць што, дык праз тыдзень будзеш помніць.

— А баліць як... Адзін за шыю ўкусіў. Распухне, мусіць?

— А то не! Шэршні балючай за ўсіх кусаюцца.

Галава, што на адзіноце, маўчыць, пільнуе адно, каб быць як падалей.

Урэшце хлопцы асцярожна вылазяць з кустоў. Шлёп-меншы адразу кідаецца да адзежы, хапае штаны і знікае ў лесе. За ім не бягуць, толькі махаюць кулакамі.

Шлёпа-большага шэршні ўкусілі два разы, Мацака і Шымана па разу, Валет здолеў уцячы. Укусы чырванеюць, пухнуць, надта баляць. Крывячыся, хлопцы нацягваюць штаны і памалу, як інваліды, ідуць з рэчкі. Не чуваць гаворкі, смеху, толькі цяжкія ўздыхі ды крактанне. Мала б не было Валерку, Шлёпу-меншаму, каб трапіўся ён зараз кампаніі ў рукі. Але ніхто не ведае, што аж тры шэршні кусанулі таго ў спіну, што цяпер бяжыць ён, выціраючы слёзы, дахаты, а пякучы боль мацнее і шырыцца, бы гарыць ззаду кашуля. Вечарам у Валеркі падскочыць тэмпература, ды так, што будуць выклікаць доктара. Але гэта толькі яшчэ будзе.

Мацак ішоў кульгаючы — так яму было лягчэй. Ён раптам падумаў, што ўжо ніколі больш не ўбачыць сваіх донак. Гэтая думка працяла яго ўсяго, і яна была як той боль, што расплываўся па спіне ад укуса. «Дурныя яны донкі аддаваць? — паныла думаў Мацак, адганяючы авадня, што стукаўся ў лоб.— Скажуць, што нічога не ведаюць,— і ўсё. Паспрабуй дакажы. Ды і ці ўбачу іх?.. Вось гады...» Ён адчуў сябе зусім бездапаможным, і зноў у горле засеў камяк, які не праглынуць.

Усе маўчалі. Гаротны выгляд меў гэты ланцужок хлопцаў, што горбіліся, бы дзядкі, мацалі рукамі спіны, глядзелі адно сабе пад ногі. І Валет, хаця і не пакусаны, мала адрозніваўся ад сяброў, сутуліўся не горш за іх, маўчаў, цяжка ўздыхаючы.

Пра нешта думалі хлопцы, прыспешвалі ўсё хаду, каб хутчэй трапіць дахаты.

На пыльнай ускраіннай вуліцы, дзе большасць дамоў яшчэ толькі будуецца, пазірае на свет пустымі вокнамі, Валет збочвае ў завулак.

— Зайду да Чорнага,— кідае ён Мацаку.— Пад вечар збяромся.

Мацак не адказвае — яму не хочацца зараз ні гаварыць, ні слухаць, адно б пасядзець дзе ў цяньку.

Дома ён памыўся і хуценька сеў есці. Сам палазіў па каструлях, знайшоў суп, катлеты, тоўчаную бульбу. Маці была недзе на дварэ, бацька чытаў у зале, і Мацак не стаў нічога падаграваць — наліў спачатку халоднага супу, потым проста з каструлі маленькае з'еў тры катлеты. Адразу палягчэла, хоць і не знайшлося кампоту на трэцяе. Але ж без кампоту можна абысціся.

Укус, здаецца, балеў ужо меней, хаця правай рукой лепш было не варушыць.

Бацька ляжаў на канапе і чытаў «Праўду». Сястры Галькі не было ў хаце, пайшла, мусіць, да сябровак. Было ціха, адно пастуквалі на сцяне ходзікі ды ледзь-ледзь шаптала радыё.

— Зараз матка прыйдзе,— сказаў бацька, не адрываючыся ад газеты,— паабедаеш.

— Пад'еў ужо,— Мацак хадзіў з кнігаю, не ведаў, дзе прыткнуцца.

— Як гэта пад'еў? А гарачае? Першае трэба есці абавязкова.

«Ну, прычапіўся,— падумаў Мацак,— хоць ты з хаты ўцякай».

Але выхаваўчая работа на гэтым і скончылася. Бацька адклаў газету і паглядзеў на Мацака:

— Ну што, сын, паедзем наступнай нядзеляю ў Валюхі? Паглядзіш магілу дзеда, бабы. Пакажу,

дзе бацька твой рос. Там, дзе наша хата стаяла, цяпер Ролічы жывуць, суседзі. Як бацька памёр, яны за цёлку нашу хату і сад купілі. Даўно цётку Надзю не бачыў.

— Паехалі,— сказаў Мацак, павесялеўшы.

Мацак любіў ездзіць, глядзець на новыя, незнаёмыя мясціны, сустракаць людзей цікавых, розных, такіх, якіх не бачыў яшчэ ніколі. Як бацька ездзіў у камандзіроўкі па суседніх гарадках і вёсках, Мацак абавязкова прасіўся разам з ім. І дзіўнае здаралася з Мацаком у тых гарадках і вёсках — быццам некалі бачыў ён усё гэта, чуў гэты рып абслізганага, парэпанага жураўля над старою студняю, піў з драўлянага, абымшэлага ўжо нават вядра гэтую халодную, чыстую, як першы лядок, ваду, удыхаў гэты свежы пах толькі што пабітых бярозавых дроў. Быццам было ўсё гэта ў далёкім дзіцячым сне, а цяпер ажыло, паўстала перад Мацаковымі вачыма. Здаралася, ён аж уздрыгваў, убачыўшы якую-небудзь сядзібу на адзіноце ў вёсцы Вярхіні, і спыняўся на момант, уражаны яснасцю раптоўнага ўспаміну. Калісьці ён бачыў гэта — дарога, што паўзе на лысы груд, невялікі равок, па якім коціць-пеніць прадвеснем каламутны раўчук, хата з прыбудовамі, адарваная раўком ад вёскі. Ціша, самота вісіць над сядзібаю, хаця і сад вялікі пры ёй, і, пэўна, карова парыквае ў хляве надвячоркам, і чалавечая постаць можа праплысці за дылем. Хто жыве ў той сядзібе і як жыве? Не душаць людзей там доўгія гадзіны восеньскіх вечароў?

Грукнулі дзверы, у хату зайшла маці.

— Чуеш, Міхась,— пачала гаварыць яна яшчэ з парога,— гэта я да Валовікаў заходзіла, алею пазычыць трошкі. А Толя іхні толькі-толькі тэлевізар

прывёз з магазіна. Адразу паставілі, уключылі, хораша так ідзе.

— Ну дык што? — спытаўся бацька, паказваючы, што не надта ён і зацікавіўся навіною.

— Малыя як паселі на падлозе,— сказала маці да Віціка,— дык і не прайсці. Паўвуліцы назбіралася. Схадзі, глянь.

— Што я, тэлевізара не бачыў? — прабурчаў Мацак.— Па тэліку адзін футбол можна глядзець, а як кіно — не разабраць нічога.

— Чаму, кіно добра ідзе,— прысела да стала маці.— Ды ў нас яшчэ халадзільніка няма, што пра тэлевізар гаварыць...

Бацька паварушыўся на канапе, але нічога не сказаў, узяў газету і павярнуўся тварам да спінкі.

У хату з разгону, бы падштурхнулі яе з вуліцы, уляцела Галька — худая, загарэлая, хуткая, як верабей спуджаны. Падскочыла да маці, затармасіла яе: «Мама, есці хачу!» Галька цэлымі днямі гойсае па вуліцы, ніхто і не ведае, у каго і з кім гуляе. Мацак аднаго разу сустрэў яе з сяброўкамі ажно каля вакзала — і не здзівіўся надта. Галька куды хочаш зойдзе, абы знайшлося да каго. Здаецца, няма такога чалавека, які б не ведаў яе.

— Набегалася? — маці запальвае керагаз, стаўляе на яго суп.— Толькі пад'есці і прыбягае дахаты. Усе дзеці як дзеці, а гэта адны косці ды вочы.

— А я сёння ў Сяргеенкавай Тані была,— застракатала Галька, паспяваючы і хлеба ўкусіць, і лыжкай у каструлю залезці.— Татка іхні п'яны прыйшоў, лаяўся, а мы схаваліся ў спальні і чакалі, пакуль засне. А потым праз акно вылезлі ў сад. Парэчкі елі, агрэст і... цукеркі яшчэ, ага!

Ага — гэта ўжо да Мацака. Маўляў, яна, Галька, усё гэта каштавала, а ён — не.

— Зараз Віцікаву рыбу падсмажу,— сказала

маці, махаючы Гальцы, каб сціхла хаця на хвілінку,— нешта ты сёння мала злавіў.

І Мацак зноў адчуў, як заварушылася, запякла ўсярэдзіне крыўда. Яму не захацелася і рыбы свежае, хоць ён вельмі любіў яе падсмажаную — хай то будзе плотка, гусцёрка ці нават сібіль. Яна смачна пахла ракою, есці яе можна было з касцямі.

— Няхай Галька ўсю есць,— сказаў Мацак,— я не хачу.

— Што ты кругом стала ходзіш? — здзівілася маці.— Як сесці ўсё адно не можаш. Баліць што?

Мацак заўсёды дзівіўся такое здагадлівасці маці — яшчэ нешта недзе павінна быць, толькі-толькі во адбылося, а яна ўжо ведае пра ўсё, шкадуе ці сварыцца, у адпаведнасці з сітуацыяй. І надта ж цяжка яе ашукаць. Бывае, і выгляд зробіш, які трэба, і падраны кавалак кашулі ў кулак заціснеш, быццам руцэ гэтак зручней — а яна ўжо хітае галавой, нітку з голкай трымаючы, здымае кашулю і выгаворвае. Ці прыйшоў са школы і як падалей сумку закінуў — можа, не ўбачаць яе, не ўспомняцца на дзённік з сённяшняю двойкаю. А маці пазірае ўжо дакорліва, і вочы ў яе такія, што проста, здаецца, праваліўся б куды-небудзь на той бок зямлі, бо няма нічога горшага за сорам. І маці ж ніколі не скажа пра той дзённік, калі ў бацькі благі настрой, а от усё адно...

— Ды так,— сказаў Мацак,— сонца напякло.

І цішком-цішком у спальню, дзе цемнавата, бо шчыльна завешаны вокны, халаднавата. Лёг жыватом на ложак, сцішыўся, прымружыў нават павекі — быццам спіць.

— А от жа ўмеюць людзі,— гаварыла ў зале маці,— Шабловіч Мікола нядаўна хату новую ставіў, а цяпер матацыкл з каляскаю купляе. Як у Івана

нашага матацыкл, вялікі. Дык Іван колькі гадоў збіраў грошы.

— Адкуль гэта ты ўсё ведаеш? — адчуваецца, што пра матацыкл бацьку даведацца цікава.

— А во! На вуліцу ж я хаджу. І сама Марыя іхняя казала.

Шабловіч — бацька Шлёпаў. На некалькі вуліц ён самы лепшы рыбак. Больш за ўсё ён любіць лавіць вудамі на жыўца. Вуды ў яго адмысловыя — доўгія, гнуткія, з дзіўнай зялёнай жылкаю і стальнымі павадкамі. І паплаўкоў на адной вудзе два — звычайны, дробненькі, і вялікі, як яблык. На рыбу ён ездзіць адзін, ніколі не бярэ з сабой нават сыноў. Тыя баяцца яго і ніколі не просяцца. А Мацак не вытрымаў бы, папрасіўся б. Аднойчы дзядзька Шабловіч злавіў шчупака на сем кілаграмаў. Плямісты, тоўсты, слізкі шчупак ляжаў на ўвесь стол. Кот Васька дык аж забаяўся яго, уцёк на двор. Дзядзька Мікола сядзеў каля шчупака на табурэтцы і моўчкі курыў. Не расказаў нават, дзе лавіў і як выцягваў гэтае страшыдла.

А Мацакоў бацька на рыбу не хадзіў ніколі. Аднойчы толькі, як ездзілі да сваякоў у Ліпічы, бацька згадзіўся палазіць з брадніком. Рэчка каля Ліпічаў круцілася зусім маленькая, аднак канаў і азерцаў каля яе блішчала шмат. Дзядзька Базыль пасадзіў усіх у кузаў свайго «газіка» і паехаў ледзь бачанымі дарогамі, а то і проста па лугавіне. У зарослых канавах вада была цёплая, ногі глыбока правальваліся ў твань, і над брадніком скакалі вострагаловыя маладыя шчупачкі. Адзін нат даў Мацаку ў жывот. Бацька старанна цягаў бараднік, лез, не баючыся, на глыбокае, але не пакрыкваў ад радасці, калі шчупакоў траплялася шмат. Ён не ўмеў на рыбе радавацца. Затое еў тых шчупачкоў са смакам.

У Ліпічах ужо ў першы свой прыезд Мацак праславіўся як фокуснік. Яго стрыечныя браты Сяргей і Толік, крыху малодшыя ад яго, былі так уражаны Мацаковым фокусам з хлебнымі шарыкамі, што аж павялі яго па вёсцы як нейкае дзіва, і Мацак усюды з поспехам паказваў свой фокус. Пра гэты фокус Мацак вычытаў у часопісе — на стол клаліся некалькі хлебных шарыкаў, яны па чарзе накрываліся дзвюма шапкамі — Мацак іх здымаў проста з гледачоў, — а ў канцы ўсе шарыкі аказваліся толькі пад адной шапкаю. Нічога складанага там не было, адно некаторы час патрэбен быў, каб налаўчыцца спрытна хапаць шарыка ўказальным і сярэднім пальцамі. Робіш выгляд, што накрываеш шарык шапкаю, а сам зацiскаеш яго пальцамі і кідаеш, куды трэба. Нічога складанага. Але вясковых хлопцаў фокус так уразіў, што яны прынялі Мацака гуляць у футбол і завялі ў калгасны сад на яблыкі. І з ім ніхто нават не паспрабаваў пабіцца, што ў незнаёмых вёсках здаралася даволі рэдка.

У тарфяным возеры каля Ліпічаў Мацак злавіў пакуль што самага вялікага ў сваім жыцці ляшча. Лешч ажно не ўлез на патэльню. І тады ж, у тыя канікулы, Мацак закахаўся ў суседскую дарослую дзяўчыну Дзіну. Ён добра помніць — калі ён бачыў Дзіну, у яго аж перацiскала горла, было цяжка дыхаць. Дзіна была прыгожая, любіла смяяцца, каталася на веласіпедзе з дарослымі хлопцамі і спявала песню «Ты ж мяне падманула».

— Хто як умее, той так і пяе,— пасля доўгага маўчання сказаў бацька.— У нас з Шабловічам песні розныя.

— А ён жа простым слесарам працуе,— маці быццам не зразумела бацьку.

— Каб мяне, як яго, злавілі з крадзеным... Да-

лібог, з'ехаў бы куды-небудзь, каб людзям у вочы не глядзець. А ён хоць бы што, не саромеецца.

— Ага,— маці раптам лёгка згадзілася з бацькам,— дабром у яго не скончыцца.

І Мацак не заўважыў, як задрамаў у паўзмроку спальні. Пайшоў ён сціснутаю жытамі дарогай, зрываючы вусатае, колкае калоссе, вылушчваў на далонь зерне і еў. Зярняты чамусьці ўжо былі падсмажаныя, салодкія. І раптам цень слізгануў над ім, вялікі, страшны. Мацак убачыў, як пікіраваў на яго каршук, выпусціўшы далёка наперад кіпцюры. У Мацака ў руках яго цудоўная вінтоўка — стрэл, другі, трэці, усё міма, але каршук усё ж гайсануў у неба, і наўздагон яму цэлую абойму! Здаецца, пацэліў, бо знік каршук... І тут бы хто паклаў яму на плячо руку, лёгенька тузануў, так, што аддалося ў параненай — ці не каршуном? — спіне. Мацак прачнуўся.

У зале гаварылі, бацькаў голас сказаў: «Мусіць, спіць».

Мацак борздзенька падхапіўся, пацёр рукамі твар, каб не відаць было, што спаў, і выйшаў у залу. Ля дзвярэй стаяў Чорны, трымаўся за ручку, бы баяўся адпусціць яе, у сенцах яшчэ нехта шкрабаўся.

— Я зараз,— сказаў Мацак,— штаны другія адзену.

— Мы на вуліцы чакаем,— Чорнаму шмат лепш было на вуліцы, як тут.

— Ты ж не еў яшчэ,— запярэчыла маці,— зараз я хуценька яечню, каўбасы падсмажу.

— Тата, ну я ж пад'еў ужо. Калі ты на вуліцу хадзіла. Бацька, скажы,— Мацак спяшаўся, круціўся, шукаючы кашулю.— Я скора прыйду.

— Каб да цямна дома быў! — крыкнула маці, калі Мацак выскачыў ужо ў сенцы.

Валет і Чорны стаялі ля веснічак, Чорны ад няма чаго рабіць падкідаў сцізорык, а Валет еў агурок з хлебам і салам. З Чорным Мацак вучыўся ў адным класе. Той, калі ў пятым класе пачалі вучыць англійскую мову, сам прыдумаў сабе мянушку — Блэк. Хадзіў і гаварыў усім — я Блэк, а не Пецька, капітан Блэк. Аднак хлопцы, бы згаварыўшыся, прыляпілі яму Чорнага. І ўсіх гэта задаволіла. Так і пайшло — Чорны, нават у ягонай маткі пыталіся — а Чорны дома? І тая нічога, адказвала, што ўжо носіць яго недзе нячыстая, з самага ранку няма ў хаце.

— Шэршань укусіў, дык баліць,— сказаў Мацак да Чорнага, каб той не падумаў, што проста так ён узяў і лёг спаць сярод белага дня.

— Запомніў, хто донкі ў цябе свіснуў? — Чорны кінуў і ўтыркнуў сцізорык у плот, адно дробненька задрыжала ручка.

—Аднаго ведаю. З Савецкай.

— На танцах зловім?

— Савецкія ўсе ў парк ходзяць. Сёння ж нядзеля.

Валет даеў хлеб з салам, абцёр рукі аб штаны, уздыхнуў. Дома ён амаль не абедаў — схопіць, што ў рукі трапіць, і спакойна з'есць усё на вуліцы. Не заўсёды, праўда, хапае таго, што схопіш, таму і ўздыхнуў ён зараз.

— Пайду, яблык у цябе сарву,— сказаў ён да Мацака.

— Давай.

— На Савецкай шобла здаровая.

Чорны сказаў тое, пра што баяліся гаварыць Мацак і Валет. Хлопцы ведалі, што лёгка донкі ім ніхто не addасць і што без бойкі наўрад ці абыдзецца. Але Чорны сказаў пра гэта, і Мацаку неяк зрабілася лягчэй. Ён адчуў, што Чорны сказаў пра

шоблу не з-за боязі, а проста адзначыў — справа, канечне, нялёгкая, ды ці ж можам мы выбраць лягчэйшую? Якая ўжо трапілася, з такой і будзем разбірацца.

— А мы што, не шобла? — спытаўся Валет, які ўжо стаяў побач і грыз яблык.— Думаеш, яны не баяцца нас?

— Навешаем,— згадзіўся Чорны.— У зубах тыя донкі прынясуць.

Наогул, Чорны быў не рыбак, і калі б у яго самога ўкралі донкі ці вуду, ён бы шмат не перажываў. На рыбу ён амаль не хадзіў, казаў, што заране ўставаць трэба, а раніцою спіцца яму — як забітаму. Многа болей Чорны любіў гуляць у футбол і калупацца з транзістарным прыёмнікам. Майстраваў яго Чорны з паўгода, але пакуль што ў ім толькі моцна трашчала, а галасоў ці музыкі чуваць не было.

— Пайшлі,— сказаў Валет.

Хлопцы памалу, засунуўшы рукі ў кішэні, падаліся ў бок цэнтра.

Спёка ўжо сышла. Цераз усю вуліцу ляжалі доўгія цені дрэў, на лавачках сядзелі старыя, пазіралі перад сабой, не баючыся ўжо нязыркага сонца. Вуліцы як пашырэлі, адкрываліся далёка наперад, і ў цішыні, што легла на іх, выразна бразгалі клямкі весніц, ускрыквалі дзеці і гаманілі дарослыя. Каля дома Цішковай Валі, дзе стаялі збіты з дошак стол і дзве лаўкі, ужо збіраліся мужчыны. Выхаднымі днямі яны гулялі ў карты на інтэрас. З хлопцаў вуліцы гуляць з імі ў дурня дазвалялася толькі Валету, і Валет надта ганарыўся гэтым. Сапраўды, была ў гэтым высокая адзнака яго ўмення, бо звычайна з прайграўшых смяяліся з'едліва і доўга. І калі дарослыя згаджаліся сесці з Валетам у пару, значыць, той сапраўды гуляў добра.

Каб не трэба былоісці ў парк, Валет, канечне, скіраваў бы да карцёжнікаў, але цяпер ён нават не павярнуў у іх бок галавы, каб лішне не перажываць.

Ісці яшчэ далёка, і Мацак пачаў думаць. Мацак і не помніць, калі ён пачаў выдумляць неверагодныя гісторыі са сваёй асобай у цэнтры. То ён ваяваў з крыжакамі, то трапляў у марское падарожжа вакол свету, то станавіўся чалавекам-рыбай і жыў разам з дэльфінамі ў акіяне. Калі ён думаў, ішлося намнога лягчэй і хутчэй. Часам ён нават шкадаваў, што дарога канчалася, і быў гатовы ісці яшчэ і яшчэ. Але цяпер вось думалася не так лёгка, як заўсёды — заміналі хлопцы. Яны гаварылі, пыталіся, не замаўкалі ні на хвіліну.

Наперадзе Мацак заўважыў дзвюх дзяўчынак, і адразу пазнаў іх. Гэта былі яго аднакласніцы Таня Купрэенка і Люба Валовіч. Сяброўкі — яны нават сядзелі на адной парце — былі аднаго росту, але цяпер Таня выдавала вышэйшаю. Яна ішла неяк няўпэўнена, накульгваючы. Мацак паўглядаўся пільней — і ўсё зразумеў. Таня надзела туфлі-лодачкі свае старэйшае сястры, і высокія і тонкія абцасы не хацелі станавіцца на зямлю роўна і цвёрда. То правая, то левая нага Тані быццам падломліваліся, дзяўчынка спалохана хапалася за Любу.

Дзяўчынкі разам, бы згаварыўшыся, азірнуліся, убачылі хлопцаў і засмяяліся. Мацак зразумеў, што сяброўкі ідуць на танцы, і яму чамусьці зрабілася няёмка. Хлопцы хаця і хадзілі ў парк, але таўкліся больш пад агароджаю танцпляцоўкі, толькі зрэдку адважваліся зайсці ўсярэдзіну, дзе шчыльным натоўпам стаяла, смяялася, кружылася ў танцы моладзь. А некаторыя дзяўчынкі з іхняга

класа — Таня з Любаю таксама — ужо танцавалі з вялікімі хлопцамі і нікольکі не саромеліся.

Мацак успомніў, як некалькі дзён таму малыя Савосцік і Якубёнкаў Юрка ўгаварылі яго пайсці на гарадскі пляж. Валета і Чорнага не было дома, Шлёпы з самае раніцы, не сказаўшы нікому, пайшлі лазіць з таптухаю, і Мацак нудзіўся на лавачцы каля свае хаты адзін. Малыя баяліся хадзіць на пляж без большых хлопцаў, таму і не адыходзілі ад Мацака, прасілі яго пайсці разам з імі. Мацак загадаў ім нарваць салодкіх яблыкаў, узяць па кавалку вяндліны, і яны рушылі. На доўгім і вузкім пляжы людзей было шмат. Заняты быў не толькі гарачы і гладкі пясок пры вадзе, але і сярод тоненькіх дрэўцаў, якія пасадзілі паўз раку ўсяго гады два таму, ляжалі на посцілках купкі людзей. Мацак выбраў месца каля нешырокага рукаўчыка Дняпра — тут былі кусты лазняку, у рукаве рос трыснёг, а людзей ляжала і хадзіла не так многа. Малыя назбіралі сухога трыснягу і пачалі рабіць плоцікі. Мацак крыху паляжаў, пакруціў галавой, шукаючы знаёмых, нарэшце дастаў апошнія дваццаць капеек і адправіў Савосціка па ліманад. Сонца прыпякала як мае быць, ажно слязіліся вочы і часамі знікала пляжная гамана, адно стаяў увушшу тоненькі звон. Мацак пайшоў купацца. Ён нырнуў пару разоў з абрыўчыка, сплаваў на сярэдзіну ракі, паляжаў на спіне, адчуваючы, як гойдае яго моцная дняпроўская плынь, імкліва нясе паўз доўгі пляж. У блакітнай чысціні неба нерухома віселі толькі два воблачкі. У Мацака раптам сціснулася ад радасці сэрца, ён моцна баўтануў нагамі і глыбока нырнуў у мутную і глыбокую гушчыню. Дна не было відаць, і невядома, дзе было яно. Мацак ледзь не задыхнуўся, глытнуў смачнага паветра і, малоцячы нагамі і рукамі, паплыў да берага. Выйшаў з вады ён мет-

раў за сто ніжэй іхняга месца. Ён пайшоў паўз прыстань, каля доўгага ланцужка пляжных грыбкоў, пад якімі калупаліся ў пяску зусім малыя дзеці. У руках і нагах адчувалася прыемная стома. І ў жываце ўжо смактала, хацелася есці. Вочы нібы прамыліся вадой, і фарбы летняга пляжу — пярэстыя купальнікі жанчын і дзяўчат, зялёная сцяна лазнякоў на процілеглым беразе, жоўты пясок, чырвоныя брылі грыбкоў — зрабіліся нашмат ярчэйшымі. Мацак нават адчуваў, як сохлі на скуры кропелькі вады. І ўжо недалёка быў іхні рукаўчык, дзе чакалі яго малыя з бутэлькай ліманаду, як убачыў ён Купрэенкаву Таню з нейкай дарослай дзяўчынай. Яны толькі-толькі, мусіць, прыйшлі, паспелі адно раскласці посцілку і скідалі сукенкі. І Мацак раптам убачыў, што Таня і яе знаёмая сталі зусім падобнымі, амаль аднагодкамі — у купальніках аднаго памера, даўгалыгімі, з высокімі грудзямі. Мацака ажно кінула ў жар. Яму вельмі не захацелася, каб Таня ўбачыла яго разам з Савосцікам і Юркам. Ён патроху адышоўся ўбок, спыніўся каля грыбка, цікуючы за дзяўчатамі. «Падыду да іх, а што?..— раптам падумаў ён.— У іх, можа, кніжка якая ёсць, папрашу...» Аднак ногі не ішлі і хутка-хутка білася сэрца. І нават з нейкаю палёгкаю Мацак убачыў, як да дзяўчат упэўнена падышлі вялікія хлопцы, паселі на посцілку і пачалі гуляць у карты. Таня весела смяялася, абедзвюма рукамі папраўляла валасы, лёгенька штурхала аднаго хлопца, які спрабаваў пакласці ёй на калені галаву. З напружанай спіной, гледзячы толькі наперад, Мацак прайшоў да свае адзежы, хуценька апрануўся і пабег дахаты...

Таня з Любаю яшчэ раз азірнуліся і зноў пырснулі ў кулак, зайшліся смехам.

— На танцы бягуць,— сказаў Чорны.— Танька

з Шульжанковым Валодзем ходзіць. Даўно ўжо.

— Здаровая,— глыбакадумна зазначыў Валет.— Вышэй за ўсіх нас.

— Ну,— Чорны падфутболіў каменьчык, але той да дзяўчат не даскакаў,— казала, што не пойдзе ў восьмы клас. На работу хоча.

— І замуж,— Мацак сказаў і засаромеўся.

Хлопцы адабральна і наўмысна моцна зарагаталі.

З парку ўжо чуваць гукі аркестра, на вуліцы пабольшала людзей, якія няспешна, па два і па тры, ідуць у адным кірунку. Жанчыны ў лёгкіх стракатых сукенках, мужчыны ў святочных гарнітурах, многія без пінжакоў. Некаторыя вядуць за руку дзяцей. У парку ўжо, мусіць, ва ўсю моц рыпяць арэлі, круцяцца каруселі, гандлююць марожаным, ліманадам, коржыкамі. На танцпляцоўцы народу яшчэ няшмат, але вакол яе растрывожаным мурашнікам сноўдае моладзь, дзяўчаты яшчэ з дзяўчатамі, хлопцы з хлопцамі. Аркестр іграе як быццам сам сабе — круг для танцаў пусты. Але вось-вось прагучыць нейкі нячутны сігнал — і ў вароты густа, спяшаючыся спазніцца, паваліць моладзь, за лічаныя хвіліны запоўніць усе куткі і нават частку круга. Меншыя хлапчукі, якія сядзяць на лавачках каля агароджы і стаяць пад дрэвамі, замітусяцца таксама, і найбольш смелыя, завадатаі, палезуць праз верх. Цёткі, што стаяць на кантролі, ужо даўно чакаюць гэтага — гвалт, крыкі, тузаніна. Ды дзе ты ўпільнуеш усіх? Вялікія хлопцы рагочуць, свішчуць, дзяўчаты спалохана адскокваюць ад вёрткіх хлапчукоў, якія шыюцца ў самую гушчэчу, знікаюць у ёй бясследна. І зноў на нейкі час спакой. Пакуль не выйшлі на сярэдзіну першыя пары, у руху ўвесь натоўп — ідуць па вялікім кругу парамі дзяўчаты, кідаюць хуткія позіркі направа-налева, шу-

каюць таго, хто патрэбен ім сёння. Хлопцы ідуць больш незалежна, смяюцца, вітаюцца са знаёмымі — хай усе бачаць, што не адзін ён тут сёння, а з сябрамі, і сяброў гэтых шмат, так што майце на ўвазе. «Каралі» танцаў стаяць у акружэнні ад'ютантаў, вакол іх метры два-тры пустога месца. Гэтыя каралі — ужо дарослыя дзецюкі, якія ці ажаніцца не паспелі за гарэлкаю і гулянкамі, ці пакідалі ўжо сваіх жонак, а цяпер вось уладарным вокам глядзяць за парадкам, трасуць біцэпсамі і да часу хаваюць у кішэнях кулакі, што прынеслі ім славу. Мацак ганарыцца, што ведае аднаго караля — Мустафу. Той жыве на лёнзаводзе ў сваёй хаце, часта ходзіць п'яны, а Мацака ведае з-за бацькі ягонага — той яму ў нечым дапамог.

Мацак, Чорны і Валет скіравалі да галоўнае алеі, па якой цёк густы паток гараджан. Людзі ішлі павольна, перагаворваліся. Над натоўпам раз-пораз узлятаў жаночы смех і знікаў, бы абсечаны, вырываліся з агульнае гаманы асобныя выразныя словы, але запаўняў усё наўкола шоргат падэшваў аб асфальт. Заглушалася нават рыпенне арэляў і каруселяў, і вяршаліны соснаў таксама бязгучна плылі ў прыкметна пагушчэлым паветры. Мацак раптам убачыў Вайтовіча — аднавокага трэнера шахматыстаў у гарадскім Доме піянераў. Ён хацеў быў схавацца за спіны хлопцаў — і не паспеў: Вайтовіч выхапіў яго з натоўпу адным вокам, спыніў, прыкуў да асфальтавае дарожкі і цяпер набліжаўся высокі, худы, у вялікім незашпіленым пінжаку з крысамі-крыламі. У Мацака апусцілася долу галава.

— Мацкевіч, добры вечар! — гаварыў Юрый Мікалаевіч, стаўшы перад Мацаком, як слуп.— Гуляем, да? Азонам дыхаем, выглядаем дзяўчат?

А шахматы ўжо цябе, значыць, не цікавяць? Ты іх ужо не любіш?

— Люблю,— з глыбокім уздыхам сказаў Мацак, падняў вочы на трэнера.— Я тады хацеў быў прыйсці, ды... Тройкі былі.

Мацак выдумляў, чырванеў, соп. Яму было сорамна — ён кінуў хадзіць на шахматы якраз перад абласнымі спаборніцтвамі ў Гомелі. Юрый Мікалаевіч Вайтовіч запісаў Мацака ў каманду, а той якраз у гэтыя дні рашыў, што баскетбол намнога цікавей за шахматы.

— Давай прыходзь,— сурова сказаў Вайтовіч.— Я кожны чацвер у Доме піянераў. Можаш і дамоў заходзіць.

— Мы-гы,— даў згоду Мацак. У гэтую мінуту ён мог паабяцаць што хочаш.

Вайтовіч, махаючы крысамі-крыламі, пайшоў далей, і Мацак з палёгкаю азірнуўся. Валет і Чорны ўзніклі побач невядома адкуль.

— Што, уцячы не мог? — спытаўся Чорны.— Мы вунь за помнік схаваліся — і ўсё.

— А,— махнуў рукой Мацак,— давай лепш тых шукаць.

І тут усе ўспомнілі, што яны прыйшлі ў парк па пільнай справе; іх спіны напружыліся, чуць-чуць сагнуліся ногі, уважліва забегалі вочы. А ў Мацака падкацілі пад сэрца хваляванне — хутка, праз некалькі імгненняў павінен ён убачыць т ы х. І тады можа быць усё — удары, боль, нянавісць, усё можа быць, акрамя аднаго: не можа быць адступлення перад подласцю. Ён ішоў чуць наперадзе, і Валет з Чорным нават слова не сказалі, без пярэчанняў аддалі яму камандзірскае месца і трымаліся трошкі ззаду.

Неўпрыкмет зацямнелася, у гушчыні неба зніклі калматыя вяршаліны соснаў, заміргала ў іх пер-

шая кволая зорка. У яркіх плямах ліхтароў ішлі вясёлыя людзі, і неба ўжо аддзялілася ад тлумнай зямлі, на якой не было спакою, раскрылася над гэтай зямлёй недасяжнасць, тая недасяжнасць, у якую імкнецца чалавечая думка, ляціць да сузор'яў і згарае, як іскрынка над невялічкім вогнішчам — паглынае яе неабдымная прастора. І можна ўбачыць, здавалася неаднойчы Мацаку, як плыве планета Зямля ў маўклівым бяздонні Сусвету...

А ў плямах святла ішлі людзі, з танцпляцоўкі ляцела музыка, прыспешвала рух натоўпу і вызначала яго шлях. Гукі духавога аркестра былі невыразныя, прыглушаныя, але яны цёпла і мякка датыкаліся да Мацаковага сэрца. І ў сэрцы з'яўляліся радасць і песня, і яно сціскалася, як ракавінка-перламутраўка, выхапленая з вады. І ад таго, што сэрца сціскалася, да радасці і песні далучаліся сум, трывога, чаканне.

Перад уваходам на танцы натоўп ужо віраваў. У Мацака ажно крыху закружылася галава ад мільгання стракатых сукенак, ён разгубіўся. Ён баяўся, што не ўбачыць, прапусціць тых хлопцаў, дарэмна прастаіць пад гэтай сасною ўвесь вечар. А людзі ішлі і ішлі з усіх бакоў, на імгненне з'яўляліся і знікалі.

— Хадзем пад ларок,— сказаў Мацак, каб хоць што-небудзь зрабіць, а не стаяць бездапаможна і круціць галавой.

Перад ларком тоўпіліся адныя мужчыны, размаўлялі, прыкладаліся да вялікіх куфляў з півам, нікуды не спяшаліся. У ларку мужчыны стаялі так шчыльна, што ніяк нельга было прабіцца да прылаўка. Пад столлю касмылямі плаваў шызы папяросны дым, усе гукі глушыў роўны і басавіты гул. Мацак убачыў белую кашулю і адразу пазнаў яе, вужом пашыўся паміж дзядзькавых спін. У чарзе

стаяў дзядзька Іван, выціраў змакрэлы лоб хусткаю, і ўсім бачна было, што на правай руцэ ў яго не хапае двух пальцаў. Дзядзька Іван Пак, сваяк Мацкевічаў па жонцы, прыехаў у гэты горад пасля вайны. Сам ён быў аднекуль з Волгі, вузкавокі, вельмі не падобны тварам да беларусаў. Але ён быў вясёлы, тонкі ў поясе і шырокі ў плячах, і Мацак любіў свайго дзядзьку, ганарыўся, што ў таго ёсць магутны матацыкл КМ-750. Дзядзька ездзіў на гэтым матацыкле неяк вельмі прыгожа — лёгка і зухавата.

— А, Віцька,— дзядзька Іван зусім не здзівіўся, убачыўшы ў ларку пляменніка, прыцягнуў яго за плечы да сябе.— Піва п'еш? Не? А сітро тут, мусіць, не прадаюць...

— Ды я сітра не хачу,— сказаў Мацак,— я так проста зайшоў.

— Ага, ну-ну. Тут, панімаеш, сябры сустрэліся. Трэба ж выпіць, а?

— Трэба,— засмяяўся Мацак.

— А потым я адразу дахаты,— паабяцаў дзядзька.— Там, панімаеш, жонка.

— Ну я пайду...— дзядзька быў ужо ля самага буфетчыка, і Мацак, каб не замінаць, выскачыў з чаду ларка на свежае паветра.

Валет і Чорны цярпліва стаялі каля прыступак, і Мацак хацеў быў сказаць пра дзядзьку, пра піва і бутэльку, якую будуць зараз «давіць» дзядзька Іван з сябрамі, але словы камяком заселі ў горле, ажно зрабілася балюча. Па тварах сяброў Мацак зразумеў, што тыя заўважылі хлопцаў з Савецкай і цяпер чакаюць яго. Мацак цяжка, перамагаючы нейкае здранцвенне ў шыі, павярнуў галаву ўправа. Пад слабым ліхтаром стаяла купка хлопцаў, Мацаковых аднагодкаў, і бліжэйшы быў той самы хлопец, які выбіраў «кошкай» донкі. Мацаку нават не трэба

было яго пазнаваць. Хлопцы стаялі вельмі незалежна, перагаворваліся, адзін з іх курыў, далёка ўбок адстаўляючы руку з цыгарэтай. У Мацака ўсярэдзіне ўзнік лядзяк, які спыніў, здавалася, сэрца, і вакол ледзяка ўтварылася пустата. Мацаку не было страшна, але думкі блыталіся. Ён на нягнуткіх нагах сышоў з прыступак і спыніўся каля сяброў. Ён не мог адвесці вачэй ад таго хлопца, які спакойна стаяў і слухаў свайго таварыша. Мацака больш за ўсё ўражвала тое, што хлопец стаяў так спакойна і ні аб чым не здагадваўся. Ён нават усміхаўся.

— Ну, што ты маўчыш? Вось гэтыя з Савецкай, я іх ведаю,— Чорны нават тузануў Мацака за рукаў, занудзіўся, мусіць, з усімі гэтымі пошукамі. Ён наогул быў вельмі нецярплівы.

— Ды тыя самыя,— глытнуўшы сліну, сказаў Мацак і здзівіўся, што голас яго быў такі спакойны.

— Усе ўтрох? — цяпер і Валет захваляваўся, затупаў на месцы.

— Не, адзін толькі, у безрукаўцы.

— Трэба іх пераняць, пакуль на танцы не пайшлі.

— А яны, можа, і не пойдуць. Каб захацелі — даўно там былі б.

— Ну.

— Бачна ўсё тут, людзей шмат.

— Можа, адыдуцца...

Мацак зусім не ведаў, што рабіць яму цяпер, бездапаможна аглядаўся, торгаў плячом. Чамусьці вельмі захацелася пазяхнуць. «Будзе табе дудка, будзе і свісток»,— круцілася ў галаве недарэчная, зусім не да месца прымаўка.

— Як толькі пойдуць — адразу за імі,— гаварыў Валет, пацепваючы плячыма. Ён ажывіўся, бы перад гульнёй у футбол, быў нават не падобны на сябе.

З танцпляцоўкі даляцеў вальс, і ўсе, хто быў з гэтага боку агароджы, не на танцах, міжволі павярнулі галовы, бо ўжо закружыліся, паляцелі над пляцоўкай першыя пары; людзі ўважліва ўглядаліся праз дзіркі, хаця мала што можна было разгледзець на пляцоўцы, бо з таго боку моладзь стаяла вельмі шчыльна. Мацак таксама не змог не павярнуць галавы, але краем вока ўсё ж бачыў купку ворагаў. Адно мужчыны з куфлямі піва не звярнулі ніякае ўвагі на гэты вальс, усё гэтак жа заўзята гаварылі пра нешта вельмі важнае і, мусіць, сакрэтнае, бо нахіляліся яны адзін да аднаго зусім блізка, а каторыя дык гаварылі проста ў вуха сябру. Сёй-той спрабаваў перакрычаць усіх разам з аркестрам, але надоўга яго не хапала. Некалькі чалавек, досыць п'яных, проста ківаліся на адным месцы, гледзячы перад сабой або долу. Адзін дзядзька ў вялікім здзіўленні круціў на ўсе бакі галавой, спрабаваў, мусіць, зразумець, якая халера яго сюды занесла і дзеля чаго, але зрушыць з месца, бачна было, не мог.

Мацак раптам убачыў, як да тых, з Савецкай, падышоў хлопец, павітаўся з усімі за руку і застаўся стаяць каля іх. Сэрца тарганулася, закалацілася яшчэ хутчэй. Хваляванне ўзмацнела, Мацак нават адчуваў яго фізічна — быццам звінела ў ім напятая жылка з вялізнай рыбінай на канцы, і жылка гэтая ў любую секунду магла лопнуць.

Валет адышоў быў некуды ўбок, потым зноў узнік побач.

— А што стаяць, хадзем,— сказаў ён.

— Ну хадзем...— Мацак глыбока ўздыхнуў, як перад нырцом з абрыву.

Усе ўтрох, не дамаўляючыся, засунулі рукі ў кішэні і пайшлі — Мацак наперадзе, Валет з Чорным па баках крыху ззаду. Мацаку здавалася, што ідуць

яны вельмі доўга. Той хлопец, што быў у лодцы, зусім павярнуўся спіною, гаварыў з высокім, і бачылі іх толькі два ягоныя сябры. Але яны ні аб чым пакуль не здагадваліся, пазіралі на хлопцаў абыякава, як на звычайных прахожых. І ўсё ж аднаго нешта насцярожыла — мусіць, тое, што тройка ішла проста да іх, не заварочвала ўбок. Ён стукнуў па руцэ высокага і сказаў нешта, і цяпер павярнуўся тварам да Мацака той, што ўкраў донкі. І Мацак адразу ўбачыў, што яго пазналі, бо па твары хлопца слізганула крывая ўсмешка, а вочы забегалі спалохана, вінавата. Ён нават закруціўся на месцы, як вінаваты сабака, да якога падыходзіць раззлаваны гаспадар. Але тут высокі спытаўся: «Што, Шпунт, твае знаёмыя?», і хлопец раптам зразумеў, што з ім амаль дарослы сябар.

— Ды не,— нават ужо весела сказаў ён,— тут адзін па мордзе хоча.

— Каторы, во гэты? — высокі ўзяў недакурак і пальцам, быццам даючы пстрычку, кінуў яго ў Мацака, але прамазаў.

— Ну, вось гэтая морда хоча па мордзе...

— Ты, можа, скажаш, што не краў маіх донак? — хрыпла, перакрываючы рогат хлопцаў, спытаўся Мацак.

— Ну ты, зараза, ідзі адсюль, пакуль юшку не пусцілі,— хлопец з лодкі зірнуў на высокага, як бы запрашаючы таго ўмяшацца.

Высокі спачатку кіўнуўся з наскоў на пяткі, а потым, бы адштурхнуўшыся, зрабіў крок да Мацака:

— Зараз ты ў мяне ўбачыш...

Але ён зрабіў толькі адзін крок — і спыніўся, гледзячы некуды за спіну Мацака. Насустрач яму, прыгнуўшыся, выходзіў Валет, і ў руках у яго быў досыць доўгі прэнт.

— Т-ты, сука, кінь!..— высокі пачаў адступаць.

— А мы цябе не чапаем...— Валет глянуў на Мацака.— Ты нам не патрэбен...

— Аддавай донкі, гад... тыя, што ўкраў сёння...— Мацак стараўся злавіць позірк Шпунта, але той, як зачараваны, глядзеў на жалязяку ў руках Валета.

— Гэта не я...— быццам каўтаючы словы, што душаць яго, нарэшце вымавіў Шпунт.— Жылка сама зачапілася... Сто гадоў трэба мне твае донкі.

— Адкуль узяліся гэтыя падлы? — зноў набраўся смеласці высокі, глядзеў проста ў вочы Валету.— А, Шпунт, дзе ты такіх дружбакоў знайшоў?

— Яны з Берагавой,— сказаў Шпунт.

І хоць Мацак, Чорны і Валет не былі ў камандзе хлопцаў з Берагавой, ніхто з іх не сказаў нічога.

— Шобла з Берагавой? — ужо не гэтак моцна, без надрыву, перапытаў высокі.— Ну мы яшчэ пагаворым...

І ён раптам павярнуўся і пайшоў да ўваходу на танцы. Мацак, як і ўсе астатнія, здзіўлена глядзеў яму ўслед, нічога не разумеючы.

— Хадзем, аддам донкі,— перарваў цішыню Шпунт.— Тут недалёка, дома ў мяне...

Ён пайшоў, за ім рушылі два яго сябры, якія яшчэ так і не вымавілі ніводнага слова. Мацак, яшчэ ўсё не верачы ў перамогу, зірнуў на Валета і нерашуча, бы падштурхоўваючы сябе, падаўся следам. Моўчкі, адзін за адным, як чародка качанят, яны прайшлі праз увесь парк. Без святла ліхтароў было досыць цёмна. Людзей неяк адразу паменшала. Хлопцы мінулі два двухпавярховыя драўляныя дамы, у адным з якіх жыла Люда, бацькава пляменніца, завярнулі ў ледзь прыкметную вулачку, зусім цёмную. Толькі з вокнаў прыхаваных у садовым змроку хат цадзілася кволае святло, і было вусціш-

на на незнаёмай, ціхай, амаль без каляін вуліцы.

— Зараз...— яны спыніліся каля лавачкі пры гародчыку, і Шпунт зайшоў у весніцы.

«Можа, уцячэ? — падумаў Мацак.— Але ж гэтыя засталіся...»

Здавалася, Шпунта няма ўжо вельмі доўга. Ні Мацак, ні яго сябры не ведалі, пра што гаварыць. Маўчалі і пацаны з Савецкай, адно пераглядваліся паміж сабой, абапершыся плечукамі аб плот. Недзе ў суседнім двары спалохана, мусіць, спрасонку забрахаў сабака, але хутка сціх. З таго боку веснічак нарэшце пачуліся крокі — і выйшаў Шпунт з кітайскім ліхтарыкам у руках. Такі ліхтарык — доўгі, важкі і надзейны — быў некалі і ў Мацака, але ён яго згубіў.

— Вось, чатыры штукі,— сказаў Шпунт.— Чэснае слова, выпадкова ўсё. Цікава было паглядзець, ці зачэпяцца яны за «кошку».

— Вы што, у аднаго мяне стырылі? — спытаўся Мацак. Яму зрабілася лёгка, вольна — бы скінуўся з плячэй вялікі цяжар, які не даваў дыхаць у поўную моц.

— Не, яшчэ пяць штук. Але гэта ў сваіх, ужо за гаццю. Цікава проста было.

— А-а...— Мацак ужо мог дараваць гэтаму хлопцу што хочаш, не толькі донкі, якія, апынуўшыся ў яго руках, сталі не такімі і каштоўнымі — звычайныя палачкі з наматанай жылкаю, грузілам і кручкамі.— Ды ладна... У мяне дома яшчэ донкі ёсць.

Ён збрахаў — ніякіх донак не было, засталіся толькі дзве паплаўковыя вуды; праўда, вудзільны на іх былі надта добрыя, з ядлоўцу. Яму цяпер ужо не хацелася, каб гэты хлопец думаў, што ён прыйшоў з сябрамі ў парк біцца за донкі.

— А гэты высокі,— раптам улез у такую спа-

койную, сяброўскую нават размову, Валет,— што за ён?

І адразу з новай сілай загучаў у Мацаковых вушах здзеклівы смех Шпунта і брыдкая лаянка высокага, убачыўся твар Шпунта — нахабны і жорсткі. Яму зрабілася непрыемна і няёмка, і самі апусціліся долу вочы, хаця ў цемры іх ніхто не бачыў.

— З Фабрычнага пацан,— адчувалася, што Шпунту таксама гаварыць пра гэтага хлопца не хацелася.— На мэблевай працуе. У яго нож заўсёды.

— Бачна, што гад,— Валет сплюнуў.— У парк пакуль ходу няма...

Валет збіўся — успомніў, мусіць, што побач стаяць чужыя.

Усе маўчалі, і маўчанне гэтае было ўжо адчужаным, нейкім напятым — як гатовы лопнуць паветраны шарык, побач з якім паблісквае голка.

— Хадзем,— сказаў Мацак.

Хлопцы разышліся не развітваючыся.

Над горадам ужо ляжала сапраўдная летняя ноч — чорная, цёплая, душная. Маўчалі нерухомыя, высокія дрэвы, дыхала пыльным цяплом зямля, недзе свяціла вокнамі ўтульная, як прыгатаваны матчынымі рукамі ложак, хата, плыла над зямлёй нячутная музыка начнога спакою.

Канчаўся доўгі дзень Мацака — адзін з многіх у ланцугу былых і будучых дзён, якія робяць жыццё жыццём і чалавека чалавекам.

## ГІСТОРЫЯ
## ПРА ЛЮБУ ДВОРКІНУ

Вы заўважалі хоць раз, колькі гожых, сімпатычных, чароўных дзяўчат у нашым горадзе? Правільна, не заўважыць гэтага нельга. Дастатко-

ва прайсціся па вячэрніх вуліцах — не подбегам, зразумела, а няспешна, так, як ходзяць людзі па курортных набярэжных,— і ў сэрцы вашым паселяцца лёгкае шкадаванне са смуткам, а калі вельмі не пашанцуе — то і крыўда. І вы не раз азірнецеся, вам нават захочацца спыніцца, каб лепш запомніць, надаўжэй захаваць у сэрцы мілае аблічча вунь той красуні, што смяецца шчасліва і не хоча зірнуць у ваш бок. І вы спрабуеце сябе супакоіць, вы думаеце, што нічога, што яшчэ сустрэнецца тая, з якой... І вы ідзеце далей, да новага расчаравання і новай надзеі.

Усе гэтыя свае назіранні я дасылаю мужчынам. І я ўпэўнены, што мяне зразумеюць як трэба, без здзеклівых усмешачак і іранічных позіркаў. Затое цяпер можна расказаць пра Любу Дворкіну.

Стройная, як у маладзенькай таполі, фігурка, далікатны, трошкі здзіўлены твар, хваля цёмных, бліскучых валасоў — гэта Любачка Дворкіна. Зразумела, прыгожая, зразумела, усмешлівая. Паспрабуйце не азірнуцца ёй услед, калі спаткаеце — не атрымаецца. У меру разумная, з крышачку рэзкімі — як у падлеткаў — рухамі, з усмешкай, ад якой хочацца ўсміхнуцца самому, і наіўнасцю, ад якой цяплее на сэрцы,— усё гэта дзяўчынка Люба Дворкіна. Мне пашчасціла (а можа — не пашанцавала?..) ведаць яе з дзіцячых гадоў, з тых гадоў, калі я хадзіў па вуліцах падлеткам, які ўжо ведае ўсё на свеце, а яна скакала на адной назе па клетках «класікаў», дрыгаючы вялізнымі, што тыя крылы, бантамі, і насіла ў партфелі маленькую, голенькую, цэлулоідную ляльку. Я і бацькоў яе ведаў — сур'ёзных, паважаных людзей, Бэлу Рыгораўну і Барыса Міхайлавіча. І вось цяпер мне хочацца, каб ведалі пра Любу Дворкіну не толькі некалькі дзесяткаў людзей, яе суседзі і знаёмыя, а

і яшчэ сёй-той, хаця б вось вы. Я раскажу зараз колькі гісторый і пачну, зразумела, з дзяцінства, з тае пары, якую абсалютна большая частка жыхароў планеты Зямля аднагалосна называлі і называюць самай шчаслівай. Пачну, так сказаць, з першага вітка, аднаго з тых віткоў, з якіх складаецца чалавечае жыццё. Пры гэтым, зразумела, трэба ўявіць, што яно, жыццё гэтае,— спіраль.

Пастараюся расказваць толькі праўду і толькі пра тое, пра што ведаю добра. Прысеўшы перад дарогай, пачынаю.

Віток, або гісторыя першая называецца

## «ПЛЯВОК»

У тыя досыць даўнія часіны Любачка Дворкіна была такой чароўнай, непасрэднай і мілай, якімі могуць быць толькі радасць, сонечны праменьчык у свежай гушчыні лесу і смех шчаслівага дзіцяці. Многім дарослым людзям хацелася ўшчыкнуць Любачку за тугую і ружовенькую, як персік, шчочку, а найбольш экспансіўным — схапіць яе, падкінуць угору і зацалаваць ці заціскаць. Праўда, маці з бацькам ахоўвалі сваё адзінае дзіця досыць пільна, і Любачка жыла і спявала. Яе любілі ўсе, і з першага класа яна была выдатніцай. Ды і як тут не быць? Па-першае, Любачка ніколі не была «брыдкім качанём», а па-другое — у яе такія разумныя чорныя слівіны вачанят. Калі яна пазірала імі — сэрца любога дарослага чалавека плавілася, як лёд на агні, расцякалася бальзамам і неўпрыкмет нараджала ў душы таго чалавека замілаванасць, хаця вельмі часта пачуццё гэтае было для яго новым. Ну, можа, і не новым, але не зусім прывычным. Аб такіх душэўных пераўтварэннях, зразумела, Любачка не ведала і не здагадвалася.

Пакуль яна проста тупатала па асфальце крэпенькімі ножкамі ў белых гольфіках, кружылася на адным месцы з партфелем, як фігурыстка, і марыла пра шчанюка — такога, як у суседскай Анжэлы: калматага, круглага, барадатага і дуркаватага.

А што ж? Любачка вучылася ў трэцім класе, і ўсё ў яе было наперадзе. А некаторых дарослых — людзей, мусіць, не з лепшых,— проста брала зайздрасць, калі ён бачыў гэтае дзіўнае дзіця. «Чаму я сам быў не такі? — думаў той зайздрослівы дарослы чалавек.— Чаму я быў смаркаты, напаўгалодны і падрапаны, як бяздомны сабака? Чаму я не любіў спяваць і гуляць у «класікі»? Я ж помню, што і голас у мяне быў хрыпаты, прыдушаны нейкі, а не такі чысты і звонкі, як гук скрыпкі. Я ж таксама харошы! І цяпер харошы, і раней быў... Пусціце мяне назад, і я не буду больш дурнем!» Так плакалі ў думках некаторыя, і рыдаць іх прымушала наша вясёлая, як жаўручковы спеў, Любачка.

У той дзень яна пайшла ў школу гадзіны на паўтары раней. Трэція класы вучыліся на другую змену, і Любачка, старанна зрабіўшы ўрокі, памалу сабралася і рушыла. Спачатку яна пастаяла хвілін некалькі на лесвічнай пляцоўцы другога паверха. Каля адных дзвярэй на круглым ходнічку спаў тоўсты чорна-белы кот. Любачка хацела дачакацца, пакуль ён прачнецца, каб паглядзець на яго вочы. Учора яе сяброўка Міла сказала, што ў задавакі Ленкі з трэцяга «Г» вочы жоўтыя, як у ката, і Любачка хацела праверыць. Але кот прачынацца не хацеў, а калі Любачка тузанула яго — зірнуў на яе праз такія вузенечкія шчылінкі, што разгледзець праз іх вочы было цяжка. На вуліцы па дарозе да школы Любачка пастаяла яшчэ ў двух месцах — каля вялізных шчытоў з аб'явамі розных канцэртаў, футболаў і гастроляў і каля вітрыны

Дома мадэляў. Тут было на што паглядзець. Рэкламы скрыпічных і фартэпіянных канцэртаў, праўда, былі аднолькавыя — адны літары, ніякіх малюнкаў, затое на аб'явы пра цыганскіх спевакоў і танцавальны ансамбль варта было паглядзець. Гэтыя каляровыя афішы Любачка вывучала доўга і старанна. Яна любіла стракатыя малюнкі, таму што яны абяцалі свята. А ў вітрыне Дома мадэляў было шмат сукенак. Любачка любіла ўяўляць, як яна раптам стане дарослай і надзене адну з такіх сукенак. Яна тады адразу зробіцца амаль такой жа прыгожай, як яе цётка Роза. Вось паахаюць тады ўсе!

І яна ніколечкі не спазнілася на заняткі. Яна нават паспела скокнуць некалькі разоў праз доўгую скакалку, якую круцілі дзве дзяўчынкі з чацвёртага класа. Адным словам, на першым уроку Любачка сядзела расчырванелая, і адзін бант ледзьледзь трымаўся ў валасах, мог у любую хвіліну зляцець.

Першым урокам была руская мова. Любачка дастала з партфеля падручнік, пенал, хоць ён, увогуле, быў і не патрэбны, прыгожы і чысты, без адзінага запісу, блакнот, новую закладку для кніг, на якой былі намаляваны высокія, як касцёлы, дамы горада Рыгі. Усё гэта яна акуратна расклала на сваёй палове парты. Мілачка Іванцова, якая сядзела за Любай, адразу ўбачыла закладку, акруглiла вочы і ў захапленні паківала галавой. «Тата з Рыгі прывёз,— прашаптала Любачка,— ён там у камандзіроўцы быў». Толік Буйковіч, сусед Любачкі, таксама скоса зірнуў на закладку, пагардліва скрывіўся і залез локцем на чужую палавіну. «Ану адсунься!» — прашаптала Любачка і лёгенька штурхнула яго. «Зараз як дам!» — сказаў Толік, але адсунуўся.

Валянціна Пятроўна, маладая і прыгожая, як артыстка, настаўніца, пачала выклікаць да дошкі чытаць на памяць верш пра восень, які задавала вучыць аж на пазамінулым уроку. Толік адразу ўгнуўся, ледзь не ўлез у падручнік з галавой, ліхаманкава зашаптаў напаўзабытыя словы. Любачка верш помніла, таму сядзела прама і глядзела на настаўніцу. Краем вока яна пераможна пазірала на Толіка, які гатовы быў залезці пад парту, толькі б не ісці да дошкі. Але Валянціна Пятроўна спытала адно двух вучняў. Тады Толік з палёгкаю засоп, рассеўся на сваёй палове, як у мяккім крэсле, дастаў з кішэні драцяную рагатку і пачаў круціць яе, быццам дагэтуль ніколі не бачыў. Любачка не пераставала здзіўляцца такому яго нахабству — толькі што трасся, як заяц, а цяпер сядзіць і круціцца, нават размаўляе ўголас. Яна пачала слухаць расказ Валянціны Пятроўны пра вершы аб прыродзе, але замінаў Буйковіч. Цяпер ён узяў у Мілы чыстую прамакатку, паклаў яе каля локця Любачкі і маляваў чалавечкаў. Намаляваў худога, з растапыранымі рукамі, крыва падпісаў МАМА, побач тоўстага, вывеў пад ім — ТАТА, і зусім маленькага, з бантамі. Любачка адвярнула галаву, але ведала, што пад маленькім чалавечкам з'явіўся подпіс ЛЮБА. Ад крыўды ў яе аж павільгатнелі вочы. Ззаду хіхікнула Міла. «Сяброўка называецца...» — Любачцы захацелася паплакаць. У гэтых крывых малюнках Толіка хаваўся абразлівы намёк на яе мянушку — «Мама, Тата і Люба». Старэйшыя Дворкіны вельмі сачылі за вучобай дачкі. Амаль штодня хто-небудзь з іх прыходзіў у школу і гаварыў з настаўніцай. Здаралася, Любачка горка плакала дзенебудзь у куце. Ёй было сорамна, што бацькі хадзілі ў школу, як на работу, і высвятлялі, чаму Любачка атрымала чацвёрку. Яны наогул ніколі не

давалі ёй жыць спакойна. Зімой Любачка хадзіла ў шубе да самых пятак, і рукавы тае шубы боўталіся ўнізе, так што звычайную снежку зляпіць дзіцяці было даволі складана — спачатку трэба было распрануцца. Улетку Любачку амаль не пускалі на вуліцу, туды, дзе ўсе нармальныя дзеці калупаліся ў пяску, сварыліся і мірыліся, цягалі за хвост ката і ўцякалі ад сабакі — адным словам, знаёміліся з жыццём. Любачка да слёз зайздросціла тым дзецям і старалася ўцячы да іх хоць на хвілінку. Асабліва яна любіла сабак — малых і вялікіх, звычайных дварняжак і пародзістых тэр'ераў. Чамусьці больш за ўсё ёй падабалася дакранацца далонькаю да іхніх мокрых і халаднаватых насоў. А маці лаялася, казала, што ад сабак могуць завесціся блохі. Любачка блох ніколі не бачыла, аднак думала пра сябе, што не такія яны ўжо і страшныя, калі жывуць на сабаках.

Бацькі дазвалялі ёй сябраваць толькі з Мілачкай Іванцовай. Тата Любы працаваў разам з татам Мілы. «Інтэлігентная сям'я,— гаварыў ён,— сумленныя, дастойныя людзі. Чатырохпакаёвая кватэра, машына, «Масквіч», праўда. І як у нас — адно дзіця».

І вось цяпер гэтая самая Мілачка хіхікала ззаду, гледзячы на агідныя малюнкі Толіка. Постаць Валянціны Пятроўны, на якую пазірала зараз Любачка, раптам расплылася, і адна гарачая слязінка капнула на руку, а яшчэ адна задрыжала на самым кончыку носа. «Ну пачакай,— думала Любачка пра Толіка,— спішаш ты ў мяне яшчэ матэматыку... А гэтай... да гэтай я больш ніколі не прыйду... і размаўляць не буду».

— Вунь мама Дворкінай ідзе! — яхідна сказаў на ўвесь клас Толік і паказаў у акно.

І тут ціхая, мяккая, далікатная Любачка не вы-

трывала. Яна павярнулася да Толіка, схапіла яго за каўнер і з усяе моцы штурханула. Толікава галава смешна матлянулася, ён з грукатам вылецеў з-за парты і расцягнуўся на падлозе. Услед за ім з яшчэ большым грукатам ляснуўся ягоны партфель, і нейкія жалязякі, алоўкі, катушкі і каменьчыкі далёка раскаціліся па ўсім класе. Адна гайка стукнулася аб сценку ля самых ног настаўніцы.

— Дворкіна?! Буйковіч! — ад здзіўлення іншых слоў у Валянціны Пятроўны не знайшлося, і яна тыцнула пальцам у два куты каля дошкі.

Любачка адразу прайшла да свайго і стала, апусціўшы галаў. Вушы і шыю апякло чырванню — дагэтуль Любачка ніколі ў куце не стаяла. Ёй было сорамна і брыдка. А Толік яшчэ папоўзаў на ўсколенцах па класе, ашчадна, як найвялікшыя каштоўнасці, сабраў гайкі і каменні і тады толькі, уздыхаючы, з пакрыўджаным выглядам, паказваючы, што ні ў чым не вінаваты, нага за нагу пацягнуўся да знаёмага кута. Месца гэтае для яго было звычнае, абжытае ўжо, і ён асабліва не перажываў. Ён нават са злараднасцю пазіраў на суседку, цяпер ужо не толькі па парце — няхай ведае, як тут бывае. У асноўным з-за яе ён хадзіў сюды. «Валянціна Пятроўна, Буйковіч спісвае!» Ну і што? Усе спісваюць — і Генка, і Валерка. Ва ўсім класе толькі гэтая мымра за даносчыцу. Вось няхай цяпер пастаіць.

Любачка мужна праглынула слёзы і пачала разглядваць сценку. Сцяна была жаўтаватая, шурпатая, у адным месцы можна было прачытаць слабы, яшчэ, мусіць, леташні надпіс, зроблены, пэўна, цвіком — «Ленка дура». Нейкага чалавека пакрыўдзілі, і ён захацеў расказаць аб сваёй крыўдзе ўсім.

Любачцы было шкада самой сябе. І раптам яна

адчула, што зараз нешта здарыцца з ёй. У яе ўжо бывала такое адчуванне бяды, якая побач, зусім побач, гатовая схапіць яе і знішчыць. У такія моманты трэба было зрабіць што-небудзь незвычайнае — крутнуцца тры разы на месцы альбо пераскочыць туды і назад цень ад ліхтарнага слупа. «Калі я зараз не плюну на сцяну,— падумала Любачка,— мне будзе вельмі блага... Я памру ці мяне нават выключаць са школы...» Яна моцна, да рознакаляровых кругоў у чарнаце, заплюшчыла вочы, пахітала галавой, потым шырока раскрыла іх і плюнула на сценку. Толік у сваім куце адкрыў рот і застыў як слуп; у вачах ягоных мільгнуў жах. І адразу Любачцы зрабілася лёгка-лёгка, весела нават, і яна ўсміхнулася Толіку.

Валянціна Пятроўна тлумачыла новы матэрыял. Клас жыў сваім нармальным вучнёўскім жыццём.

За акном былі дамы і неба.

Любачка цяпер ведала, што будзе жыць доўга і добра. Сліна паціху паўзла па сцяне. Буйковіч усё яшчэ стаяў нерухома. Любачка дыхала лёгка і прагна, быццам толькі што вынырнула з вады. Яна ўжо нават ні на кога не крыўдзілася.

Любачка Дворкіна наогул была добрым і паслухмяным дзіцём, і гэтую невялікую бойку з Толікам і плявок на сцяну можна было б лічыць звычайнай выпадковасцю. Можна было б, каб Любачка забылася на іх, як усе дзеці забываюцца на недарэчнасці і маленькія крыўды. Аднак Любачка памятала і плявок, і пачуццё незвычайнай палёгкі пасля яго. Яна расла, пераходзіла з класа ў клас, мяняла форменныя сукенкі на зусім кароценькія, потым крыху даўжэйшыя спадніцы «максі», замест вялізных беласнежных бантаў на галаве ў яе паслядоўна з'яўляліся «хвост», проста распушчаныя

валасы, стрыжка «сэсун»,— кожны з нас ведае гэтыя метамарфозы дзяўчынкі, якая расце,— і не забывалася на той плявок.

Зразумела, што школу Любачка закончыла добра. Не з медалём — матэматыка ўсё ж вымагала нечага большага, чым яе стараннасць,— але ўсяго з дзвюма чацвёркамі. А гэтага хапіла, каб Любачка без асаблівых цяжкасцей трапіла ў медыцынскі інстытут. Аб тым, што Любачка будзе медыкам, вырашылі бацькі. Была наладжана досыць вялікая сямейная рада, на якую запрасілі дзеда з бабуляю і цёцю Розу,— і на ёй найбольш важка і салідна прагучалі аргументы Барыса Міхайлавіча, таты. Тэзісы яго кароткай, але дастаткова пранікнёнай прамовы былі такія: ва ўсе часы прафесія медыка была і будзе адной з самых прыстойных, а яшчэ яна самая гуманная ў свеце. У медыкаў, сказаў яшчэ Барыс Міхайлавіч, заўсёды быў неблагі аклад. Дзед згодна паківаў галавой, а баба Соня ўспомніла, што ў іхняй сям'і было два доктары, якія жылі, між іншым, вельмі добра. Праўда, потым яна дадала, што было гэта досыць даўно, ледзь не да рэвалюцыі, ды і сваяцтва, так сказаць, далекаватае. Але ўсё роўна бацькава прамова ўсім спадабалася. Толькі цёця Роза сказала нешта пра тэатральна-мастацкі, аднак тут жа зразумела, што многа лепей было б пагаварыць пра надвор'е. Тым больш што лета сёлетняе сапраўды давала багаты матэрыял для спакойнай, прыязнай гутаркі — і даждж лілі ў чэрвені, і холад быў, і нават грымоты аднойчы прыпалі на голае вецце, а гэта, як вядома, не на дабро, а якраз наадварот.

Так што Любачка паступіла ў медыцынскі інстытут.

Ну, зразумела, бацька трохі пахадзіў туды-сюды, паразмаўляў з кім трэба, нават у рэстаране быў

без маці і невядома з кім,— але ўсё яму Бэла Рыгораўна, маці, значыць, даравала. Бацькі наогул тымі днямі хадзілі, як змоўшчыкі. Любачцы яны нічога не гаварылі, але тая, натуральна, пра сёе-тое здагадвалася. Не на бязлюдным жа востраве яна жыве, а сярод людзей. Аднак са здагадкамі сваімі Любачка нікуды не лезла, вучыла сабе хімію і раз на тыдзень хадзіла з Мілачкаю ў кіно, каб адпачыць. І на экзаменах строгія і справядлівыя экзаменатары паставілі ёй што трэба і выправілі ў нялёгкую дарогу па веды.

Але паколькі блізка ўжо наступны віток Любачкавага жыцця, наступная гісторыя, варта, думаецца, расказаць трошкі пра дарослую Любу. Мы ж помнім яе такой, якой яна была ў час бойкі з суседам па парце Толікам. А вады з таго часу выцекла ў моры-акіяны будзь здароў колькі. Ды і кожны ведае, як растуць сучасныя дзеці, асабліва чужыя.

Тым больш дзіцячая гісторыя з пляўком была звычайнай экспазіцыяй нашай аповесці.

На першым курсе Люба Дворкіна была ўжо чалавекам, які сёе-тое пабачыў. Яна ведала, што падабаецца многім хлопцам. У старэйшых класах яна нават перажыла два захапленні. Праўда, пра іх не здагадвалася нават маці, не тое што чужыя людзі і тыя два хлопчыкі, якія ёй падабаліся. І Люба цяпер прадчувала, што вось-вось з ёй здарыцца нешта незвычайнае. Дакладней, яна ведала, што гэта будзе — зразумела, сустрэча з тым самым хлопцам, які самы лепшы і самы разумны. Ад гэтага прадчування па скуры бегалі мурашкі. Люба чакала і баялася, і здараліся ночы, калі яна не спала.

Вось тут і пачынаецца гісторыя з каханнем, якую можна так і назваць

# КАХАННЕ

Неяк на адным са шматлікіх калідораў свайго інстытута Любачка ўбачыла хлопца, які стаяў каля акна, курыў і размаўляў з сябрамі. І хаця гэты хлопец быў не зусім высокі і, скажам шчыра, не вельмі прыгожы, яе сэрца чамусьці ёкнула, а чырвань гарачай хваляй заліла твар. Любачка напружыла спіну, высока ўскінула галаву і незалежна, гледзячы толькі перад сабой, прайшла каля тых хлопцаў. Але ніхто з іх нават і не зірнуў у яе бок, не тое што застыў у захапленні ці хаця б паклікаў.

У той жа вечар Люба прыбегла да Мілы Іванцовай. Міла таксама стала студэнткаю, вучылася ва універсітэце на журналістыцы. Яна марыла стаць славутай, як Габрыэль Гарсіа Маркес, а пакуль пісала інфармацыі ва універсітэцкую шматтыражку.

Трэба сказаць, што Люба і Міла, паступіўшы ў розныя інстытуты, не толькі не забыліся адна на адну, а наадварот — пасябравалі яшчэ больш. Яны хадзілі разам у бібліятэку і ў кіно, а самае галоўнае — выдавалі рукапісны часопіс «Зебра». Зразумела, што ініцыятарам гэтага выдання была будучы вядомы журналіст (ці пісьменнік) Міла. Але і Любачка ў школе няблага пісала сачыненні, таму з радасцю падтрымала ідэю сяброўкі.

Часопіс быў вялікім сшыткам з ружовай вокладкаю, на якой стаяла рознакаляровая назва — ЗЕБРА. На першай старонцы вялікімі літарамі быў напісаны эпіграф:

Хто памыляецца?
Хто угадае?

Рознае шчасце
Нам выпадае!
Часта простае
Здаецца няпраўдай,
Чорнае — белым,
Белае — чорным
(як зебра).

Слова «як» дзяўчынкі падкрэслілі. Ніжэй стаяла: «Часопіс», выдаўцы — «МіЛ». Рубрыкі ў часопісе былі такія — летапіс, эпізоды з жыцця, нашы знаёмыя, мы, ляпы, абы-што, інфармацыя. Далей ішлі абавязацельствы на другі семестр навучання: 1. Выбраць сабе аб'ект для назіранняў. 2. Як толькі ён дзе-небудзь сустрэнецца, адразу на яго глядзець і ўздыхаць. 3. Кожны вечар расказваць пра свае ўражанні і поспехі ў адносінах да аб'екта. 4. Атрымліваць стыпендыю ў памеры 40 (сорак) рублёў. 5. Хадзіць адзін раз на месяц у тэатр ці на выстаўку, раз на тыдзень — у кіно.

Праграма, канечне, у нашых дзяўчат была цікавая і разнастайная.

У рубрыцы «Эпізоды з жыцця» Люба Дворкіна расказала аб самым цікавым выпадку, які здарыўся з ёй у першым семестры. Успаміны называліся «Залаты зуб». Неяк Любе сказалі, што яна падабаецца аднаму пяцікурсніку. Любчына аднакурсніца Валя назвала прыкметы таго хлопца — карычневы касцюм і залаты зуб. Любе было прыемна, канечне, яна разнервавалася. Але выгляду не падала, а махнула рукой — маўляў, падумаеш, яна шмат каму падабаецца. Аднак усё расказала Мілачцы. Дзяўчаты вырашылі правесці аперацыю «Залаты зуб». Любачка будзе хадзіць і ўсім усміхацца, адказваць будуць і ёй. Так усё і высветліцца. Паўсміхалася Любачка — і заўважыла, што адзін хлопец сапраўды заглядаецца на яе, прычым усё больш на ногі. «Дурань нейкі»,— пакрыўдзіла-

ся Люба. Але той усміхнуўся і бліснуў залатым зубам. Люба ўзрадавалася, што гэтак хутка знайшла паклонніка, горда ўскінула галаву і пайшла прэч. Хлопец ёй не спадабаўся, і яна хутка пра ўсё забылася.

А Мілачка ў «Летапісе» расказала не менш цікавую і захапляючую гісторыю пра тэлефонныя званкі. Недзе з месяц ёй званіў незнаёмы мужчына, а Міла беспаспяхова спрабавала здагадацца, хто гэта. Мужчына — адрэкамендаваўся студэнтам-біёлагам, сто восемдзесят сантыметраў росту, семдзесят два кілаграмы вагі — расказваў, што яму не падабаюцца дзяўчаты, якія кураць, і пра тое, як ён здае экзамены. Міла, у сваю чаргу, гаварыла пра моды і зімні адпачынак у Карпатах. Так яны гаварылі, бацькі ўжо нават пачалі пераглядвацца, а потым высветлілася, што гэтаму хлопцу тэлефон даў аднакурснік Мілы, і адразу зрабілася нецікава. «На тым усё і скончылася»,— сумна прыпісала Іванцова ў канцы.

У раздзеле «Нашы знаёмыя» дзяўчаты разам напісалі пра суседку Дворкіных цётку Рэню. Гэтая цётка была пільная, як вартаўнічая аўчарка, і цікаўная, як сарока. Яна прыходзіла на хвілінку да Дворкіных, размаўляла пра надвор'е і пра жыццё суседзяў, а таксама выглядала, якія новыя рэчы з'явіліся ў кватэры. Чамусьці ёй здавалася, што ўсе новыя рэчы ад яе хаваюць. І калі яна іх знаходзіла, выгляд у яе быў шчаслівы, як у золаташукальніка, які знайшоў самародак. У тыя хвіліны на цётку Рэню проста прыемна было глядзець. Аб усім гэтым дзяўчаты напісалі праўдзіва і рэалістычна.

Паколькі сяброўкі нашыя былі маладыя, і ўсялякія жудасна цікавыя гісторыі з імі здараліся рэдкавата, на астатніх старонках часопіса яны напісалі некалькі перакладаў з Бёрнса і табліцу каларый-

насці розных страў. З гэтай табліцы вельмі лёгка было даведацца, што ў антрэкоце з бульбай — чатырыста калорый, а ў адной шклянцы чаю — усяго сорак. Калі б гэтую табліцу ўбачыў які-небудзь прыватны дэтэктыў, ён пасля некаторых разважанняў здагадаўся б, што Мілу і Любу хвалявала ўласная вага. У іх, сказаў бы той дэтэктыў, адзін-два лішнія кілаграмы. Таму дзяўчаты і расшукваюць розныя дыеты, сярод якіх, безумоўна, самай славутай была дыета з інтрыгуючай і неўміручай назвай — «Дыета маёй бабулі».

Гэтая і некаторыя іншыя дыеты таксама былі напісаны на асобнай старонцы часопіса.

Аднак гісторыя, якую я хачу расказаць, усё ж не пра часопіс «Зебра» а пра першае каханне Любы Дворкінай. І Люба, як мы ўжо ведаем, прыйшла раіцца да сваёй лепшай і адзінай сяброўкі Мілы Іванцовай.

— А хлопец хоць нічога? — адразу спыталася Міла.

— Ды не зусім...— сумелася Любачка.— Але затое як ён мяне кахаць будзе!..

Люба ўздыхнула. Яна думала, што чым непрыкметней хлопец, тым больш ён будзе кахаць яе — дзяўчынку з такой фігуркай. Ёй ужо нават бачылася цудоўная пара: жонка-красуня і сціплы, але з адчуваннем уласнае годнасці, муж. І ўсе наўкола перашэптваюцца: «Ах, якая пара... Вы паглядзіце — сапраўдная красуня!.. А ён, ён — вось гэта мужчына! І як глядзіць жонку. Проста на руках гатовы насіць». Такія ўжо Любачцы чуліся шэпты. І яна будзе рабіць выгляд, што нічога не заўважае. І будзе ўсім усміхацца і ўсіх любіць.

— Даведайся, які ў яго нумар тэлефона, і пазвані,— сказала практычная Міла.— У наш час трэба быць ініцыятыўнай.

5 Зак. 476

— А што сказаць?

— Ну... што сустрэцца хочаш. Хаця не, яго зацікавіць трэба.

— Во-во...— уздыхнула Любачка.

Так бы ўсё, мусіць, і скончылася, каб не шчаслівы выпадак, які ў нашым жыцці часта робіць проста невядома што. Жыве-жыве чалавек, не чакае ўжо для сябе нічога добрага — і раптам выйграе па латарэі пыласос альбо дыван, якога, як вядома, днём з агнём не знойдзеш. Так і Люба з Мілаю ніколі не спадзяваліся трапіць на прагляд замежных фільмаў у Дом кіно. Лягчэй за мяжу па турыстычнай пуцёўцы з'ездзіць, чым прайсці ў Дом кіно і пасядзець побач з кінарэжысёрамі і рознымі іншымі славутымі людзьмі. Гэта толькі ўявіце сабе — прыходзіць, напрыклад, дзяўчына на занятак і гаворыць сяброўкам: «Учора была ў Доме кіно, апошні фільм Бергмана паказвалі. Гэта такі цуд!» Самі разумееце, што тады робіцца з сяброўкамі гэтай дзяўчыны. А ў Любы была сваячка дырэктар аднаго немаленькага «Гастранома». І яна зрабіла пляменніцы падарунак — запрашальны білет у той самы Дом кіно. Але нават не ў французскім фільме, які паглядзелі Люба з Мілаю, справа. На гэтым самым праглядзе быў хлопец, з-за якога наша Люба не спала некалькі начэй. І разам з ім стаяў Толік Каралькоў, хлопец з той самай школы, якую скончылі сяброўкі.

Яго звалі Алегам Марковічам, і ён быў на два гады старэйшы ад Любы.

Адразу з наступнага дня Любачка пачала дзейнічаць. Яна пайшла ў гарадскую даведку, і там ёй сказалі адрас Алега Марковіча і нумар яго тэлефона. Адтуль Люба села ў тралейбус і прыехала ў кіно «Кастрычнік», дзе купіла два білеты на паслязаўтрашні вячэрні сеанс. Адзін білет яна ўклала

ў канверт, напісала адрас Алега і ўкінула той канверт у паштовую скрыню. У яе калаціліся рукі і шалёна білася сэрца, і пісьмо не трапляла ў шчыліну скрыні, аднак Люба ўсё ж давяла справу да канца. Пасля гэтага яна дзве гадзіны хадзіла па вуліцах. Ішоў мяккі снег, бачны ён быў толькі ў святле ліхтароў і каля вітрын магазінаў. Дыхалася лёгка, таму што снег быў рэдкі. Людзі спяшаліся, беглі да сваіх хат, адна Люба ішла павольна, бы плыла ў вячэрнім снегападзе. Сумка з падручнікамі адцягвала рукі, аднак гэта не замінала думаць ясна і радасна.

У адным скверы да Любы падбег чорны пудзель, тыцнуўся ў калені, трохі так пастаяў, потым падскочыў і гаўкнуў два разы. Пудзеля паклікаў гаспадар, ён пабег, але ўсё спыняўся і глядзеў на Любу — бы чакаў, каб яна памахала яму рукой.

Па тэлефоне Міла сказала, што Любка малайчына. Яна смяялася і праз слова перапытвала сяброўку. «Напішаш пра ўсё ў нашым часопісе»,— сказала яна. «Не!..» — чамусьці спалохалася Люба і кінула трубку.

У кіно Алег не прыйшоў. Месца каля Любачкі так і засталося вольным. Люба глядзела на экран і нічога не бачыла. «Можа, ён не зразумеў? — з крыўдай думала яна.— Але што тут разумець... А можа, палічыў за жарт каго-небудзь з сяброў? Ці фільм гэты бачыў?» Па шчоках прапаўзлі дзве сіратлівыя слязінкі, зніклі ў куточках вуснаў. У роце зрабілася саланавата. Любачка цяжка ўздыхнула і паспрабавала праглынуць камяк у горле. А ў гэты час на экране бегаў славуты французскі комік, і ўсе наўкола шчасліва смяяліся.

Назаўтра ўвечары да Любы прыйшла Міла Іванцова. Яна была вельмі ўзрушанай і нічога не разумела. А на Любачку шкода было глядзець — у яе ды-

жалі вусны, а вочы здаваліся яшчэ большымі і яшчэ прыгажэйшымі.

— Як жа так? — запыталася яна ў Мілы.

І тады Мілачка рашуча пайшла ў прыхожую, прынесла адтуль тэлефонны апарат і сказала:

— Давай нумар тэлефона!

Яна круціла дыск, а побач стаяла спалоханая Дворкіна.

— Алё? Добры дзень. Алега можна? Алег? Вы не здагадваецеся, хто вам звоніць? Адна ваша знаёмая...— Любе не спадабаліся какетлівыя ноткі ў голасе Мілачкі, і яна тузанула яе за рукаў.— Ды так... Проста я хацела даведацца, як у нас працуе пошта, і даслала вам пісьмо з білетам у кіно. Французскі... А што, пісьма вы не атрымалі? Ну прабачце...

Мілачка хуценька паклала трубку.

Любачка ледзь не падскоквала на месцы:

— Ну што, што ён сказаў?

— Спытаўся, як мяне завуць.

Дзяўчаты пахадзілі па кватэры. Дворкіна абедзвюма рукамі сціскала скроні. Міла таксама хвалявалася, але гэта не замінала ёй есці «Напалеон», які сёння раніцай выпекла Любчына маці. Наогул, трэба сказаць, «Напалеоны» ў Бэлы Рыгораўны атрымліваліся проста выдатныя.

— Трэба пазваніць яшчэ раз, толькі цяпер ужо табе,— сказала Міла. «Напалеон» быў смачны і трохі перашкаджаў ёй гаварыць.

Яна ледзь не сілком падвяла сяброўку да тэлефона.

— Аб'ект ужо заінтрыгаваны,— гаварыла Іванцова, акуратна аблізваючы пальцы.

— Вы мяне ведаеце, мы з вамі разам былі ў Доме кіно,— сказала Любачка такім упэўненым голасам, што Іванцова ажно здзівілася і пахітала гала-

вой.— З вамі быў Толік. Мяне Любай завуць. Не, не зусім тоненькая... Тэлефон ёсць. Шэсьдзесят шэсць, дзевяноста чатыры, семдзесят адзін. Калі ласка... Ага, усяго добрага.

— Ну?..

— Ой, ледзь не памерла са страху! Сказаў, што чакаў званка, ад тэлефона не адыходзіў.

— Успомніў цябе?

— Па-мойму, не. Так, прыкідваўся толькі. «Гэта вы такая тоненькая?..» — перадражніла Любачка каханага.

— А далей, далей што?

— Нічога,— Люба паціснула плячыма.— Нумар тэлефона запісаў.

Латынь і руская літаратура не вучыліся. Дзяўчаты без толку пасядзелі над падручнікамі, папілі кавы, і Міла пайшла дахаты. «Абавязкова пазвані,— наказала яна сяброўцы,— як толькі што здарыцца — адразу звані». Люба абяцала. Яна адчувала сябе вельмі стомленай — быццам перарабіла шмат фізічнай работы. Ажно маці кінуўся ў вочы яе выгляд, пачала насіць розныя таблеткі і прымушаць іх выпіць. Каб адчапіцца, Любачка выпіла і легла спаць.

Алег пазваніў на наступны дзень. Пра тое, што гэта быў менавіта ён, Любачка здагадалася нават па тэлефонным званку. Сэрца пакацілася ўніз. Кончыкі пальцаў пахаладнелі. Люба козачкай падскочыла да апарата, але трубку ўзяла не адразу — перахапіла дыханне.

— Добры дзень,— сказаў Алег.— Я рашыў выправіць сваю памылку. Я запрашаю вас сёння ў кіно «Кастрычнік». У восем гадзін. Дзе будзем сустракацца?

— Каля кінатэатра, дзе ж яшчэ? — сказала

Люба спакойным, як не сваім, голасам.— Калі спазнюся, трошкі пачакайце.

Спазняцца, зразумела, яна і не думала. Апошнія словы проста вырваліся самі, і Люба спалохалася, калі пачула іх. Аднак выправіць ужо нічога нельга было — у трубцы чуліся кароткія гудкі.

Да кінатэатра Люба падышла каля васьмі гадзін вечара. Сеанс павінен быў вось-вось пачацца. Наўкола віселі звычайныя пытанні пра лішні білецік. Цяжка дыхаючы беглі тыя, хто спазняўся, і нерухома, з выразамі пакуты і прыхаванай крыўды на тварах стаялі хлопцы, каханкі якіх яшчэ недзе беглі ці спакойна сядзелі дома — каханне, як вядома, вельмі часта бывае аднабаковым, а ўведаць пра гэта ёсць шанц у кожнага маладога чалавека.

Гаварыць не было калі — адразу пайшлі ў залу, а толькі селі ў крэслы, пачаўся фільм. Любачка думала, як пасля фільма яны пойдуць гуляць і Алег будзе расказваць розныя цікавыя гісторыі. Люба будзе весела смяяцца. Яна адкіне капюшон, тады Алег убачыць яе цудоўныя, бліскуча-чорныя валасы. У гэтых валасах будуць блытацца сняжынкі, павольна раставаць і ззяць маленькімі зорачкамі. Люба таксама раскажа цікавы выпадак — вось хаця б пра залаты зуб. А ў канцы ён яе пацалуе — не нахабна, з абдымкамі, а далікатна, пяшчотна. І яна пабяжыць да сябе на свой трэці паверх. Ён будзе стаяць унізе і моўчкі глядзець, як мільгае яе постаць. Перад гэтым, зразумела, яны дамовяцца пра новую сустрэчу.

Далей Любачка прыдумаць нічога не паспела, бо скончыўся фільм. Людзі няспешна, яшчэ пад уражаннем трагічнага італьянскага кахання пасунуліся да выхаду. Каторыя жанчыны крадком выціралі слёзы. А ў адной дзяўчыны размазалася туш для вейкаў, і яна адна сядзела ў зале, прыціскаючы

да вачэй насовачку. Гэта вельмі балюча, калі цячэ туш і трапляе ў вока. Любачка шчыра пашкадавала дзяўчыну.

На вуліцы было халаднавата. Высокія абцасы боцікаў не давалі Любачцы ісці хутка, і паціху пачыналі мерзнуць ногі.

Алег маўчаў. Люба была вымушана гаварыць адна. Яна расказвала пра сваю першую студэнцкую «бульбу». Люба ўпершыню трапіла на вёску, таму там для яе было шмат дзіўнага. Асабліва доўгімі здаліся ёй вечары ў вясковай хаце. «Мусіць, ад цішыні гэта?» — спыталася яна. Алег паціснуў плячыма. Люба пачала расказваць пра аднаго хлопца з іхняй групы. Яго звалі Змітрам. На полі Зміцер не столькі насіў да машыны вёдры з бульбай, колькі лавіў мышэй. Як толькі дзяўчаты, убачыўшы мыш, з віскам пачыналі рассыпацца ў розныя бакі, прыбягаў Зміцер, поўзаў на ўсколенцах і лавіў гэтае жахлівае стварэнне. Паланянку ён загортваў у спартыўную кашулю. Мыш варушылася, але ўцячы не магла. Дзяўчаты са страхам сачылі за Змітрам. А той нікога не бачыў, засяроджана, гледзячы толькі сабе пад ногі, насіў вёдры. Дзяўчаты, калі сядалі адпачываць, шапталіся — навошта Змітру мышы? Можа, будзе ўвечары палохаць? Падыдзе пагаварыць, а сам суне пад нос жывую мыш?! Адна найбольш байчэйшая дзяўчынка, Света, прапанавала Любе пацікаваць за Змітрам. «Ён жа жыве з табою побач»,— сказала яна. «Я адна баюся»,— пахітала галавой Люба. «Пойдзем разам». І пайшлі. А Зміцер і не хаваўся. Прыйшоў на ганак і адразу пачаў клікаць ката. Той з'явіўся адразу. Саскочыў з хлява, задраў хвост трубой, пачаў церціся галавой аб ногі, амаль бязгучна, шырока разяўляючы рот, мяўкаць. Зміцер дастаў з кашулі мыш, узяў яе за хвост.

— Любіш? — спытаўся ён у ката.

Кот стаяў, падціснуўшы адну пярэднюю лапу, не зводзіў зялёных вачэй з мышы.

— Бачу, любіш. Ну то на табе, пупсік, цацку.

І адпусціў хвост.

— Мы зарагаталі і ўцяклі,— сказала Люба і скоса зірнула на Алега. Здаецца, той усміхнуўся.

Падахвочаная Люба працягвала далей:

— А яшчэ ён з'еў жабку. Прыйшоў да нас на поле і кажа: «Калі паставіце каньяк, з'ем вось гэтую жабку. Жыўцом». Каторыя запляваліся, а каторыя згадзіліся. Пусцілі па крузе шапку, накідалі туды восем рублёў. Я, праўда, не дала нічога, не такая дурная. А ён спакойненька раз — і праглынуў. Хуценька гэтак, быццам усё жыццё іх еў.

Люба ўжо стамілася. Яна гаварыла і гаварыла, а Алег усё маўчаў, адно толькі час ад часу гмыкаў. У горле перасохла, хацелася піць.

«Трэба б плюнуць,— падумала Люба,— але вытрымаю да канца».

Чым больш яна гаварыла, тым хутчэй знікала яе захапленне гэтым хлопцам. Ён нават быў ужо ёй нецікавы.

Люба спыталася пра фільм, Алег прамармытаў, што спадабаўся. Жыццё ў яго, як высветлілася далей, звычайнае, як ва ўсіх. Любіць музыку, асабліва джаз, але і рок-музыка добра. Купіў сабе прайгравальнік, магнітафон. Дзеля гэтага ездзіў у будаўнічы атрад. Спортам не займаецца. Няма часу. На першым курсе пахадзіў на барацьбу, але ўваткнулі адзін раз галавой у дыван — не пайшоў болей. Лепей жыць спакойна. З вучобай нармальна. Прывык.

— Я б зараз плюнула і пайшла,— нарэшце сказала Любачка,— але вы можаце пакрыўдзіцца, таму не буду.

— Ну, тады плюну я,— сказаў Алег і пайшоў у другі бок.

Люба адчула нейкую палёгку. Яна нават усміхнулася, і кроў хутчэй пабегла па жылах, панесла ў рукі і ногі цяпло. Люба зайшла ў кафетэрый, выпіла шкляначку кавы і з'ела піражнае.

«Дурніца, канечне,— думала яна.— Аднак гэта ж для мяне не адкрыццё? Я і раней ведала, што недарэка. Проста лішні раз упэўнілася. Але ж канец свету ад гэтага не прыйшоў? Не прыйшоў. Ну і добра. Раскажу Міле, пасмяёмся. А плакаць не буду».

Вось такая была ў Любы гісторыя з няўдалым каханнем. Ды, уласна кажучы, з кім іх не бывае? Жыццё пражыць — не лапці сплесці.

Набліжаецца наступны віток, трэці.

## ЗОЛАТА

Хочацца адразу сказаць, што гісторыя з золатам адбылася трохі раней, чым папярэдняя,— якраз перад тым, як Любачка паступіла ў інстытут. Пачаткам лета, парою, калі свежа абзяленіліся каштаны, заззяла вялікае сонца і ў клумбах каля пад'ездаў заквітнелі першыя настуркі і званцы. Я палічыў, што ўсё ж больш важнейшая гісторыя з каханнем, і памяняў іх месцамі. Ды і любы скажа, што непараўнальна важней для чалавека каханне, чым нейкія там залатыя пярсцёнкі і бранзалеткі, няхай сабе і дарагія.

Барыс Міхайлавіч і Бэла Рыгораўна Дворкіны, бацькі Любы, былі пераканаными ў тым, што калі дзіцяці трапляюць у рукі хоць якія грошы, гэтае дзіця адразу псуецца, пачынае не слухацца бацькоў і ўсіх астатніх дарослых. Тое дзіця нават няўмольна коціцца на дно жыцця, дзе яго чакаюць вулічныя

кампаніі валасатых юнакоў і разбэшчаных дзяўчат, а таксама міліцыя з дружыннікамі. Вось таму ў Любачкі амаль ніколі не было сваіх грошай.

— Усё, што табе трэба, мы купім самі,— гаварылі бацькі Любе.

І яны сапраўды ўсё куплялі — сукенкі, шубы, боцікі, электронны гадзіннік і гранаты, каб у дзіцяці не было авітамінозу. Аднак жа бываюць незапланаваныя пакупкі. Тыя, што мілейшыя за ўсякія іншыя дзявочаму сэрцу. Вось ідзе Любачка па вуліцы. Майскае сонца, лёгенькі ветрык, у людзей на тварах амаль што адны ўсмешкі. Нават трамваі звоняць весела, быццам смяюцца. Сэрца стукае трошачкі хутчэй, чым заўсёды. Вясна — гэта нашмат болей надзей і спадзяванняў, як у любую іншую пару. Любачка выпадкова заходзіць у магазін «Падарункі» — і дзіва-дзіўнае. Яна бачыць сумачку, цудоўную сумачку з мяккай скуры, арыгінальнай формы, на двух пляцёных раменьчыках, каб насіць яе на плячы. Мара, а не сумачка. Люба не верыць сваім вачам, трасе галавой, але сумачка не знікае, а спакойна вісіць сярод звычайных, шэрых, просценькіх вырабаў, якіх заўсёды шмат і якія амаль не выходзяць за магазінныя парогі. Любачка, вельмі баючыся, просіць паглядзець сумачку, і ёй спакойна, нікольні не здзіўляючыся, даюць яе. У руках сумачка робіцца яшчэ больш чароўнай. У цемнаватым магазіне яна як каштоўны камень сярод якой-небудзь галькі. Любачка з тугой думае, што такая цудоўная рэч на прылаўку доўга ляжаць не будзе. І цёплы майскі дзень ужо і не такі цёплы. Любачка быццам трапляе пад кастрычніцкую імжу. А калі ў душы плюскоча восень — чалавека нішто не можа радаваць.

— Нашто табе сумачка?! — здзівілася дома маці.— У цябе ж ёсць харошая. Не модная? Ха, што

такое мода! Сёння не модна, заўтра модна, а паслязаўтра апошні крык. Галоўнае, каб гэта была моцная і практычная рэч.

Бацькі лічылі, што толькі залатыя рэчы ніколі не выходзяць і не выйдуць з моды. З чатырнаццаці гадоў на кожны Любчын дзень нараджэння яны дарылі ёй альбо залаты пярсцёнак, альбо бранзалецік, альбо завушніцы. І яны гэтым вельмі ганарыліся. Разам з Любай яны складвалі падарункі ў шкатулку і радасна смяяліся.

— Мы ведаем, што робім! — гаварыла Бэла Рыгораўна.— Пакуль ты нічога не разумееш. А як пасталееш — будзеш дзякаваць усё жыццё. Золата яшчэ нікому не замінала жыць.

Мусіць, гэта было праўдай, таму што ў кожнай жанчыны, якая хоць трошкі паважае сябе, на пальцах і ў вушах блішчала золата. І больш за ўсё яго было ў Тамары Іванаўны, загадчыцы аднаго магазіна, якая дапамагала Бэле Рыгораўне купіць шубу з натуральнай футры.

— Гэтая жанчына ўмее жыць! — гаварыла маці.— Яна можа ўсё, і нават болей. А чаму? Яна разумее, што з людзьмі трэба жыць па-людску. Запомні гэта.

Любачка паківала галавой, што запомніць. Ёй сапраўды падабалася вясёлая і ўпэўненая ў сабе Тамара Іванаўна.

Але ў той дзень, калі Любе далі зразумець, што новая сумачка — гэта глупства, яна чамусьці ўзненавідзела сваё золата. У гэтым не было ніякай логікі, і тым не менш гэта быў факт.

Якраз праз некалькі дзён пасля таго як Любачка бачыла сумачку, маці зноў дастала залаты пярсцёнак. Падвярнуўся выпадак — адной з супрацоўніц Бэлы Рыгораўны тэрмінова спатрэбіліся грошы — яна ехала ў адпачынак на поўдзень і таму

вырашыла прадаць свой самы любімы пярсцёнак з рубінам. І хаця дзень нараджэння Любачкі чакаўся толькі ў верасні, Бэла Рыгораўна не вытрымала. Доўга мерала пярсцёнак — налазіў ён толькі на мезенец,— доўга круціла ў руках, хукала на камень і церла яго — і купіла. Ды і як не купіць такую прыгажосць? Высакародны бляск металу разам з таямнічай чырванню камня параняць любое сэрца.

А Любачцы пакупка не спадабалася. Яна ледзь глянула на пярсцёнак — і зноў уткнулася ў кніжку, нават не ў кніжку, а ў часопіс «Иностранная литература». Бэла Рыгораўна хаця і ведала, што выпісваць «Иностранную литературу» модна, але чытаць яе не магла. Не разумела яна нейкіх нялюдскіх герояў замежных раманаў — і імёны ў іх былі дзівацкія, і думалі яны па-вар'яцку, і напісана там было так, што заблытаешся, пакуль прачытаеш адзін сказ, тое забудзеш, пра што наперадзе гаварылася. А Любачка чытала. Як прыходзіў новы нумар — адразу хапала яго і сціхала ў сваім пакоі. Бэла Рыгораўна паціскала плячыма, аднак маўчала. Пра свае адносіны да гэтага часопіса яна лічыла за лепшае не гаварыць, таму што Барыс Міхайлавіч час ад часу таксама прыходзіў дамоў і пытаўся:

— Люба, дзе гэта там «Чорны прынц»? Раман з «Иностранки»? Як гэта аддала? Каб заўтра быў дома! На рабоце гаварылі — цікавы раман. Усе прачыталі ўжо, нават шэф. А кнігі каб болей не аддавала.

— Я Мілачцы дала,— казала Люба.

— А-а... Ну ўсё роўна: даеш каму-небудзь кнігу ці часопіс — запісвай. Завядзі сабе такі блакноцік — і запісвай. Гэта карысна нават, дысцыплінуе.

Любачка торгала плечуком. Яшчэ ў школе ёй абрыдла прывычка дарослых павучаць. Не вучыць,

а менавіта павучаць. Асабліва запомнілася сваімі павучэннямі іхняя «руская» ў дзесятым класе: «Вы ўжо дарослыя, а не ўмееце з густам апранацца... Вы павінны сачыць не толькі за даўжынёй спадніц, але і за мовай... Вам ужо даўно трэба было б навучыцца думаць... Акселерацыя не здымае з вас абавязкаў перад грамадствам...» Не любілі «рускую» ўсе, нават выдатніцы. Былі далі ёй мянушку «Ментар», аднак палічылі потым, што задужа добрая мянушка. Гаварылі нейтральна — фіфа, зануда... У Любы было неяк прасвятленне, і яна прыдумала — «Мужняя жонка». У «рускай» муж быў нейкі начальнік сярэдняй рукі, таму яна пагардліва гаварыла не толькі з вучнямі, але і з іншымі настаўнікамі. Дзяўчатам мянушка спадабалася, ды не прыжылася — доўгая.

І цяпер, калі Люба чула знаёмыя павучальныя інтанацыі, ёй хацелася зрабіць усё насуперак. Рэфлекс нейкі выпрацаваўся, няйначай. Разумела, што не варта, што нічога добрага не будзе — і часта не стрымлівалася.

— Міла прачытае — прынясу,— гаварыла Люба бацьку.— У апошніх нумарах яшчэ цікавейшы раман. Чытай пакуль гэты.

Аднак чытаць усе раманы бацьку не было часу, ён забываўся нават на таго ж «Чорнага прынца».

А сёння Любачка не захацела зірнуць на новы пярсцёнак, і Бэле Рыгораўне гэта не спадабалася. Яна ўвогуле пачала прыкмячаць, што з дачкой нешта робіцца — Люба злавалася з-за дробязей, і ёй нічога нельга было сказаць. «Можа, у яе ёсць хлопец і яна з ім пасварылася?» — думала Бэла Рыгораўна. Яна была жанчынай цвярозай і разумела, што ў гэтым узросце ў дзяўчынкі можа быць хлопец. Хаця, канечне, ідэальны варыянт — іншы. Нават калі пазнаёмілася ўжо недзе з хлопцам — пры-

вядзі да бацькоў. Бацькі глянуць, абмяркуюць і скажуць. Ды хіба дачакаешся такога? Цяперашняй моладзі бацькі патрэбны толькі для таго, каб карміць. Пра гэта гавораць усе знаёмыя Бэлы Рыгораўны. Гавораць, скардзяцца, а каторыя нават плачуць.

— Табе хіба не падабаецца пярсцёнак? — Бэле Рыгораўне хацелася, каб дачка адклала свой часопіс, парадавалася разам з ёй пакупцы, проста пагаварыла душэўна і хораша.— Зірні, які каменьчык. Проста гарыць, дыхае!

— Як змяінае вока,— сказала Любачка.— І ўсе рубіны — змяіныя камені. Злыя.

— Ды што гэта ты?! — ажно войкнула Бэла Рыгораўна.— Якія змеі?! Гэта ты, можа, у сваім часопісе такое прачытала?

— Не люблю,— адрэзала Любачка.

— Барыс!..— Бэла Рыгораўна разгубілася, не ведала, што і сказаць.— З нашай дачкой нешта робіцца... Ты паслухай толькі, што яна вярзе!..

Барыс Міхайлавіч, які ляжаў на канапе і чытаў «Литературную газету», асуджальна гмыкнуў. Яму не хацелася адрывацца ад цікавага артыкула пра судовую справу, і ён хаця і не ўчуў, пра што ідзе гаворка, палічыў за лепшае паказаць, што не адабрае.

— Як на сумачку — то няма грошай, а як нікому не патрэбны пярсцёнак купіць — дык калі ласка! — Любачка нават адкінула ўбок часопіс, і голас яе аж зазвінеў.

— І правільна! — таксама павысіла голас Бэла Рыгораўна.— На глупства грошай не будзе!

— Ах, так?! — Любачка падскочыла, потым кінулася ў свой пакой.

«Ну што яны там не падзялілі? — паморшчыўся

Барыс Міхайлавіч.— І ахвота ж сварыцца... Мусіць, трэба прыкрыкнуць на каторую...»

Але думкі яго перабілі — у пакой зноў заскочыла Люба.

— Я выкінула вашае золата ў клумбу! — моцна крыкнула яна.

І ў глыбокай, як бездань, цішыні Барыс Міхайлавіч выразна пачуў стук свайго сэрца. «Ну вось...» — падумаў ён, і газета вывалілася з рук, а вочы самі заплюшчыліся. Левая рука аўтаматычна легла на грудзі. Рука гэтая не атрымлівала ніякага загаду, у галаве Барыса Міхайлавіча была абсалютная пустэча, але тым не менш рука вельмі дакладна легла на тое месца, дзе чулася лёгенькае торганне сардэчнай мышцы. Барыс Міхайлавіч адчуваў гэтае торганне вільготнай далонню, і пакрысе да яго вярталася жыццё. Аднак расплюшчыць вочы ён яшчэ баяўся.

Бэла Рыгораўна трымалася больш мужна. Яна нават не закрычала на дачку. Як камп'ютэр самага вышэйшага класа, яе мозг адразу адкінуў усё другараднае і знайшоў галоўнае. «Выратаваць золата!» — адзіная гэтая думка пульсавала ў галаве. І ніякіх іншых думак мозг Бэлы Рыгораўны не выпрацоўваў. Некалькі секунд хапіла ёй, каб дабегчы да першага паверха. Яшчэ дзве секунды спатрэбілася, каб знайсці патрэбную клумбу. І хаця чэрвеньская зяляніна ўкрывала зямлю досыць шчыльным дываном, зрабіць усё астатняе было ўжо працей. Быццам нейкі прыбор сядзеў усярэдзіне Бэлы Рыгораўны, і яна ішла дакладна туды, дзе ўспыхвала дзівоснае ззянне, нябачнае іншым людзям. Толькі Бэла Рыгораўна бачыла, душой адчувала гэтае ззянне. І дзівосны струменьчык пацёк да яе рук, і пальцы пяшчотна лашчылі пярсцёнкі і ланцужкі, і нічога не выпадала з гэтых маленькіх і надзейных

рук. Як толькі струменьчык скончыўся, рукі адразу ператварыліся ў скрыначку, з якой нічога і ніколі не знікне.

Любы чалавек збоку, які ўбачыў бы ў гэты момант Бэлу Рыгораўну, падумаў бы, што руплівая жанчына надта ж любіць кветкі, проста кожную вольную хвіліну аддае гэтым пахучым і стракатым раслінам. «Бач ты, крукам гнецца,— падумаў бы той чалавек,— поле палівае, ніткі прывязвае, каб якія-небудзь бярозкі паўзлі на балкон. У такой жанчыны нават заморскія цюльпаны заквітнеюць». І ад такіх думак у чалавека б пацяплела на сэрцы.

А Бэла Рыгораўна вярнулася ў кватэру. Барыс Міхайлавіч ужо сядзеў, а дачка стаяла пасярод пакоя і дзёрзка пазірала на маці.

Бэла Рыгораўна ўрачыста расклала пярсцёнкі, завушніцы і ланцужкі на стале, як доказы злачынства. Дачка стаяла ўсё гэтак жа дзёрзка. Бэла Рыгораўна зразумела, што пакуль што раскаянне не будзе. Тады яна выразна, усё роўна як артыстка на сцэне, хаця і крыху віскліва, крыкнула:

— Ідзі ў свой пакой! Больш ты гэтых рэчаў не ўбачыш!

— Падумаеш!..— пагардліва крутнулася на месцы Любачка.— Цяпер у модзе серабро, а не метал мільянераў!

Бэла Рыгораўна аж не знайшла што сказаць і бездапаможна зірнула на мужа. Той ужо стаяў, хаця і трымаўся за сэрца, аднак мова, мусіць, да яго яшчэ не вярнулася, таму ён проста паказваў вольнай рукой на дзверы Любчынага пакоя.

— І пайду! — сказала дачка, яшчэ і ляснула дзвярыма, нягодніца.

І толькі цяпер у Бэлы Рыгораўны закалаціліся, затрэсліся рукі-ногі, а ў вачах заскакалі іскрынкі.

Яна асцярожна, як баючыся зламацца, села ў крэсла.

Барыс Міхайлавіч пракаўтнуў камяк, што быў засеў у горле, слаба спытаўся:

— Яна сапраўды выкінула?..

Бэла Рыгораўна, не хочучы нават варухнуць галавой, толькі заплюшчыла павекі.

— Што будзе далей?! — хутчэй здзівіўся, чым спытаўся Барыс Міхайлавіч.

І гэтае пытанне было правільным. Таму што выкінутае золата, як высветліцца пазней, было толькі першай ластаўкай. Таму што гэты выпадак быў толькі тымі самымі кветачкамі, якія цвітуць і пахнуць перад усім нам вядомымі ягадкамі. Сэрца Барыса Міхайлавіча, якое зусім нядаўна ледзь не спынілася, зрабілася, мусіць, прарочым. І такой сваёй празорлівасці Барыс Міхайлавіч не ўзрадаваўся.

Натуральна, некалькі дзён бацькі з дачкой не размаўлялі. Ім было цяжка рабіць гэта, асабліва Бэла Рыгораўна пакутавала, аднак жа дачку караць трэба было. Ды не адчувалася нешта, што Люба перажывала. Цэлымі днямі яна недзе хадзіла, а ўвечары зачынялася ў сваім пакоі і сядзела ціха і насуплена, як сыч у дупле.

— Да экзаменаў хоць рыхтуецца? — шэптам пыталася Бэла Рыгораўна ў мужа.

— Чытае, здаецца,— няўпэўнена адказваў той. А што ён мог сказаць, калі дачка нікога ў свой пакой не пускала?

Так і сядзелі ў няведанні і трывозе, па шоргатах і незразумелых гуках стараліся здагадацца, што робіцца ў суседнім — і на сотні кіламетраў і гадзін аддаленым — пакоі. Не было яшчэ такое злавеснае цішыні ў кватэры Дворкіных. Барыс Міхайлавіч і на рабоце спалохана ўздрыгваў, аглядаўся па ба-

ках, нават два разы аддаў не той загад сваім канструктарам. Гэта ўжо было зусім блага, таму што, калі гаварыць шчыра, канструктарскае бюро, якім кіраваў Барыс Міхайлавіч, было для яго не проста рабочым месцам. Тут, сярод рабочых сталоў і кульманаў, ён адчуваў сябе сапраўдным чалавекам, уладаром, тым, хто робіць навукова-тэхнічны прагрэс і набліжае, так сказаць, будучыню. І што самае дзіўнае — ЦКБ замяняла Барысу Міхайлавічу любы дом адпачынку. Калі пасля абавязковай паездкі з сям'ёй на поўдзень фізічна і маральна стомлены Барыс Міхайлавіч прыходзіў на работу, у яго раскіслае цела проста з кожнай хвілінай уліваліся сілы. І знерваваная душа раптам супакойвалася і лагоднела. Тут, сярод блізкіх па духу людзей, да Дворкіна-старэйшага вярталася самае галоўнае — раўнавага. Таму так цаніў Барыс Міхайлавіч сваю работу, свой начальніцкі стол, сваю неабходнасць на важным участку будаўніцтва будучыні.

А цяпер і на любімай рабоце не было спакою.

Барыс Міхайлавіч пачаў сніць сны, у якіх за ім ганяліся невядомыя і нябачныя бандыты з нажамі. І ў самы страшны момант, калі тыя бандыты, няўмольна, як лёс, скідвалі яго, сумленнага, ні ў чым не вінаватага, цудоўнага чалавека, у бездань, Барыс Міхайлавіч прачынаўся.

Перад тым як заснуць, Дворкін-старэйшы са скрухаю думаў, што ў яго нервовае перанапружанне. Думаў ён яшчэ і пра тое, што трэба схадзіць да доктара.

А яшчэ непакоіла Барыса Міхайлавіча яго жонка. Пабойваўся спакойны, ціхі, добразычлівы Дворкін сваю Бэлу. Боязь гэтая і не ўспыхвала, не з'яўлялася знянацку, а была заўсёды. Калі ўбачыў Барыс Міхайлавіч, тады проста Барыс, Барыска, чарнява-агністую, імклівую, як бліскавіца ў апрамет-

най цемры, прыгожую, як газель, загадкавую, як усходняя казка, Бэлачку — адразу закахаўся і... забаяўся. Гэтыя два пачуцці зажылі ў душы Дворкіна адзіным моцным пачуццём, перамагчы або аслабіць якое не магло нішто. Кажуць, самыя шчаслівыя сямейныя пары тыя, у якіх адзін чалавек цалкам пад пяткаю ў другога. Дворкін сэрцам адчуваў, што гэта так. Тым больш што яму надзіва лёгка было саступаць, прызнаваць сябе вінаватым і слухацца.

Натуральна, Дворкін стараўся рабіць усё, каб яго жонка не нервавалася. Бо калі ў хаце прыкідалася што-якое непрыемнае, тады ў ёй бывала занадта шумна і няўтульна. Моцны голас экспансіўнай Бэлы быў добра знаёмы суседзям Дворкіных, і яны час ад часу гаварылі пра яго Барысу Міхайлавічу.

— Так, так,— згаджаўся Дворкін,— і ведае пра сваё хворае сэрца, а ўсё адно стрымацца не можа. Сама сябе заганяе ў бальніцу!

Суседзі спачувалі, ківалі галовамі. Сапраўды, пры цяперашнім жыцці мець хворае сэрца — гэта адной нагой стаяць у магіле. Трэба берагчыся. Трэба старацца ні на што не звяртаць увагі. Будзе здароўе — будзе ўсё.

Пра сваё нікуды не вартае сэрца Бэла, праўда, нічога не ведала.

Але як бы там ні было, за гады сумеснага жыцця Дворкін прывык ужо да ўсялякіх грымотаў, якія наляталі хаця і часта, ды міналіся хутка. А цяпер, пасля гэтага дурнога здарэння з золатам, у кватэры было ціха, як на зімовых могілках. Такая цішыня палохала Дворкіна больш за ўсё іншае.

Бэла Рыгораўна першыя два дні пасля жахлівага выбрыку дачкі хадзіла разгубленая і таксама трошкі напалоханая. Як так здарылася, што яе Любачка зрабіла т а к о е? Можа, у яе завялася якая-

небудзь дрэнная сяброўка? Навучыла, а дурное дзяўчо і выбрыкнула? Але ж тады новая знаёмая хоць раз ды зайшла б у хату. Ці званіў бы новы голас. А Мілачку ж яны ведаюць даўно. Мілачка спакойная, старанная. І бацькі ў яе сур'ёзныя людзі. Але ж во і мы сур'ёзныя... Бэла Рыгораўна не ведала, што і думаць.

У аптэцы, дзе Бэла Рыгораўна працавала загадчыцай, яна гаварыла з жанчынамі.

— Хіба мы былі такімі? — пыталася яна.— Мы ж баяліся вусны нафарбаваць, не тое што курыць! Заходжу ўчора ў «Рамонак», магазін такі з барам, цукерак трэба было купіць, знаёмая пакінула, а там што робіцца! У бары гэтым маладым курыць не дазваляюць, дык стаяць усе каля ўваходу. Тры дзяўчынкі, адзін хлопец — і ў кожнага цыгарэта. І хоць бы што! Людзі ідуць, пазіраюць, а дзеўкі, нахабніцы, нават вачэй не апусцяць. Нафарбаваліся, вейкаў доўгіх панаклейвалі — быццам сінякі пад вачыма. У джынсах усе, абцягнутыя, сорам глядзець!

Жанчыны не ведалі, чаму іхняя начальніца загаварыла раптам пра сучасную моладзь, аднак тым не менш згаджаліся з ёй. Вопыт падказваў, што калі згаджаешся з начальствам — гэта не шкодна. Начальнікі таксама людзі, у іх таксама здараюцца непрыемнасці. Чаму не падтрымаць, не паказаць сябе спагадлівым і чулым? Не пашкодзіць, ніколі не пашкодзіць.

— Вось-вось,—сказала Ксенія Рыгораўна, мажная, звычайна флегматычная прадаўшчыца,— і я гляджу — жах што робіцца! Хлопцы валасатыя, дзяўчаты стрыжаныя, усе ў штанах, а на кашулях панапісана не па-нашаму, невядома яшчэ — што.

— Правільна,— таксама згадзілася намесніца Бэлы Рыгораўны, Чулкова — усе гаварылі пра яе

Чулкова, ніхто не называў імя, бо так прывыклі,— у маёй знаёмай сын на першым курсе інстытута, а ўжо хоча жаніцца! Такую ж, як сам, прывёў і кажа — калі ласка, мая будучая жонка. Ну, добра, што Каця жанчына рашучая — праз год прыйдзеце, сказала, тады распісвайцеся. А ўнук-падкідыш мне не трэба.

Бэла Рыгораўна ажно расчулілася, што супрацоўніцы так добра яе разумеюць.

— Куды прыйдзе такая моладзь?! — з лёгкім налётам скептыцызму спыталася яна, і ў інтанацыі гэтага пытання можна было нават знайсці немалую долю філасафічнасці.

— Ад курэння прамая дарога ў анкалогію,— пасля нядоўгай паўзы сказала Чулкова.— Усё зараз у гэтых маладых ёсць, а розуму не хапае. Далібог, ці прадукты зараз не такія, як раней, ці што яны растуць не па вёсках, а ў горадзе?..

— Праўда, жыццё памянялася,— абаперлася пышным бюстам на прылавак Ксенія Рыгораўна, часта заківала галавой.— Колькі дзяўчат цяпер: па дваццаць пяць, а то і па трыццаць гадоў ім — і не замужам. Гэта ж шкодна, мусіць?.. І што выбіраюць, каго ім трэба... Ці, можа, не бяруць іх, такіх модных?..

І ўсё было б добра, пагаварылі б хораша жанчыны, думкамі сваімі падзяліліся, засталіся б задаволенымі — ды сапсавала ўсё Нэла Майсееўна, старэйшая з супрацоўніц. Дасюль маўчала яна, корпалася ў паперах, нават галавы не ўзнімала — а тут усунула свае тры грошыкі:

— У турму яна прыйдзе, моладзь гэтая...

Усе і анямелі.

Так, дарэчы, часта бывае. На гулянцы якой людзі весяляцца, песні спяваюць, польку скачуць, а адзін, пустадомак які-небудзь, узяўшы лішку, а то

і без яго абышоўшыся — звягане языком. Што называецца — як у лужыну лапцем. І ўсё. Здаецца, і гармонік пілікае, і магнітафон падвывае, каторы з гасцей смяецца нават — а гулянкі няма. Бо няёмка. Бо настрой, належным чынам узняты, раптам знік. Добра яшчэ, калі чакаюць ад таго дасціпніка выбрык. А калі не? Пішы прапала.

Так і тут было. Павойкалі супрацоўніцы, паківалі галовамі, паспрабавалі зрабіць Нэлу Майсееўну аптымісткаю — і разышліся.

А Нэла Майсееўна быццам і не гаварыла нічога. Як сядзела нездаволенаю савою за сталом, так і засталася сядзець, ні на кога глядзець не захацела, не тое што апраўдвацца ці развіваць думку пра турму.

Бэла Рыгораўна раптам уявіла сваю дачку побач з валасатым, нахабным хлопцам з цыгарэтаю — і аж здрыганулася ўся. «Глупства,— падумала яна, адганяючы насланнё,— хутка зноў усё будзе спакойна і добра».

Яна і мне паскардзілася на Любачку. Сустрэла мяне на вуліцы, спыніла, расказала, што дачка не слухаецца, і зірнула ў вочы, быццам чакаючы дапамогі. А што я мог параіць? Супакоіў, як умеў, перадаў прывітанне Барысу Міхайлавічу — і пайшоў.

Пайшоў, а сам падумаў: «Быць таго не можа, каб гэтая гісторыя была першай і апошняй». І быў правы.

## ДЖЫНСЫ

Пра сінія амерыканскія штаны Любачка Дворкіна марыла з першага курса. Зразумела, у гэтым не было нічога незвычайнага. Якая дзяўчына не

хоча быць прыгожаю? Няма такіх дзяўчат, тым больш студэнтак.

Але ж мы ведаем і пра фінансавую палітыку ў сям'і Дворкіных.

І заканчваўся першы курс, а амерыканскіх штаноў у Любачкі не было і, шчыра кажучы, ніяк не прадбачылася.

Тым часам колькасць прэстыжных джынсаў на вуліцах нашага слаўнага горада — як, мусіць, і на вуліцах іншых гарадоў — усё большала. Горда ішлі ў іх дзяўчаты і хлопцы, і нават каторыя лысаватыя, з жыватамі і, так сказаць, не зусім маладыя дзядзькі бадзёра крочылі на службу ў тых жа джынсах.

Пагаворвалі ўжо, што на захадзе джынсы выходзяць з моды, што модныя зараз велюры і вельветы — а джынсаў у Любачкі ўсё яшчэ не было. Зразумела, як і вельветавых штроксаў.

Але ж не магло такога быць, каб модныя штаны абмінулі нашу гераіню. Толькі да пэўнага часу гулялі яны паасобку і па-свойму жылі. Павінны, абавязкова павінны былі іхнія пуцявіны перакрыжавацца.

Так і здарылася. Акурат у канцы лета пачалося ўсё, закруцілася і завязалася ў вузел.

Тым днём Любачка ўстала пазнавата — лета ўсё ж, канікулы, спраў ніякіх няма, акрамя, канечне, «Гастранома» і хімчысткі. Было сонца, нерухлівыя і рэдкія гурбачкі воблакаў у густой сінечы, летняя пустата запыленых гарадскіх вуліц. Раз-пораз нарываўся слабенькі ветрык, ляніва шаргацеў пажоўклым абрыўкам газеты, але хутка супакойваўся. Любачка пахадзіла ў халаце па кватэры, працерла швабраю падлогу, памыла газавую пліту на кухні — больш не знайшла нічога, за што зачапіць рукі. Чытаць не хацелася, бо апошнімі днямі толькі і сядзела за кнігамі, ажно кружылася гала-

ва. Перад гэтым Любачка адпачывала ў студэнцкім лагеры на Нарачы. Было весела, лёгка, цэлымі днямі ляжалі на беленькім нарачанскім пяску, услых чыталі Ільфа і Пятрова, хадзілі на танцы. Аднак хаця хлопцаў у лагеры хапала — Любачка ні з кім не пазнаёмілася. Так, спявалі ўсе разам пад гітару, жартавалі, проста маўчалі — а больш нічога не было. І Любачка ўсё чакала, што вось-вось здарыцца тое, дзеля чаго жывуць людзі ў яе ўзросце, заўсёды была ў ёй лёгкая трывога — ды дарэмна. Канечне, знаходзіліся хлопцы, якія запрашалі яе танцаваць, гаварылі розныя глупствы, нават цягнулі ноччу гуляць, аднак усе яны не падабаліся. Не было сярод іх таго самага. Нейкія вельмі звычайныя хлопцы. А калі яна ўсё ж прывыкла да іх — трэба было ўжо ехаць дамоў. Мусіць, таму і застаўся ад адпачынку лёгкі смутак. З ім Любачка і хадзіла апошнімі днямі.

І вось тут пазваніла Мілачка Іванцова, лепшая яе сяброўка, якая толькі-толькі прыехала з поўдня.

— Ты сабе не ўяўляеш! — адразу засакатала Мілачка.— Загарэла, як мулатка, і худая стала — проста жах! Скура дасюль салёная. Не трэба ні суп саліць, ні салаты. Лізнеш руку — і нармальна. А фундука наелася! З сабой таксама прывезла, прыйдзеш у госці, пачастую. Ну, а ты як? Я проста стамілася на тым моры. Сама ж ведаеш — гарачыня дзікая, а тут яшчэ мясцовыя хлопцы... Каб не бацькі побач, то і не прыехала б назад, мусіць...

— Што-што?! — аж заскакала ад нецярплівасці Любачка.— Расказвай жа!.. Гарачыню не пераносіш, ці што?

— Пры чым тут гарачыня?..— пачала рабіць шматзначныя паўзы Іванцова.— Мяне на тым поўдні не пераносяць! Хлопцы такія нахабныя — страх...

— Ну-у!..— Любачка схапілася рукамі за шчокі.— А ты што?

— Што я... Кажу — адстаньце! А ім хоць бы што. Зубы скаляць, прыгожая, гавораць. Ідзі за мяне замуж. Проста дзікуны нейкія. Усе вечары сядзела дома, баялася на вуліцу вылезці, не то што на танцы.

— Без танцаў жа сумна...

— Ну, пару разоў хадзіла, канечне. З намі ж Валерка ездзіў, брат. Дзіця, вядома, пятнаццаць гадоў. Я вазьму яго за руку, быццам гэта мой хлопец, а ён чырванее, вырываецца. Дык што ты думаеш — да яго пачалі чапляцца. Адзін, паўдурак, кажа — прадай сваю бабу! Дзіця стаіць, нічога не разумее, адно вачыма лыпае. Я за яго — і бягом дахаты. А Валерка пытаецца: «Тут што, нявест яшчэ купляюць? А колькі бяруць за іх?» Я кажу — ты ж толькі бацькам не гавары нічога. Жарты ўсё гэта. І так усе дні — пляж, хата, некалькі разоў увечары на набярэжную схадзілі. Табе ў студэнцкім лагеры, мусіць, лепей было.

— Ды дзе там лепей!..— запярэчыла Любачка.— Некалькі дзён дождж ішоў, сядзелі ў доміках. Танцы былі, але сумныя.

— Нікога не знайшла? — зразумела Мілачка.

— Ай...— уздыхнула Дворкіна,— добра, што ты вось прыехала.

— Дарэчы, Любка! — голас Мілачкі зазвінеў.— У мяне да цябе справа. Не паспела я прыехаць — званок. Знаёмая адна па тэлефоне звоніць. Адным словам — ёсць вельветавыя джынсы, сорак шосты памер!

У Любачкі ажно перахапіла дыханне, і сэрца застукала хутка-хуценька, быццам пакацілася ў нейкую бездань.

— Ты чуеш? — занепакоілася на тым канцы Мі-

лачка.— Кажу — вельветавыя, фірма, праўда сто восемдзесят рэ. Я ведаю, ты хацела...

— Канечне, хацела...— здаўлена сказала Любачка.— А... калі грошы трэба?

— Праз пару дзён, не пазней. Тут жа так — пакупнік заўсёды знойдзецца. Зяваць нельга.

— Ну так...— Люба ледзь не плакала.— Дык што рабіць?.. Дзе я столькі грошай вазьму...

— У мяне ёсць сорак пяць,— шчыра прызналася Міла.

— І ў мяне пяцьдзесят з летняй стыпендыі засталося. Маме я нічога не гаварыла. Слухай, я еду да цябе!

Рада была доўгай. Спачатку склалі ўсе грошы, якія былі ў наяўнасці. Тут нават не ўцалелі дваццаць два рублі Мілачкі, што былі адкладзены, каб пашыць сукенку. Пра іх Любачка аднекуль ведала. Аднак сто семнаццаць рублёў — не сто восемдзесят. Вось тут і пачаліся галоўныя пакуты. Дзяўчаты хадзілі па кватэры і думалі. Самае лепшае было — пазычыць. Але дзе і ў каго? Аднакурсніцы яшчэ не паз'язджаліся з канікул, але, каб і былі яны тут, няшмат карысці было б з гэтага. Дзяўчаты стараліся глядзець на ўсё цвяроза. І ўжо дзве гадзіны прайшло з пачатку рады, а кардынальная прапанова так і не нарадзілася.

Вядома, кожны чалавек, калі захоча, можа паставіць сябе на месца Любы Дворкінай, улезці, так сказаць, у яе скуру. І калі чалавек зробіць гэта, ён зразумее яе цяжкое становішча, а зразумеўшы — пашкадуе. Можа быць — і дасць параду. Сапраўды, можна, напрыклад, перавесціся на завочнае аддзяленне, пайсці на работу і адкладваць штомесячна рублёў дваццаць-трыццаць. З цягам часу не тое што джынсы — машыну купіць можна. Але я, праўда, не ўпэўнены, што Любачка паслухала б такіх да-

радцаў. Жанчыны — народ складаны і часта незразумелы.

Дарэчы, Любачка і ў мяне перахапіла нейкую дзесятку. Сустрэла на вуліцы і, чырванеючы, папрасіла. Я, канечне, не ведаў тады, што там яна збіралася купляць. Але даў з ахвотаю. Усе грошы аддаў, што былі ў кішэні. Хацеў быў яшчэ пагаварыць з Любачкаю, ды спяшалася яна...

Дык вось што было пасля тае рады. Бяссоннай ноччу Любачка ўсё ж склала план, і на ранкі зноў прыехала да Мілы.

— Ну што? — сустрэла тая яе.— Пагаварыла з бацькамі?

— Якія бацькі?! — сказала Люба.— Гаварыць з імі — лепш у пятлю лезці. А я буду ў джынсах!

І яна зноў успомніла французскі дэтэктыў, які прачытала зусім нядаўна. Там адна маладая і прыгожая жанчына прыкінулася мёртвай, а потым метадычна і з халоднай крывёй давяла свайго нелюбімага мужа — дзеля палюбоўніка, зразумела,— да самазабойства. Страшная гэта гісторыя ніяк не выходзіла з Любчынай галавы, думала пра яе і мінулай бясконцай ноччу. Проста мурашкі іншы раз беглі па скуры, настолькі там усё было загадкава і жудасна.

— Шэсцьдзесят не шэсцьдзесят, а сорак рублёў мы зараз знойдзем...— неяк задумённа сказала Люба, і Мілачку ўразілі незнаёмыя інтанацыі ў яе голасе.— Хіба мая мама не працуе ў аптэцы?..

Дворкіна рашуча падышла да тэлефона і ўпэўнена пакруціла дыск.

— Алё, цёця Лора? Добры дзень, гэта Люба. Нармальна... Не, на Нарачы была... Добра. Цёць Лор, тут мама дастала абляпіхавае масла... Ага, тое самае. Яна сказала, каб вы перадалі мне грошы. Не, сёння ж. Ага, праз пару гадзін зайду.

Любачка паклала трубку і глыбока-глыбока ўздыхнула. І выгляд у яе быў такі, што Міла міжволі і чамусьці вінавата адвяла вочы ўбок.

— Вось так,— сказала Любачка,— засталася нейкая дробязь...

Голас яе дрыжаў, быццам яна збіралася плакаць.

Назаўтра Люба Дворкіна трымала ў руках каштоўныя штаны — карычневыя, доўгія, у дробныя рубцы і з так званаю «лэйбаю», без якой джынсы ніколі не могуць называцца джынсамі. Мусіць, не трэба гаварыць, як калацілася сэрца і як трэсліся яе рукі. Але што б там ні было, Любачка стаяла пасярод пакоя ў джынсах, і твар яе быў шчаслівы, а Міла хадзіла кругом яе і ацэньвала. Штаны сядзелі добра, таму Адзінцовай не трэба было крывіць душой, можна было гаварыць усё чэсна. Яна і гаварыла, а Любачка, чырвоная і трохі ўспацелая, выгінала шыю, каб добра ўбачыць сябе ў люстры ззаду. У басаножках на высокіх абцасах яна сапраўды глядзелася цудоўна. І ў яе галаве мільганула, што вось якраз з-за гэтага імгнення можна перанесці ўсё...

А гэтае «ўсё» ўжо грозна расло, большала наперадзе, маячыла, запаўняла сабою небасхіл і няўмольна насоўвалася — як навальніца са змрокам і нячутнымі яшчэ бліскавіцамі, якая абрынецца хутка на здранцвелую зямлю грукатам і залевою.

— Слухай, а калі ты свае джынсы бацькам пакажаш? — спыталася Міла, калі Дворкіна збіралася ісці.

— А вось зараз надзену і пайду!..— раптам сказала Любачка, і тон быў такі, быццам збіралася яна сварыцца.

І сапраўды нацягнула джынсы. Мілачка падумала, што некаторыя людзі могуць змяніцца про-

ста за пяць мінут. Яшчэ хвіліну назад яны здаваліся ціхімі, спакойнымі, баязлівымі, а зараз... Але прамаўчала Мілачка, пакінула ўсе гэтыя думкі пры сабе. Сказала толькі, што, калі што, Люба на яе можа спадзявацца. Тут Любачка хаця і ціхенька, але ўздыхнула. Чамусьці ёй захацелася абняць сяброўку.

Дахаты па вячэрніх і шматлюдных вуліцах Любачка прайшла пешшу.

А дома яе ўжо чакалі: бацька, маці, дзед з бабаю, якія па тэрміноваму выкліку прыехалі аж з другога канца горада, і цёця Лора. Бацька зноў ляжаў на канапе. І ён сказаў першы:

— У нашай сям'і ніколі не было аферыстаў. Мы ўсе былі сумленнымі людзьмі. А цяпер сярод нас ёсць аферыстка! Што ты зрабіла з грашыма?!

— Я купіла джынсы,— сказала Люба і стала так, каб усе добра разгледзелі на ёй новыя штаны.

— Мая дачка купляе крадзеныя рэчы! — як не застагнаў Барыс Міхайлавіч. У час сваёй прамовы ён стаяў, а тут зноў мусіў сесці.

Барыс Міхайлавіч аднекуль ведаў, што ўсе гэтыя модныя джынсы, джынсавыя сукенкі і кашулькі наша айчынная прамысловасць не вырабляе. Мусіць, чуў ён пра гэта ў сябе на рабоце, дзе таксама пачалі з'яўляцца маладыя супрацоўнікі ў легкадумных штанах. Барыс Міхайлавіч паглядаў на гэтых так званых канструктараў з асуджэннем і быў з імі нязвыкла строгі. Часамі яны нават баяліся да яго падысці, і ён, ведаючы гэта, усё-такі не мог пераступіць цераз сябе, усміхнуцца там або хаця б ветліва пагаварыць. І вось здарылася — ягоная дачка чорт ведае ў каго купіла крадзеную — а як жа яшчэ трапілі да нас гэтыя джынсы? — рэч, і цяпер стаяла, пазіраючы на ўсіх з выклікам і на-

ват нахабна. Ды і хаця б за свае грошы купіла яна іх!..

— Яны ніякія не крадзеныя,— сказала Люба.— Яны былі лішнія ў адной дзяўчынкі.

У Барыса Міхайлавіча зноў падкаціла пад сэрца, і ён толькі слаба махнуў рукой і зірнуў на жонку.

— Ты думаеш, мы такія дурныя? — уступіла Бэла Рыгораўна, павяла сваю партыю дакладна і артыстычна.— Іх правезлі цераз мяжу зладзеі, і цяпер ты іх купіла! Цябе могуць нават арыштаваць!

Сямейства і цёця Лора захваляваліся. Усе жыва і яскрава ўявілі сабе, як зараз увойдзе ў кватэру міліцыянер, сурова абвядзе ўсіх позіркам і скажа: «Дворкіна Любоў Барысаўна, збірайцеся!»

Але нават Бэла Рыгораўна ўсё не магла перайсці да галоўнага — да жахлівага падману Лоры Якаўлеўны, цудоўнай, паважанай усімі жанчыны, якая столькі зрабіла для іхняй сям'і.

Дзед з бабаю таксама агакалі, асуджальнаківалі галовамі, глядзелі ў столь, як бы звалі адтуль некага ў сведкі. Абураліся, канечне, усе, але неяк нейтральна.

І Лора Якаўлеўна, што пакуль сядзела, як помнік, сказала сама, выратавала, так сказаць, сямейства грэшніцы:

— Як жа гэта ты, мая даражэнькая, магла так мяне абразіць?.. Як жа ў цябе хапіла... падманваць людзей на леках?!

У голасе Лоры Якаўлеўны дрыжалі вось-вось гатовыя абрынуцца долу слёзы.

Усе члены рады, як адзін, засмучана апусцілі вочы. І добра, таму што Любачка ў гэтую хвіліну маўчання не знайшла нічога лепшага, як усміхнуцца, прычым — з'едліва.

— Я, можа, без гэтага масла паміраю!.. — не

зусім да месца дадала ўзрушаная Лора Якаўлеўна.

Любачка, якая дагэтуль з усяе моцы сціскала вусны, каб не вырвалася з горла ніводнага гуку, не стрымалася, і словы пакаціліся, як колы з горкі.

— Ой, цёць Лор!.. Гэта ж глупства ўсё — абляпіхавае масла. Нам у інстытуце казалі — звычайны ажыятаж. Дапамагае яно толькі некаторым, зусім нямногім, а астатнія ганяюцца, таму што нічога не разумеюць. Вы ж ведаеце, калі што модна, то людзі задушацца, а дастануць. Унь нават бацька два абразы прынёс. Павесіць нельга, партыйны, то ў гаражы схаваў. Я ж ведаю.

Барыс Міхайлавіч вылупіў вочы і пазяхнуў, як выкінутая на пясок рыба. І як гэта часта бывае ў самы адказны момант — прапаў голас. Так, пачулася сіпенне, быццам з горла выходзіла апошняе паветра.

А Любачка не спынялася, веснавым раўчуком, што невядома адкуль набраўся сілы, ляцела на злом галавы,— а куды? — хто яго ведае, там убачым, можа, рэчка якая трапіцца ці хаця б канава.

— Вам гэтае масла, цёць Лор, далібог, не трэба. Толькі грошы выкінеце. А мне пяцьдзесят рублёў во так трэба былі, чэснае слова,— Люба правяла рукой па горле.— Я б вам хутка аддала. Я заўтра хацела да вас прыйсці і ўсё расказаць... Чэснае слова!

І тут дзед, што нарэшце разабраўся са сваімі думкамі і пачуццямі, сказаў:

— Ты нас зняславіла. Ты зняславіла ўвесь род Дворкіных!

Рада захвалявалася так, што ўсе паўставалі з месцаў. Адна бабка засталася сядзець — заснула. Стаміла яе, мусіць, доўгая дарога і гэты суд. Аднак ніхто не звярнуў увагі, можа, толькі Любачка глянула з усмешкаю. Гаварылі ўсе разам, дзед на-

ват спрабаваў крычаць, ды тлум гэты ўсё ж не мог разбудзіць старую. Бывае, гэтак жа сама чародка веснавых, надта ж гарластых вераб'ёў узніме вэрхал вакол старое кошкі, што ўгрэлася на сонейку. Аж на галаву становяцца, б'юцца, пішчаць — а кошка сабе спіць спакойна, нічога не чуе. Ажно крыўдна робіцца: так стараюцца некаторыя — і хоць бы што.

Любачка хацела сказаць слова-другое, абараніць сябе і сваю пакупку — ды глухнуў яе голас у агульным шуме. І тады слёзы градам сыпанулі з вачэй, і яна кінулася ў свой пакой: рыдала і сморкалася, а за дзвярыма бацькі наўмысна моцна прасілі прабачэння ў Лоры Якаўлеўны і супакойвалі старых Дворкіных.

— Даруй, Лорачка,— звінеў голас маці,— вось тут сорак рублёў, бяры, калі ласка. Не хвалюйся толькі, беражы сэрца, а мы ўжо са сваёй разбяромся! Яй-богу, мала ёй не будзе! Запомніць яна гэты дзень на ўсё жыццё!

Бабулю, мусіць, разбудзілі ўжо, таму што Барыс Міхайлавіч гаварыў:

— Мама, можа, вам таксі выклікаць? У транспарце людзей заўсёды шмат, а тут сядзеце і паедзеце, праз дваццаць мінут дома. Што вам час губляць?

Старэчы голас прашамкаў нешта, бацька сціх, ды не змоўчала Бэла Рыгораўна:

— Вось, вось тры рублі, якраз на таксі хопіць. Бярыце, і слухаць не хачу нічога... Потым, потым аддасцё, вы ж не вінаватыя, што не ўзялі з сабой грошай...

І ўрэшце ахапіла хату цішыня.

Выплакаўшыся, Любачка села каля акна, каля таго самага акна, з якога бачылася клумба. Ну так, на гэтай клумбе не так даўно шчыравала Любчына маці, шукала адны рэчы, да якіх Любачка ўжо не

падпускалася. Трошкі супакоіўшыся, Любачка ніяк не магла вырашыць, шчаслівая яна сёння ці не. З аднаго боку, у яе былі джынсы, ляжалі вунь на ложку, з другога — за сцяной неспакойна тупалі бацькі. «Ці бывае ў жыцці радасць? — самотна думала Люба.— Чыстая, светлая, вялікая радасць? Мусіць, няма такой. Не паспееш узрадавацца — тут жа кідаецца на цябе гора. І чым большая радасць — тым большая чакае бяда. А мне дык увогуле ніколі не шанцавала. Такой ужо ўрадзілася. Недарэка...»

Неўзабаве Люба заснула, і снілася ёй, што на ўсёй зямлі няма блізкага чалавека, адны чужыя наўкол, абыякавыя людзі, якім усё роўна чым жыве дзяўчынка. Яны нават радуюцца, калі ёй блага. Твары ва ўсіх тых людзей аднолькавыя — нездаволеныя, бледныя, амаль не бачна на іх вачэй, таму што людзі іх хаваюць, баяцца глядзець смела і шчыра. А Люба ходзіць і не можа знайсці ніводнага знаёмага чалавека...

Невядома, як вытрывала б Любачка амаль месяц, які заставаўся да пачатку заняткаў у інстытуце, каб яна была толькі з бацькамі. Можа, і ўцякла б з дому, таму што такія думкі ў яе галаве блыталіся. Яна нават з Мілачкай раілася, пыталася, ці можна зняць кватэру, каб жыць у ёй спакойна і лёгка. Мілачка, праўда, пасмяялася і абазвала сяброўку прышэльцам. Сапраўды, як гэта можна не ведаць, што кватэру цяпер знайсці і цяжка, і вельмі ж дорага гэта. Бывае, што сто рублёў у месяц плаціць трэба, а ў каго ёсць такія грошы? Пакой зняць можна, гэта трохі лягчэй, ды і каштуе ён усяго сорак рублёў. Але ж пакой — не кватэра. Тут і гаспадары, і на кухню не заўсёды зойдзеш. Любачка выслухала ўсё, апусціўшы галаву. Яна і не здагадвалася пра ўсе гэтыя праблемы. Ёй было сорамна.

Але з бацькамі яна ўпарта не хацела гаварыць.

6 Зак. 476

— Хутчэй язык адсохне!..— зацята гаварыла яна Міле.

— Ну-ну,—ківала галавой сяброўка,— ты, можа, і есці з іхняга стала не будзеш? Вось я чула, у буржуазных турмах зняволеныя галадоўкі аб'яўляюць. Можа, і ты гэта?..

Люба не адказвала, адно ўздыхала. Адзінае, што яе ўратоўвала — гэта сіямскае кацяня, якога дала ёй аднакурсніца Света Казлова. Кацяня было худое, лупатае, вельмі хуткае і нейкае дзікае. Яна даўно ведала, што ў Казловых жыве сіямская кошка. А як толькі празнала, што з'явіліся кацяняты — адразу пачала званіць, нават два разы прыходзіла, каб выбраць сабе прыгажэйшага. Трэба сказаць, кошка ў Казловых была з характарам. Яна вельмі не любіла, калі на яе сварыліся. «Зноў сцягнула рыбу? — пачынала Валянціна Пятроўна, Свеціна маці.— Зладзейка, вочы паставіць, нават уцякаць не хоча!..» А кошка аскрыжалася — хвост трубой, спіну выгне, раззлавана кеўкне. Так і сварацца абое — адна словамі, другая мяўканнем. І ніхто саступаць не хоча, ваююць, пакуль па розных пакоях не разыдуцца.

Любачка баялася, што кацяня ўдасца ў маці, але пакуль благі характар не праяўляўся.

Назвала кацяня Люба Юзікам. Чаму? Была такая гісторыя.

На Першага мая Любачка пайшла ў паход у Налібокскую пушчу з аднакурснікамі, сярод якіх былі рыбаловы і якія не маглі, зразумела, не выбрацца на раку. Хлопцы цягнулі здаравенныя рукзакі з палаткамі і вялі за сабой дзяўчатак, якіх таксама вабіла экзатычная і не вельмі знаёмая прырода. А адна з тых дзяўчатак — Лідачка — несла на руках шчанюка. На аўтобусным вакзале яна ўсім растлумачыла, што шчанюка зусім не было з кім пакінуць. «Я ж адна жыву,— паварочвалася яна

да даволі-ткі здзіўленых хлопцаў,— а ён маленькі яшчэ. Без мяне скавыча, не есць нічога... Вось і ўзяла...» Хлопцы хмыкалі, тыцкалі пальцамі ў жывот шчанюка, які адно бесталкова круціў мордаю і высоўваў ружовы язык,— і пакуль маўчалі. Нават мянушкі яму гаспадыня яшчэ не паспела прыдумаць. Да рэчкі было шэсць кіламетраў, і спачатку шчанюк спрабаваў бегчы самастойна. Ды ногі блыталіся, галава ледзь не пераважвала тулава, і Лідачка мусіла ўзяць яго на рукі. Асабліва ж смешна было глядзець на тое, як шчанюк чамусьці бег бокам, закідваючы лапы ажно за вушы. Як ні стараўся, не паспяваў ён усё ж за доўгімі нагамі людзей...

І ў першы ж вечар пачалі прыдумваць яму мянушку. Спачатку назвалі Кабыздохам — у гонар славутага літаратурнага героя. А потым Любачцы трапіла думка — Юзік! Дастойнае, прыгожае імя. Так і пайшло — Юзік, на костку, Юзік, злезь з галавы ці аддай калашыну...

З-за гэтага вось Юзіка, што гатовы быў задушыцца з-за косткі — адкуль толькі рык браўся! — і дала Любачка свайму кацяняці такое імя. Бацькі, канечне, надта здзівіліся, пачуўшы дзіўную мянушку, аднак нічога не сказалі. Ды і што тут гаварыць? Немалы ж скандал у сям'і ўтварыўся. Немалы і зацяты.

Абодва варожыя бакі спадзяваліся на час, які, як вядома, самы лепшы лекар і суддзя.

А тут і верасень набліжаўся. Асабліва Любачка радавалася, што студэнтаў малодшых курсаў у верасні пасылаюць на бульбу. І няхай вятры з дажджамі, няхай баліць з непрывычкі спіна і не гнуцца рукі — усё ж у вёсцы лепей, чым дома. Ужо таму, што не будзе побач бацькоў, якія хаця і не лаюцца, ды ходзяць з падцятымі вуснамі і каменнымі тварамі. «Адпачну душой»,— думала Любачка. Яе нават

вабілі яшчэ і прасторы палёў, нязвыкла чыстае, аж-но звонкае, паветра, начная гушчыня дробных, мігатлівых зорак, да якіх спрабуе дасягнуць думка... Будуць там і вячэрнія сустрэчы, на якіх песні пад гітару, размовы пра жыццё, смех.

Любачка нават чакала пачатак навучальнага года з хваляваннем.

І пачынаўся яшчэ наступны, новы перыяд яе жыцця.

## СУСТРЭЧА

З Любачкай час ад часу я сустракаўся — суседзі мы ўсё ж, адзін аднаго даўно ведаем, было, што яна мне падабалася, не ведаючы, праўда, аб гэтым, і мне заўсёды цікава было з ёй гаварыць. Маладзейшая на восем гадоў, яна ўжо была трохі не такая, як мае аднагодкі. І думала крыху не так, па-іншаму людзей ацэньвала — адным словам, пэўная адлегласць паміж намі адчувалася. І гэта натуральна, зразумела. Расце тэмп жыцця, а разам з ім і погляды мяняюцца, і звычкі, і думкі. Мусіць, не трэба баяцца гэтага, так было і так будзе. Не заўсёды, канечне, зразумееш маладзейшых за сябе, аднак спрабаваць гэта варта. Я нават перакананы, што такая пазіцыя адзіна правільная.

Вось і гаварыў з Любачкай Дворкінай, атрымліваў ад яе лісты са студэнцкай бульбы, сам нават адзін раз ёй адпісаў.

Трэба сказаць, з тых лістоў мне было зразумела, што Любачка зусім мала памянялася з таго моманту, як скончыла школу. Па-ранейшаму яе найбольш цікавіла другая, далёка не лепшая палова чалавецтва. А што тут дзіўнага? Ёй жа не за трыццаць, як некаторым...

Вось што Любачка пісала ў першым лісце. «Пра-

цуем мы звеннямі, у кожным — чатыры дзяўчынкі і адзін хлопец, які носіць вёдры з бульбаю. За дзень трэба назбіраць восемдзесят вёдзер. Кожны рад прыблізна тры кіламетры. І ўвесь час сагнутая. Лепш бы я фізіку вывучыла дзесяць разоў, чым збіраць бульбу. Назаўтра страшэнна баляць ногі. І не сагнешся. Але ўсё гэта, так сказаць, агульныя разважанні. Цяпер пра сёе-тое прыватнае, дакладней, пра хлопцаў. Адзін, Лёня, працавіты, а другі, Валодзя, з доўгімі валасамі. Дык я ніяк не разбяру, на каго Валодзя паглядае — на мяне ці Буйко Таню. Калі стане зразумела — напішу...» Подпіс — Любачка-бульбакапалка.

А гэта другі ліст. «Сёння раніцой прачнуліся — а за акном снег! Уяўляеце, у сярэдзіне верасня снег. У Мінску можна цяплей апрануцца, сесці ў тралейбус і ехаць, куды зажадаецца. А тут жа работа. Праўда, працаваць цяпер ужо не так цяжка, таму што прывыкла. Наогул на «бульбе» патроху пачынае падабацца. Ёсць адзін хлопец, Віця, як гляну на яго — у галаве горача... Высокі, разумны, здаецца, пазірае на мяне.

Была яшчэ такая прыгода цікавая! Сёння абедалі мы толькі ў чатыры гадзіны, і ўсе вырашылі, што абыдземся без вячэры. Але мы з Таняю Буйко згададаліся, прыйшлі на кухню. Там адзін хлеб на сталах. Я палезла праз раздатачнае акенца — і ўлезла з нагамі ў каструлю з вадой. Сушылася амаль да дванаццаці гадзін ночы. Нават тут, у простай сітуацыі, здолела, як кажуць, лапцем у лужыну. Тані смешна, а мне не вельмі...»

Самы сумны ліст — трэці. «Так сёння вечарам мне блага, нават плакаць хочацца. Я зразумела, што зусім яму не падабаюся. Усё, што было раней, мне толькі здавалася. Ну чаму мне так не шанцуе? Тані добра, яна ходзіць з Андрэевым... Калі шчыра, з гэ-

тым Віцькам мне хацелася толькі пацалавацца, паабдымацца, адным словам — цягнула, як да прыгожай рэчы. А ён — дурны тоўсты цюлень. Цяпер нават шкадую, што так з-за яго перажывала. Ні з кім цяпер не буду цалавацца. Прападзі ўсе яны пропадам! Я, мусіць, як і ўсе, чакаю свайго прынца. Невядома толькі, дзе ён. Але ж павінен, па ідэі, хутка знайсціся...

Заўтра — апошні дзень. А там — інстытут, сяброўкі. Хочацца паглядзець на старэйшыя курсы — якія яны? А Таня зноў гуляе з Андрэевым, проста аслепла ад кахання. Зноў я трэцяя лішняя... Калі толькі скончыцца гэта?..»

Пэўна, больш адкрытыя пісьмы пісала яна Мілачцы Іванцовай. Але, на жаль, у мяне іх няма. Вось там, мусіць, і ўсе таямніцы, і прыхаваныя думкі, і самыя смелыя спадзяванні. Думаю, і крыўда ў іх таксама большая.

Ды як бы там ні было — Люба жыла, сталела, набіралася розуму і ўпэўненасці. Я проста здзіўляўся, калі сустракаў яе і гаварыў.

...Першы семестр другога курса Дворкіна адвучылася добра, нават вельмі добра. Яна ўпадабала рыхтавацца да заняткаў і калёквіумаў у бібліятэцы, праседжвала ў ёй амаль усе вечары. Зразумела, не забывалася яна і на тэатр. Іванцова якраз вырашыла стаць журналісткаю, якая будзе пісаць пра тое, што адбываецца ў святле рампы. Цяпер сяброўкі хадзілі на ўсе прэм'еры сталічных тэатраў, а два разы нават здолелі трапіць на закрытыя прагляды. Любачку гэта трохі ўзняло ва ўласных вачах. Дзякуючы Мілачцы яна ведала некаторых акцёраў, размаўляла з імі аб сім-тым, магла паразважаць пра сучасных драматургаў і рэжысёраў. А Іванцова нават напісала заметку ва універсітэцкую шматтыражку. Любачка шчыра парадавалася

за яе і... сама захацела што-небудзь напісаць. Што-небудзь арыгінальнае. Не пра тэатр, можа, а пра сваё нешчаслівае жыццё. Яна не будзе пісаць ад першай асобы, назаве гераіню, напрыклад, Тамарай, але ўсе пазнаюць у гэтай Тамары Любачку. Напішацца няхай не аповесць, апавяданне, затое надрукуюць яго ў «Юности», у маскоўскім выданні. І пасыплюцца ў паштовую скрыню Дворкіных сотні лістоў, і ўсе — Любові Барысаўне Дворкінай... Яна скончыць інстытут, будзе працаваць тэрапеўтам у клініцы і друкаваць аповесці. Пра дактароў, хворых, наогул пра людзей, якія жывуць, смяюцца, плачуць, знаходзяць адно аднаго на нашай зямлі. Ад такіх думак у Любачкі іншы раз халаднелі кончыкі пальцаў і беглі па спіне мурашкі.

Але гэтыя свае мары яна хавала далёка-далёка, не дзялілася імі ні з кім, нават сябе іншы раз спыняла — быццам мог іх нехта падслухаць.

А з бацькамі ў яе было неяк невыразна. Зразумела, яны размаўлялі, радаваліся ўдачам, перажывалі, калі не ўсё было добра. Але адчувалася ўвесь час недагаворанасць. Ва ўсякім разе — Любе не хацелася шчыра расказаць маці пра свае мары, не хацелася пажартаваць з бацькам. Канечне, сядзела ўсярэдзіне стрэмкаю адчуванне ўласнае віны, што яна тады падманула Лору Якаўлеўну, і сорам час ад часу абліваў сэрца гарачынёй і гнаў сон — ды ўсё ж не знікала нязгода з бацькамі.

Бацькі нават не ведалі добра, як ідзе студэнцкае жыццё дачкі, і гэта, як ні круці, непакоіла іх. Спрабавала Бэла Рыгораўна шчыра пагаварыць — і наткнулася на адчужанасць. Яна аднойчы і з Мілай Іванцовай пагаварыла, выклікала яе на даверлівасць, але Міла толькі пацiскала плячыма, паказвала, што вельмі спяшаецца. Неяк Міла з Любаю

забеглі ў яе аптэку па лекі для знаёмай, і Бэла Рыгораўна трошлі пахваліла Іванцову:

— Вось на табе, Мілачка, гэтыя джынсы сядзяць прыгожа, ты дзяўчынка тоненькая. А цяпер зірніце на гэты сорак восьмы памер!..

І паказала на дачку.

— Сорак шосты,— пакрыўдзілася тая.

Усе ў аптэцы пачалі глядзець на сорак шосты памер. І некаторыя — былі ў аптэцы два даволі маладыя мужчыны — пачалі бараніць Любу, горача даказваць, што Бэла Рыгораўна не зусім справядлівая. А адзін проста так і сказаў: «На гэтай дзяўчынцы джынсы глядзяцца, між іншым, вельмі і вельмі няблага!..»

Бэле Рыгораўне заставалася толькі махнуць рукой.

...Беглі дні, за восеньскімі дажджамі, што абцерушылі дрэвы ў парках і скверах, услалі зямлю жоўта-чырвоным кілімам, замільгалі перад вачыма белыя мухі. Снег укрываў зямлю, раставаў, зноў сыпаўся — і надышоў Новы год. Люба з Мілай самі купілі ёлку, хораша ўбралі яе, навыдумлялі самых неверагодных цацак і «дождждыкаў». Захацелі і пагадаць у навагоднюю ноч, таму што ў Мілачкі на курсе апошнім часам хадзілі па руках самыя розныя гараскопы і запісы гаданняў. Павевы ўсіх гэтых мод падобны на вецер — як нарвецца з поўначы, то нагоніць халадоў, а калі з поўдня ці захаду пацягне — цяпло і спакой. Альбо калі заквітнее ў маі чаромха, аснежыць зямлю і засыпле буктачкі невялікіх рачулак — тады плавае толькі яе пах, глушыцца ўсякі іншы. А пройдуць дажджы, памякчэе паветра, і выткнецца яшчэ рэдзенькая шчэць маладой травы — уладараць цёплыя хвалі бэзу. І ў людзей — пайшла гаворка пра гараскопы, пра драконаў і змей, то і японскі каляндар аднекуль узяўся,

і сваім на благі канец пачалі карыстацца. Толькі і чуеш: «Ты з-пад якога сузор'я?» — «Дзева...» — «Ну-у, браце... А я Леў!..»

Як дзеці, якім новую цацку ў рукі ўсунулі.

Значыць, гадалі Міла і Люба з тапачкай. Адна становіцца спіной да дзвярэй і шпурляе цераз галаву сваю тапачку. Другая стаіць побач і глядзіць — калі тапачка ўтыркаецца ў дзверы наском, значыць, яе ўладальніца сёлета выходзіць замуж. Як не — то не. Чакай наступнага года і са скуры не вылузвайся. Як той казаў — вышэй галавы не скокнеш.

Зачыніліся ў Мілачкавым пакоі, кожная дастала з пакета сваю тапачку. Справа ж адказная, і дрыжалі крышачку рукі, перахоплівала дыханне, чырванелі вушы. Першай кідала Мілачка — стала як разручней, памахала рукой, як спартсменка на размінцы, кінула. Тапачка моцна і дакладна торкнулася наском у дзверы. Аж заскакала Іванцова, пачала абдымаць сяброўку. А Люба чамусьці стала ад дзвярэй вельмі далёка, сваю тапачку з пампонам узяла ў левую руку. Глыбока-глыбока ўздыхнула, заплюшчыла вочы і кінула... Пастаяла, урэшце азірнулася, таму што ў пакоі павісла незвычайная цішыня. Міла, як зачараваная, глядзела на дзверы, і вочы ў яе былі — што сподачкі. А тапачкі не было. Ні на падлозе, ні ў яе руках.

— А-вой!.. — закруцілі дзяўчаты галовамі, адна нават укленчыла, пачала туды-сюды поўзаць.

— Ды вось яна!.. — пераможна закрычала Іванцова.— Вісіць!..

Тапачка спакойна пагойдвалася на люстры, быццам і пазірала адтуль на сяброўак з усмешкаю.

— Вось та-ак... — схапілася за галаву Любачка.— Што ж будзе цяпер?..

— А хто яго... — таксама спалохана глядзела ўгору Міла.— Не тое і не гэтае...

— Памру, можа?..

— Ды не, глупства. Можа, як быццам замужам — і не замужам?.. Калі без афармлення, то можа быць.

— Ды кінь ты! — аж топнула нагой Дворкіна.— Панавыдумляла глупстваў. Не гаданне гэта, а лухта!

— Канечне, лухта,— згадзілася Мілачка.— Трэба было на кафейнай гушчы, самы надзейны спосаб. Шкада толькі, не ведаем як.

На тым і пагадзіліся, хаця думалі, канечне, па-рознаму. Адна была задаволенаю, а другой плакаць хацелася.

Калі па сваёй сутнасці, унутрана Люба Дворкіна амаль не мянялася — перш за ўсё ў благі бок,— то знешне яна проста з кожным днём прыгажэла. А тут і бацькі раздобрыліся, купілі ёй па вялікім блаце імпартную шубку — і дзяўчына зусім стала красуняю. Яна нават мірылася з тым, што пад шубку нельга насіць джынсы. Хадзіла ў звычайнай сукенцы і боціках. Папрыгажэла Дворкіна настолькі, што аднойчы яе не пазналі аднакласнікі. Лявон Дзічкоў і Пятро Паўловіч неяк пазванілі і запрасілі ў кіно. «Каб была на прыпынку каля «Кастрычніка» праз пятнаццаць мінут!» — загадалі яны. А Люба сама меней збіраецца сорак пяць. «Але нічога,— падумала,— вытрываюць. Не так будзе, як кажуць, а так, як зробім. Галоўнае, на сеанс не спазніцца». Апранулася, зразумела, у самае лепшае. Маці, убачыўшы яе зборы, ажно ўздыхнула: «Ты нас не слухаешся, а мы адных рэчаў накуплялі табе на тысячу рублёў. Шуба англійская, боцікі аўстрыйскія, сукенка фінская...» «Затое шапачку я сама вязала!» — сказала Любачка і пайшла. Спяшалася, часта пера-

бірала нагамі, хаця і баялася пакаўзнуцца. Студзеньскія маразы абледзянілі асфальт, абцягнулі карункавай кісяёй дрэвы, згусцілі паветра — здавалася, яно не вытрывала абдымкаў калядных марозаў і рассыпалася на драбнюткія крышталікі. Любачка прыйшла на прыпынак, стала недалёка ад засыпанай снегам лавачкі, агледзелася. Хлопцы таўкліся каля ліхтарнага слупа, спрабавалі нават штурхацца — мусіць, добра-ткі змерзлі на нязвыкла моцным марозе. Але да яе не падыходзілі, адно чамусьці азіраліся, як устрывожаныя пеўні. «Ну і я не падыду!» — горда падумала Любачка, асцярожна прысела на лавачку. А хлопцы тым часам гаварылі: «Няма...» — «Мусіць, не прыйдзе».— «Давай, можа, любую другую запросім?» — «А вунь зірні, якая красуня сядзіць... мінуты тры ўжо».— «Ну-у, слабо табе такую. Гэта, браце, вышэйшы клас, не пойдзе» — «Мне слабо?! Не пойдзе?» І Дзічкоў, паспрабаваўшы расправіць застылыя плечы, рашуча заварушыў нягнуткімі нагамі. «Дзевушка...— быў пачаў ён — і замоўк, быццам выключылі ў яго тое, чым гавораць.— Ты?!» — «Канечне, я,— пакрыўджана сказала Люба.— Паспрабуй сам вось так хутка сабрацца. І так за паўгадзіны справілася». Яна так і не зразумела, чаму крыва ўсміхаліся хлопцы, пазіралі на яе, як на дзіва дзіўнае. Потым толькі, дзён праз некалькі расказалі яны пра сваю памылку. «А я цяпер заўсёды такая!» — не ўтрывала, каб не пахваліцца, Любачка.

А час ішоў, не спыняўся, як і павінна быць у нашым сусвеце. Вось і зіма скончылася, адзвінела за ёй вясна з першым кволым промнем, ранішнім лядком на лужынах і пупышкамі на разбухлым вецці,— надышла чарговая сесія. Любачка і яе здала, схапіла, праўда, адну тройку, ды ў медыцынскім інстытуце не атрымаць яе, казалі, немажліва. Вельмі, вель-

мі патрэбна было бледнаму тварыку з кругамі пад вачыма яркае сонца. «Ну і схуднела ж ты! — перажывала маці.— Паедзеш з намі ў Сочы. Пакупаешся ў моры, паясі дынь, персікаў, чабурэкаў якіх-небудзь — і паправішся».— «Ды не,— круціла галавой Любачка, хавала вочы.— Я блага пераношу Каўказскае ўзбярэжжа... Мне там цяжка. Лепш я тут застануся, буду ездзіць на дачу, у інстытуцкім прафілакторыі пажыву...» Праўда, пра той прафілакторый яна гаварыла не зусім шчыра. Не збіралася яна туды ехаць.

А здарылася з Любай Дворкінай тое, што пазнаёмілася яна з Сяргеем Новікавым.

Было майскае свята, аж тры вольныя ад заняткаў дні, і Любачка рушыла ў традыцыйны паход у Налібокі. З кожным разам людзей у гэтым паходзе большала, замест першых пяці чалавек цяпер назбіралася пятнаццаць. Як той казаў — ішлі знаёмыя знаёмых і яшчэ чацвёра, здаецца, з нашага горада.

Лес стаяў ціхі, ахінуты жаўтаватым пухам першай лістоты, з-пад тоўстых яловых лап здзіўлена і радасна вызірквалі сінія пралескі. Нязмоўчна плюскацела вада імклівае рэчкі, здавалася, што нехта заклапочана боўтаецца пры беразе, займаецца пільнымі справамі. Адзін хлопец сказаў Любачцы, што ў гэтых мясцінах шмат баброў, паказаў ёй уезджаныя іхнімі жыватамі сцяжынкі ў абрывах і фігурна паточаныя дрэвы. Быццам нейкая навала прайшлася па асінах, уклала іх роўнымі радамі. Вострымі зубамі скрозь вытыркаліся жоўтыя пянькі, сустракаліся і абстрактныя скульптуры з калод. Любачка дзівілася на бабровае майстэрства і палахліва ўзіралася ў змрочную гушчэчу пушчы — патыхала адтуль першабытнай маўклівасцю і незразумелым жыццём. А разам з трывогаю ў сэрцы плёскалася радасць, гарачымі хвалямі агортвала ўсё цела. Лю-

бачка баялася зірнуць на Сяргея, які ішоў побач і расказваў. Ведаў ён усё і гаварыў крышачку абыякава — але ж надта цікава. Любачка нават згубіла адчуванне часу, быццам плыла, не адчуваючы вагі, у паветры, і здзівілася, калі Сяргей паскардзіўся на дождж, што не хацеў спыняцца ўжо дзве гадзіны. «Хіба дожджык? — падставіла яна далоньку.— А мне падабаецца...» Здаецца, так вось і хадзіла б, слухала і... чакала.

Аднак прыйшлі яны да вогнішча, Сяргей падсеў да сяброў, Люба знайшла Таню Буйко — тую самую Таню, з якой жыла на студэнцкай бульбе,— і як і не было блізкасці, народжанай у прырэчным асінніку пад вечаровым небам. Сум агарнуў душу, зашчыпала вочы, дыхнула з ракі холадам, ад якога пабеглі па скуры мурашкі. Зусім зрабілася б няўтульна, ды ўратоўвала цяпло вогнішча, што прыцягвала да сябе вочы і супакойвала думкі... А хлопцы і дзяўчаты не маглі спакойна ўседзець на месцы, знікалі і з'яўляліся, спявалі, радаваліся. Люба пайшла спаць у сваю палатку раней за ўсіх.

Назаўтра Сяргей раненька, яшчэ шэрым ранкам пасунуўся лавіць рыбу, цягаўся амаль да вечара, прыходзіў толькі адзін раз — паабедаць. Аднак Люба, сабе на дзіва, не вельмі і перажывала. Ёй цікава было гатаваць есці, гаварыць з дзяўчатамі, збіраць пралескі — адным словам, адпачываць. Здзівіла толькі, што Сяргей заканчваў інстытут замежных моў. Пра гэта сказала Таня, і спярша Любачка не паверыла — няўжо такі дарослы? Ды сапраўды аказалася — пяцікурснік. Але як быццам і не кранала нічога. Не ўразілі і дзве рыбіны харыусы, што Новікаў прынёс поцемкамі і горда кінуў пад сасонку. Усе гаварылі, што толькі Новікаў здолеў злавіць харыусаў, а Любе было хоць бы што. Адно пакратала халодных рыбін — і абыякава адышлася.

Мусіць, Дворкіна паспяхова б забылася на Новікава — ці мала ў яе было расчараванняў і дарэмных надзей? — аднак Сяргей знайшоўся сам. Праз тыдзень пасля паходу ён пазваніў і прапанаваў сустрэцца.

— Залік заўтра,— заўпарцілася Люба.

— Дык што? Мяне, можа, да дыплома не дапусцяць — і то нічога,— заінтрыгаваў Сяргей.

— Чаму гэта?

— Не тэлефонная размова.

Давялося пайсці. І стаць зусім іншай, зусім не той, знаёмай бацькам і сяброўкам, Любай Дворкінай.

Як адбываюцца гэтыя пераўтварэнні — я не ведаю. Ды і хто ведае? Ці не самая вялікая таямніца гэта на нашай зямлі? Ва ўсякім выпадку, давайце скажам — адна з самых вялікіх.

Цяпер для Любы залікі і экзамены здаваліся як быццам самі па сабе, ды і наогул усе людзі наўкол — са сваімі клопатамі, перажываннямі, мітуснёй — жылі ў другім вымярэнні. Як у тых фантастычных раманах. Была яна, і быў Сяргей, якога Люба спазнавала, уведвала з кожным імгненнем, з кожнай сустрэчай вачыма і кожным дотыкам. Нават Міла Іванцова знікла, аказалася за нябачнай сцяной, што аддзяляла закаханых ад свету. Мілачка звaніла, непакоілася, а Люба толькі ўсміхалася абмежаванасці людзей, што круціліся, таўкліся, спрачаліся ў зачараваным коле звычайнага і сумнага жыцця.

Сяргей з яго прыхаванымі дабрынёй, чуласцю і ўсмешлівасцю адкрываўся памалу і нялёгка. Напрыклад, кветкі ён мог падарыць у самы нечаканы момант — не пры сустрэчы, да якой Любачка рыхтавалася з дрыготкімі рукамі і стукам сэрца ў скронях,— а ў цемры кінатэатра, дзе кветкі можна

было распазнаць толькі па паху. І амаль не было кветак, якія не пахлі. А вось затое пацалаваць яе Сяргей мог сярод белага дня, на людной вуліцы, дзе вельмі проста маглі аказацца знаёмыя. Яшчэ і смяяўся з чырвані, што залівала Любачкавы шчокі, шыю і нават плечы. І цукеркі, якія амаль заўсёды былі ў кішэні, ён даваў не тады, калі Любачка прасіла, а — калі не чакала. Праўда, нечаканыя яны былі многа смачнейшыя. І так ва ўсім. Каб на месцы Сяргея быў хто іншы, думала часам Любачка, яна б не вытрывала і гадзіны. І радавалася, што быў Сяргей, доўгавалосы, танклявы і крыху іранічны.

Дарэчы, якраз з-за валасоў у Сяргея былі галоўныя праблемы.

З самага першага курса амаль усе выкладчыкі інстытута лічылі сваім святым абавязкам змагацца з доўгімі валасамі Новікава. Мусіць, нейкую асаблівую ўвагу прыцягвалі тыя валасы — ці то амаль жаночай хвалістасцю — лічы, да плеч! — ці то залішняй ужо акуратнасцю, ці то яшчэ чым, не вельмі зразумелым, але — непрыемным. Можа, што надта ўжо часта трапляліся ў студэнцкіх сшытках і падручніках фотакарткі валасатых, апранутых у чорт ведае што хлопцаў з гітарамі? Ды і злавала, канечне, акуратнасць задзірлівай прычоскі — была б яна брудная, няма размоў. А так яе ўладальнік, чалавек, зразумела, без сораму і сумлення, мог агрызацца. І не толькі мог, а і рабіў гэта. «Які прыклад ты падаеш усім астатнім? — гаварылі куратар і проста выкладчыкі.— Дзе твая свядомасць?» Сяргей маўчаў — і не стрыгся. І ў першую чаргу, можа, таму, што яму загадвалі. З курса ў курс перадаваўся адзін і той жа дыялог: «Зноў не пастрыгся, Новікаў?» Маўчанне. «Ну ўсё, скончылася мая цярплівасць. Не пастрыжэшся заўтра — іду да намесніка

дэкана». Маўчанне. Але ў гэтай вайне паціху сышла на нішто галоўная крыўда, усе прывыклі, тым больш па такім канфлікце можна было спакойна жыць, і вайна тлела ўжо недзе па інерцыі. Ды на пятым курсе, перад самым дзяржаўным экзаменам у яе ўмяшалася новы дэкан — жанчына рашучая і ўладная. Яна выклікала Новікава і сказала, што экзамена не будзе да цырульні. Новікаў кіўнуў галавой і пайшоў. Ён зразумеў, што жарты скончыліся.

Але ж якраз перад гэтым сустрэўся Сяргей Новікаў з Любачкай. Сустрэўся і пакахаў. Няўжо не магло гэта змяніць нешта? Канечне, магло.

— Цырульні не будзе,— сказала Любачка, выслухаўшы ціхую паніку Сяргея.— Гэтым займуся я сама.

Яна прынесла з дому вялізныя, усё адно як для стрыжкі авечак, ножны, спецыяльную расчоску з лязом і фен для сушэння валасоў.

— Абкруціся прасцінай і сядай! — загадала яна.

— Падкарачаць не дам!..— памкнуўся быў уцякаць пакутнік.

— Ды не бойся, я толькі падраўняю.

Любачка доўга рэзала, падраўноўвала, скубла, хадзіла кругом Сяргея, як які-небудзь шаман вакол хворага. Аднак жа ўсяму ёсць канец — і адзін пабег у ванную мыць галаву, другая знясілена ўпала ў крэсла. Каб Сяргей ведаў, што Любачка стрыгла першы раз у жыцці, ён бы, канечне, не сядзеў так даверліва, цярпліва і спакойна. Ён бы лепш сапраўды пабег у цырульню. Аднак нічога, абышлося. Знайшлі гольф з высокім каўняром пад горла, запхнулі валасы за каўнер — акуратненькі, стрыжаны хлопчык атрымаўся! Нельга было толькі круціць галавой, таму зараз Сяргей нагадваў чалавека, што глынуў тычку.

— Любка, ты геній! — схапіў ён сяброўку ў аб-

дымкі.— А я ўжо ў маладзёжную газету хацеў пісаць...

Яны знайшлі вусны адно аднаго, знерухомелі так і... Новікаў пасьпяхова здаў свой апошні экзамен у інстытуце і абараніў дыплом на выдатна. Але вось што за сучасная моладзь. Ну, здолееў ты зрабіць пасвойму, абхітрыць, так сказаць, даказаць, што сапраўды ў цябе галава на плячах, а не качан капусты. Малайчына, ідзі дахаты і радуйся. Дык не. Проста неабходна было, ты ж бачыш, прайсціся перад дэканам і страсянуць галавой, каб валасы рассыпаліся сваавольнай хваляю.

Няма слоў!

Бацькі ўсё ж прымусілі Любачку паехаць з імі ў Сочы. Такая буркатня ўзнялася — на поўнач гайсанеш, не тое што да Чорнага мора. Але нічога не радавала Любу — ні роўны, карычневы загар, што адразу прыстаў да зграбнага, гнуткага цела, ні багацце гаманлівых базарных радоў з персікамі, вінаградам, гранатамі, дынямі, ні нават свежасць вялікага, як неба, мора. Яна хадзіла, як сонная, і нагадвала сама сабе веснавую муху, што ачмурэла поўзае ў цяпле першага промня і не ведае, куды торкнуцца. Нават на пляжы адольвала дрымота, і рознакаляровыя фігуркі курортнікаў размываліся, знікалі ў тумане. Гукі таксама трацілі сваю непаўторнасць, зліваліся ў адзіны гул, што проста быў фонам Любачкавым думкам. Яна не знаходзіла ў сабе сіл напісаць ліст Сяргею, перажывала — і думала толькі пра яго. Але аднойчы прачнулася вельмі рана, гадзін у пяць, доўга ляжала з расплюшчанымі вачыма і раптам ясна зразумела, што трэба ляцець у Мінск, да роднага чалавека, да сваёй радасці і шчымлівага болю. Быццам халаднаваты дождж абмыў яе ўсю, прынёс цвярозасць, палёгку, упэўненасць.

Што маглі зрабіць бацькі? Нічога. Пагаварылі, канечне, пра сапсаваны адпачынак, пра нервовыя клеткі, якія не ўзнаўляюцца,— і засталіся адны. Не той у іх ужо ўзрост, каб разумець маладых, што могуць ляцець на злом галавы. Ды і вядома, якую рэакцыю выклікае ўпартасць. Адзін чалавек сказаў пра суседа: «Упёр-такі воз у роў. Малайчына». Пахваліў, так сказаць, аддаў належнае.

У самалёце Любачка вельмі хвалявалася — шаргацела газетай, не знаходзячы ў радках сэнсу, глядзела праз ілюмінатар у туманную бездань мора, заплюшчвала вочы. Учора яна дала Сяргею тэлеграму, што вылятае, той павінен быў яе сустрэць — і ўсё ж трывога сціскала грудзі. Непрыемнае прадчуванне не знікала, а наадварот, з кожнай хвілінай большала. І ў мінскім аэрапорце Любачка ўжо нават была ўпэўнена, што Сяргея тут няма. Так яно і атрымалася. Аднак Люба, не хочучы верыць самой сабе, доўга хадзіла па зале для пасажыраў, зазірнула ў кафэ, у рэстаран, пастаяла на тралейбусным прыпынку. На душы было кепска, і стома свінцом наліла рукі і ногі.

Прыехала дамоў, села ў крэсла і сядзела так у разгубленасці невядома колькі. Голад усё ж прымусіў пайсці на кухню. Знайшла два яйкі, падсмажыла, зрабіла каву. Пад'ела, не адчуваючы смаку, і пачала совацца па кватэры, як мурашка, што згубіла дарогу дахаты. «Можа, Іванцовай пазваніць?»— мільганула думка і тут жа знікла. Зараз ёй ніхто не быў патрэбен. Але ўрэшце разарваў вязкую цішыню тэлефонны званок. Любачка падскочыла да тэлефона, як козачка, схапіла трубку, пачула: «Алё, Люба? Ну нарэшце я ў Мінску, з першага ж аўтамата званю. Раніцой паехаў на дачу, трэба было палатку забраць. Спазніўся на электрычку, пабег на аўтобус. Праехалі сто метраў — аўтобус паламаў-

ся. Шафёр гаворыць — праз дваццаць мінут паедзем, усё будзе добра. Паўгадзіны, гадзіна — добра стаім. Выскокваю на шашу — папуткі, канечне, не спыняюцца. Зірнуў на гадзіннік — ты ўжо прызямлілася. Пайсці, думаю, даць у зубы шафёру? Дык не зразумеюць, думаю. Дзякуй богу, спыніўся адзін з маршрутных аўтобусаў, забраў палову пасажыраў. Я ўлез, хаця спяшацца ўжо няма куды. Вось і званю...» — «А я... я... перадумала столькі...— спрабавала перабіваць Любачка,— усё, думаю, не хоча сустракацца...» І цяпер толькі пасыпаліся градам слёзы палёгкі. Любачка і не выцірала іх, яны ёй не заміналі. «Хутка буду!» — такія былі апошнія словы Сяргея.

Зноў жыццё напоўнілася гукамі, пахамі, фарбамі і сонцам. Зноў можна было дыхаць на поўныя грудзі, не задыхацца ад адчаю і роспачы.

Праз дзень Любачка і Сяргей яшчэ раз паехалі ў Налібокскую пушчу, у тую мясціну, дзе яны сустрэліся. Цяпер яны былі толькі ўдваіх, ды і пушча за якія два-тры месяцы непазнавальна змянілася. Высачэзная, як не па пояс трава стаяла сцяной, і кветак было столькі, што ў каторых месцах лугавіна сінела ад буйных званочкаў. Шкада было прататптваць лішнія, непатрэбныя сцяжынкі. Зрабілі толькі дзве — да сухіх ялін, якія Сяргей сек для вогнішча, і да рэчкі, каб хадзіць па ваду. З самага ранку, яшчэ калі Люба спала, Сяргей ішоў лавіць рыбу. А Любачка прачыналася — і няспешна, як бы здзіўляючыся свайму ўменню, распальвала вогнішча, гатавала ваду, мыла посуд. На што яна не любіла спяваць — а тут напявала сабе пад нос, і ў асноўным дзіцячыя песенькі. Аднойчы яна ўбачыла двух вялізных, проста казачных матылькоў — чорна-сініх, узорыстых, чароўных. Матылькі ніколькі яе не баяліся, лёталі побач, часта прысаджваліся ў

траве, адпачывалі, узмахваючы вялікімі, усё адно як аксамітнымі, крыламі. «Божа, на зямлі такая прыгажосць,— думала яна ў разгубленасці,— а я нічога не ведала і не бачыла?.. Чаму я была сляпая? І ці ўсё бачу зараз?...» Па цэлай гадзіне сядзела яна ў малінніку, што паўкругам аблямоўваў іхнюю паляну, знаходзіла недалёка ад палаткі чародкі маладзенькіх лісіц, дзівілася дасканаласці срабрыстаблакітных, з вясёлкавымі плямамі харыусаў. Пра гэту рыбу яна і не чула раней, не тое што не бачыла.

Усё ў гэтыя дні было адкрыццём. Адкрыццём сябе, каханага, навакольнага свету.

А галоўнае — у адносінах з Сяргеем усталявалася трываласць. Не, Сяргей па-ранейшаму жартаваў, пасмейваўся з яе нязграбнасці і непрыстасаванасці да ляснога жыцця — аднак Любачка ўжо не баялася гэтага. Яна і сама магла з сябе пасмяяцца, таму што прыйшло разуменне. Дакладней, гэтае разуменне было і раней, толькі тады Любачка яго саромелася. А цяпер жарты радавалі. Як і лес, рака, кветкі. Як і вялікая цішыня пушчы.

Яны вярнуліся ў Мінск, Любачка кінулася з абдымкамі да бацькоў — і з горыччу адчула ўжо амаль забыты холад. «Навошта запамінаць і хаваць крыўды? — падумала яна.— Навошта жыць гэтым і лічыць, што робіш правільна толькі ты?» Аднак нічога не сказала, толькі сцялася, закрылася, як дзьмухавец у вячэрнім паўзмроку.

А бацькі чакалі моманту, каб выказацца — і дачакаліся. І няважна, што скандал яны закацілі з-за глупства. Галоўнае — знайшлася зачэпка. Любчына цётка, Роза — дарэчы, яна была не нашмат старэйшаю за пляменніцу, усяго трыццаць з невялікім,— паехала адпачываць і пакінула ключы ад кватэры Любачцы. І аднойчы Любачка засталася там начаваць. Узяла вечарам зярняты кавы — і па-

бегла да Сяргея, які чакаў каля пад'езду. А Бэла Рыгораўна і Барыс Міхайлавіч яго ўгледзелі, ацанілі і — адзінадушна асудзілі.

— Што гэта за валасы? — сказаў Барыс Міхайлавіч.— Ніякай сур'ёзнасці і павагі да акружаючых. Пэўна, студэнцік.

— Вось-вось! — усхадзілася і Бэла Рыгораўна.— Яшчэ невядома, што яны там рабіць будуць!.. А потым пачнецца — вось табе, мамачка, дзіця, гадуй. Зараз жа еду за імі і выганю!..

— Ды не трэба... супакойся! — ледзь затрымаў жонку Барыс Міхайлавіч.— У яе ж таксама галава на плячах. Ды і ён, можа, неблагі...

— Усё, мігрэнь!..— Бэла Рыгораўна ўзялася пальцамі за скроні, потым абвязала галаву ручніком і сціхла ў спальні.

А назаўтра раніцай, яшчэ а палове сёмай яна ціхенька выйшла з кватэры і на таксі паехала да Розы. Разбуджаная Любачка — у кватэры яна была, канечне, адна — спачатку нічога не разумела, потым, уцяміўшы, у чым яе падазраюць, таксама залавала.

— Апранайся, едзем дахаты, і ключоў ад гэтай кватэры ты больш не ўбачыш! — крычала маці.

— Што вы псуеце мне жыццё?! Што вы здзекуецеся з мяне? — не менш узрушана адказала дачка.

Хаця дома дачку ўшчувалі два чалавекі, бацька і маці, аднак асаблівае перавагі яны не мелі.

— Я дарослы чалавек,— горда сказала Люба, а потым у яе вырваліся словы, якія яна збіралася сказаць толькі праз месяц, перад самай рэгістрацыяй свайго шлюбу з Сяргеем.— Хутка я выходжу замуж і жыць у вас не буду!.. Хопіць мне вашых скандалаў. Я чалавек і хачу жыць па-чалавечы!..

Як прынята гаварыць у такіх вось сітуацыях — нямая сцэна. Гром сярод яснага неба — з'ява ўсё

ж нечаканая, і таму людзі слупянеюць і некаторы час не могуць нават дыхаць, не тое што гаварыць. А пакуль ачомаешся, пакуль перастанеш уздрыгваць — часу праходзіць нямала.

Рашэнне пажаніцца ў Сяргея з Любай выспела даўно, ужо з месяц таму, аднак пакуль яны хацелі маўчаць. Паколькі Сяргей быў выдатнікам, яму далі накіраванне ў аспірантуру, ды як гэта часта бывае — не было ў гэтым годзе месцаў. Хацелі пачакаць, пакуль усё высветліцца, усталюецца, а потым ужо радаваць бацькоў і знаёмых. Аднак чалавек толькі мяркуе і ні ў якім разе не распараджаецца. Хто ведаў, што такая вось размова атрымаецца ў Любы з бацькамі? Таму хаваць свой намер ужо не было ніякага сэнсу.

Трэба сказаць, бацькі Сяргея да навіны паставіліся шмат спакайней, чым Дворкіны. Яно і не дзіўна — хлопцу ж не васемнаццаць гадоў. Яны выдзелілі маладым пакой.

Было вяселле, былі, скажу я вам, красуня-нявеста і сімпатычны, даволі коратка пастрыжаны, жаніх, таксама і чарка з крыкамі «горка» нідзе не згубілася — усё як мае быць. Адно Бэла Рыгораўна пасядзела за сталом толькі ў самым пачатку, потым зноў у яе, мусіць, разгулялася мігрэнь. А Барыс Міхайлавіч мужна выседзеў да канца.

Але вось чаго ніхто не чакаў — што маладая сям'я ў хуткім часе паедзе ў другі горад, у Гародню Там было вольным тое месца, якога беспаспяхова шукаў Сяргей у Мінску. І што ж? Рызыкнулі лёгкія на пад'ём маладыя і паехалі. Сяргей паступіў у аспірантуру, а Любачка перавялася ў медыцынскі інстытут.

Як пойдзе іхняе жыццё, што яны знойдуць у ім і што згубяць — гэта ўжо тэма для другой аповесці. Таму што, на маю думку, з моманту жаніцьбы па-

чаўся новы перыяд жыцця і для Любачкі Дворкінай, былой маёй суседкі, і для Сяргея Новікава.

Адзінае, пра што хочацца сказаць яшчэ — Люба напісала мне пісьмо. Кароценькае, звычайнае, з навінамі, што далі ім пакой у інтэрнаце і што ў інстытуце вельмі цікава. Я гэтае пісьмо, бывае, перачытваю — дастаю з паліцы, дзе ляжыць яно паміж слоўнікам польскай мовы і кнігаю пра яхты. Канверт і адзін аркушык паперы нават абцерліся трохі, у месцах згібаў пакрысе знікаюць літары. Проста цікава чытаць яго, успамінаць і маладога сябе, і Любачку.

А Бэла Рыгораўна, Любчына маці, вельмі спадзяецца, што іхняя адзіная Любачка яшчэ вернецца. Не хоча яна верыць у страту, і магчыма — у незваротнасць яе. Калі я сустракаю яе — у рысах твару чытаю ўпартую надзею. Але нічога не гавару.

Да сустрэчы, Люба!

# АПАВЯДАННІ

## РАЗМОВА

Міканор Клыпка ішоў самай сярэдзінай цэнтральнай дзеркачоўскай вуліцы. Вуліца гэтая, доўгая і выгінастая, пазбірала і выцягнула шнурком амаль усе хаты вёскі, адно некалькі пыльных завулачкаў, кароткіх, сціснутых глухімі сценамі хлявоў і не надта шчыльнымі агароджамі, адбягаліся ад яе да паплавоў з рэдкімі астраўкамі алешнікаў і меліярацыйнай канаваю, якая некалі была рэчкай-ручаінкаю. Гадоў колькі таму гэтая ручаінка жвавенька круцілася, як бы сама з сабою гуляючы ў хованкі, па паплавах, знянацку выскоквала з кучаравых кустоў на роўнае — і быццам палохалася прасторы, роўненька разлівалася плёсамі ды трымцела мігатлівай дробненькай лускою. Плыткая і вузенькая, ручаіна толькі ў двух месцах чарнелася глыбінёй — на Выгарышчах, дзе гадамі гарэў пад зямлёю торф, і там, дзе яна амаль падбягала да ўзлеску. У бухтачках, што сустракаліся пад нахіленай над вадою чаромхаю, некалі Міканор лавіў печкуроў з яршамі.

Пасля асушэння і гэтая, калі можна так сказаць, рыба з ручаіны знікла. Праўда, у балотцы, што засталося на Выгарышчах, завяліся маленькія, з дзіцячую далонь, карасікі, і дзеркачоўскія хлапчукі

таўкліся сярод зрудзелых, абкружаных асакою купін цэлае лета. Над балотцам плаваў цяжкі, смуродны пах цвілі, затравелая вада пры берагах выдавала нейкім кісялём, аднак рыбакоў-аптымістаў гэта не спыняла. Яны мужна, не зважаючы на вялікіх, рудых камароў, стаялі па калена ў гразкай вадзе і махалі вудамі. Вясною з тае балоціны далёка разносілася гумканне шматлікіх жаб.

Міканор кіраваўся ў той канец вёскі, дзе была ягоная хата. Хаця ліпеньскае сонца з самага ранку прыпякала досыць моцна, пасля начнога ўлеўнага дажджу на вішняках, што звісалі з-за платоў, і лапушыстым, абскубленым качкамі лісці трыпутніку віселі вялікія, чыстыя кроплі расы. Вулічны пясок яшчэ не высах, быў пакрыты крохкаю скарынкаю, і на ім выразна, як на свежым шарпаку, вызначаліся сляды людзей і кароў. Міканор зняў шапку і выцер спацелы лоб. Ён любіў хадзіць хутка, і таму, каб астуджваць галаву, у яго з'явілася прывычка раз-пораз здымаць шапку. Ён ужо нават не заўсёды і заўважаў гэта, асабліва калі быў нечым заклапочаны.

Цяпер, у гэтыя вось хвіліны, Міканора непакоіла думка, ці застане ён дома калгаснага трактарыста Юзюка Баклыгу. «Мог ужо і з'ехаць,— думаў ён, шыбуючы па ўбітай каляіне,— хаця і нядзеля сёння, ды хто глядзіць на гэта, калі сенакос... Але ж не павінен. Пакуль сабе ў двары ўсё не зробіць — не паедзе, будзе дома...»

Міканор якраз праходзіў каля пошты, за якой адразу была паваротка да стайняў, куды і трэба было б увогуле яму падавацца. Там зараз збіраліся мужыкі з іхняе брыгады, запрагалі коней, каб ехаць на самыя далёкія — выгарышчанскія — лугі. Але Міканор толькі глянуў некалькі разоў на пакаты, гладкі пагорак, дзе стаялі стайні.

Сёння Міканор даўно на нагах — паспеў ужо збегаць да калгасных майстэрань, дамовіўся з хлопцамі, каб далі на вечар электразварачнага апарата: даўно абяцаў жонцы давесці да ладу металічную агароджу вакол гародчыка і весніцы. Прычапілася, каб было так, як у суседзяў. Яму, канечне, не цяжка, але сядзела ўсярэдзіне, прымушала ўпарціцца пачуццё нейкае нязгоды — чаму трэба абавязкова рабіць так, як у іншых? «Вось купіў Мікола Барсук каляровы тэлевізар — і нам трэба». А што з табой зробіцца, калі паглядзіш ты звычайнае чорна-белае кіно? Але з бабаю звязвацца — сабе здароўе псаваць. Потым, з тых майстэрань, заскочыў да брыгадзіра Пётры Кучука, пагаварыў пра сена. Доўгае гаворкі, праўда, там не было. «Сена будзем дзяліць, толькі як закончым нарыхтоўку калгаснага». Так дык так. Чалавек сказаў, як цвіком прыбіў — што тут незразумелага?

А вось цяпер Міканор ішоў у бок свае хаты. Яшчэ ўчора вечарам, калі ён прыцемкам прыйшоў з работы, старэйшы яго хлопец, Базылёк, расказаў, што дзядзька Юзюк спілаваў ліпу. Гэтая ліпа, разгалістая і высокая, стаяла на вуліцы якраз насупраць Юзюковай хаты. У шэсць гадзін вечара Баклыга выйшаў са свайго двара з бензапілой, завёў яе і акуратна, не спяшаючыся, спілаваў дрэва. На трэск пілы збеглася дзятва як не з усяе вёскі. І хаця дзеці стаялі ціха, адно пазіралі на незвычайную справу ды перагаворваліся, Баклыга ўсіх шугануў і не дазволіў падыходзіць блізка. «Ану марш усе,— гыркнуў ён,— задавіць каторага, потым адказвай. Брысь, галапупыя!»

Хлопец расказваў, як дрэва спачатку толькі дрыжала галлём, а потым, калі на зямлю ўжо насыпалася ладная кучка жоўценькага, чыстага пілавіння, дзядзька толькі крыху націснуў плечуком — і ліпа,

здавалася, такая моцная, грымнулася ўздоўж плота, адно падскочыла камлём і сцебанула гнуткім веццем па дошках. Потым дзядзька абцерабіў сучча, распілаваў дрэва на роўныя часткі і занёс усё да сябе ў двор. Пакінуў толькі танчэйшае веццe, з якога хлапчукі адразу нарабілі дубцоў.

Сын расказваў, а Міканора разбірала злосць.

— Што ты радуешся, дурань... — не вытрываў, даў Базылю пстрычку.— Спілаваць любое дрэва лёгка. Бач ты — глядзець ім цікава! Я табе пагляджу яшчэ!..

Малы, зразумела, зароў і пабег да маці. Як іх не б'еш ніколі, не вучыш, так сказаць — то такія далікатныя, такія крыўдлівыя, дакрануцца нельга. Жонка завялася на кухні: «Табе б толькі біцца, словам ужо не ўмееш, каб табе рукі адсохлі, дзіця ж не вінаватае ні ў чым». А дзіця гэтае стараецца, як жа — пашкадавалі яго.

— Цыцьце мне! — крыкнуў, каб пачулі. Так толькі і навёў парадак.

Пахліпалі, пабурчалі і кіно ўжо глядзелі спакойна. А Міканор рашыў для сябе — хаджу заўтра да суседа, пагавару. Можа, карысці будзе мала, аднак трэба. Абавязкова трэба.

А зранку забыўся. Дзе тут успомніш, калі чуеш адно — агароджы няма, суседскія парсючкі з агарода не вылазяць, куры грады дзяруць, а Барсук учора прывёз сабе сена, дзіва што яго карова столькі малака дае, нераўня нашай, бо Лысуха сена добрага, здэцца, не мела ніколі... Канец свету, адным словам, нічога добрага на гэтай зямлі няма і не будзе. От так і пайшоў гайсаць ад майстэрань да брыгадзірскае хаты. Але ўспомніў. Як толькі закурыў першую папяросу, «беламорыну», так і ўспомніў.

Новая хата Баклыгі, самая вялікая ў шнурку

астатніх, весела пазірала на вуліцу свежафарбаванымі разнымі аканіцамі, а толькі нядаўна прыбудаваная веранда проста радавала чалавечае вока. З акуратнага гародчыка моцна пахлі флёксы, і аранжавыя галоўкі каралеўскіх лілей горда вытыркаліся з буйнога зяленіва. Міканор прыпыніўся каля свежага пянька. Сок на ім ужо забраснеў, застыў чырванаватай гушчынёй, якую абляпілі чорныя кропачкі мух. Зямля вакол пянька была прысыпаная пілавіннем і як бы парытая свіннямі. Але не валялася нідзе ні трэсачкі, ні галінкі.

— Акуратны, халера на цябе... — прамармытаў Міканор.

Глядзець на гэты пянёк было балюча — як на крывавую рану. Ляпнула жалезная клямка, нячутна, лёгка адчыніліся высокія, упоравень з плотам, вэсніцы, і Міканор ступіў на дарожку, не вельмі даўно залітую цэментам. Ён ведаў, што ў Юзюка ёсць вялікі і злы сабака, аднак тым не менш падаўся па дарожцы смела — у гэтую пару, калі толькі-толькі пачынаюць выспяваць папяроўкі, сабака, канечне, быў навязаны ў садзе.

З хлява выглянула Юзюкова жонка, Рыта, згледзела каля веранды Міканора, махнула рукой:

— Дома, дома, заходзь!..

І схавалася зноў у цемнаце хлява, адно мільганула белая хустка. «Таксама на работу позніцца»,— падумаў Міканор. Апошнімі днямі Рыта з дня ў дзень хадзіла падграбаць сена, працавала хутка, заўзята, кідалася ў вочы лёгкімі, маладымі рухамі — быццам яе граблі зусім і не важаць нічога. І язычок у яе востры, так сказаць, працавіты. Паспявае баба і работу рабіць, і суседкам у вушы ўводзіць навіны апошнія — хто з кім пасварыўся, у каго ў хаце набытак ці страта. Звязвацца з ёй жанкі баяцца, таму больш маўчаць, ківаюць галовамі ці рагочуць.

А Рыта, што тая артыстка, не толькі расказвае, а і паказвае брыгадзіра Пётру і яго жонку, як тыя зранку перагаворваюцца. «Ты хаця на абед сёння прыйдзеш?» — «Нг...» — «А табе крупніку наварыць ці расольнікам учарашнім абыдзешся?» — «Мг...» — «Цьфу, ты калі-небудзь па-людску гаварыць навучышся?!» — «Кажу — адстань, баба!» Брыгадзір, якога ногі, як на тое, прынеслі да валакуш акурат у гэты момант, бокам-бокам падаецца за стог, дзе і цянёк, і языкоў бабскіх няма...

З цемнаватых сенцаў Міканор трапіў на кухню — і ў разгубленасці спыніўся. За невялікім сталом, да якога ўжо, здаецца, прырасла зашмальцаваная цырата, сядзелі Юзюк і Лявон Цунік, дзеркачоўскі ляснік. На стале стаялі няпоўная бутэлька каламутнага піва, талерка тоўста наскрыленага сала, тут жа валяліся кавалкі хлеба. Скіўцы ў мужчын варушыліся, і яны гэтак жа, як Міканор, выдавалі разгубленымі.

Каб Міканору хто сказаў, што Баклыга можа піць зранку, ён ніколі б не паверыў, аднак карціна за сталом была надзіва зразумелая і традыцыйная.

— Добры дзень у хату...— Міканорава рука як бы сама сашмаргнула шапку і выцерла лоб.

— Здароў, заходзь,— Юзюк махнуў рукой, але з-за стала не ўстаў, адно падсунуў бліжэй табурэтку, запрашаючы госця сесці.

— Ды не, дзякуй, усё адно піць не буду. Зранку нешта не п'ецца.

— А што,— хіснуўся на табурэтцы Цунік, паціснуў плячыма, як бы здзіўляючыся,— бывае і нічога. Ад настрою залежыць. Я вам, мужыкі, точна скажу — гэта ўсё ад душы. Душа скажа — і прымеш. Хоць зранку, хоць ноччу. Унь тое ж самае — адзін дзень магу дзве бутэлькі ўлажыць, а другі ледзь-ледзь адну агораю. Душа не прымае — і хоць што

хочаш. А насуперак ёй пойдзеш — сабе ж горай. Не-е, усё душа!

Філасофскія разважанні Цуніка мала кранал і Міканора, ляснік быў вядомы як чалавек пуставаты і несур'ёзны, таму ён больш глядзеў на Юзюка. Але той не ўзнімаў вачэй, соваў па стале туды-сюды шклянку і маўчаў. Міканор здагадваўся, што толькі пільная патрэба пасадзіла Баклыгу за адзін стол з Цунікам, прымусіла яго і бутэльку паставіць, і закуску зрабіць. А Цунік, адчуваючы, мусіць, сваю значнасць і нават неабходнасць, сядзеў зухавата, упэўнена, гаварыў, як у званок звінеў. Міканор і пайшоў бы ўжо — мала радасці стаяць дурнем і слухаць лухту. Ды чаго было тады прыходзіць? І ён кашлянуў у кулак і пасунуўся трохі наперад.

Цунік змоўк, а Юзюк урэшце зірнуў на госця.

— Я ў цябе, Юзюк, запытацца хачу... нашто ты ліпу спілаваў?

Цунік пырснуў у рукаў і ляпнуў сябе па калене:

— От дае, га?!

Ён хацеў яшчэ і падштурхнуць локцем Баклыгу, але страціў раўнавагу і ледзь не паваліўся.

— І ўпраўду, дзівак,— усміхнуўся Баклыга, аднак вочы яго не смяяліся.

— Ну ты, бляха-муха, можаш! — не супакойваўся Цунік.— Гэта каб я так перажываў за адно якое дрэўца — памёр бы даўно. Душа б не вытрывала. Тут ведаеш як бывае? Сяджу на печы, чую — трактары гудуць. Ну, думаю, усё. Няма лесу. Ссеклі. Пайду гляну — ажно не, стаіць яшчэ! І бярозкі там стаяць, і дубы. Адно толькі пянькоў трохі болей. Дык на тое ж і лес, каб яго секчы. А ты — ліпу спілаваў! — І зарагатаў, падсоўваючы да сябе шклянку, у якую Баклыга наліў зноў.

— А што гэта табе да мае ліпы? — як аб нейкай дробязі, неахвотна, быццам робячы ласку субясед-

ніку-назолу, спытаўся Юзюк; у руках ён таксама ўжо трымаў шклянку і кавалак хлеба.

— Гэтая ліпа, між іншым, на вуліцы стаяла,— ціха сказаў Міканор.

Баклыга паставіў шклянку:

— То што з гэтага? Каля маёй хаты расце, значыць — мая. Я ж табе не мяшаў, калі ты сваіх сабак заводзіў. І як ездзіў на іх — таксама не мяшаў.

Цунік, які ў гэты момант хукаў і, быццам апёкшыся, трос рукой над пустою ўжо шклянкаю, аж закашляўся. Яму так карцела ўставіць свае тры грошыкі, што ён замахаў рукамі, каб мужыкі крыху памаўчалі, далі аддыхацца, а ён ужо як скажа дык скажа.

— Калі першы раз убачыў — то хацеў уцякаць! — нарэшце прахрыпеў ён, выправіўшыся.— Іду па вуліцы, бачу — сабакі вазок цягнуць. Здаравенныя, што ваўкі. Усё, думаю — душа не вытрывала. І яшчэ Міканор на тым вазку сядзіць!

...Недзе год назад Міканор сапраўды навучыў сваіх чатырох сабак цягаць маленькі вазок, пастаўлены на матацыклавыя колы. Хто з вяскоўцаў смяяўся, хто пляваўся, а каторыя проста разяўлялі рот, вылуплівалі вочы і застывалі пры дарозе, бы ўкапаныя слупы. А Міканор зрабіў такі вазок, каб катаць дзяцей. І сваіх, і чужых. Калі ў яго пачыналі пытацца, на халеру яму аж чатыры сабакі, Міканор жартам тлумачыў: «От скажы, колькі ўсяго трэба, каб выгадаваць аднаго кабана? Пудоў на дзесяць? Лічы: чатыры буханкі хлеба ў дзень — раз. Два чыгуны бульбы — два. Крапіву з лебядою ўлетку мяхамі цягаеш — тры. А яно ж, свінчо тое пісклявае, на базары пяцьдзесят-шэсцьдзесят рублёў каштуе, ды пакуль яго есці навучыш — літр малака ў дзень аддай. А часу колькі марнуеш? А якія дурныя свінні гэтыя? Другое дзела сабака». Многія такіх жартаў

не разумелі, а сельсаветаўскі сакратар Антон Гусак проста сказаў: «Жонка ў цябе, мусіць, як і ты. Нармальная жонка табе б палічыла...»

Сярод тых, хто не зразумеў Клыпку, быў і Юзюк Баклыга. Чамусьці ён вельмі незалюбіў Міканоравага вазка, а сваім дзецям забараніў нават падыходзіць да яго. І гэта было дзіўна, бо сам Юзюк пажартаваць і ўмеў, і любіў. Дасюль расказваюць па навакольных вёсках пра выпадак з бабаю Шлапачыхаю.

Паехала неяк баба Шлапачыха, немаладая ўжо кабета, у мястэчка на базар прадаваць яйкі. Увязалася як мае быць, тры вялізныя хусткі вакол сябе абкруціла — сапраўдная баба з-за прылаўка базарнага. Вось толькі голасу бог не даў, але і без яго, бывае, людзі добра гандлююць. Ну то прыехала на базар, паштурхалася, выбрала месца — не так далёка ад базарных варот, каля цёткі з трыма мяхамі чорных семак. Расклала яйкі адно да аднаго, прыгожанька гэтак, нават насовачку, каб грошы завязаць, паклала побач. А прысеўшы — заснула неяк над сваімі яйкамі. Здарожылася, мусіць, старая, натрэсла яе ўсё ж такі ў аўтобусе за шэсць кіламетраў дарогі. Ну, нейкія прайдзісветы і пакралі яйкі. А што ж — падыходзь і бяры, хто там за чужым глядзець будзе. І тут Юзюка на яе вынесла. Глядзіць — знаёмая, здаецца, баба храпе пацíху, высвіствае. І адно яйка, маленечкае, ляжыць перад ёй — на развод, мусіць, пакінутае.

— Баба, уставай,— кажа Юзюк,— яйкі прадаць не паспееш.

Як усхапілася старая, як узняла лямант.

— Ратуйце,— крычыць,— зладзеі ўсё чыста пакралі!

Людзі пазбіраліся наўкола, рагочуць, а яна ўсё крычыць, бегае туды-сюды, зладзеяў з яйкамі шукае.

— Можа, у вас, цётка, грошай няма назад заехаць,— кажа тым часам Юзюк,— то я магу даць.

Дайшло да бабы, што з яе крыку нічога не будзе, сабралася хуценька і бягом з базару.

Канечне, пасля гэтага рагаталі са Шлапачыхігандляркі не ў адных Дзеркачах. Але разам з тым амаль усе старыя надта неўзлюбілі Юзюка. Асабліва лаялася баба Зося, сяброўка Шлапачыхі:

— І памаўчаць жа мог, гад! — гаварыла яна, сустрэўшы каго-небудзь на вуліцы.— Што табе да старое бабы? Дык не, каб да цябе рубашка не прыставала, каб табе язык адсох, як ты яго распускаеш.

Ды ці настрашыць Юзюка баба Зося?

Пра Баклыгу людзі гаварылі, што ён зусім нікога не баіцца. Юзюк не піў, не браў чарку нават са сваімі механізатарамі. Пасля работы ён корпаўся ў двары альбо на сотках, рамантаваў, прыбудоўваў, парадкаваў. Каторыя кабеты ўздыхалі з зайздрасцю — гаспадарлівы...

«Але ж вось калі трэба — то і з Цунікам сядзе»,— падумаў Міканор.

Між тым Цунік не спыняўся. Ён ужо неяк пераскочыў на свайго швагра Міколу і расказваў:

— Мужыкі, я вам точна скажу: такіх, як Мікола, шукаць будзеш — не знойдзеш. Ого, Мікола! Неяк сядзім, гаворым — я сам языком часаць не вельмі люблю, лепш спакойна пасядзець, паслухаць, — а тут стаміўся. Не гаворыць чалавек — і ўсё. Не хоча. Але ж удвух доўга не памаўчыш? Расказваем. Курым. Ну, яшчэ там, нямнога... Раптам забягае Міколава Райка, ну ведаеце, у канторы на шчотах ляскае, крычыць і плача: «Мікола, так і так, керагаз узарваўся, гарым!» А Мікола якраз прыкурваў, сернікі дастаў. Чырк-чырк адной сярнічкай — не гарыць, другой — таксама. Сырыя, пэўне. Мой пачак узяў, прыкурыў, на жонку глянуў: «Ну то будзем

тушыць...» Я з месца зрываюся, як заяц, лячу праз гарод — мы ж з Міколам суседзі,— залятаю. Керагаз ляжыць, смуроду поўная хата, агню, праўда, няма. Дурной бабе з перапуду здалося, што ўжо ўся вёска гарыць. А Мікола спакойна ідзе, па твары не відаць, каб перажываў.

Цунік зноў падскочыў на табурэтцы, ляпнуў сябе па калене, заліўся дробным смехам. Кірзавы бот яго сорак пятага памеру — хаця і малы, боты Цунік насіў вялікія — прыціснуў хвост Юзюковаму кату, што амаль ляжаў на падлозе, з асалодаю грызучы шкварку. Кот вякнуў і знік пад услонам.

Міканор і Юзюк не смяяліся.

— Я табе так скажу — не сунь носа туды, дзе яго прыціснуць могуць,— у голасе Юзюка пачулася Міканору прыхаваная пагроза.

— Ну, ты за майго носа не перажывай. Свайго глядзі.

Міканор раптам адчуў, як у яго затрэсліся рукі і чырвань кінулася ў твар. Такое бывала толькі тады, калі ён пачынаў злавацца — накочвалася нейкая гарачая хваля, торгалася шчака, і зрабіць у тую хвіліну ён мог што хочаш. Рукі самі сціснуліся ў кулакі.

— Зусім сорам згубіў? — Міканораў голас сеў, быццам нешта трапіла ў горла і замінала гаварыць.

Цунік разгублена, як варона на плоце, круціў галавой, пераводзячы позірк з Юзюка на Міканора.

— То вы б, можа, пабіліся з-за ліпы гэтае? — няўпэўнена паспрабаваў ён пажартаваць.

Але мужчыны, насупіўшыся, нават і не зірнулі на яго. Яны ўтаропіліся адзін аднаму ў вочы, быццам успомніўшы дзіцячую гульню, дзе трэба, не міргаючы, глядзець у вочы праціўніку. Хто каго пераглядзіць, той і пераможца.

Цішыня ў хаце аж звінела.

7*

— З-за ліпы я не мог у хату тэлефонны дрот правесці...— урэшце перарваў маўчанне Юзюк.

— Ды што ты пра дрот выдумляеш? Проста чалавек ты такі. Зажадалася, як кабыле воцату,— і спілаваў. А з ліпы місак якіх-небудзь нарэжаш, лялек, прадасі, усё выгада. Ці не так?..

— Слухай, Міканор, а ты, далібог, дурань! — шчыра здзівіўся Цунік.— Прычапіўся, як дзед да сабачага хваста. Кіньце вы ўжо, абрыдла.

— Табе б аднаму жыць,— не зважаючы на Цуніка, працягваў Міканор.— З людзьмі табе нельга. Кулацкая душа, адным словам.

— Ты давай лягчэй на паваротах! — павысіў голас Юзюк, толькі зараз па-сапраўднаму раззлаваўшыся.— Знайшоўся мне святы. Не падабаецца, пішы ў гэтую... у ахову прыроды. А гаварыць мне з табою няма часу. Ясна?

— Даўно ўсё ясна. Скнара ты, Баклыга.

І Міканор хутка, быццам баючыся застацца ў гэтай цёмнай хаце лішнюю хвіліну, выскачыў у сенцы. Наляцеў на нейкае вядро — тое загрымела, здаецца, на ўсю вёску,— і ўрэшце вылецеў да жаданага, радаснага сонечнага святла. Выгляд у яго, мусіць, быў даволі смешны, бо Рыта, якая стаяла каля студні, выпусціла з рук вядро і зарагатала, узяўшыся за бакі.

— Міканор, ты часам не з лазні?! — праспявала яна; але Клыпка толькі раззлавана, як наравісты конь, матнуў галавой і бокам, зачапіўшыся за веснічы, выскачыў на вуліцу.

У душы пякла крыўда не столькі на Юзюка з Цунікам, колькі на самога сябе.

«Прыйшоў гаварыць — і слова сказаць не можа! — ён думаў пра сябе, як пра чужога, няўдалага, бездапаможнага чалавека — як пра недарэку, адным словам.— Разваяваўся, так тваю. Мыш да

ката біцца прыскакала. Быццам ён Баклыгу не знае... Гэта табе не сыну пстрычку даць. Для такіх, як Юзюк, патрэбнае слова яшчэ знайсці трэба. А калі няма — то прыдумаць. Ды і невядома яшчэ, ці трэба тут словы. «Пішы ў ахову прыроды». От гад!»

Ногі самі беглі па знаёмай дарозе да стайняў. Сонца ўжо вісела высакавата, з роўных палёў браўся лёгенькі, казытлівы ветрык, гладзіў твар, бы астуджваў яго. У блакітнай чысціні неба плылі першыя празрыстыя воблачкі. За такой вось драбнатой часта прыпаўзаюць дажджавыя хмары...

«Ну, ды нічога, Юзюк... Не на хутары жывём. Разбяромся яшчэ...»

Перад вачыма далёкім прывідам мільгануў дзіцячы ўспамін — летні адвячорак, пад ліпаю на лаўцы сядзяць малыя, адзін, большы, лічыць, хто будзе вадзіць у гульні ў хованкі... І паветра настоена ліпавым пахам.

Але набліжаліся стайні, і ўсё перабіў клопат пра тое, што ён добра-ткі спазніўся. Мужыкі, пэўна, пад'язджалі ўжо недзе да выгарышчанскіх лугоў.

Наперадзе была дарога кіламетраў у шэсць, а то і з гакам.

## ТРАНЗІСТАР

Аксеня прыбегла — калі гэта можна сказаць пра бабу, якой за семдзесят — на аўтастанцыю загадзя. Хоць ведала, што да адыходу аўтобуса ў іхнія Валюхі часу яшчэ хапае, аднак перабірала нагамі, згінаючыся ад цяжару ўвязанага ў вялікую хустку кошыка, бы гнаўся хто за ёй. Узмакрэла, задыхалася, а тут яшчэ проста адрываў рукі кош з

пакупкамі — у асноўным з хлебам і крупамі. І толькі як патаўклася каля касы і ўзяла білет — уздыхнула вальней, зірнула на свет раптам праяснелымі вачыма. Убачыла баб з іхніх Валюхоў і суседніх вёсак, падышла да іх, стомлена паставіла кош. Амаль усе жанчыны ехалі разам ранішнім аўтобусам да горада і цяпер, прыкупіўшыся, задаволена перагаворваліся. Нават і тыя, што бедавалі, не знайшоўшы ў магазінах патрэбнае рэчы, былі ўсё ж задаволены — заставалася дарога назад, да прывычнага жыцця. А назад, дахаты, не толькі коні бягуць весялей.

Дзень быў будзённы, аднак на станцыі людзей сноўдалася шмат. Не зважаючы на надта моцную для гэтага лета спёку, яны стаялі пад слупкамі з назвамі гарадоў і вёсак, нецярпліва выцягвалі шыі, углядаючыся ў аўтобусы; пачыналі мітусіцца, калі тыя падыходзілі. Абавязкова хто-небудзь баяўся не трапіць у аўтобус і таму зацята пхаўся клункамі, прабіваючы дарогу да вузенькіх дзверцаў, дзе стаяў кантралёр. На баязліўца дружна лаяліся, але той бы і не чуў нічога, упарта, як жук на горку, лез у аўтобус. І абавязкова каторая баба спазнялася, бегала з лямантам па плошчы, невядома ў каго просячы літасці, а на яе ніхто не звяртаў увагі. І якія-небудзь два сябры, узяўшы ў губы чарку-другую, раптам вырашалі ісці піць піва перад самым адыходам аўтобуса. І жонка аднаго з іх спрабавала не пусціць сяброў, а тыя, пахістваючыся, даводзілі, што паспеюць і што дурной бабе лепш памаўчаць, калі да піва ўсяго тры крокі. І дзядзькі сапраўды паспявалі выпіць піва і ўлезці ў аўтобус.

Аксеня выбіралася ў горад мо раз на год, тады толькі, калі не ехаць ніяк не магла. Не пашлеш жа замест сябе ў бальніцу суседку. Гэтак жа, як і не дазволіла чужому чалавеку купіць сабе парася.

А тут яна сабралася надзіва лёгка, увечары задумала, а раніцою ўжо стаяла на прыпынку ў ладненькай купцы многа маладзейшых за яе вяскоўцаў. І сёння яна абышла амаль усе крамы, не прапускаючы ніводнай, прыглядалася да ўсяго, нават да халадзільнікаў з тэлевізарамі. Адно толькі баялася спазніцца да аўтобуса, а гэта замінала спакойна выбіраць падарункі ўнукам. І ўсё ж Аксеня купіла што трэба і цяпер стаяла на плошчы перад станцыяй.

Жвавенька пад'ехаў валюхоўскі аўтобусік, падобны да маладзенькага бычка, што перабірае капыткамі, збіраючыся гайсануць па выпасе. Аксеня з нечай дапамогаю ўлезла ў аўтобус, села на другім сядзенні, побач са знаёмай кабетаю з суседніх Аднадворцаў. Тая ахвотна адсунулася, падабрала пад ногі сваю пузатую сумку, нават абцерла сядзенне. Аксеня не ўспомніла толькі, як завуць гэтую кабету, а тая ведала яе, назвала цёткай Аксеняю.

Здавалася, і вялікі натоўп стаяў перад дзверцамі — аднак амаль усе паселі, цяпер з палёгкаю, трохі толькі гучней, як заўсёды, гаварылі. Аўтобус ужо газануў быў, але Аксеніна суседка закрычала да шафёра:

— Чакайце, чакайце! Марылі Борсукавай шчэ няма!

У аўтобусе зарагаталі, ведалі, мусіць, гэтую Марылю. Ды і як тут не ведаць, калі палова пасажыраў — сваякі ці суседзі.

І тут жа з'явілася Марыля, вінавата падалася па застаўленым клункамі праходзе да задніх месцаў. З чорнае цыратовае сумкі яе тырчала рыльца «Рускай».

— Марыля, мужыку вязеш ці сама агораеш?..

— Якому мужыку? Той, пэўне, і без гэнае вясёлы.

— А што ж вы хацелі? Каб з горада ды з пустымі рукамі?

— Мая, каб ёй чапялой па рэбрах, ніколі не прывязе, лепш выкіне тыя грошы. Сцерва.

— Чапяла тая, здаецца, лепей твае рэбры знае, га, Грыша?

— А ты бачыла? Затычка сухарэбрая. От чаму гэта заўсёды — як баба сухая, дык што муха восеньская, нават горай. Цьфу.

Адзін чалавек маўкліва целяпаўся, трымаючыся за верхнія парэнчы, не зважаў ні на лаянку, ні на жонку, якая спрабавала пасадзіць яго каля сябе.

— Сядай, во месца ёсцека!..

Мужык маўчыць, нават вухам не вядзе.

— Сядай, чуеш?

Дзядзька з намаганнем узнімае галаву, спрабуе зірнуць у акно, але ніяк не на жонку, што турзае яго за крысо пінжака.

«Я сам сабе чалавек,— паказвае ўвесь яго выгляд,— а ты сама сабе. Крычы не крычы — а я сваё рабіць буду!»

І як толькі жонка перастае чапляцца да яго — адразу падае на сядзенне.

Аўтобусік ужо выкруціўся з гарадка, заскакаў па каменні знаёмай валюхоўскай дарогі. Аксеня пакалупалася ў кашы, праверыла, ці не згубілася што. Зіркастая суседка, здаецца, і не глядзела ў яе бок, аднак заўважыла самае цікавае:

— А-во, цётка Аксеня! Што гэта вы купілі такое?..

Аксеня ахвотна дастала бліскучы транзістарны радыёпрыёмнік, няўмела пакруціла ў руках:

— Радыё во ўнуку купіла. Сярэдняму. Сто сорак сем рублёў!

— А божа! Гэткія грошы. Ці ж вам ужо няма куды падзець іх?

— А што ты думаеш, дзеўка, можа, і здурнела ўжо. Тым месяцам старэйшаму, Колю, на матацыкл дала. Не наш нейкі, чырвоны. Коля кажа — Ева нейкая.

— То ты яму «Яву» купіла,— аўтарытэтна сказаў ззаду Рыгор, валюхоўскі пачтар.— Чэхаславацкі матацыкл.

Аксеня кіўнула галавой:

— Сын з унукам самі ездзілі купляць.

— Далібог, здурнела! — не вытрымала Волька, жонка аднадворскага брыгадзіра, якая сядзела цераз праход ад Аксені.— Каб што добрае, а то транзістар!..

— Нічога,— запярэчыла Аксеня,— цяпер усе маладыя з імі ходзяць. Няхай і мой Віцька не горшы за іншых будзе. А вось ты памятаеш, дзетачка, Аўдолю?

— Што памерла ўвесну? Дык пра яе грошы ўся ваколіца гаварыла...

І Волька, павярнуўшыся да суседак, пачала яшчэ раз расказваць; яна сакатала, аж захліпалася. Але Аксеня амаль і не чула яе. Каму, як не ёй, Аксені, ведаць пра Аўдолю? Адных жа гадоў былі яны, дзеўкамі разам на вячоркі бегалі. Лічы, усё жыццё побач.

..Аўдоля памерла ранняю вясною, калі толькі-толькі пачаў сходзіць снег. Дні стаялі цяжкія, нейкія душныя, і хаця над палямі вісеў туман, усё адно было сцюдзёна. Быццам і не туман гэта быў, а бачны чалавечаму воку мароз. Аксеня даведалася пра навіну траха пазней за астатніх — хадзіла да ветэрынара, каб той паглядзеў яе карову, што па-

чала кашляць. Пакуль знайшла яго на аборы, пакуль угаварыла, пакуль дахаты прысунулася — было ўжо далёка па абедзе. І адразу, бы чакала яе, прыбегла дачка Ніна з навіною. Яны разам і пайшлі ў Аўдоліну хату, каля якой ужо стаялі людзі, найбольш старога веку. Аксеня схадзіла ў хату, паглядзела на нябожчыцу, пасядзела каля труны, выціраючы, як усе бабы, рогам хусткі вочы і куточкі вуснаў. З Аўдоляю ў іх вялікага сяброўства не было, ну, у грыбы разам хадзілі, на сенакос альбо лён церабіць. Маўклівая, насцярожаная, з нейкім цяжкім бляскам вачэй, Аўдоля адпуджвала ад сябе людзей. І сама ўнікала вясёлых бабскіх гуртоў, і да яе ніхто не падыходзіў. А ў рабоце была надта прагная. Другая жанчына ніколі не пойдзе адна з валакушаю, будзе чакаць брыгадзіра або шукаць напарніцу, а гэта моўчкі возьме вілкі, граблі, каня за аброць — і адна і накідвае сена, і падграбае, і адвозіць пад стог. Ніколі не будзе крычаць, што ёй горш, як астатнім. Надта добра Аўдоля брала і грыбы з ягадамі — як ведала, дзе растуць яны, таму ўсе вясковыя кабеты напрошваліся да яе ў напарніцы. А яшчэ больш, як работы, прагнула Аўдоля грошай. Людзі казалі, што было іх у яе шмат — ці не тысячы. Ды толькі не відаць гэта было ні па ёй, ні па дзецях яе. Глядзіш на іх — самая бедная сям'я на вёсцы, няйначай. Грошы Аўдоля недзе хавала, бо, каб была кніжка — людзі ведалі б. З гадамі дзеці яе выраслі, параз'ехаліся, адна дачка Люда засталася ў Валюхах, Аўдоля з ёю і жыла. Усё такая ж маўклівая, здавалася — на ўсіх людзей злосная. Хто казаў — гэта таму, што мужыка забіла, ён электраманцёрам рабіў, п'яны палез на слуп,— другія правілі, што яна ў бацьку ўдалася. Аксеня не думала пра гэта. Жыла сабе

баба, дарогі іхнія не сходзіліся — ну і няхай сабе. І зла ад яе Аксеня ніколі не бачыла.

Наступнага дня на пахаванне прыехалі Аўдоліны дзеці — два сыны з райцэнтра. Аксеня не паспела зайсці ў пакой, дзе ляжала нябожчыца, як з кухні пачулася лаянка.

— Не думай, што ты адзін грошы забярэш!.. Мала, што знайшоў!..

— А я табе кажу — усе тут! Колькі знайшоў, столькі і паказаў.

— У маці было болей, я ведаю! Хопіць ужо дурыць мяне. Добра, хоць убачыў, як лічыў ты іх... Так бы і не паказаў!

— Пайшоў ты!.. Ніколі сюды не заяўляўся, мог бы і зараз не прыязджаць!.. Без цябе пахавалі б!

Аксені зрабілася вельмі брыдка, яна скаранька ўскочыла ў пакой. Там усе бабы стаялі, напружана ўслухоўваліся ў лаянку.

— За грошы!..— зашаптала на вуха Аксені Лідка, Аўдоліна суседка.— Зараз за чубы схопяцца!.. Зацятыя абодва... Пад бумагаю ў сцяне Міша знайшоў. Спачатку разам шукалі, потым Пётра ў магазін адышоўся. Ані Людка не ведала, дзе тыя грошы, ніхто. А Міша знайшоў. Цяпер сварацца.

— Багата хоць грошай? — спыталася Аксеня.

— Ладны скрутак, толькі я здаля бачыла... Колькі, дык і не скажу.

Адна нябожчыца была спакойнаю ў гэтай хаце. Ніхто не глядзеў на яе, позіркі ўсіх былі скіраваны да дзвярэй, на кухню, ды і не трэба была цяпер людская ўвага Аўдолі. Ніколі ўжо не расплюшчацца вочы на яе скамянелым твары. І ў Аксені штосьці забалела сэрца, ажно мусіла ўзяцца рукою за грудзі і прысесці ціхенька на лаву.

Але на кухні супакоіліся ўсё ж, і праз гадзіну вынеслі гаспадыню і праводзілі да апошняе яе ха-

ты, да могілак на ўзгорку, на якім жылі ў вяршалінах соснаў цэлыя чароды варон. Аксеня ішла за труной прыгнечаная, і вельмі не хацелася ёй глядзець на Аўдоліных сыноў — Мішу і Пётру, што з апушчанымі галовамі павольна сунуліся наперадзе.

Праз колькі дзён па вёсцы праляцела чутка, што грошы — дзве тысячы рублёў — у Аўдоліных сыноў банк не ўзяў.

— Надта дробненька мышамі пагрызеныя тыя грошы!..— лётала па хатах Лідка, правіла.— Тыя і лаяліся ўжо, і да начальства рознага хадзілі — а ім кажуць: нумароў не разабраць, памяняць іх вам не можна.

Людзіківалі галовамі, шмат хто смяяўся, а Аксеня шкадавала Аўдолю. Пражыла жыццё баба, збірала тыя грошы праклятыя, хавала, баялася, каб хаця хто не знайшоў іх. І памерла. Дзякуй богу, хоць не ўбачыла, як сыны сварыліся...

У Аксені таксама былі сякія-такія грошы. Ды і як ім не быць, калі яна спраўна ў калгас хадзіла, не дазваляла сабе хварэць надта, а калі якая хвароба і прычэплівалася, дык усё адно на нагах пераходжвала. Зноў жа — кабаноў трымалі, прадавалі дзяржаве, а каторых і на базары. Якая-ніякая, а капейка ў гаспадарцы. Мужык памёр пяць гадоў таму назад, засталася Аксеня з гэтымі грашыма адна...

І Аксеня вырашыла. Адно пакінула сабе пяцьсот рублёў на апошняе застолле, тое самае, якое ўжо без яе будзе, а астатнія забрала з кніжкі.

— ...Знайшла ж куды схаваць іх, дурная баба, за шпалеры,— уварваўся моцны голас Волькі.— У мяне самой за гэтымі шпалерамі мышы так і

шкрабуцца, ажно прачнешся калі. Цяпер ні сама грошай не ўбачыла, ні дзецям не засталося. А ўсё з-за галавы бабскае.

— Гэта каб над маёй труной дзеці біліся...— голас у Аксені перарваўся, і сэрца забалела, забалела зноў, як тады, на пахаванні Аўдолі.

Ніхто гэтых слоў не чуў — слухалі Вольку. Тады Аксеня праглынула камяк, што засеў быў у горле, кашлянула і моцна, як здолела, сказала:

— Няхай, няхай слухае. Харошае, кажуць, радыё, самае лепшае. Маладым трэба. А то мы і так нічога не бачылі. Няхай цяпер хоць яны.

Волька з суседкаю пераглянуліся, усміхнуліся куточкамі вуснаў, разумеючы адна адну. Але Аксеня гэтага не бачыла — вочы засляпіла ці то сонцам, ці то слязьмі.

## ВЯСЕЛЛЕ Ў ПАЎДНЁВЫМ ГОРАДЗЕ

Што трэба атрымалася вяселле ў Івана Карневіча. Гэта Віталь Хмарук будзе гаварыць заўсёды, кожнаму, хто яго будзе слухаць, і з усёй адказнасцю. Затое ўспомніць тое вяселле яго сябра, успомніць сябе — і на сэрцы ў яго зробіцца вясялей. А гэта ўжо нямала, калі весела на сэрцы.

Віталь Хмарук і Іван Карневіч выраслі ў заходнебеларускім гарадку. Яны вучыліся ў адным класе, сядзелі за адной партай і любілі чытаць адныя і тыя ж кнігі. Вось толькі калі першаму падабаліся ўрокі літаратуры — да іх яму амаль нічога не трэба было вучыць,— то другі больш любіў матэматыку і фізіку — задачкі рашаліся шмат лягчэй, чым пісаліся сачыненні. Так што нават і выгадна было:

адзін адну палову ўрокаў зробіць, другі два сачыненні напіша.

Што такое жыццё ў невялікім беларускім гарадку? Два кінатэатры, вакол якіх ходзіць знаёмая публіка, стадыён, на якім нашы сябры старанна займаліся спортам, возера, на берагах якога маладым вачам упершыню адкрываліся таямніцы дзявочай прыгажосці. Гэта яшчэ і стары парк, цемнаваты, утульны, з той самай лавачкай, на якой зноў жа ўпершыню давялося прысесці з аднакласніцай. Замкавая гара з руінамі пагрызенага стагоддзямі замка. З гары далёка адкрываліся асмужаныя сінечай далягляды, і быццам адхіналася заслона перад мінуўшчынай: бачыліся пад гарою войскі рыцараў з татарамі, што рыхтуюцца да прыступу. Барвы беларускай восені, яшчэ адной восені, якая дае табе адчуць уласнае пасталенне — вучышся ў наступным класе. Залатыя факелы клёнаў, чырвань чаромхаў, старэчы спакой таўшчэзных, як бы ўжо і нежывых, таполяў — і сціскаецца сэрца перад невядомым, перад будучым жыццём... Гэта і бойка з такімі ж танклявымі, нахабнымі ад няўпэўненасці, юнакамі, калі пачынаеш разумець, што такое надзейная рука сябра. Футбол, кантрольныя па алгебры, танцы ў Доме культуры, уцёкі ад бацькоў на далёкае возера, зімнія і халодныя, халера, вечары з адной дзяўчынкаю... Шмат яшчэ што з жыцця ў невялікім гарадку.

Зразумела, што загартаваныя ім, Віталь з Іванам выйшлі на самастойную дарогу сябрамі назаўсёды. І гэта нічога, што Віталь застаўся на Беларусі, а Іван паехаў вучыцца ў адзін з вялікіх паўднёвых гарадоў. Хлопцы пісалі адзін аднаму лісты і нават сустракаліся раз у год-паўтара. Скончылі яны свае інстытуты, пачалі працаваць, і ўсё часцей у іхніх лістах сталі трапляцца быццам бы

нязначныя, ускосныя, асцярожныя намёкі пра вяселле. «Ну што ў цябе з Валянцінаю? — пытаўся адзін.— Нічога такая дзяўчынка, усё на месцы. І не дурная, здаецца». «Якая такая Валянціна?! — трохі спалохана адказваў праз месяцы два-тры другі.— Я ўжо даўно з Наталкаю сустракаюся. І ў яе, здаецца, усё на месцы... Бялявенькае такое дзяўчо». Пра свае захапленні хлопцы лічылі за лепшае пісаць з пачуццём гумару. Так ім было прасцей хаваць расчараванні, якіх хапае ў кожнага чалавека. Часам нават здаецца, што тых расчараванняў у цябе шмат болей, як у астатніх.

Але нарэшце прыляцеў з паўднёвага горада ліст, у якім усё было напісана сцісла, дакладна, а галоўнае —сур'ёзна. «Вяселле трыццатага,—пісаў Іван,— ты, зразумела, сведка. Часу, каб сабрацца і прыехаць, у цябе хапае, цэлы тыдзень. Давай, чакаю. Яе зваць Ілонаю».

Віталь не тое што здзівіўся, а разгубіўся трошкі. «Вось табе і маеш,— сказаў ён сам сабе.— Канечне, жыццё — штука такая. Як добра зачэпіць — не толькі ажаніцца рад будзеш, а і зямлю есці, і каменне грызці. Усе мы людзі, усе мы чалавекі. Але як жа яхты? Белакрылыя, зграбныя, імклівыя яхты?»

Пытанне, якое задаў сабе Віталь, было зусім не дзіўнае і зусім не смешнае. Справа ў тым, што за тыя гады, калі хлопцы жылі далёка адзін ад аднаго, Іван Карневіч стаў яхтсменам. Але каб усё стала больш-менш зразумела, гэтыя словы — стаў яхтсменам — трэба растлумачыць. Мусіць, ва ўсе часы сярод людзей траплялiся асобы, на якіх акружаючыя пазіралі са шчырым здзіўленнем і лёгкай усмешкаю. Тыя асобы прыкметна адрозніваліся ад большасці людзей, таму што яны былі апантанымі. Канечне, канечне, у асноўным гэта былі вучоныя,

так сказаць, адкрывальнікі. Яны не рабілі кар'еры, не зараблялі грошы, не жаніліся нават, а рашалі нікому не зразумелыя задачы. І ва ўсе часы бывалі выпадкі, калі дурныя людзі над гэтымі вучонымі смяяліся. Але на гэта можна не звяртаць увагі, таму што праз сотню-другую гадоў вельмі добра высвятлялася, хто ёсць хто. Смяецца, так сказаць, той, хто смяецца апошнім. Аднак самае цікавае вось што: у нашае дваццатае стагоддзе ў вялікай колькасці, проста як грыбы пасля дажджу, пачалі з'яўляцца новыя тыпы апантаных. Адзін раптам палюбіў горы больш за родную маці, пачаў спяваць «Лучше гор могут быть только горы» і знікаць у іх надоўга і бясследна. Другі гэтак жа раптоўна зрабіўся джазмэнам. Ён альбо шукаў пласцінкі, альбо сядзеў на падлозе, глядзеў у адну кропку, ківаўся і слухаў сапраўдную музыку. Ну, а трэці выпадкова трапляў на яхту...

Заўважце, што гэтак цвяроза і лагічна разважаў Віталь Хмарук.

— Ці могуць гэтыя джазмэны, альпіністы і яхтсмены ажаніцца? — пытаўся ён у сваіх знаёмых, сярод якіх было шмат першых і другіх і толькі адзін Іван Карневіч.

— Могуць,— адказвалі яны, прыводзячы ў прыклад сябе.

— Не могуць,— гаварылі другія, таксама тыцкаючы пальцам сабе ў грудзі.

Аднак найбольш правільна адказала Віталева супрацоўніца Таня Валовіч.

— Магчы яны могуць,— філасофскі сказала яна,— ды вось часу на гэта ў іх амаль не бывае.

Віталь ажно з павагаю пакруціў галавой.

Адным летам ён цэлы месяц правёў разам з Іванам, і ён ведаў, наколькі цяжка захварэў яго сябар.

Экіпаж крэйсерскай яхты «Геліос» рыхтаваўся

да марской гонкі. Над горадам вісела белае паўднёвае сонца. Блікі ад вады сляпілі вочы. Экіпаж — чатыры чалавекі — вязаў канцы, рыхтаваў ветразі, шараваў, ледзь не вылізваў кожную дошчачку корпуса. Іван, які на час рамонту замяшчаў капітана, ганяў сваіх матросаў, як амерыканскі плантатар рабоў. Ён і сябе не шкадаваў, поўзаў на ўсколенцах, ледзь не на зуб прабаваў трываласць кожнае шкатовіны. Віталю, хаця і сябру, хапала таксама. Ён у асноўным выконваў абавязкі кока. Салацік там зрабіць, каўбасу нарэзаць.

— Яхтсмен павінен усё ўмець! — павучальна гаварыў Іван.— Што ты за яхтсмен, калі не можаш згатаваць салаты? А яшчэ ў яхтсмена павінен быць салёны ад поту цельнік.

Каманда згаджалася,ківала галовамі — так, цельнікі павінны быць салёныя. Камандзе — студэнтам інстытута — вельмі падабалася быць яхтсменамі. За ўсе дні Віталь ні разу не пачуў, каб хто-небудзь адмовіўся выканаць загад, які б ён ні быў.

Нават тэр'ер Пірацік, што жыў у яхтклубе, выконваў абавязкі вартаўніка сурова і цвёрда. Пірацік быў белы, кучаравы, барадаты, упарты. Ён уважліва пільнаваў, каб ніхто не купаўся каля яхтклубаўскага прычала. Яго так вывучылі, гэта была яго работа, і ўсім вядома ўпартасць тэр'ераў. Сабака падзяляў людзей на дзве паловы вельмі проста — тыя, хто купаюцца, і тыя, хто не купаюцца. «На прычале павінен быць парадак!» — гаварыла яго барадатая і калматая, як кветка вяргіні, морда.

Амаль штодня Іван дражніўся з Пірацікам. Драўляны пірс, да якога швартаваліся яхты, досыць доўгі, у шырыню метраў пяць. Сабачка — малы, як і ўсе тэр'еры. Іван падыходзіў да края пірса, пры-

сядаў, быццам збіраўся даць нырца. Побач ціха гырчаў наструнены Пірацік, таксама гатовы даць нырца за магчымым парушальнікам. Ён аж перабіраў лапамі, не зводзячы чорных вачанят з Іванавых ног. Іван раптам паварочваўся, разбягаўся і скакаў у ваду з другога боку. Пірацік з брэхам ляцеў за ім і, растапырыўшы ўсе чатыры лапы, пляскаўся з метровае вышыні, вынырваў, хутка-хутка плыў за Іванам. І няхай коцяць хвалі матарак, няхай яны накрываюць Піраціка з галавой, так што замест брэху выходзіць адно чыханне і кашаль,— сабачка не адступаўся, пакуль не выганяў парушальніка на бераг. А калі ўжо дабіраўся да яго ў вадзе — так малаціў пярэднімі лапамі, што на Іванавай скуры заставаліся доўгія драпіны.

Адзін раз, праўда, Іван усё ж падмануў добласнага вартаўніка. Ён, як заўсёды, памахаў рукамі каля сабакі, развярнуўся, падбег да другога боку і скокнуў. Ды не ў ваду, а проста падскочыў на краі пірсу. Пірацік, разагнаўшыся, не ўтрымаўся на гладкіх дошках і плёхнуўся ў ваду адзін. Моўчкі, амаль пад вадой, ён далёка абплыў пірс, ціхенька вылез на бераг і залез пад лодку. Віталю зрабілася вельмі шкада сабачку. А той сядзеў пад лодкаю, перажываў, не хацеў нават вылазіць есці.

У Івана не было іншых размоў, як пра яхты і гонкі. Нават калі ўспаміналі родны гарадок, аднакласнікаў, ён доўга не вытрымліваў, пераводзіў гаворку на яхты.

— Для мяне галоўнае — крутануць «кругасветку»,— Іванавы вочы цямнелі, у іх ужо быццам адбіваўся цень будучых трапічных ураганаў, і іскрынкі паўднёвых зор праколвалі цемру тых ураганаў.— Я ўжо ведаю, якая мне патрэбна яхта. Сам усё палічу, зраблю сам. У мяне ёсць прынцыпова

новыя ідэі. Напрыклад, такелаж можна пералічыць трохі па-іншаму...

Ну, і якая можа быць жаніцьба, калі чалавек вядзе толькі такія размовы?

І тым не менш з паўднёвага горада прыляцеў ліст.

Хмарук дамовіўся на рабоце, што ў пятніцу — трыццатага — не будзе, купіў на ранішні самалёт білет. Ён крыху хваляваўся. Што гэта за дзяўчына, якая засланіла марскі небакрай з крыламі ветразяў на ім? І што зрабілася з Іванам? А распісваюцца маладыя ўранку ці ўвечары? Добра, хаця ёсць адрас, куды ехаць... Такія думкі блыталіся ў Віталевай галаве.

Самалёт узляцеў, прагуў у паветры паложаныя дзве гадзіны і прызямліў Віталя ў паўднёвым горадзе. Перадапошні дзень мая ў гэтым горадзе быў блакітны. І людзі ў гэтым дні сноўдалі вясёлыя і шумныя, як цыганы. Віталь з усмешкаю паглядзеў на іх, пажмурыўся на сонца, трошкі прабегся па плошчы, каб уключыцца ў рытм тутэйшага жыцця — і адчуў палёгку і ўпэўненасць. Узяў таксі, заехаў на базар, дзе купіў пяць руж з кропелькамі расы на тугіх пялёстках, і пазваніў у дзверы з лічбаю дванаццаць.

І тут жа зразумеў, што рытм, узяты ім у аэрапорце, быў слабаваты. Бо дзверы расчыніліся так, быццам іх добра ляснулі нагою. Бо Іван замест прывітання закрычаў, што яго ўжо чакаюць чортведама колькі і што яны ўжо спазняюцца. Бо яшчэ адзін хлопец мітусіўся па кватэры, як хакеіст.

— Давай, цягні ў машыну!..— Віталю совалі ў рукі нейкія сумкі, і ён бег з імі да «Жыгулёў».

Адразу паехалі, і таксама праз базар, таму што жаніх, убачыўшы Віталевы ружы, успомніў, што

без гэтага нельга. «Хакеіст» аказаўся вадзіцелем машыны і яхтсменам.

— Нічога, пачнуць без мяне...— заклапочана ўзіраўся ў гадзіннік Карнеіч.— Маладая? Маладая ў бацькоў. Адтуль прыедзе.

Каля загса тоўпіліся маладыя ў акружэнні бацькоў і сяброў. Чорна-белыя жаніхі з нявестамі выдавалі надта разгубленымі на фоне актыўных і гаманлівых світ.

— Бач ты, і тут жывая чарга! — здзівіўся Віталь, прасоўваючыся да патрэбных дзвярэй.

— Як гэта жаніха няма?! — абурыўся наперадзе Іван.— Ёсць, даўно ўжо тут. Давайце па чарзе, таварышы!

І хлопцы апынуліся ў невялікім пакоі, дзе за сталом сядзела маладая, сімпатычная жанчына, а насупраць яе стаялі дзве дзяўчыны, і тая, і другая чарнявыя.

Жанчына разгарнула нейкую вялікую кнігу і пачала гаварыць пранікнёныя словы віншавання.

— Можа, не трэба гэта?..— быццам самому сабе сказаў Іван.— Усё зразумела.

Жанчына спалохана зірнула на яго, але ўсё ж дачытала да канца.

— Яшчэ раз віншую вас і жадаю доўгага шчасця! — дадала яна ўжо ад сябе.

— Дзякуй! — сур'ёзна сказаў Іван.

Сведкі распісаліся — Віталь нарэшце разабраўся, каторая з дзяўчын нявеста,— і ўсе выйшлі з пакоя.

— Давай, давай, хутчэй! — падганяў Іван.— Праз дзве гадзіны павінны быць на месцы.

— На якім такім месцы? — не вытрымаў урэшце Віталь.— Куды мы ўсё бяжым? Дзе стол з каньякамі і ікрой?

— Ты што, нічога не ведаеш? — здзівіўся

Іван.— Зараз заскочым да Ілоніных бацькоў, вып'ем шампанскага — і на мора. Яхты ўжо чакаюць. З цешчаю я дамовіўся. Яшчэ ўчора.

— Дамовіўся!..— хмыкнула Ілона.— У мамы цэлую ноч мігрэнь, месца сабе не знаходзіла.

— Я ж ёй усё растлумачыў — ідзём на яхтах да вострава, выгружаемся, робім шашлыкі, плоў і гуляем вяселле. Зато арыгінальна.

— Арыгінальна, ды не па-людску.

— А на наступны дзень вяртаемся,— не здаваўся Іван,— і гуляем разам са сваякамі. Усё нармальна.

Віталю нешта падумалася, што адносіны ў Івана з Ілонінай маці, пэўна — як у нармальнага зяця з цешчаю. Звычайная такая халодная вайна, мусіць.

І гэта аказалася абсалютнай праўдай. У пакой, дзе стаяў сціплы, хаця і не зусім, столік з шампанскім і цукеркамі, цешча зайшла ў доўгім халаце і з накручаным на галаву ручніком.

— Віншую, мая родная!..— яна пацалавала дачку і прыклала да вачэй насовачку.

Вакол століка бокам хадзіў цесць, запрашаў піць шампанскае. Аказалася, што менавіта гэтай ноччу ў яго разгуляўся застарэлы радыкуліт, і цяпер у такі вось дзень ён амаль ні на што не здатны, ды і жонка, бедная, пакутуе цэлыя суткі. А дзецям ён жадае шчасця. Усе моўчкі пастаялі з келіхамі ў руках, паказалі гаспадарам, што яны разумеюць іхнюю бяду і выказваюць спачуванне. Цешча раз-пораз кранала рукой левую скронь. Цесць трымаўся за бок. Іван у гэтай кватэры шмат пацішэў, нікуды не спяшаўся, хаця і пазіраў скоса на сумкі з пітвом і ежаю, што стаялі нарыхтаваныя ля дзвярэй, чакалі. Але маладая жонка, мусіць, ужо трохі ведала свайго мужа, таму што сказала:

— Ну добра, мамачка, мы спяшаемся. Адпачывайце тут, не хвалюйцеся. Заўтра ў чатыры гадзіны будзем.

І ўсе ўздыхнулі з палёгкаю.

Да штучнага мора на машыне трэба было ехаць мінут трыццаць. Іван з вадзіцелем хваляваліся, што яхты ўжо даўно чакаюць. Віталь не даваў сумаваць дзяўчатам, слухаў пра цяжкі характар Івана, пра надвор'е і шалёныя цэны на джынсы. Ён разгледзеў, што жонка ў Івана прыгожая. Ды і Валянціна, сведка, таксама сімпатычная і вясёлая.

Дзве яхты пагойдваліся каля яхтклубаўскага прычала, і Віталь з прыемнасцю ўбачыў, што адна з іх — стары знаёмы «Геліос». Іван адразу даў усім зразумець, хто капітан на «Геліосе» — матросы замітусіліся, дзяўчаты палезлі ў кубрык, і быў імгненна падняты грот-ветразь. Карневіч сам сеў за руль і зрабіў першы разварот.

— Курс на востраў Лысы,— сказаў ён, з прыемнасцю слухаючы свой камандзірскі голас.— Ідзём галсамі. Праз дзве гадзіны будзем на месцы. І мы павінны абавязкова паказаць карму «Альбатросу».

«Альбатрос» ішоў паралельным курсам і, па ўсяму, не збіраўся разглядаць карму «Геліоса». Там быў за капітана галоўны сапернік Карневіча Юра Бычок. Пачалася жартаўлівая, але зацятая гонка. Устойлівы вецер туга напінаў стаксель і грответразі. Яны стралялі, калі яхта мяняла галс. Капітан наўмысна нахіляў яхту, ганяў каманду з аднаго борта да другога — даваў адчуць, як ідзе яхта ў гонцы. Сапраўды, пырскі з хваляў ляцелі высока, і вада здавалася зусім блізкай і хуткай. «Геліос» ледзь не чэрпаў ніжэйшым бортам ваду. Дзяўчаты высоўваліся з люка і спалохана ахалі.

— Віталь,— як быццам між іншым сказаў капі-

тан,— здаецца, вунь пясочак на палубе. Трэба змыць.

Хмарук паслухмяна ўзяў з кокпіта вядро на вяроўцы, чарпануў за бартом вады і плёхнуў раз, другі, трэці.

— Нармальна...— капітан задаволена ўзіраўся ўдалечыню, моцна трымаўся за румпель.

На востраве вяселле было наладжана хутка і з размахам. Сябры-яхтсмены развялі вогнішча, у зручным месцы расцягнулі тэнт, для маладых нават паставілі столік і два раскладныя крэслы. Хутка падсмажыліся загадзя падрыхтаваныя, вытрыманыя ў вінным соўсе, шашлыкі, даспеў і плоў. Узняліся конаўкі, моцна стукнуліся, і мужчыны, стоячы, выпілі за шчасце выдатнага яхтсмена і яго жонкі. І амаль тут жа пачалася гаворка пра гонкі, пра новыя польскія яхты, пра тое, што «Геліос» сёння прыйшоў першы, але каб на «Альбатросе» было менш людзей, то яшчэ невядома, хто б перамог, і ў наступны раз... Віталю гэтыя спрэчкі падабаліся, а вось Ілоне, заўважыў ён, не зусім. Тую, праўда, супакойвала жонка Юры Бычка:

— Тыдзень твайго мужа цяпер будзе праходзіць так. У панядзелак ён будзе адпачываць, таму што стаміўся за мінулы дзень, бо была нейкая гонка. У аўторак з ім ужо можна будзе гаварыць, хаця і асцярожна. У сераду ён нават сам сходзіць у магазін і купіць хлеба і дзесятак яек. А ў чацвер — далібог, праўда,— ён будзе таўчыся каля цябе на кухні, зазіраць у вочы і хапацца за любую работу, нават вымые посуд. Хоць да раны прыкладай чалавека ў чацвер. Я свайго нават у тэатр ці кіно магу завесці. А ў пятніцу твой муж скажа, што сёння яму трэба ехаць у яхтклуб, і не ўбачыш ты яго ўжо да панядзелка.

Юра Бычок соп, чырванеў, гаварыў, што амаль заўсёды бярэ з сабой сына і там яго выхоўвае.

— Яшчэ адзін такі ж будзе...— махала рукой жонка, але вочы ў яе смяяліся, і яна ніяк не была падобнай да няшчаснай жанчыны.

Вакол вогнішча сядзелі позна. Начное неба было чыстым. Яхтсмены паказвалі адзін аднаму сузор'і, расказвалі, як трэба ў іх арыентавацца, каб хадзіць без компаса.

— Заўтра гуляем са сваякамі,— не вельмі весела сказаў Віталю Іван і ўздыхнуў.— Трэба. Дзеля Ілоны я готовы на ўсё.

Віталь сказаў, што правільна. А інакш навошта трэба было жаніцца? Як казала Віталева бабка Зося — жонка не лапаць, з нагі не скінеш. Івану прыказка чамусьці не спадабалася.

Назаўтра цешча сустрэла маладых ужо без ручніка на галаве. Яна, праўда, нядаўна пафарбавала лакам пазногці і цяпер хадзіла, растапырыўшы пальцы і патрэсваючы рукамі. А цесць так і не выправіўся, хаця сёння ўжо бегаў бокам шмат жвавей.

— Нічога,— бадзёра гаварыў ён,— схаджу да знаёмага на іглатэрапію — і яшчэ скакаць буду. У нас на флоце хварэць не дазваляецца.

Ён быў капітанам першага рангу ў адстаўцы.

— А я дык проста перамагла сябе,— слаба сказала Ілоніна маці — і зрабіла паўзу, даючы ўсім магчымасць ацаніць яе мужнасць.

Усе ацанілі моўчкі, і толькі муж асцярожна цмокнуў яе ў шчаку.

А чацвёртай пачалі сходзіцца госці. Іван з Ілонаю сталі ў куце, як генералы на парадзе. Да іх па чарзе падыходзілі, Ілону цалавалі, Івану трэслі руку і давалі канверты. Словы маладым гаварыліся аднолькавыя: «Шчасця... доўгіх гадоў... дзетак вам здаровенькіх...» Кветкі збіралі Віталь з Валянці-

най — яны былі быццам генеральскай світаю. Ад маладых госці адразу ішлі да Алены Сяргееўны, Ілонінай маці, якая стаяла ў другім куце, і пацалункі там гучалі шмат мацнейшыя і гарачэйшыя.

З яхтсменаў сёння прыйшлі толькі Юра Бычок і Аркадзь Пятровіч Міхайлаў, былы Іванаў капітан і кандыдат фізіка-тэхнічных навук. Адразу адчулася, што гэта адзіны яхтсмен, якога паважаюць у гэтым доме.

— Пакуль не станеш кандыдатам навук — нічога не будзе,— шапнуў Віталь Івану. Той кісла ўсміхнуўся.

За той месяц, калі Віталь працаваў на «Геліосе», ён бачыў Міхайлава толькі аднойчы. Капітан прыйшоў праверыць, як ідзе рамонт, і адразу даведаўся, што на яхце жыў пацук. Каманда ў адзін голас заявіла, што пацук нахабны і нікога не баіцца.

— Трэба выгнаць! — сурова сказаў капітан.

Каманда згаджалася выканаць загад, але не ведала як. Міхайлаў таксама пацукоў яшчэ не ганяў, таму быў аб'яўлены конкурс на лепшую прапанову.

— Я ўмею мяўкаць па-кацінаму,— сказаў матрос Пеця.— Усе схаваюцца, я памяўкаю — і пацук уцячэ.

Прапанова была сумніцельная, але ўсё ж паспрабавалі. Зразумела, пацуку тое мяўканне было — як соль на хвост зайцу.

— Я ведаю, дзе жыве сапраўдны кот! — сказаў другі матрос, Толік, і пераможна зірнуў на астатніх.— У вартаўніка пад ганкам!

Мінут праз дваццаць ён сапраўды прынёс вялікага ката. Той вісеў пад пахаю, як нежывы, адно падціскаў вушы і жмурыў вочы. Ката ўкінулі ў кубрык, адзін люк задраілі, а ў другі глядзелі, як кот будзе лавіць пацука. Але той спалохана і нават жа-

ласна мяўкнуў, зашыўся пад столік і сціх. Ганяць пацука, па ўсяму, яму не хацелася.

— Гэта хто — кот ці кошка? — раптам спытаўся Іван.

— Кот...

— Я чытаў, што пацукоў ловяць толькі кошкі. І то не ўсе.

Ката з ганьбаю выкінулі.

— Вунь, гад, пад вядром сядзіць,— сказаў Пятро пра пацука.

— Што ж, братва,— капітан узяў у рукі венік.— Іншага выйсця няма.

І каманда яхты «Геліос» у складзе пяці чалавек кінулася ў кубрыкі. Грымелі вёдры, стукалі палкі, узляталі ў паветра мяшкі з ветразямі, гойдалася яхта.

— Недзе тут... Лупі!.. Халера, па руцэ... Не пускай назад!

Атака была бліскучая. Пацук выскачыў на палубу і скокнуў у ваду. Ён плыў, а ўслед яму несліся пераможныя крыкі...

Застолле ўжо шумела на поўную моц, калі Карневіч успомніў пра футбол.

— Чэмпіянат свету бывае раз у чатыры гады,— досыць моцна тлумачыў жаніх свайму сведку.— А сёння гуляюць Італія з Галандыяй. Ты ведаеш, што гэта за гульня?

— Ведаю,— ківаў галавой сведка.— Гульня майстроў.

— Яны ўжо нават пачалі. Можна тэлевізар уключыць...

— Толькі паспрабуй,— сказала Ілона.

— Нічога не будзе,— дадала цешча.

Цесць, хаця і быў балельшчыкам — гэта бачылася па яго вачах,— маўчаў. Некалькі мужчын былі паспрабавалі высунуцца са сваімі меркаваннямі,

ды пад дружным і, галоўнае, цэнтралізаваным націскам жонак сціхлі.

Іван змрочна зірнуў на Віталя.

А жаночая палова ўсё кіраўніцтва забрала ў свае рукі, нават гаварыла тосты і налівала чаркі.

Іван яшчэ трохі пасядзеў, потым устаў.

— Хадзем на кухню,— сказаў ён Віталю,— пакурым.

Там Іван зачыніў дзверы, дастаў з халадзільніка бутэльку.

— Хопіць,— сказаў ён, наліваючы чаркі,— абрыдлі мне гэтыя цешчы. Не магу.

— Нічога,— супакойваў яго Віталь,— ужо нядоўга. Хутка ўсе разыдуцца.

— Больш за стол не пайду. А яшчэ лепш — лягу спаць.

Прыйшла Валянціна і сказала, што тэлевізар уключылі, толькі без гуку.

— Кампраміс,— растлумачыла яна.

Хлопцы паглядзелі футбол, да канца якога заставалася мінут пятнаццаць. Футбалісты мітусіліся і білі па варотах, але разабраць, хто выйграе, не ўдавалася. Госці пачалі ўжо разыходзіцца. Яны развіталіся з Ілонай і яе маці і з дакорам пазіралі на жаніха. Але Іван на іх не звяртаў увагі. Ён піў з Ілоніным дзядзькам, тоўстым, вусатым мужчынам, які адзіны асмеліўся сесці побач з ім і глядзець тэлевізар. Дзядзька расказваў, як некалі вельмі даўно ён быў матросам-кабатажнікам. Дзядзька даваў зразумець, што ён таксама марскі чалавек і што ён цалкам на баку маладога. З кожнай чаркаю расказ яго рабіўся ўсё блытаней, але Іван слухаў уважліва і з павагаю.

— Нічога!..— махаў дзядзька кулаком перад Іванавым носам.— Галоўнае, каб характар быў — во! Каб, ета, як у шторм! Палундра — і не адсту-

паць!.. У мяне тож-жа жонка язва, але во выжыў... Пайду зараз дамоў і скажу, каб маўчала.

І ўсё ж успамін пра жонку прымусіў яго заспяшацца дахаты.

Віталя паклікалі на кухню. Там сядзела заплаканая Ілона, яе суцяшала Валянціна.

— Хіба гэтак можна,— усхліпвала Ілона,— сапсаваў усё вяселле. Людзі як людзі, адзін ён...

— Ды нічога страшнага,— гладзіла яе па плячы Валянціна,— праз дзень забудзецца. Ты ж ведаеш яго характар.

— А што, ён майго характару не ведае?.. Так яму гэта не пройдзе!

— Абое цацы добрыя. Трэба ж некаму і саступіць.

— Няхай ён.

Віталь таксама сказаў, што ўсё глупства, і прапанаваў дапіць Іванаву бутэльку. Ад перажыванняў Ілона з Валянцінаю пілі, нават не крывячыся. Гарэлка іх не брала. Віталь мужна трымаўся, стараўся не пазяхнуць у самы цікавы момант Ілонінай споведзі. З кожнай гадзінай рабіць гэта было ўсё цяжэй. Тады ён сам пачаў расказваць, як у дзяцінстве пабіўся з Іванам. Не вытрываў, дапяклі яго ўсё ж Іванавы кепікі. І нічога, праз тры дні памірыліся. Віталь асобна спыніўся на тым, што жыць Іван з Ілонаю будуць у сваёй кватэры, а гэта, можна лічыць, самае галоўнае для маладой сям'і. Ён намякнуў, што ў кватэры той не будзе некаторых сваякоў. Ілона і Валянціна не маглі не пагадзіцца з жалезнай логікай Віталевых думак. Ілона толькі зрабіла выгляд, што не зразумела пра некаторых сваякоў.

За акном маўчала загадкавая, як вочы паўднёвай красуні, ноч.

Віталь быў крышку стомлены, хацелася спаць,

ды ў той жа час хацелася яшчэ і зразумець, як будзе ў Івана з Ілонаю. І ён слухаў жонку сябра, яе сведку, думаў. Думаў не толькі пра гэтае вяселле, пра паўднёвы горад з яхтамі і пра сябра,— ён думаў пра людзей. Што яны мяняюцца, пройдуць усяго гады два-тры — і ты не пазнаеш чалавека, які быў табе блізкі. Што і сам ты мяняешся, не такі ўжо рухавы, не такі адкрыты перад людзьмі, перад жыццём,— ты пасталеў, сцішыўся. Ён хацеў зразумець, добра гэта ці блага — і пакуль не мог.

Але найбольш яму зараз хацелася, каб на гэтай зямлі яго сябра Іван знайшоў сябе, сваё месца.

## СТУДЭНТЫ, БУЛЬБА, БАБУЛІ І КАХАННЕ

Верасень пачаўся так, быццам і не было дажджоў, ветру, што абцярушваў да часу дрэвы, ранняга холаду — пачысцела, высока ўзнеслася неба, далёка адсунуўся небакрай, і палі пры вёсцы прыветна зажаўцеліся, пабольшалі таксама. Сады аціхлі, знерухомелі, быццам шкада ім было губляць падчырвоненае лісце, а ў гародчыках раптам высока ўскінулі калматыя галоўкі вяргіні, якіх дагэтуль амаль не было бачна.

Тады і прыехалі ў Вярхінь студэнты.

Да Анэлі брыгадзір прывёў двух хлопцаў, і як не аднеквалася тая, не прасілася — пакінуў іх у двары і ўцёк. Як бразнула за ім клямка дзвярэй, Анэля адразу перастала войкаць і падбегла да акна, каб хаця зірнуць, каго прывёў да яе Мікола. Пад слівамі, задраўшы галовы, стаялі адзін здаровы, коратка стрыжаны, другі худы, у куртачцы. «Добра, хаця

сліў сёлета дужа,— думала Анэля, абмацваючы позіркам кватарантаў.— А яблыкі могуць усе абабраць... Унь галовамі круцяць...»

Яна ўздыхнула і пайшла клікаць кватарантаў у хату.

— Гэта Міхась, а я Лявон,— павітаўшыся, сказаў большы.

— Ага... ну заходзьце ўжо. Толькі ў мяне, гэта, на адным ложку будзеце спаць,— Анэля ўсё злавала на брыгадзіра, які замест спакайнейшых дзевак прывёў хлопцаў.

«А можа, і лепей, што хлопцы? — раптам падумала яна.— Можа, дровы пак олюць, калі папрашу? Кароў пасвіць каторы сходзіць?»

Падумала — і супакоілася.

Лявон і Міхась занеслі ў хату сумкі, агледзеліся. У кухні было цесна — амаль усё займала вялізная, нядаўна беленая печ, пры ёй стаялі чыгуны з бульбаю, цэбар, начоўкі, і хлопцы памалу прасунуліся ў залу. Тут, наадварот, зашмат было вольнага месца — старая шафа, ложак і стол быццам хаваліся па кутах, баяліся вытыркнуцца на сярэдзіну пакоя. Адно гарбатая канапа з нейкім выклікам вылезла пад самае акно, каб лепей, мусіць, разгледзелі яе дзіравую абіўку незразумелага колеру. Міхась адразу падаўся да гэтае канапы і сеў. Лёгкае воблачка пылу ўзнялося над ім.

— Анічога,— сказаў ён,— жыць можна...

— Ложак вялікі,— няўпэўнена сказаў Лявон.— Слівы ёсць. Яблыкі.

— Але ж і спружыны ў канапе! — здзівіўся Міхась.— Быццам жалязякі тырчаць.

Ён раптам пачаў углядацца ў спінку канапы.

— Бач ты... паўзе нешта. О, два, тры жукі...

Лявон таксама зацікавіўся, падышоў бліжэй.

— Клапы,— сказаў ён у самае вуха Міхасю.

Таго як выкінула з канапы, адно ціха загулі спружыны і зноў павісла пыльнае воблачка. А Лявон нічога, спакойна пазіраў на клапоў, як певень на пацерку, то адным, то другім вокам.

— Худыя,— нарэшце адзначыў ён.— А раз худыя, дык што? Галодныя. Пайшлі лепш папросімся на гарышча. На сене будзем спаць.

Пачуўшы пра сена, Анэля надта здзівілася, доўга маўчала, спрабуючы хоць што-небудзь уцяміць, потым спыталася падазрона:

— А вы не курыце часам? Бо не пушчу!

— Не, не! — замахалі рукамі хлопцы.— І не п'ём!

«А можа, і на лепшае? — зноў пачала супакойваць сябе Анэля.— Не будуць уначы совацца, дзвярыма ляскаць... Можа, і не спаляць хату?»

І хлопцы палезлі па новенькіх, яшчэ жоўтых драбінах на гарышча.

Управіўшыся са свіннямі і з кароваю, поцемкамі ўжо Анэля схадзіла да свае сяброўкі Тэклі. Анэля і не памятае ўжо, калі пачалі яны вечарамі бегаць адна да аднае, расказваць пра гора і радасць, пра сваё і чужое жыццё. Мусіць, з тае пары пачалося гэта, калі кінуў Тэклю яе Міканор і з'ехаў на заработкі аж у Сібір. А Анэляў Мікола з вайны не прыйшоў, і агульная бяда звяла іх разам. Свята ў Тэклі — Анэля тут, за другую гаспадыню мітусіцца. Трэба Анэлі парася купіць — удзвюх на базар едуць, выбіраюць, каб хаця добра падскаквала парася тое. І дзеці іхнія, як меншыя былі, гарнуліся адно да аднаго, бы браты з сёстрамі. Цяпер, праўда, раз'ехаўшыся па гарадах, яны толькі выпадкам у Вярхінь завітаюць, але ўсё ж у лістах на прывітанні не забываюцца. А маткі іхнія жывуць душа

ў душу, бадай, аднолькавымі вачыма на свет глядзяць, хаця даволі складаная штука — гэты цяперашні свет. Канечне, бываюць часам і непаразуменні, не без гэтага. Жыццё пражыць — не лапці сплесці. Другі раз чым толькі не ахвяруеш, пакутніцупраўду баронячы... Ды навальніцы звычайна хутка мінаюцца. А дажджы, якія льюцца пасля грамоў, на карысць толькі, гэта кожны скажа. Ды і часцей за ўсё над галовамі жанчын яснае неба.

Па Тэклінай хаце таксама соваліся чужыя — тры дзяўчынкі-студэнткі, прыгожыя, маладзенькія, траха толькі кволыя, як усе гарадскія. Але ціхія і далікатныя.

— А мне дык хлопцаў паставіў,— не ўтрывала, паскардзілася на брыгадзіра Анэля.— Хай бы і мне дзевак даў.

Але Тэкля яе нешта не падтрымала, не захацела зразумець.

— Цяпер і дзеўкі, я табе скажу, таксама,— пачала гаварыць яна, бразгаючы посудам у кухні,— штаны панадзяваюць, што аж трашчаць на азадку... І кураць, сама ў горадзе бачыла. Сядзіць на лаўцы, смаліць, і хоць бы што ёй. Не зважае, што людзі ідуць, бачаць усё. Я дык аж плюнула.

— Мае сказалі — не кураць... Але хто іх там ведае,— Анэля ўсё не магла даўмецца, чым не дагадзілі Тэклі гэтыя ціхія, ветлівыя дзяўчаткі.

— Есці ж ім абы-што не паставіш,— бурчала Тэкля,— папрывыкалі там...

— Ай, кінь ты! Весялей у хаце будзе. Ці, можа, ты так прывыкла з парсюкамі ды з катом гаварыць, што ўжо ад жывога чалавека адцурацца гатовая?

Жанчыны засмяяліся, Тэкля аж рукой махнула на сяброўку языкатую. Але і папраўдзе супакоілася, палагаднела. Вечары ўжо гэтай парою доўгія, а тут ёсць каму расказаць сёе-тое, самой што паслухаць.

З Анэляй жа гаворачы, на дзесяць слоў наперад ведаеш, што яна сказаць хоча.

Тэкля збірае на стол есці, падганяе дзяўчатак, каб тыя не выдумлялі лішне, што не хочацца ім. Такіх гурочкаў салёных, як у яе, дзе яшчэ паспытаеш. І кумпячок надта ж харошы, сакавіты...

Лявон з Міхасём ледзь-ледзь дабрылі да чэзлых кусцікаў, што астраўком тырчалі сярод вялізнага, як кінуць вокам, поля, пакідалі кошыкі і паваліліся стомлена на зямлю.

З самае раніцы яны яшчэ стаsранна поўзалі на ўсколенцах, подбегам насілі кашы з бульбаю да скрыняў, каб хаця не адстаць ад дзяўчат, але гадзіны праз дзве запал сышоў. Перастала гнуцца спіна, не слухаліся, абміналі бульбіну пальцы рук, і сонца, нягледзячы, што восеньскае, выціскала разам з потам апошнія сілы. І зніклі памалу стараннасць, імпэт, недзе нават і сумленне. Хлопцы калупаліся далёка ззаду ад дзяўчат, і дзед, што вазіў з поля бульбу, ужо не чакаў іх.

— І трэба ж было нам з табою ў гэтую брыгаду трапіць,— бедаваў Міхась.— Былі б разам з хлопцамі, усё лягчэй. А тут сярод дзевак — як пеўні на сметніку.

— Вунь ідуць ужо,— сказаў Лявон.— Канечне, стараста на белым кані і з шабляю.

«Вы нас затрымліваеце,— адразу пачала стараста Святлана,— гэта сорам, валяцца ў кустах»,— і два ад'ютанты калупалі боцікамі зямлю, ківалі галовамі. «А мы і не валяемся,— адказвалі хлопцы,— мы проста адпачываем, зараз паляжым — і яшчэ вас перагонім». Дзяўчаты пагардліва, здзекліва нават паўсміхаліся — і ўсё ж пайшлі, стараючыся не ісці, а горда плысці пад позіркамі хлопцаў.

Яны напружвалі спіны і трошкі залішне пагойдвалі клубамі.

— Цытра,— сказаў Міхась.— А стараста дык нічога сабе... Га?..

— А прыйдзецца даганяць,— быццам не ўчуўшы, сказаў Лявон.—Даказаць трэба, няхай не думаюць.

Міхась няўцямна быў паглядзеў на яго і ўздыхнуў цяжкавата, зразумеўшы ўсё, і ўстаў.

— Тады трэба пачынаць зараз,— неяк вельмі нявесела сказаў ён.— Пакуль яны сядзяць — бліжэй падсунемся.

І хлопцы, не зважаючы на казытлівыя кроплі поту, на стому, на звон у галаве і кругі ў вачах, хапалі бульбу, грабліся, як куры, у зямлі, бягом беглі да скрыняў. І спачатку зніклі метры, што аддзялялі іх ад дзяўчат, а потым і дзяўчаты адсталі, бо бліжэй да абеду ўжо не гэтак спорна мільгалі іхнія рукі. А першай гадзіне Лявон з Міхасём паселі на перавернутыя вёдры і пераможна зірнулі па баках. Але перад кім хваліцца — не ўгледзелі яны, бо дзяўчаты ўжо ішлі з поля, кінуўшы іх сам-насам са здабытай перамогай.

— Хай яна згарыць, гэтая бульба...— сказаў тады адзін хлопец.

— Уцякаць трэба,— дадаў другі.

Брыгадзіра Лявон з Міхасём знайшлі каля канторы.

— Таварыш брыгадзір,— пачаў Міхась,— от тут на полі мы, з дзеўкамі разам... Але ж мы не дзеўкі, мы мяхі можам... і каля буртоў.

Брыгадзір маўчаў.

— Дзяржаве нявыгадна, каб мы бульбу збіралі,— уступіў Лявон,— а на току зерне сушаць.

Брыгадзір зірнуў удалечыню, і раптам сонныя вочы яго ажывіліся, засвяціліся нават, і ён ссунуў

на лоб капялюш, варухнуўся, быццам скідаючы з сябе здранцвенне.

— Тоня ў краму пайшла,— як самому сабе, сказаў брыгадзір.— Зараз адчыніць. Пайсці, можа, «Беламору» купіць?

Але хлопцы, што стаялі перад брыгадзірам, зусім зялёныя былі, першакурснікі. Не разумелі яны, чаму брыгадзір гэтак на краму паглядае, уздыхае і шкрабе патыліцу. Завялі яны зноў песню пра ток, пра мяхі і пра дзевак, якія рабілі на полі. Брыгадзір аж раззлаваўся, плюнуў сабе пад ногі і махнуў рукой — ідзіце, маўляў, куды хочаце, не псуйце чалавеку настрой. І хлопцы пабеглі, радасныя, на ток сушыць грэчку і цягаць мяхі. Не ababіла іх яшчэ жыццё, не навучыла разумець людзей.

Анэля першыя тры дні жыла неспакойна — то застыне сярод хаты з гаршком у руках, слухае, выцягнуўшы, як курыца, шыю, што там робіцца на гарышчы, то палезе, крэкчучы, па драбінах, каб хаця адным вокам зазірнуць у жытло кватарантаў. Але паленым не пахла, не трэслася ад хлопцавых скокаў столь, і яна памалу супакоілася. Калі Анэля добра прыгледзелася да сваіх хлопцаў, то ўбачыла, што яны яшчэ зусім маладзёны.

Да Тэклі Анэля выбралася толькі ў суботу. Гэтымі днямі работы было вышэй галавы — цягала гарбузы і выбірала з іх семкі, сушыла бацвінне, падбірала бульбу, якую ссыпалі, выбіраючы, у кучку, і ўсё не было як пазносіць яе ў варыўню. А яшчэ ж шмат паданак ляжала пад яблынямі, харошых такіх, крэпкіх на выгляд яблыкаў, аблітых уранні моцнаю расой, так што аж адразу хацелася ўзяць той яблык і з асалодаю з'есці. Да вечара Анэля так уходжвалася, што заране клалася і як правальва-

лася ў чорную і прыемную бездань. Але ў суботу яна сноўдала не дацямна, прыбралася адно трохі ў хаце, збегала ў лазню да суседкі Крывашыіхі, апранулася ў лепшае і пайшла ў другі канец вёскі, да Тэклі.

Вярхінь шнурком выцягнулася паўз поплаў, і акурат пасярэдзіне падзяляла яе на дзве часткі невялікая пустка. Анэліны кватаранты так і гаварылі, што пойдуць у другую вёску, хаця і той, і гэты канец былі Вярхінню. Ужо добра ўцямнелася, было прахалодна, але чыста — міргалі над галавою вакол вялікіх зорак незлічоныя парушынкі маленькіх. Анэля нават убачыла, як бліснула, чырканула чорнае неба знічка. Успомніла, што маладой надта чакала такую знічку, каб загадаць жаданне. Усміхнулася, адчула, як варухнулася ў душы нешта трывожна-прыемнае, даўно забытае — як чаканне пацалунка маладога Міколы, які яшчэ не быў мужам, ці што... Але мільгануў успамін той жа знічкаю.

Тэкля глядзела з дзяўчаткамі тэлевізар. Нерухлівай, абсунутай капой сена, што цямнеецца на ўзлессі, сядзела на крэсле і драмала. Ды і праўда — не старым глядзець гэтае цяперашняе кіно, дзе ходзяць і гавораць ледзь-ледзь, а больш маўчаць.

— Ды ўключы ты святло,— назнарок моцна сказала Анэля і ўбачыла, як напалоханаю курыцаю страпянулася Тэкля, пачала гладзіць рукамі твар, папраўляць хустку.

— Кіно во...— сказала яна крыху збянтэжана, аднак пайшла і ўключыла святло.

Дзяўчаткі амаль не зірнулі на Анэлю, так утапіліся ў тэлевізар, перажывалі, мусіць, за тых хлопца і дзеўку, што абдымаліся зараз і плакалі.

— Пойдзем мо на кухню,— сказала Анэля,— няхай глядзяць, а мы, старыя, сабе пасядзім.

— А каторай гэта кавалер трэці дзень кругом

хаты ходзіць? — раптам строга спыталася Тэкля.— Бо як кветкі абарве, я на яго ўправу знайду!..

Тэкля была баба нязлосная, але калі гаварыла яна, нават і з Анэляю, дык быццам лаялася. Анэля ведала за ёй гэта, даўно прывыкла, аднак тут, бы пачуўшы сяброўку вушамі чужых людзей, запярэчыла:

— Ну чаго ты крычыш? Можа, гэта і не іхнія хлопцы, можа, свае якія, вясковыя...

Але дзяўчаткі, мусіць, не пакрыўдзіліся на сваю гаспадыню, заўсміхаліся, а адна, высокая, з прычоскай, як у хлопчыка, апусціла галаву, моцна зачырванеўшыся.

— Ага, здаровы такі, вусаты. Іхні, хіба я не ведаю!

— Трэба ён мне,— сказала дзяўчына, што засаромелася.— Я яму ўжо сказала, што ў мяне хлопец ёсць. І сказала, каб не хадзіў.

— Ай, Ірка, не заракайся,— махнула рукой другая дзяўчына, таксама высокая, толькі святлейшая.— Гэта ён сёння абяцаў на слупе стаяць?

— Сёння...— не ўтрымала смеху, пырснула ў руку Ірынка.

— Збегаю, зірну! — падхапілася трэцяя, меншая за астатніх і жвавейшая, замітусілася па хаце.— Дзе мая ватоўка?

Яе як выкінула з хаты, толькі бразнулі дзверы.

— Во, салдат! — адабральна паківала галавой Анэля.

— Ты ведаеш,— падсунулася да яе бліжэй Тэкля,— учора ноччу нехта Борсукаў плот цераз вуліцу паставіў! Выцягнулі слупкі з зямлі і перагарадзілі вуліцу!

— А-вой!

— Ага, Міша Лабэцкі ішоў, выпіўшы, торкнуўся — няма дарогі. Туды, сюды — усюды плот! Сеў

тады і кажа: «Замуравалі, ворагі!» А тут Марыя Пінчукова бегла. Палаялася, адсунула плота, кажа Мішу: «Хадзем дамоў». Дык не хоча! Мармыча адно: «Замуравалі, сволачы!» Так і сядзеў, пакуль жонка з сынам большым не прыбеглі.

— От-бо! Дык я ведаю хто! Гэта ж мае! Учора зайшлі ноччу вады папіць, мусіць, з гулянак ішлі. А я чую: «Ну і здаровы ты, цэлы плот занёс». Гэта адзін кажа. А другі: «Яна яшчэ запомніць мяне». Далібог, мае!

У хату ўляцела трэцяя дзяўчына:

— Стаіць, Сімяон-слупнік! Сказаў, буду стаяць, пакуль Іра не выйдзе.

— Не пайду,— спалохана закруціла галавой Ірынка.— Хуліган, плот чужы паламаў...

— А высока ён залез? — спакойнаю ў хаце была адна Марына.

— Высока, там дзве апоры адна на адной, ну, да якіх слупы прывязваюць, метры чатыры будзе.

Анэля з Тэкляю здзіўлена вохкалі, дзяўчаты са смехам выпраўлялі на вуліцу Ірынку, а тая, узлезшы на ложак, ніяк не хацела апранацца.

— Пайду лепш дахаты,— сказала Анэля,— позна ўжо.

На двары пасля хатняга святла было зусім слепа ўваччу. Анэля паспрабавала паўглядацца ў слуп, што стаяў каля раўка пры алешніку, але нічога не ўбачыла. Тут з хаты Тэклі выскачылі дзве тоненькія постаці і шуснулі да слупа.

Анэля пaціху пасунулася дамоў, усміхаючыся і нешта сама сабе шэпчучы.

Міхась падграбаў да транспарцёра сушыльнае машыны грэчку і думаў, што Лявон закахаўся не на жарты. Спачатку як быццам і былі жарты —

Лявон стаяў на слупе, па начах гойсаў вакол хаты, дзе жыла Іра, падкідаў на ганак ахапкі кветак, невядома дзе сарваных. Але пажартаваўшы раз ці два, чалавек кідае ўсё гэтае глупства і пачынае займацца іншымі, сапраўднымі справамі. А Лявон не кідаў. Лявон прыходзіў на гарышча толькі пад раніцу. І вось цяпер спіць на мяхах з грэчкаю, не можа галавы ўзняць, не тое што трымаць у руках шуфель. Ну, тут, каля машыны, Міхась і адзін справіцца, але ж хутка мяхі трэба грузіць.

На току хлопцы працуюць ужо трэці тыдзень. Трэба сказаць, работа тут не нашмат лягчэйшая, як на полі, але ўжо тое добра, што языкатых аднакурсніц няма пад бокам, ніхто не вучыць жыць. Ды і прыстойней мужчыну мяхі насіць і сушыць зерне, чым збіраць бульбу. Гэта факт.

З сушыльні, дзе ляжаць горы збожжа, выйшлі некалькі мясцовых жанчын, пасталі недалёка ад Міхася, адна гаворыць, астатнія слухаюць, параскрываўшы рты. Спачатку, як хлопцы прыйшлі на ток, жанчыны трохі пацвельваліся са студэнтаў — маўляў, во і маладзенькіх прыслалі, каб весялей было, пагрэцца цяпер можна, як замерзнеш. Хлопцы апускалі долу галовы з чырвонымі вушамі, і жанчыны смяяліся яшчэ больш. Але памалу адчапіліся, і зноў расправіліся плечы ў сяброў, пачалі яны смялей пазіраць на свет.

— У трэцяе брыгадзе, ці чулі, бабы, студэнты калёсы разгваздалі? — гаварыла хуткая, яшчэ не старога веку, жанчынка, якую звалі Марысяю.— Чорны такі, кажуць, у кашулі марской паласатай, з валасамі доўгімі. Я ці не бачыла яго ў краме, далібог, як чорт, такі цыганісты і даўгагрывы. А сімпатычны. Кажуць, разагнаў кабылку маладую, Белакапыціцу, а тая спудзілася карчоў вывернутых, як

ляснула калёсамі аб слуп! Кола туда, кола сюда — і студэнт носам зямлю рые. Брыгадзір, Міша Карталевічаў, як выскачыць з хаты: «Давай грошы за калёсы пабітыя!» — крычыць. А студэнт такі ўжо ўрэдны. «Кабылы ў вас,— кажа,— дурныя, нявучаныя, за што гэта я грошы буду даваць?» Міша чуць біцца да яго не кідаецца, а ўсе смяюцца.

— Так і не аддаў?

— Дзе ты бачыла! Каб табе студэнт грошы аддаў? У яго, мусіць, больш рубля і ў кішэні не бывае.

— Давайце ў нашых папытаемся, каторы гэта?

— Чорны? — Міхась ужо ведае, што толькі Санька Фамін мог гэтак хораша праехацца на калёсах, бачыў аднаго разу, як той ляцеў вуліцаю, круцячы над галавой лейцамі.— У цяльняшцы? Не, не ведаю. Можа, і не наш зусім.

— Не ваш! — абураецца адна з жанчын.— У мяне вунь кветкі ўсе чыста абрэзалі, а нашыя хлопцы і не глядзелі на іх ніколі. Ранкам выйшла на двор — а божачкі, адно каліўцы тырчаць, ніводнае галоўкі! І сабака сядзіць, каб ты здох, як ты толькі жэрці ўмееш. Схаваўся ў будку, і не выгнаць.

— Кветкі, яно, гэта... Нашто яны нам? — Міша пазірае ўдалечыню, імкнецца ісці некуды, але ж куды з току пойдзеш? Работа тут, ужо і машына прыехала па грэчку.

— Лявон! — бяжыць Міхась да Лявона, трасе яго, гаворыць нешта, разводзячы рукамі.

Хлопцы паўз сцяну, далёка абыходзячы купку жанчын, ідуць да машыны, заўзята хапаюцца за мяхі. Дзе тут гаварыць будзеш з жанчынамі гэтымі? Работа.

— Слухай, ты, можа, і ажэнішся на бульбе? — пытаецца Міхась у Лявона, закідваючы мех на ма-

шыну.— А што, раз-два — і гатова. Вяселле камсамольскае зробім.

— Ты лепш да старасты схадзі,— адбіваецца Лявон.— Тая таксама ўсюды нос суне. Харошая з вас будзе пара. Дапытлівая.

— Ну, я да Светы проста пагаварыць хаджу. І начамі, між іншым, сплю. А вось дзе некаторыя ходзяць...

— Студэнт, многа будзеш ведаць — станеш прафесарам.

— А што языком ляпаць ты ўмееш, усе ведаюць. А як усё-такі з Іраю?

— Нармальна. Асадныя работы закончыў, цяпер заключаем дагавор аб міры і супрацоўніцтве.

Кончыліся мяхі — кончылася і гаворка. Хлопцы сабраліся ўжо ісці дахаты, але паявіўся на току брыгадзір, падышоў весела і з усмешкаю:

— Ну што, усё кіпіць і ўсё сырое?

— Ды змагаемся патроху,— хлопцы стараюцца адказваць сур'ёзна, нешматслоўна.

— Ну-ну. Як Анэля, не крыўдзіць, бражкай частуе?

— Нармальна,— гаворыць Лявон.

— Нічога,— згаджаецца Міхась.

Не ўсё так добра ў хлопцаў, але які мужчына будзе скардзіцца? А расказаць ёсць пра што. Ночы цяпер зорныя, халодныя, а коўдры ў хлопцаў тоненькія, бы прасцінкі. Не соладка спаць на гарышчы, ды прасіцца ў хату не дазваляе гонар. Каторай ноччу зубы ў хлопцаў ляскаюць будзь здароў, ажно не бярэ сон, і яны тады расказваюць розныя гісторыі са свайго жыцця — што з кім здаралася, хто што любіць з'есці, якая каму падабаецца музыка. А найбольш пра ежу гавораць. Міхась калдуны ўспамінае: «Спачатку на тарцы надзярэш бульбы, накруціш фаршу мяснога — з перцам, лаўровым лі-

сцікам абавязкова,— потым робіш калдуны — быццам мяса ў драніках. Варыш там колькі часу, затым на патэльню іх. А як падсмажацца — адразу на стол. Гарачанькія. За адным разам можна з'есці штук дзесяць. А то і пятнаццаць». «Ага,— згаджаецца Лявон,— фаршыраваны шчупак таксама смачны. Сам у роце растае. Гэта, брат, не тое, што супчык з газеты».

Баба Анэля аднойчы накарміла сяброў супам, у які неяк трапіў кавалак мясцовай раённай газеты. Хлопцы, перш чым есці, доўга выцягвалі газетныя шматкі лыжкамі і пальцамі.

Але такія размовы бываюць, паўтараем, толькі ў вялікі холад і калі заране, у сярэдзіне ночы, прыходзіць на гарышча Лявон.

А наступнай раніцаю, нягледзячы ні на якія халады і няўдачы, сябры бадзёра крочаць на работу, зрываюць па дарозе буйныя, налітыя сокам, ссінялыя слівіны, вітаюцца з калгаснікамі, якія ўжо добра ведаюць студэнтаў.

Анэля амаль не заўважыла, як мінуўся месяц з таго дня, калі паставілі да яе на кватэру студэнтаў. Дні — сонечныя, дажджлівыя і проста пахмурныя — беглі хутка, хапала спраў на калгасным полі, у хаце і ў агародзе, і Анэля не задумвалася, што студэнтаў гэтых прыслалі толькі на месяц. Яна прывыкла ўжо да галасоў і вясёлага смеху ў хаце, да ранішняга мыцця хлопцаў на двары, калі тыя бразгацелі ўмывальнікам так, быццам хацелі разгваздаць яго ўшчэнт. Большы хлопец паправіў ёй радыё, цяпер яно гаварыла як не на ўсю хату, а меншы схадзіў за яе пасвіць каровы. У іхняй вёсцы была завядзёнка па чарзе хадзіць у падпаскі да грамадскага пастуха Міколы Бычка, які жыў у су-

седняе вёсцы Казлы. Анэля спачатку саромелася згасіць хлопцаў ісці ў падпаскі, але меншы згадзіўся надзіва лёгка, так што Анэлі нават зрабілася трохі няёмка. У той дзень яна наварыла добрага крупніку, хараша забяліла яго, згатавала мачанку і напякла бліноў. А хлопцы ж яшчэ па сваёй ахвоце пабілі ёй усе калоды, што даўно ляжалі за варыўнёй, ажно ўраслі ў зямлю. І не надта моцна грукалі яны на гары, толькі ўсё слухалі музыку па маленькім прыёмніку.

І Тэкля не скардзілася на сваіх дзяўчат, сядзела з імі да позняга каля тэлевізара, часта расказвала пра тое, як бывае ў чалавечым жыцці. Яна гаварыла Анэлі, што амаль кожны вечар прыходзіць у яе хату Лявон, большы з Анэліных хлопцаў.

— На Іру ўсё глядзіць,— правіла яна сяброўцы,— баіцца, мусіць, што ўцячэ дзеўка. Але ж харошая яны пара — маладыя, высокія. Адно на нямко ён падобны — усё маўчыць і маўчыць.

— Нічога, мой Мікола таксама больш маўчаў, як гаварыў. Мужыкам, пэўне, заўсёды слова сказаць цяжка. Яны больш курыць любяць,— гаварыла Анэля.

— Ага, можа, і сыдуцца. Чаму цяпер не жыць — і зарплата харошая, і ў магазінах усяго ляжыць. Бацькі ім вяселле справяць. Будуць жыць.

— От толькі каб вайны не было,— непакоілася Анэля.— Самае страшнае, вайна гэтая. З-за яе я і не пажыла па-людску... І недаядалі дзеці мае, і даноскі адзін за адным даношвалі, і самой не было як перадыхнуць... Ты кажаш — цяпер. Каб жа ж цяперашняе жыццё ды тады. Раней ніводны пан не меў такога ў хаце, як людзі цяпер маюць. А ў горадзе, мусіць, яшчэ лепей.

Бабы замаўчалі, чамусьці заківалі галовамі, пачалі ўздыхаць.

— Але ж гарадскія дзеці тоўстыя нейкія! — раптам сказала Тэкля, і голас яе быў такі, быццам яна збіраецца ўсчаць сварку.— Да Любы Гукалавай, магазіншчыцы, сястра з горада прыязджае. Укормленыя такія ў яе хлопец з дзеўкаю, дарма што дзесяцігадовыя. Ім нат бегаць цяжка, адно ходзяць, як качкі. І ў горадзе бачыла — маці сама яшчэ нічога, а дзіця побач мячыкам коціцца.

— Дзеравенскіх тоўстых няма,— падумаўшы, сказала Анэля.— Ды дзе ты растаўсцееш, па чужых садах гойсаючы? Начамі, мусіць, не спяць, паразіты, так і пільнуюць, каб у чужыя яблыкі ўбіцца. І вот жа не на карысць ім чужое, худыя ўсе, як штыкецiны, а ўсё роўна лазяць і лазяць, няма на іх палкі добрае...

— Гэта як урадзілася шкадлівае, дык да старасці такім застанецца, і не зробіш нічога. Твае студэнты, пэўне, гарадскія, не пыталася?

— А хто іх цяпер разбярэ... Казалі, хутка назад паедуць. Я і прывыкла ўжо да іх,— адказала Анэля, нібы здзіўляючыся самой сабе.

— Вот і я за гэты месяц ні разу сама да студні не схадзіла. Кажуць — у вас ногі хворыя, самі прынясём. Але ж і ціхія!.. Далібог, ніводная не здолее на мужыка накрычаць. Ажно шкада.

— А можа, і не прападуць. Вот мае таксама ціхія.

— Ціхіх хлопцаў не бывае.

Так бабы гаварылі напярэдадні ад'езду студэнтаў з Вярхіні. У глыбіні душы яны шкадавалі, мусіць, што хутка апусцеюць іхнія хаты, і зноў яны будуць тупаць па гэтых вялікіх пакоях адны. Наперадзе восень, доўгая зіма. І толькі за вясною прыйдзе лета, калі дочкі і нявесткі навязуць да іх унукаў. Няскора будуць тыя дні, а праляцяць непрыкметна.

Анэля назбірала поўны кошык яблыкаў, насмажыла белых семак і чуць не сілком прымусіла хлопцаў узяць пачастункі. Ёй чамусьмі хацелася, каб гэтыя маладыя і чужыя ёй хлопцы ўспаміналі яе толькі дабром. Ужо некалькі дзён лілі заложныя дажджы, збівалі апошняе лісце са станчэлага вецця, перапаўнялі лужыны ў каляінах. Свет нібы паменшаў, усё наўкол пашарэла, скурчылася. Анэля выйшла правесці хлопцаў за весніцы і доўга стаяла, гледзячы, як знікаюць дзве жвавыя постаці ў мігценні дажджу. І хаця яна адчувала, як цяжэе, мокне ў яе на галаве хустка, ісці ў хату не спяшалася...

Бабуля Анэля з Тэкляю жывуць у Вярхіні і пасюль. Не так даўно бачылі іх там — Анэлю ў краме, Тэклю каля свае хаты. Бабулі асабліва на жыццё не скардзіліся, а больш распытваліся пра вяскоўцаў, што пераехалі з Вярхіні ў горад. А калі чалавек цікавіцца справамі іншых людзей — значыць, пажыве ён яшчэ на гэтай зямлі.

Лявон з Іраю, як можна здагадацца, ажаніліся. Міхась быў на вяселлі сведкаю, сядзеў побач з маладымі і з усяе моцы крычаў «горка». Хутка ўсе яны скончаць інстытут.

Мусіць, яшчэ не раз успомняць яны сваю першую бульбу — з бабулямі, работаю і каханнем.

## ПА ХАРЫУСА

Аб тым, што ў беларускіх рэках жыве і няблага бярэцца на чарвяка і шыціка экзатычная рыба харыўс, я даведаўся выпадкова. Мой даўні сябра

Лёшка Бацюта ў мяне ў гасцях выпіў трохі больш, чым заўсёды, і пачаў хваліцца, што праз тыдзень ён паедзе на рэчку і будзе лавіць там рыбу, пра якую ні адзін з нас, смаркатых дылетантаў, не чуў ніколі. «Толькі я, і больш ніхто!..— чамусьці раззлаваўшыся, крычаў Лёшка.— Падумаеш, язя ён злавіў. А харыуса ты бачыў? А стронгу лавіў? Ні халеры не ведаеце, сядзіце тут, а я вось паеду — і ўсё!»

Я вырас на шырокіх дняпроўскіх берагах, дзе побач з глеістымі абрывамі разлягаюцца белыя плёсы, дзе да самае вады падступаюцца чыстыя сасоннікі і рэдкія ды прасторныя дубовыя гаі, што стаяць толькі на вялікіх грудах. У вірах, на быстрынях і пад глізамі я лавіў язёў і подустаў, гусцёрак і ляшчоў, акунёў і галаўнёў, а ў затравелых залонях — зялёных шчупакоў. Аднаго разу нават злавіў гнуткую, як шаблю, чахонь.

Зразумела, я пакрыўдзіўся і ўсё запомніў.

І ў наступны дзень я пазваніў Лёшку. Той пакрактаў, паўздыхаў цяжка ў трубку, але ўсё ж сказаў:

— Едзем у пятніцу. Білет на аўтобус трэба браць сёння ж. Паляўнічыя боты ў цябе хоць ёсць?

І я пачаў збірацца — дастаў сваю самую каштоўную жылку, самыя лепшыя кіеўскія кручкі, якія купіў яшчэ гадоў пяць таму, зрабіў новыя паплаўкі і павадкі. Сёлетні май быў халодны, і ў рукзак з цяжкасцю ўлезлі спальнік, надзіманы матрац, паралон, ежа. Калі я ўсё сабраў і прымерыў на сябе — рукзак, дарэчы, без чужой дапамогі на плечы не ўскідаўся,— з люстра на мяне зірнула нешта вельмі згорбленае, у штармоўцы і вялізных ботах. Я нібы паменшаў разы ў два. А былі яшчэ палатка і вуды.

— Вось так і пойдзеш? — не без гумару спыта-

лася сястра, якой мае зборы абрыдзелі горш за футболы і хакеі па тэлевізары.— Ты адзін такі ці вас многа?

Я маўчаў і думаў, што прыйдзе яшчэ тая хвіліна, калі я ўспомню сваім нядобразычліўцам усё — ад самых маленькіх кепікаў да абразлівых заяў пра тое, што я не ўмею лавіць рыбу.

Ехалі мы ўтрох — Лёшка, Барыс і я. Усе мы ведалі адзін аднаго гадоў па дзесяць, і мне зрабілася яшчэ больш крыўдна — сябры, колькі ў застоллях разам сядзелі, а пра харыусаў маўчалі. «Утаплюся, а харыуса злаўлю»,— вырашыў я.

З вёскі Аднадворцы, дзе пакінуў нас аўтобус, трэба было ісці яшчэ кіламетраў восем.

— Да вечара дойдзем,— сказаў Лёшка,— там ужо Вовік з Міхасём чакаюць. Яны на сваіх машынах паехалі.

Мы ўскінулі на плечы рукзакі і рушылі.

Ішлі гадзіны тры, два разы адпачывалі. Нядаўна прайшлі дажджы, і лясная прасека, што вяла да ракі, ператварылася ў балота. Было, праўда, даволі плытка.

Вечарэла, з лясное гушчэчы наплываў туман, але ўжо недзе ў правым баку шумела рака — гэты шум я не зблытаю ні з чым.

Раку трэба было пераходзіць: на другім беразе — вышэйшым — ужо стаяў лагер.

— Летась брод быў харошы,— няўпэўнена сказаў Лёшка.

— Але ж гэтым годам колькі снегу ляжала,— Барыс заклапочана ўзіраўся ў кусты і дрэвы, на якіх высока матляліся касмылі леташняе травы.— Паглядзі, якая паводка была.

Рака ішла вельмі хутка. Толькі на Каўказе бачыў я плынь, ад якой кружыцца галава. Хуткасць гэтай плыні была такая ж, як і ў каўказскіх рэчак.

Лёшка рашуча пайшоў у ваду. Я ўзяў сухую алешыну — замест кія — і рушыў за ім. Ззаду плёхаў Барыс. Ісці было цяжка — моцна, як прэс, ціснула плынь, вакол ботаў пагрозліва, узбіраючыся ўсё вышэй, цурчала халодная, жаўтаватая вада, а як толькі я спыняўся — ногі адразу заносіла пяском; здавалася, што ўгразаеш няўмольна і хутка. Сухая і лёгкая алешына амаль не дапамагала. Яшчэ некалькі крокаў наўскос берага — і ногі абхапілі лядзяныя абцугі. Боты, у якія налілася вада, адразу зрабіліся вельмі цяжкімі. А мы яшчэ нават не дайшлі да сярэдзіны ракі. «Лепш скінуць боты і паспрабаваць перайсці ў плаўках»,— падумаў я і павярнуў назад. Хлопцы яшчэ трохі патаўкліся на самай быстрыні — і таксама не вытрымалі.

Без ботаў пераправа пайшла шмат лягчэй, і хутка мы ўжо ўзлезлі на круты і высокі бераг. І адразу пацягнула дымком з вогнішча, нават неяк пацяплела.

Палаткі стаялі зусім блізка, у акружэнні высокіх ялін і густога кустоўя. Каля вогнішча махалі рукамі Вовік і Міхась.

— Як харыус? — трывожна спытаўся Лёшка.

— Двух узялі,— адказаў Міхась — чорны і з барадой.— Вецер мяняўся, амаль і не бралася нічога. Вовік галаўня з яльцом узяў. Закінулі донкі.

Мы пераапрануліся ў сухое, усе разам хуценька паставілі дзве палаткі.

Ужо добра сцямнела. Мігатлівае вогнішча скакала па зямлі, выхоплівала з цемры яловыя галіны, страляла ў расцягнуты над ім тэнт дробнымі іскрынкамі. Пад абрывам шумела рака, і я з хваляваннем думаў пра заўтрашнюю рыбалку. Мне паказалі ўжо харыусаў — даўгаватых, з точанымі плаўнікамі і ледзь прыкметнымі шызымі палосамі на тулаве. «Бачыў бы ты іх жывымі! — сказаў

Міхась.— Тут іх чамусьці ліпенямі завуць. Можа, што ў ліпені яны лепш за ўсё ловяцца?» Рыбіны былі непадобнымі да ўсіх тых, якіх я лавіў раней.

Раніцою мы ўсе разам хуценька паснедалі, пабралі вуды — у хлопцаў акрамя звычайных вудзільнаў былі яшчэ і спінінгавыя — і разбрыліся хто куды. «Канечне,— з зайдрасцю думаў я, —у іх і месцы свае ёсць, і вудзільны спінінгавыя... Як ён хоць бярэцца, гэты харыус?..»

З абодвух берагоў дрэвы падступаліся амаль да самае вады, нават цяжка было знайсці акенца, каб закінуць вуду. Ад хуткай плыні востра ішоў холад, і недзе там, у стылай глыбіні, стаялі, варушылі вялікімі плаўнікамі харыусы. «Хоць бы аднаго...» — не падумаў, а папрасіўся я ў невядома каго.

Барыс, які амаль бег перада мною, хуценька шуснуў аднаму яму вядомаю сцежачкаю пад абрыў і адразу сціх, стаіўся пад бярэзінаю, што завісала над вадой. Я падумаў, што трэба спачатку паглядзець на раку, пашукаць больш-менш шырокага плёса — і тады толькі лавіць. Але ўжо на першай прагаліне не вытрымаў і закінуў вуду...

Праз дзве гадзіны я зайшоў уверх па рацэ кіламетры на чатыры. Рака выгіналася, закручвалася пад стромамі, з палёгкаю разлівалася на перакатах, дзе на яе паверхні разбягаліся шматлікія дарожкі — глыбіня тут была зусім малая. У некаторых месцах — пад кручамі — плынь рабіла вялікія і шырокія кругі. Шмат ляжала сухіх асін, акуратна і фігурна абгрызеных бабрамі. Адчувалася, что чалавек па гэтых берагах хадзіў даволі рэдка.

Разы са два паплавок маёй вуды рэзка ішоў на дно, але гэта было больш падобна да зачэпаў вадарасцей ці дна, чым да торгання рыбы. Хуткая плынь не давала стаяць на месцы, трэба было амаль бегчы за паплаўком. Я пайшоў назад, спы-

9 Зак. 476

няючыся там, дзе мог стаяць гэты незразумелы і хітры харыус. Я нават зайшоў на сярэдзіну аднаго перакатa і доўга стаяў у вадзе, не зважаючы на холад.

Вызірнула сонца, трохі пагладзіла промнямі па твары — і схавалася зноў. Наўкол стаялі апушчаныя яшчэ жаўтаватым зяленівам дрэвы, бегла абыякавая, па-веснавому мутная вада, і шырокае неба разлівала над усёй гэтай зямлёю святло — але не было спокою. Мне здавалася, што ўжо ўсе хлопцы злавілі па некалькі харыусаў. Ад крыўды на самога сябе ажно дрыжалі рукі.

На невялікай лукавіне, белай ад дробнага пяску, я яшчэ раз закінуў вуду. Паплавок хуценька пабег паўз бераг, раз-пораз падскокваючы і знікаючы ў бруістай плыні. Раптам ён знік. Я падсёк і адчуў, як напялася жылка; нешта жывое на канцы яе цяжка заварочалася і забілася. І вось з вады, торгаючыся, як шалёная, выскачыла вялікая рыбіна і павісла, здалося, у паветры, а потым цяжка ўпала да маіх ног. Харыус — а гэта мог быць толькі ён! — штуршкамі папоўз да вады. Ён ужо быў каля яе ў дзесяці сантыметрах. Я скокнуў проста ў ваду і схапіў моцную, пругкую рыбіну абедзвюма рукамі. У мяне ў руках быў харыус. Пакачаны ў пяску, вялікі, прыгожы харыус. Я пачуў, як з яго шырока раскрытага рота вырваўся піск.

Хуценька, як баючыся, што рыбіна зараз вырвецца, я засунуў яе ў халяву бота. Харыус моцна заварочаўся і пачаў спаўзаць усё ніжэй. Я адрэзаў кавалак тоўстае японскае жылкі, зрабіў нізалку. Рукі калаціліся, вузлы не хацелі завязвацца.

На нізалцы харыус зноў аджыў, заплёхаў пад берагам, закруціўся, спрабуючы выбрацца. Ён быў сантыметраў трыццаць пяць, а то і болей.

Я пераможна паглядзеў па баках. Але нікога не

было побач, адно плюскацела, імкліва неслася ра-ка. «Ну вось,— круціліся ў галаве блытаныя дум-кі,— вось і злавіў... Вялікі... цяпер хай паспрабуюць сказаць, што не ўмею. Але ж моцны які, думаў, што зачапіў за калоду. Трэба лавіць... не сядзець і ку-рыць, а ісці лавіць».

Устаў, выкінуў недакурак, начапіў чарвяка і зноў замахаў вудою.

На гэтым месцы больш нічога не бралася. Я спу-сціўся ўніз яшчэ метраў на сто. За маленькім астраўком з трыма алешынамі пачыналася яма, а далей ішоў больш-менш чысты ад кустоў бераг, пад якім выгіналіся доўгія водарасці. Па гэтым бе-разе за паплаўком можна было прайсці метраў пяцьдзесят. Боты чвякалі ў гразі, чапляліся за сушняк, але я ні на што не звяртаў увагі. Ад на-пружанасці слязіліся вочы, балела шыя. І яшчэ раз паплавок рэзка пайшоў на дно, бы зачапіўшыся за калоду. На кручку захадзіў харыус, бліснуў у па-ветры і ўпаў да маіх ног. Гэтага я ўжо разгледзеў больш уважліва. Ён быў доўгі, з дасканалымі аб-рысамі моцнага тулава, вялікімі плаўнікамі, якія пераліваліся цьмяна-сінімі адценнямі, і вялікай лу-скою. Уздоўж тулава таксама ішла сіняватая па-лоса.

За гадзіну тут узяліся яшчэ два харыусы. І кож-ны з іх хапаў нажыўку прагна, імгненна, і кожны, як і два папярэднія, зрываўся з кручка на беразе і падаў мне пад ногі. І ўсе разы жылка заблытвалася ў лапушыстым вецці маладых алешын, і я, паса-дзіўшы харыуса на нізалку, доўга разблытваў яе, баючыся парваць.

Чатыры харыусы стаялі пад берагам, дыхалі шчэлепамі, і калі я падыходзіў, яны кідаліся ў глы-біню, білі хвастамі па вадзе, падстаўляючы вачам срэбныя, з пералівамі сінявы, бакі. Я не мог на іх

9*

наглядзецца, скоса пазіраў адным вокам, стараючыся лішні раз не палохаць.

Пакуль я лавіў, па рацэ ўвесь час ішлі байдаркі — адзіночкі і двайныя, з хлопцамі і дзяўчатамі ў іх. І амаль з кожнай пыталіся пра рыбу. «Нічога няма,— адказваў я,— зусім нічога не злавіў... не, якая там рыба... нават яршоў няма». Байдарачнікі з усмешкамі аглядаліся, жартавалі. Адзін так развесяліўся, так вярнуў галаву ў мой бок, што ўрэзаўся ў корч, які страшыдлам тырчаў з вады. Байдарка адразу пайшла на дно. Лаючыся, турыст павалок яе да берага і, пакуль рамантаваў, у мой бок ужо не пазіраў.

Нарэшце я здаволіўся. «Хоць чатыры,— думаў я, ідучы да лагера.— Яны, зразумела, налавілі больш, яны ўсё тут ведаюць. Але нічога, калі-небудзь і я... А першы які вялікі... Не сорамна і паказаць».

Хлопцы ўжо сядзелі каля вогнішча. Барыс і Лёшка елі з адной місы кашу, Вовік цягаўся з нейкай жалязякаю, каля машын завіхаўся Міхась. Мне карцела высока ўзняць нізалку, крыкнуць што-небудзь, заскакаць... але я проста кінуў харыусаў пад сасонкаю.

— Чатырох узяў...— голас перарваўся і сеў.

Словы гэтыя бы доўбняю ляснулі сяброў па галаве. У Лёшкі з Барысам павывальваліся лыжкі, Вовік забыўся на жалязяку, а Мішка прыбег шмат жвавей, чым гэта можна было чакаць ад чалавека з маладым, але даволі ёмістым жыватом. Хвіліны тры яны моўчкі пазіралі на рыбін. У Лёшкі механічна варушылася сківаца, бы ён пераждоўваў добры кавалак старое ялавічыны.

— М-малойчык,— нарэшце сказаў ён.— Першы.

— Што першы? — трывожна здзівіўся я.

— Першы, хто адразу пачаў лавіць.

Бачна было, што ўсе яны не вельмі радаваліся маёй удачы.

— Ну, а вы? — наіўна спытаўся я.

Хлопцы паадварочваліся, пачалі шукаць цыгарэты, варушыць ламачча ў вогнішчы.

— Вецер...— прабурчаў Лёшка,— у мяне, праўда, пару штук сышло. Здаровых.

Аказалася, што толькі Лёшка і Барыс узялі па аднаму харыусу. У астатніх яны зрываліся. Хапалі шыціка, доўга змагаліся — і ўцякалі, абарваўшы замежную жылку ці кручок.

— Добра, хоць браліся,— паспачуваў я.

Закрапаў дождж. Неба навісла зусім нізка, аблокі хутка ішлі амаль над самымі вяршалінамі соснаў. Мы расцягнулі над вогнішчам вялікі тэнт і цяпер сядзелі, як у хаце.

Хлопцы пачалі ўспамінаць, якіх вялікіх, якіх цудоўных харыусаў лавілі яны ў мінулыя гады. У Лёшкі адзін такі харыус зламаў кончык бамбукавага вудзільна і знік з ім бясследна. Трэба думаць, гэта быў не харыус, а волат.

Усе сядзелі ўкруг вогнішча, адзін Вовік падвешваў да сасны нешта жалезнае. Ён быў вельмі заклапочаны, не захацеў нават узяць сто грамаў.

Самы вясёлы ў кампаніі быў я, і гэта было няспіпла, зразумела, але ж не заўсёды можаш стрымаць сябе.

І тут нешта зараўло на ўвесь лес, загрымела, затрашчала, і ў першы момант здалося, што вострым жалезам табе праткнулі вушы. Раўло ад сасны з Вовікавай жалязякай. Адтуль жа пацягнула бензінавым дымком.

— Матор!..— перакрываючы ляскат, крыкнуў мне ў вуха Лёшка.— Лодачны!..

Гаварыць не было як, я маўчаў. Матор нарэшце чхнуў і змоўк. І я даведаўся, што Вовік прывёз

з сабой на машыне гумавую лодку з маторам. Зразумела, што пакатацца на лодцы не было тут ніякай мажлівасці — за тры мінуты моцная плынь занесла б Вовіка і яго лодку чортведама куды. Дык Вовік, каб хаця толькі ўчуць прыемны яго сэрцу роў рухавіка, падвесіў яго да сасны і завёў. І цяпер ён стаяў са шчасліваю ўсмешкаю, гладзіў жалеза і паляпваў яго, усё адно як руплівы гаспадар лашчыць свайго любімага каня.

— А што ён з лодкаю будзе рабіць? — спытаўся я.

Ніхто не ведаў, ды і не цікавіла гэта нікога.

Паскрэблі рыбу, бульбу, падрыхтавалі спецыі для юшкі. Галоўным кухарам быў Аляксей. Ён больш за ўсіх мітусіўся, крычаў, лазіў лыжкаю ў кацёл.

Я ўсё краем вока пазіраў на сваіх харыусаў і міжволі пранікаўся да самога сябе павагаю. Нават выказаў услых сентэнцыю пра тое, што Дняпро — гэта сапраўдная школа, і яна ніколі і нідзе не падвядзе чалавека. Вось як, напрыклад, сёння яна не падвяла аднаго з нас.

Хлопцы нездаволена чмыхалі, аднак маўчалі.

Лавіць сёння ўжо ніхто не пайшоў — адпачывалі перад заўтрашнім, як усім здавалася — самым галоўным, днём. Адно Лёшка разы са два бегаў правяраць донкі — узяўся толькі адзін мянтуз.

— Нічога, за ноч ментузоў будзе не менш дзесятка,— сказаў ён.— Толькі каб хаця холадна было. І вецер.

Добра гарэла вогнішча, Мішка іграў на гітары, з якой ніколі не расставаўся, астатнія проста маўчалі.

Назаўтра, канечне, я зноў пабег да свайго месца. Чамусьці здавалася, што каля майго вострава

сабралася цэлая чарада харыусаў, якія чакаюць мяне, нецярпліва ўзмахваючы плаўнікамі.

...Да трох гадзін у мяне ўзялося толькі два харыусы, хаця вудою я махаў безупынна. Я думаў, што блага бярэцца з-за ветру, які зноў, мусіць, мяняецца. Сёння было ўжо нашмат цяплей, раз-пораз вызірквала сонца, і аблокі плылі высока, не прыціскаліся да лясных верхавін. Але тым не менш харыусы, калі яны тут былі, не вельмі глядзелі на маіх чарвякоў і шыцікаў. «Абрыдлі, пэўна»,— панура думаў я.

Паўз мяне, вяртаючыся ў лагер, прайшлі амаль усе хлопцы. Вовік не злавіў нічога і сёння, Лёшку пашанцавала на двух харыусаў, у Барыса быў адзін.

— Кідай,— сказаў Лёшка,— я сустрэў знаёмых, сказалі, што ўжо тры дні не бярэцца па ўсёй рацэ. А там месцы куды лепшыя. Я лавіў, ведаю.

Але яшчэ з гадзіну я тупаў па беразе, баючыся адарваць вачэй ад паплаўка. Ды праўда, мусіць, была на Лёшкавым баку.

«Нічога, заўтра ў мяне яшчэ ёсць раніца,— думаў я,— быць не можа, каб не злавіў. Трэба абавязкова прывезці дамоў некалькі харыусаў і паказаць. А то папрывыкалі смяяцца».

Хлопцы сёння былі яшчэ больш змрочныя. Адзін Вовік хадзіў такі ж заклапочаны, не вельмі, відаць, перажываў з-за няўдалае рыбалкі. Ён выцягнуў на палянку сваю гумавую лодку, надзьмуў яе і лёг. Ён ляжаў з выглядам чалавека, які нарэшце дасягнуў свае мэты. Нялёгка было гэтаму чалавеку, шмат цяжкасцей паўставала перад ім — але ён пераадолеў усё і вось цяпер ляжыць з адчуваннем уласнае годнасці, і задаволенасць у яго на твары, спакой, замірэнне.

Лодка Вовікава сапраўды была добрая — вялікая, мяккая, з лёгкімі вёсламі. Усё ў ёй было пра-

думана да дробязей, нават было дзе прычапіць матор. І Вовік ляжаў на ёй прыгожа і ўпэўнена. Заслужана ляжаў. Я зайздросціў яму, як зайздросцяць чалавеку, які дабіўся свайго, нягледзячы ні на што.

Ну і, зразумела, па тым самым законе, які людзі называюць законам подласці і які дзейнічае ў любых абставінах і ва ўсе часы года, назаўтра я не злавіў нічога. Нават пячкур грэбліва абмінуў майго чарвяка, не тое што высакародны харыус. Я ўжо і лаяўся, і шаптаў закляцці, і прасіўся ў рыбацкага бога — але дарма ўсё.

Мяне не супакоіла нават тое, што ніхто з хлопцаў харыуса не злавіў.

І мы сабраліся, ускінулі на плечы траха палягчэлыя рукзакі і рушылі лясною дарогаю да шашы.

...Улетку я і Аляксей яшчэ раз выбраліся на гэтую рэчку, што бурліва, бы сарваўшыся з гор, імчыць праз пушчу. Рэчка абмялела, скрозь зарасла высачэзнымі, у рост чалавека, крапівой і травамі, абапал яе стаяла здзічэлая, насцярожана-маўклівая пушча. Некранутыя маліннікі аблямоўвалі паляны і павужэлыя прасекі, на кожным пяньку сядзелі стогаловыя сем'і буйных апенькаў, а першыя баравікі, амаль не баючыся, высоўваліся з-пад ялін, дзівіліся на гэты сонечны, вясёлы, матыльковы свет. Сцяжынак амаль нідзе не было.

У пачысцелай вадзе лавіць асцярожнага харыуса аказалася яшчэ цяжэй, чым увесну. Рыба стаяла пад глінянымі берагамі, пільнавала скачкоў і шыцікаў, і толькі на досвітку ці пад самы вечар, калі змрок ужо амаль кранаўся вады, яна пачынала гуляць, плюскацела, бы нехта боўтаўся на быстрынях. Мы злавілі толькі чатырох харыусаў. Але чым цяжэй, тым цікавей. Ды і цяпер мы ўжо дакладна

ведалі, як лавіць самых буйных харыусаў — на штучную муху, пра якую напісана ў адной польскай кніжцы. Наступным разам мы прыедзем з гэтай мухай. І тады вось пабачым.

## ЯК? АНІЧОГА!

Анатоль Крэнь — настаўнік Анатоль Піліпавіч Крэнь — прачнуўся прыцемкам, бадзёра выскачыў з ложка, нацягнуў цёплы спартыўны касцюм і выбег з хаты на двор. Яшчэ добра не развіднела, каля пуні і варыўні шапацеў змрок, у халодным, але пасвятлелым ужо небе квола міргала некалькі зорак. Цвёрдая зямля пазвоньвала тонкім лядком, пад плотам і пад сцяною хаты ляжала крыху снегу,— так і дыхала ўсё позняй восенню. Настаўнік памахаў рукамі, пару разоў прысеў, потым пабег ледзь бачнаю сцяжынкаю паўз поле. З-за суседняга плота высунулася таўставатая фігура Грыпіны Кабак, з хвіліну паглядзела ўслед настаўніку.

— Зося! — загукала яна.— А, Зося! Твой пабег?

Ляпнула клямка дзвярэй у сенцах, паказалася яшчэ таўсцейшая, як Грыпіна, баба Зося.

— Пабег,— сказала яна, ідучы з вядром мешанкі свінням у хлеў.

— І так во кожную раніцу?

— Кожную.

— А чаму не жэніцца?

З хлява данеслася нешта неразборлівае.

Настаўнік Крэнь жыў у бабы Зосі чацвёрты месяц, прыехаў сюды адразу пасля інстытута, і, зразумела, што ім у Зашчэб'і цікавіліся. Але аб гэтым ён яшчэ не здагадваўся.

Пакуль дваццацідвухгадовы Анатоль Піліпавіч

набегаўся, пакуль паснедаў яешняй са скваркамі,— у хаце бабы Зосі зрабілася досыць тлумна. Спачатку Пятро, сын гаспадыні, прывёў Аксанку, сваю меншую дачку, потым прыбегла Марына, большая. Пачаліся ў хаце мітусня і размовы.

— Прывялі на маю галаву! — бурчала ў кухні баба Зося.— Лётаюць, грукаюць, глядзі тут за імі, быццам у мяне другое работы няма. Аксана, хадзі скварку дам!

Аксана скваркі любіць, дробна і мякка, як кот уначы, тупаціць да бабы. За ёй і Марына прыбегла.

— А мяне ўчора Жорык набіў,— успомніла яна ўчарашнюю крыўду.— Ён яшчэ і ў яму, дзе трубы ляжаць, зваліўся.

— От гэны Жорык! — ківае галавой баба Зося.— А ты з ім не гуляй.

— Не буду,— абяцае Марына і праз хвіліну ўцякае на вуліцу, дзе ўжо свішча і кідаецца снежкамі Жорык.

Настаўнік у сваім пакоі збіраецца на работу, а ў суседнім ніяк не навядзе парадку баба Зося.

— Кінь ката! — крычыць яна на Аксану.— От як драпне за вока —будзеш ведаць.

Аксана недзе хаваецца, баба не супакойваецца:

— Схавалася ўжо, немец? От прыйдзі толькі...

Яна заве Аксану «немцам» — што не гаворыць тая, нават не піскне ніколі. Усё разумее — а не гаворыць.

Чутна, як кот вырваўся і гайсануў на печ. Цяпер Аксана будзе лезці на печ з упартасцю жука, які шкрабецца на крутую горку; яго і скідаюць — ды ўсё роўна дарэмна гэта.

Крэнь выходзіць на вуліцу. Школа зусім блізка, і ён не спяшаецца, ідзе паважна. Раптам з акна хаты, што стаіць на тым баку вуліцы, вывальваецца чатырохгадовае хлапчанё, за ім гэтак жа скача

на паўгалавы большае, услед высоўваецца з патэльняй у руцэ старэйшы з братоў. Крык, тупат, абурэнне. Можна зразумець, што малодшыя браты паспрабавалі падсмажыць сала. З акна даносіцца моцны пах гарэлага. Босыя малыя стаяць за вуглом хаты і цікуюць брата.

— Што ж гэта вы босыя па снезе бегаеце? — гаворыць Крэнь.— Марш у хату!

Малыя, як спуджаныя вераб'і, пырснулі ў сад. Крэнь паківаў галавой і пайшоў далей. Ён ведаў гэтых трох братоў і не надта здзівіўся, убачыўшы іх босымі ў такую пару.

У школе было цёпла, ішоў першы ўрок. Анатоль Піліпавіч, зазірнуўшы ў «настаўніцкую», пайшоў у бібліятэку да Галіны Аляксандраўны. Тая сядзела за сталом, падклейвала кнігі, што пацярпелі ад залішняй прагі да ведаў.

— Ну што? — спытаўся ён.— Навучыліся вашы падапечныя... скуголіць?

— Скуголіць!..— абурылася яшчэ маладзейшая ад Крэня Галіна Аляксандраўна.— Мае дзеці спяваюць не раўня некаторым настаўнікам! І наогул — дам я вам цяпер добрую кнігу.

— Прабачце, прабачце. Гэта я так, агаварыўся.

Галіна Аляксандраўна акрамя асноўнай работы вяла гурток спеваў і на гэтым полі дзейнасці не шкадавала ні сябе, ні дзяцей. Анатоль Піліпавіч хацеў быў абмяняць у бібліятэкаркі адну даволі рэдкую кнігу, аднак пасля такога ўступу, па ўсяму бачна, яму ўжо можна было ісці. Што ён і зрабіў.

Празвінеў надта ж моцны ад нечаканасці званок, школа загула, нават крышку затрэслася — быццам аднекуль пагрозліва насоўваўся абвал. Аднак нічога, гул хутка ўвайшоў у норму. У Анатоля Піліпавіча зараз быў урок, але ён не замітусіўся, а моўчкі пастаяў каля настаўнікаў, пакурыў. Гэта

быў рытуал — маўклівае курэнне мужчын у адведзеным месцы.

Вось і ўрок. Восьмы клас сядзеў ціха, усе позіркі былі скіраваны на стос сшыткаў, які прынёс Анатоль Піліпавіч. На мінулым уроку была кантрольная дыктоўка, і цяпер хто з радаснай надзеяй, а хто і са страхам чакаў вынікаў. Былі, праўда, і такія, з якіх у старажытнай Грэцыі атрымаліся б неблагія алімпійцы. Яны так спакойна займалі месцы на «камчатцы», што міжволі думалася — а навошта яны сядзяць тут? Для тых малайцоў чарговая двойка была тым жа, што соль на хвост зайцу. Анатоль Піліпавіч больш за ўсё злаваў, калі бачыў іх абыякавасць, і «камчатцы», адчуваючы гэта, на яго ўроках ледзь не ўлазілі пад парты. А то і проста прасіліся: «Чэснае слова, пасля восьмага пойдзем у СПТВу. Вы нас толькі выпусціце». Старэйшыя з настаўнікаў — напрыклад, Казімір Язэпавіч Дубовік і Мікалай Пятровіч Грынцоў — таксама намякалі, што гадавыя і экзаменацыйныя тройкі тых самых «камчатцаў» — добрая паслуга не толькі самім вучням, але і школе. Крэня здзіўляла, што дырэктар школы, чуючы пра гэта, зусім не пярэчыў. Наадварот, ён адабральна крактаў. «А як жа веды?..» — спытаўся аднойчы Анатоль Піліпавіч,— і тут жа пашкадаваў. Надта ж развесяліліся Дубовік з Грынцовым.

Сшыткі раздаліся, пачалі разбірацца ў найбольш тыповых памылках. Анатоль Піліпавіч выпадкова зірнуў у акно і спыніўся на паўслове. Дзіцячая рука, трымаючы папяровы скрутак, няўпэўнена шкрабалася па шкле. Было холадна, і рука ажно пасінела. Анатоль Піліпавіч прачыніў акно — і скрутак тут жа ўспоўз на падаконнік.

— Маньцы сала...— данёсся слабенькі галасок, і рука знікла.

— Якой гэта Маньцы?..— настаўнік разгублена ўзіраўся ў скрутак.

Клас грымнуў рогатам, і тут найбольш старалася «камчатка». Маня Рабцэвіч сядзела чырвоная, як бурачок.

Анатоль Піліпавіч ужо здагадаўся, у чым тут справа. Маці ўспомніла, што дачка пабегла ў школу не снедаўшы. А тут якраз забілі парсюка, яшчэ звечара, мусіць, вастрылася швайка і рыхтаваліся ночвы, кубел, соль. Так, гэта дакладна была свежына, аб чым выразна сведчыў пах скрутка. І маці падсмажыла сала з мясам і паслала ў школу меншую дачку. А малая, не паспеўшы на перапынак, прыйшла пад акно.

— Я ёй пакажу сала...— хліпала Маня.

— Ну-ну, Рабцэвіч! — спалохаўся за малую Анатоль Піліпавіч.— Лепш выйдзі на калідор, супакойся.

Клас, зразумела, весяліўся, і многія ахвотна смяяліся б да канца ўрока.

— Ці-ха! — павысіў голас Анатоль Піліпавіч.— Працягваем работу над памылкамі.

Чатыры ўрокі для Анатоля Піліпавіча прайшлі хутка. Яно заўсёды так — калі чалавек старанна працуе, амаль не заўважаецца, як ляціць час. А настаўнік Крэнь стараўся, шчыраваў, можна сказаць, як пчала ў ліпавым квеце. Яго вельмі непакоіла, што ведае ён шмат болей, чым паспявае расказваць на занятках. Неяк ён нават паскардзіўся на гэта калегу Дубовіку, але той супакоіў, сказаў, што з цягам часу гэта праходзіць. Маўляў, лішнія веды знікаюць самі па сабе. «Жартуе ці не?» — разгубіўся тады Крэнь.

Цікавыя яны людзі — Казімір Язэпавіч Дубовік і Мікалай Пятровіч Грынцоў. Рэдка абыдзецца, каб не зачапіў хто з іх — часцей Дубовік — настаўнікаў.

Вось і зараз — не паспеў Анатоль Піліпавіч выйсці з настаўніцкай, як Дубовік, падміргнуўшы Грынцову, спытаўся:

— Якія дзяўчаты, Піліпавіч, лепшыя: гарадскія ці тутэйшыя?

— Усе добрыя...— мармыча Крэнь, стараючыся як хутчэй праскочыць паўз іх. Ды дзе там.

— Чакай-чакай! — ловіць яго за рукаў Дубовік і азіраецца па баках.— Гэта я так... Пяцёркі да палучкі не будзе?

Анатоль Піліпавіч уздыхае з палёгкай. Цяпер зразумела — мужчыны не ведалі, з чаго распачаць гаворку, і запыталіся нейтральна пра дзяўчат.

У Дубовіка з Грынцовым слабае месца — гарэлка. Зарплату, канечне, даводзіцца аддаваць жонкам, тут нікуды не дзенешся. Жонка Грынцова, напрыклад, зусім не давярае мужу, атрымлівае грошы сама. Але ж, бывае, захочацца... І трэба сказаць — мужчыны знаходзяць! Адзінае, што блага — Дубовік і Грынцоў жывуць у розных вёсках. Хата Грынцова ў Брынёве, што за тры кіламетры ад Зашчэб'я. Ідзеш, так сказаць, дамоў, а пасля чаркі не заўсёды добра на нагах трымаешся. Шмат зручней было б, каб у Брынёве жыў Дубовік.

Казімір Язэпавіч, узяўшы ў губы, трымаецца на нагах яшчэ больш упэўнена, чым цвярозы, зусім не віваецца. Вось толькі словы, бывае, губляюць некаторыя склады, і чырванее бульбіна-нос. Каб яго, як і вочы, можна было схаваць за акулярамі, усё было б добра. Але і так, калі ідуць увечары побач матэматык Грынцоў з моваведам Дубовікам, выпадковы чалавек абавязкова скажа: «Глядзі ты, набраўся адзін. Хоць бы той, што цвярозы, крыху падтрымліваў яго. Гэта ж цяжка чалавеку во так ісці аднаму». А Дубовік малайцом, чэша сабе роўненька, смаліць папяросу, бліскае акулярамі з-пад ка-

пелюша. Гледзячы на яго, ажно шкода беднягу Пятровіча, які, здаецца, і абыходзіць лужыну, але ўсё ж усунецца ў яе.

Пра Казіміра Язэпавіча і гісторый ўсялякіх ходзіць па вёсцы нашмат меней. Можна было б сёетое расказаць, пасмяяцца, аднак лепш пра Грынцова пагаварыць: і больш смешна, і спакайней неяк. Дубовік крыўды не забывае.

— Не ўзяў я грошай...— гаворыць Анатоль Піліпавіч, і яму робіцца няёмка ад свае непрадбачлівасці.

Зразумела, людзі спадзяваліся на яго, а цяпер вось шукай, думай. «Знойдуць...— апраўдвае сам сябе Крэнь,— не першы ж раз...»

Дубовік з Грынцовым відавочна расчараваныя, нават папяросы тухнуць. Але Грынцоў усё ж спрабуе супакоіць маладога калегу:

— Я адразу бачыў, што Піліпавіч не навучыцца. Мусіць, са здароўем не вельмі?..

— Ага,— удзячны за дапамогу Крэнь,— нешта нутро не прымае.

Анатоль Піліпавіч яшчэ некаторы час пасядзеў у кабінеце літаратуры, падабраў матэрыялы да заняткаў у восьмым і дзевятым класах. Сядзеў, корпаўся ў кнігах, пласцінках, запісваў — а думкі ўвесь час круціліся вакол учарашняга пісьма, якое атрымаў ён ад свайго сябра Сяргея Левашова. Той пасля інстытута застаўся ў Мінску і не забываў, пісаў недзе раз у месяц.

«Як ты там? — з усмешкаю пытаўся сябар.— Хаты з парсюкамі не завёў яшчэ? І соткі, мусіць, свае ёсць? Зайздрошчу, браце, здароваму жыццю на свежым паветры, побач з лесам і возерам. Тут, у горадзе, і грошай не хапае, і нервовыя клеткі гарэць мільёнамі, і па вуліцах бегаеш, як напалоханы заяц. Малайчына, праз колькі гадоў станеш бага-

тым і важным, буду ў цябе пазычаць грошы. Давай-давай, гадуй жывот і жаніся».

Адчувалася, надта ж адчувалася ў пісьме кплівая ўсмешка кандыдата ў інтэлігенты. Як жа — Левашоў прымацаваўся да універсітэцкай кафедры і гадоў праз пяць, можа, напіша дысертацыю. Як яму цяпер гаварыць з вясковым настаўнікам? Канечне, з перавагай старэйшага брата.

Аднак што дзіўна — не пакрыўдзіўся Анатоль Піліпавіч Крэнь, а толькі ўзрадаваўся пісьму. Ён і ў студэнцкія гады ставіў свайго сябра Левашова Сяргея крыху вышэй за сябе, шчыра радаваўся яго поспехам і ўменню рабіць справы. Так і павінна было быць. Каму, як не Сяргею, заставацца ў Мінску, пісаць дысертацыю? А што дапамаглі яму ўладкавацца бацькі, людзі немалых сувязей і знаёмстваў — дык гэта проста добра, не трэба губляць тры гады. Навошта марнаваць сілы там, дзе можна вельмі лёгка абысціся без гэтага?

«Здольны ён хлопец, няхай,— паблажліва думаў Анатоль Піліпавіч.— Вучыўся трохі горш за мяне, але ж таксама няблага. Як там кажуць — шанцуе мацнейшым? І правільна. А там, у Мінску, ён і дагоніць мяне, і пераганіць. Трэба будзе з'ездзіць на канікулах, паглядзець на яго, цяперашняга».

Выходзіў, а ў школе было ўжо ціха і пуста. На вуліцы лёгенькі марозік праясніў паветра, нават рассунуў аблокі, і нізкае сонца прабівалася скрозь голае вецце дрэў, сляпіла вочы. Раптам успомніў: «Маньцы сала...» — і ад душы засмяяўся.

Анатоль Піліпавіч павольна ішоў дахаты. Вяскоўцы пачціва віталіся. Дзеці, хаця і бачылі яго ўжо ў школе, таксама не адставалі, на ўсякі выпадак давалі «драстуйце».

Не так доўга ўжо да Новага года — утульнага, цёплага, крыху таямнічага свята, калі найбольш ад-

чуваеш сваю сувязь з жыццём, з зямлёй, з блізкімі людзьмі. Мусіць, што падводзіцца рыса пад зробленым, і пачынаецца не толькі новы год, але і новы чалавек?

Так думаў Анатоль Піліпавіч Крэнь.

Недзе шукалі свайго шчасця — больш верагодна, і знайшлі ўжо — калегі Дубовік з Грынцовым; недзе сядзеў над кнігамі (вельмі можа быць) будучы навуковец Сяргей Левашоў; недзе бегла па зямлі прыгожая, як напаўраскрытая кветка, каханая Анатоля Піліпавіча, якую ён яшчэ не ведаў; недзе жылі мы.

## ДВУХТЫДНЁВАЕ ПАДАРОЖЖА

Што думае чалавек, калі ён упершыню трапляе на чужую зямлю? Можа, не на чужую, гэта недакладна, а на незнаёмую? І, можа, не што думае ён, а як думае?

Звычайны турыст сядае ў цягнік Масква — Сафія, яшчэ раз любуецца сваім здымкам у новенькім пашпарце, уздыхае з палёгкаю і пачынае глядзець у акно. Усё прывычнае застаецца ззаду. Цяпер — толькі новае. Турыста ахопліваюць незразумелыя пачуцці — развітанне змяшалася з чаканнем, лёгенькая трывога змяняецца радасцю, нават мурашкі дружненькай чародкаю прабеглі па скуры,— і ад усяго гэтага турыст адчувае сябе як у новым касцюме — тут і цісне, і нязручна павярнуцца, і нельга новую рэч заліць кавай ці чым іншым. Сядзіш, як тычку глынуўшы, затое ў новым і модным. А што ж — няхай глядзяць, а я буду рабіць выгляд, што ўсё звычайна. Можа, трохі болей абыякавасці? От так. Малайчына.

Лёгенька пагойдваецца вагон, грымяць колы, за вокнамі плывуць незнаёмыя, але яшчэ свае палі з пералескамі,— і турыст знаёміцца з такімі ж, як сам, падарожнікамі. З тымі, з кім цэлых пятнаццаць дзён будзе разам. Урэшце доўгая стаянка — за вокнамі ходзяць людзі, моцна ляскае жалеза. «Мяняюць колы,— аўтарытэтна гавораць бывалыя турысты.— За мяжой чыгунка вузейшая, таму і трэсці будзе болей». Хутка, амаль не спыняючыся, праходзяць сур'ёзныя мытнікі і пагранічнікі. Але адчуваецца, што гэтыя хлопцы справу сваю ведаюць будзь здароў. Пра гэта гавораць іх позіркі — уважлівыя і ўчэпістыя.

І вось вагон кратаецца і павольна-павольна перасякае мяжу...

Я — турыст, і я еду ў Балгарыю.

Кожны ведае пра краіну Балгарыю. Што яна сонечная, горная і прыморская. Што яна некалькі стагоддзяў мужна зносіла, змагаючыся, турэцкае іга. Што яе народ лічыць братамі рускіх. І гэтых «што» магло быць яшчэ некалькі. Але так, як з чалавекам трэба з'есці пуд солі, каб уведаць яго, гэтак жа трэба хаця б убачыць тую зямлю, пра якую ведаеш толькі з кніжак і расказаў сяброў. Хаця б убачыць. Хаця б пастаяць на ёй.

Зямля адкрылася гарыстая, шчыльна ўкрытая кучаравымі, жоўта-зялёнымі зараснікамі паўднёвых лясоў, якія быццам выгаралі за доўгае лета, з белымі хатамі невялікіх, акуратных вёсак, абапал якіх, як і ў нас, квадраты і пасы палёў. Праўда, можа, толькі болей зяляніны вакол хат. Паўднёвай зяляніны — вінаградных лоз, абрыкосавых дрэў, кукурузы, яшчэ нечага.

Верасень тут быў сонечны, чысты, шчодры — на ўсмешкі, плады і гарачыню.

У Плевене мы ступілі на зямлю. Нас ужо чакаў

аўтобус з надпісам «Орбита», чакала перакладчыца Віялета — смуглявая, зграбная і гасцінная,— чакала Балгарыя.

Вуліцы Плевена — нешырокія, брукаваныя, не вельмі прамыя — нагадалі нечым Адэсу. Дамы, здаецца, таксама былі аднекуль з нашага поўдня. Надпісы на шыльдах часта былі зразумелыя, а вось мова наўкола — амаль не. Я ведаў, што ў балгар іншая, чым ва ўсходніх славян, структура мовы, і тлумачыў гэта сваім спадарожнікам. Аднак слова «структура» не дзейнічала. Амаль усе былі ўпэўнены, што нас, як і мы іх, павінны разумець. Нас сапраўды пазнавалі — нават чалавек з Мінска няўлоўна адрозніваецца ад карэннага жыхара якоганебудзь Кіева альбо Таліна, што ўжо тут казаць,— і ўсміхаліся: афіцыянткі, прахожыя, дзеці. Крыху пазней я ўпэўніўся, што з-за гэтай самай структуры гаварыць з балгарынам — дакладней, балгаркаю — усё-такі цяжкавата. Але можна.

Зразумела, адразу пачаліся экскурсіі, музеі, панарамы, саборы і выстаўкі, аднак пра гэта я расказваць не буду. Не таму, што нецікава, а таму, што ўсё тое трэба бачыць на свае вочы. І глядзець трэба самому, і думаць, і асэнсоўваць.

А што адразу здзівіла мяне, уразіла і пакарыла — гэта адносіны балгар — усіх без выключэння — да сваёй гісторыі.

Гісторыя — шматпакутная, многа болей, чым трэба, крывавая, гераічная, бо негераічнай, увогуле, яна і не магла быць, багатая ўсім, асабліва мужнасцю — была на кожным кроку.

І для мяне, беларуса, гэтая гісторыя адразу стала зразумелаю і блізкаю. Таму што землі, на якіх амаль не згасалі войны, землі, на якіх нацыянальная культура досыць часта забаранялася, вынішча-

лася і магла знікнуць, маюць агульнага столькі, колькі родныя сёстры.

Кожны сапраўдны турыст больш ходзіць, чым ездзіць. Мінчане, мусіць, прывыклі ўжо да невялікіх групак людзей, абвешаных фотаапаратамі і апранутых больш страката, а ўзімку — больш лёгка, людзей, якія з першага позірку адрозніваюцца ад клапатлівых, з'яднаных агульнымі справамі, гараджан. У Сафіі я таксама больш хадзіў, чым ездзіў. Сафія жыла вірлівым жыццём любой сталіцы, і я, не могучы ды і не вельмі жадаючы вылузацца са скуры турыста, гойсаў з гандлёвых вуліц да маўзалея Дзімітрава, з маўзалея ў сабор Аляксандра Неўскага, дзе якраз натрапіў на нейкую ўрачыстую службу. Анёльскімі галасамі спяваў хор, важныя свяшчэннікі, усе як адзін у высокіх і белых, аж рэзала ўваччу, клабуках, хадзілі, здаецца, па кругу і махалі кадзіламі. Здалёк было не вельмі добра бачна, што яшчэ яны там рабілі, ды гэта было і не важна — я разглядаў цудоўныя абрысы, дайшоўшыя да нас якраз з той самай гісторыі, і шматлікія размалёўкі. Запомнілася яшчэ, што каля ўваходу бойка гандлявалі свечкамі — ад самых маленькіх, ледзь не з запалку, да вялікіх, таўшчынёй у два пальцы.

А пасля дзве турысткі з маёй групы, студэнткі-другакурсніцы, зразумела, у джынсах і, зразумела, прыгожыя, пацягнулі за сабой у магазін «Святлана», спецыялізаваны жаночы магазін, каб я мужчынскім вокам зірнуў на адну рэч. Ну дзе тут адмовішся? А ад «Святланы» недалёка да ЦУМа, у рэстаране якога мы харчаваліся. І перад абедам ці вячэраю па вялізных залах гэтага магазіна дзяўчатам абавязкова трэба было прабегчыся. А рабіць гэта ім нашмат прыемней было са мною. Так яны

гаварылі, і я, не вельмі добра памінаючы пра сябе слова «гжэчнасць», ішоў.

Рэстаран «ЦУМ», калі не самы шыкоўны рэстаран Сафіі, то адзін з іх, меў маўклівых афіцыянтаў-мужчын, дастаткова важных швейцараў, цудоўную панараму з тэрасы і балгарскую кухню. Кухня гэтая шматлікімі соўсамі прымушала ўспамінаць пра Каўказ, але тым не менш яна была зусім асаблівая, не падобная ні да якой іншай.

Ну і, зразумела, балгарскае віно.

Усе тыя тры дні, якія мы былі ў Сафіі, адзін са столікаў у вялікай зале займалі чацвёра грэкаў — маленькія, з жыватамі, лысаватыя, вельмі рухавыя. Грэкі танцавалі лёгка і весела. На хуткія танцы яны ўпадабалі запрашаць адну з маіх студэнтак — не менш рухавую, але на добрую галаву вышэйшую за іх. Гледзячы на Алу, грэкі як адзін смяяліся, паказваючы палоскі бялюткіх зубоў.

— Багатыя,— гаварыў афіцыянт, паціскаючы плячыма.

Ён яшчэ нешта гаварыў, але я ўжо не разумеў, хаця і ківаў галавой. Гэтаму маладому хлопцу, мусіць, цяжка было толькі вазіць сваю каталку, разліваць з супніцы першае, бязгучна і амаль непрыкметна мяняць на стале посуд,— яму карцела і пагаварыць.

Наш аўтобус зрабіў доўгую экскурсію па горадзе, і ўвесь гэты час гід Віялета расказвала. З гэтага боку тэатр, там музей, за ім славутая бібліятэка, а калі павярнуць галаву ўправа і трохі назад — можна ўбачыць яшчэ нешта... Аказваецца, галавой круціць таксама не проста. Я адразу заўважыў адну асаблівасць вымаўлення Віялеты: яна часта гаварыла слова «горад» — горад узнік, горад будаваўся, горад вырас, горад прыгожы...— і ў гэтым слове гук «а» ледзь чуўся. Гэта быў не гук, а

палова гуку, можа — і чацвёртая яго частка. Не «горд», а гор — нешта там такое — д. Я ўспомніў старажытнаславянскую мову, рэдуцыраваныя гукі, якія вымерлі, і парадаваўся, што на свае вушы пачуў іх нашчадкаў. Але, далібог, гэтыя вымершыя ў нас паўгукі ніколькі не заміналі слухаць трошкі глухаваты голас Віялеты. Нават прыемней было.

І ў Сафіі я пабываў у гасцях у балгар. Канечне, гэта было выпадковасцю, што я з тымі самымі дзвюма студэнткамі — Алай і Наташай — трапіўся на вочы Віялеце каля нашай гасцініцы. За ёй якраз прыехалі на машыне, яна размаўляла з вадзіцелем, убачыла нас, раптам узрадавалася і аж запляскала ў ладкі — ёй ускочыла ў галаву зрабіць нам сюрпрыз. Нас пацягнулі ў машыну, і з тлумачэнняў на дзвюх мовах мы маглі зразумець, што недзе людзі святкуюць. Я ўсё ж упрасіўся на хвіліну заскочыць у свой нумар і выцягнуць з саквояжа бутэльку «Рускай». Ала з Наташай таксама прынеслі бутэльку шампанскага, нейкіх матрошак і беларускіх лялек. Ужо ў машыне ўрэшце праяснілася — ішоў у армію брат Віялеты, і зусім гэтак жа, як у нас, былі наладжаны праводзіны.

— Мы ў Сафіі жывём не вельмі даўно,— сказала Віялета,— гадоў восем. Прыехалі з... сяленія.

Слова «сяленіе», мусіць, ёй спадабалася, бо яна паўтарыла яго яшчэ раз, як бы ўслухоўваючыся ў гучанне.

Святкаваў, здавалася, увесь пад'езд шматпавярховага блочнага дома. Мы яшчэ былі ўнізе, а на трэцім паверсе ўжо чамусьці ведалі, што Віялета не адна, а з савецкімі гасцямі. Будучы вайсковец, абвязаны ручніком і з кветкамі, прышпіленымі да пінжака, сустрэў нас ужо на лесвіцы. На пляцоўцы стаялі бацька, маці, цэлы натоўп сваякоў і суседзяў. Дзятвы было яшчэ больш, і яны ажно ві-

селі на парэнчах, выглядваючы нас. Ціснулі рукі, ляпалі па плячы, усміхаліся і гаварылі, гаварылі, гаварылі... Пакуль мае дзяўчаты раздавалі даўгаватай чародцы дзяцей лялек, а я стараўся ўсунуць каму-небудзь бутэлькі, з суседніх кватэр неслі крэслы, вялі дзядоў з бабкамі, каб пазнаёміць з савецкімі сябрамі. Шум стаяў, як на прыстойным паўднёвым базары.

І я не магу ўтрымацца, каб не расказаць пра балгарскае застолле. Бо застолле ёсць застолле. Самы шчыры чалавек — за такім вось сталом. Самы вясёлы — зноў жа тут. Самы спагадлівы, чулы, гаваркі, дасціпны — увесь ён тут.

Мы ўжо сядзім, нас разглядаюць не менш трох дзесяткаў пар самых розных вачэй, і нехта стаіць і гаворыць, пэўна — тост. Я паціху асвойваюся. «Ну вось,— з прыемнасцю думаю я,— адразу бачна, што ты ў другой краіне». Таму што стол, у адрозненне ад звычайнага беларускага, не гнецца пад цяжарам закусак, місак з бульбаю, качкамі, салатамі і заліўным языком. На стале тры блюды з кіслай капустаю. Перад кожным госцем, ва ўсякім выпадку — мужчынам, маленькая, не больш ста грамаў, бутэлечка з пітвом. Празрыстым пітвом са спецыфічным — тым не менш, праўда, зразумелым — пахам. Тост скончыўся, і да нас пацягнуліся дзесяткі бутэлечак. Можна было піць. Можна было проста з бутэлечкі. Я каўтануў, і галасоў пяць урачыста пацвердзілі:

— Ракія!

Я ў захапленні паківаў галавой, як мага выразней акругліў вочы, пацмокаў і каўтануў зноў. Бутэлечка апусцела, і тут жа на яе месцы ўзнікла новая. Адзін чалавек — па-мойму, самы галоўны чалавек — кіраваў сталом. Ён спрытна, як той фокуснік, мяняў бутэлечкі, аддаваў загады і назначаў

прамоўцу чарговага тосту. Віялета хаця і сядзела недалёка, аднак перакладала зусім мала. Яна проста гаварыла: «За дружбу. За Мірчо. За вас». А гэта і так было зразумела. З усіх бакоў толькі і чулася: «На здраве!», і бутэлечкі перада мной, здаецца, не мяняліся зусім.

Я ўсё ж вырашыў уткнуць і свае тры грошыкі, узяў бутэльку, што прывёз з сабой, высока падняў. Новы выбух захаплення, бутэльку адкаркаваў кіраўнік стала, і Віялета сказала: «Вып'ем усе разам. Наш звычай». Кожны, да каго трапляла бутэлька, спачатку ўслых чытаў назву, усміхаўся нам і рабіў глыток. Жанчынам прынеслі келіхі, і яны выпілі шампанскага.

А потым бутэлечкі са стала зніклі, і я падумаў, што ўрэшце размінка закончана. Тым больш што з кухні неслі каструлі з балгарскімі стравамі. У мяне аказалася поўная талерка, і, паколькі дылетанту можна дараваць многае, я нават скажу, што гэта было — перац, фаршыраваны мясам і заліты вострым соўсам. Я пакруціў галавой, ніякіх бутэлечак не ўбачыў, наўкола з апетытам елі, і я пачаў таксама. Не падумайце, што мне не хапіла. Проста звычка — другая натура. За святочным сталом я прывык есці і піць. А балгары спачатку пілі, потым закусвалі. Яны, па ўсяму, былі смялейшымі за беларусаў. Яны не баяліся, што чарга закускі можа ўвогуле ніколі не падысці. Смелы народ.

Я забыўся сказаць яшчэ пра адну дэталь, якая сведчыць аб гасціннасці балгар — амаль з самага пачатку побач са мной аказалася дзяўчына. Чарнявая, маладзенькая, з доўгай хваляй валасоў. Я так зразумеў, яна тут сядзела не выпадкова, а павінна была не даваць госцю сумаваць. Вось тут я і ўпэўніўся, што прадстаўнікам братніх народаў, у якіх розныя моўныя структуры, гаварыць паміж сабой

не вельмі лёгка. Асноўнае, канечне, было зразумела — мы браты, Сафія прыгожая, Мінск таксама, тут сонца, там дождж, і хутка будзе Чорнае мора! А вось з дэталямі было ўжо цяжэй. Іх, дэталяў, амаль не было.

Віялета, даручыўшы мяне Міляне, а дзяўчат двум гожым хлопцам, адпачывала, з відавочнай палёгкаю, хутка-хуценька — што значыць родная мова! — расказвала нешта, смяялася, радавалася.

А дзяўчаты мае пайшлі танцаваць. Як і ў кожнага народа, у балгар пасля стала былі танцы. З'явіўся баян, і народная музыка — імклівая, як горная рэчка, і парывістая — амаль усіх падняла на ногі. Спачатку станцавалі, пабраўшыся за папругі партнёраў, адны мужчыны, потым уплылі ў круг і маладзейшыя жанчыны. І Ала з Наталкаю — адкуль што бярэцца — спакойна рабілі рухі, якія трэба, і паварочваліся там, дзе трэба, і ўскідалі над галавой рукі, як балгаркі. Адна жанчына падышла да мяне і спыталася, адкуль беларусы ведаюць балгарскія танцы.

— Гэныя могуць! — сказаў я і пацiснуў плячыма.

А чорт іх ведае, дзе яны панавучыліся такому. Пазней абедзве кляліся, што танцавалі балгарскія танцы першы раз у жыцці.

Гадзіны ў дзве ночы на тым жа «Масквічы» нас адвезлі ў гасцініцу. Развітваўся з намі як не ўвесь дом — чалавек пяцьдзесят, не меней.

— У нас прынята на свята збірацца не толькі сваякам, але і суседзям,— сказала Віялета.— Усе прыходзяць — і з верхніх паверхаў, і з ніжніх. Такі звычай. У нашым доме амаль усе прыехалі з вёскі. Мабыць, засталася прывычка ў суседзі хадзіць.

Мы, стомленыя, маўчалі, адно ўсміхаліся і глядзелі на агні начной, сцішанай Сафіі.

А пасля балгарскай сталіцы нас чакала Чорнае мора. Праз усю краіну, праз Радопскія горы прамчаў цягнік Сафія — Бургас. Вагон сапраўды кідала з боку ў бок мацней, чым на нашых чыгунках. Гарадкі, сёлы, горныя схілы з атарамі шэрых авечак — такой бачылася Балгарыя.

Наш цягнік, здавалася, быў увесь запоўнены турыстамі. На прыпынках з перонаў чулася нямецкая, польская, чэшская, руская мовы. Наогул, па ўсім адчувалася, што Балгарыя краіна турызму. Заходзіш у магазін, стаіш каля прылаўка — раптам над самым вухам чуеш па-польску:

— Што гэта за пітво?!

Як і многія з беларусаў, я ведаю трохі польскую мову, тлумачу:

— Алей.

Дзве маладыя полькі радуюцца, што можна пагаварыць, шчабечуць, дзеляцца ўражаннямі. У іх ужо апошні дзень паездкі, вельмі спадабалася, асабліва мора. Зайздросцяць, што ў мяне чарнаморскія пляжы яшчэ наперадзе. Сервіс — бардзо добры. Развітваемся, як добрыя знаёмыя. Запрашаюць у госці да сябе ў Кракаў — таксама ёсць што паказаць.

— Суседзі! — кажуць яны.

Так, сапраўдная краіна турызму, велізарная турыстычная база — гэта, канечне, балгарскае Прычарнамор'е. Сонечны Бераг, Албена, Залатыя Пяскі, Варна — любая з гэтых назваў вядома кожнаму. Ёсць што паказаць, ёсць дзе прыняць — і сотні тысяч турыстаў з усяго свету прыязджаюць сюды. «Добрэ дошлі!» — сустракае Балгарыя.

Амаль тыдзень мы пражылі ў міжнародным маладзёжным цэнтры недалёка ад Бургаса. Сонца, пляжы з чыстага дробненькага пяску, сустрэчы з моладдзю іншых краін, дыскатэкі, тады ў нас яшчэ

не такія модныя, валейбол і конкурсы — кожны дзень што-небудзь новае. Ды і не можа быць інакш у тым месцы, дзе сабралася моладзь як не з усёй Еўропы. У шматлікіх бунгала зараз жыло не менш дзвюх тысяч чалавек!

Я досыць часта бываў на нашым каўказскім узбярэжжы — ад Геленджыка да Сухумі. І, канечне, параўноўваў. І сонца, і пляжы, і сервіс. Агульнымі былі гарачыня, неабсяжнасць марское прасторы і ўсмешкі людзей, якія прыехалі адпачываць. А вось горы здаваліся не такімі — і гарбы іх адгор'яў успаўзалі ў неба не па-каўказску, і поўсць лясоў на іх была іншага, жаўцейшага — пэўна, проста вераснёўскага — колеру, нават начное неба над гарамі было не такім чорным. Мора таксама пахла пасвойму. Гэта было балгарскае Чорнае мора. Чысціня вады ў ім не тое што здзіўляла, а — радавала. Можна было далёка заплыць, легчы тварам уніз і глядзець на роўненькія пясчаныя сумёты — як на якую-небудзь кіношную, штучна-прыгожую пустку. На Каўказе такую чысціню бачыў я толькі аднойчы — калі пад Джубгаю пайшоў плаваць сярод каменняў, дзе нармальныя людзі не купаліся ніколі. Там, праўда, на дне варушыліся рудыя, шорсткія водарасці са срэбнымі бурбалкамі паветра ў іх, а пад каменнямі бегалі шустрыя крабікі. Аднаго я злавіў, але потым, пашкадаваўшы, адпусціў...

З першага дня я пераляжаў на пляжы, скура, зразумела, пачырванела, і ў наступныя дні давялося хадзіць у кашулі, вузлом завязанай на жываце. Пясок быў такі дробны і белы, што нагадваў манку. І плаваў над усім вельмі моцны, своеасаблівы пах сушаных марскіх водарасцяў — якія і высахлі ўжо, змяшаліся з гэтым пяском, а ўсё ж настойвалі налітае сонцам паветра пахам мора. Пасля пляжа

гэтым жа пахлі рукі. Хлопцы з маёй групы ўпэўнена казалі, што да балгарскіх берагоў любыя маторныя судны бліжэй пятнаццаці кіламетраў не падыходзяць. «Каб ваду не псаваць,— гаварылі яны.— Краіна турызму!» Я і праўда ніякіх караблёў на марскім небасхіле не бачыў. А летась, едучы на электрычцы з Сочы ў Сухумі, выпадкова налічыў самых розных суднаў больш двух дзесяткаў.

Некаторыя дзяўчаты — яны амаль заўсёды цярплівейшыя за хлопцаў — на гэтай пясчанай патэльні загарэлі, як мулаткі (альбо метыскі). Яны, не хочучы паступіцца ніводнай сонечнай хвілінай, нават не звярталі ўвагі на прыгожых балгарскіх хлопцаў і каторымі днямі не хадзілі на абед. Я часцей сядзеў за буфетнымі столікамі, якія стаялі, між іншым, таксама на сонцы, піў піва з салёнымі рачкамі — не вобла, але таксама нічога — і слухаў музыку. Трэба сказаць, што музыка была ўсюды і заўсёды. Яна грымела ў дыскатэках і барах, танцзалах і на пляжы, не знікала нават у аўтобусе, бо вадзіцелям так было весялей ехаць. Нават сны скакалі ў тых сучасных рытмах. Маладзейшыя дзяўчаткі з захапленнем вызначалі, хто лепшы — «Боні М» ці Дона Саммар.

Аднак усё гэта — серпанціны горных дарог, рытмы сучаснай музыкі, вітрыны магазінаў на вуліцах Сафіі і Варны — было толькі знешнім, вонкавым афармленнем нашага падарожжа па Балгарыі. Як я потым зразумеў — яно было не галоўным. Бо народ, зямля гэтага народа раскрываліся ў іншым, прыхаваным, многа глыбейшым, чым тое, што адразу кідаецца ў вочы.

Бо для гэтай зямлі галоўным была гісторыя. Гісторыя, у нечым падобная да гісторыі любой зямлі, прытуленай да цёплага мора. Зямлі, якая рада аддаць свае казачныя ўраджаі, якая рада на-

карміць і напаіць звера, птушку, чалавека. Такая зямля ляжыць вялізным боханам хлеба, ды яшчэ і шклянка вінаграднага віна ўтульна ўмясцілася на самай яго вяршыні. А музыку граюць горныя рэчкі. І горы слухаюць марскі вецер і — спяваюць?.. Зразумела, спяваюць! Сонца, мора і горы — ці часта сустрэнеш на Зямлі такое? А тут — усяго з лішкам.

І якраз на такіх шчаслівых землях лютавалі самыя страшныя войны. І няшчасцяў на іх — як марскога пяску пры беразе. І найчасцей не песня радасці лунала над селішчамі, а песня-стогн, песня-плач сціскалі чалавечае сэрца. Мусіць, людзі не маглі падзяліць багаццяў гэтай зямлі. Мусіць, жыхарам яе чорна зайздросцілі. Таму факеламі палалі хаты. Таму мёртвымі аблогамі нерухомелі палі. Таму цішыня клалася ў самы сонечны дзень.

І я глядзеў на Балгарыю, а бачыў — Беларусь...

Гісторыя Балгарыі рабілася зразумелай і блізкай не толькі каля тых помнікаў, дзе на твары любога чалавека з'яўляліся журботныя зморшчыны. Гісторыя краіны лепш за ўсё бачылася ў вачах яе сыноў і дачок. У пацямнелых вачах ад гора, што перажываецца нанова. У бліскучых, ззяючых вачах людзей, якія ганарацца сваім народам, яго мужнасцю і няўменнем стаяць на каленях. Ва ўважлівых, прыязных вачах субяседнікаў, што гавораць з рускім чалавекам.

Трэба пабываць у Балгарыі, каб зразумець, што такое рускі для балгарына. Бо гэта не расказаць ніякімі словамі. Вызвалены чалавек адчувае больш, чым вызваліцель. І дай бог кожнаму з нас убачыць вочы вызваленага...

Аўтобус мякка коціць па шашы, чаргуючца пад'ёмы і спускі, і раптам голас Віялеты:

— Праваруч застаецца горад Сазопал...

Ён далекавата ад нашых вачэй, запамінаецца

толькі мноства чырвоных, усё адно як касцёльных, дахаў. Гарадок невялічкі, дамкі прыляпіліся адзін да аднаго, вулачак не разгледзець. Адразу за чырвоным — аквамарынавая сінеча мора, трохі асмужаная лёгенькім туманам. Варухнулася сэрца — успомніўся Сазопал Паўстоўскага.

Здаля гарадок чымсьці нагадаў Навагрудак. Мусіць — адзіным суцэльным дахам, збітым з гонтачак самых розных форм і памераў. І Навагрудак такі ж сціснуты, дамы яго абляпілі груд, не хочуць распаўзацца ў бакі.

А вось у Несэбрэ мы ўжо заехалі. Ён мне здаўся горадам-музеем, горадам-гісторыяй. Маўкліва ўздымаліся каменныя сцены былых палацаў і цэркваў. Брук вузенькіх і пакручастых вулачак быў такі ж стары, як і тыя сцены. Нават жылыя дамы былі нейкімі музейнымі — высокімі, са шматлікімі прыбудовамі, з усходамі, якія вялі незразумела куды. Усе — нейкія розныя, быццам пабудаваныя па ўласных праектах. Адно фіранкі ў вокнах, прабітых высока над зямлёй. Нават дзіўна: людзі жывуць у трыццаці метрах ад рэштказ палаца рымскай эпохі. А наогул горад тут быў і пры грэках, і, пэўна, да іх. Колькі маглі б расказаць гэтыя стомлена-шэрыя камені? Па-мойму, уявіць гэта немагчыма.

Для кожнага балгарына такі горад, як Несэбрэ — і Тырнава, і Косава, і Плевен, дзе былі самыя жорсткія баі рускіх войскаў з турэцкімі, і Шыпка, і шмат-шмат іншых назваў, якіх я не ведаю,— святое месца.

Мы гаварылі, смяяліся, маўчалі.

Мы слухалі сваё сэрца і сэрцы сяброў. Мы развітваліся — і пакідалі на гэтай зямлі часцінку сябе.

Я рады за двухтыднёвае падарожжа па табе, Балгарыя!

## ЗМЕСТ

АПОВЕСЦІ



АПАВЯДАННІ

**Кажадуб А.**

К 12 Размова: Аповесці і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 271 с., іл.

80 к.

Аповесці і апавяданні новай кнігі празаіка прысвечаны сучаснай моладзі. Месца чалавека ў грамадстве, яго імкненні і надзеі, станаўленне характару — тое кола праблем, якія ставіць аўтар у аповесцях «Старая хата», «Доўгі дзень Мацака», «Гісторыя пра Любу Дворкіну» і апавяданнях.

К $\frac{4702120200-032}{М 302(05)-85}$ 16—85

ББК84 Бел7
Бел2

АЛЕКСАНДР КОНСТАНТИНОВИЧ
КОЖЕДУБ

**РАЗГОВОР**

Повести и рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар І. І. Кананові ч
Мастак В. В. Сакалоў
Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар Я. Ф. Харко

ІБ № 1861

Здадзена ў набор 07.06.84. Падп. да друку 10.12.84. АТ 05800. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,96. Ум. фарб.-адб. 11,20. Ул.-выд. арк. 11,72. Тыраж 7500 экз. Зак. 476. Цана 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.